# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

10

1936

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДЗЕСЯТАЯ*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936



*Таварышу Грыгорыю Канстанцінавічу Орджанікідзе*

Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў) у дзень Вашага 50-годдзя шле Вам большэвіцкае прывітанне, старому большэвіку з ленінскай гвардыі, нястомнаму барацьбіту за большэвіцкае адзінства партыі, выдатнаму кіраўніку мас, віднейшаму арганізатару бліскучых перамог соцыялістычнай індустрыі.

Беззаветная адданасць партыі Леніна, вялікай справе якой Вы аддаеце свае сілы, Ваша нястомная энергія і энтузіязм, Ваша смеласць, цвёрдасць і прамата, Вашы клопаты аб людзях, якія працуюць на справу комунізма, Ваша ўменне падтрымаць творчую ініцыятыву мас, па праву заваявалі Вам любоў партыі, рабочага класа, усіх працоўных советкай краіны.

Жадаем Вам, дарагі Грыгорый Канстанцінавіч, яшчэ многа, многа год у першых радах весці наперад справу будаўніцтва комунізма.

*Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай*
*Комуністычнай Партыі (большэвікоў)*

*Дарагі тав. Серго!*

ЦК КП(б)Б і Соўнарком БССР шлюць вам, бліжэйшаму саратніку вялікага Сталіна, слаўнаму кіраўніку нашай соцыялістычнай індустрыі, гарачае большэвіцкае прывітанне ў дзень Вашага пяцідзесяцігоддзя.

Дзякуючы Вашаму ўмеламу, канкрэтнаму, большэвіцкаму кіраўніцтву цяжкая прамысловасць—база соцыялізма ў нашай краіне—паднялася на велізарную вышыню. У асаблівасці радуюць нас поспехі ў галіне чорнай металургіі, выкананне плана якой выводзіць наш вялікі Совецкі Саюз у самыя перадавыя індустрыяльныя краіны свету.

Вашы сталінскія клопаты аб людзях—гэтым самым каштоўным капітале нашай радзімы, вашы чулыя, заўсёды ўважлівыя адносіны да запатрабаванняў мас вырасцілі сотні і тысячы выдатных партыйных і непартыйных большэвікоў, якія аўладалі тэхнікай сваёй справы, не баяцца труднасцей, не ведаюць страху ў барацьбе за вялікую справу соцыялістычнай індустрыялізацыі нашай краіны.

Мы ў Беларусі асабліва адчуваем усё велізарнае значэнне найвялікшых перамог нашай соцыялістычнай індустрыялізацыі, забяспечыўшай ператварэнне нашых паветраных і сухапутных граніц у несакрушальны аплот міру. Мы добра таксама помнім, дарагі тав. Серго, што Вы асабіста ў гады грамадзянскай вайны, як бліжэйшы саратнік таварыша Сталіна па заходняму фронту, адыгралі ў адзін з самых адказных момантаў вельмі вялікую ролю ў вызваленні Беларусі ад белапалякаў. Шырокія масы беларускага народу з вялікай удзячнасцю ўспамінаюць вашы асабістыя паходы ў глыбокую разведку ў раёне ракі Бярэзіны ля г. Барысава і разгром белапольскіх атрадаў пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам.

ЦК КП(б)Б і Соўнарком БССР жадаюць Вам, дарагі Грыгорый Канстанцінавіч, многа і многа сіл і здароўя для далейшай барацьбы за канчатковае таржаство вялікай справы Леніна—Сталіна не толькі ў нашай краіне, але і ва ўсім свеце.

*Сакратар ЦК КП(б)Б ВАЛКОВІЧ*
*Старшыня СНК БССР ГАЛАДЗЕД*

*Беларускія савецкія пісьменнікі — тав. С. Орджанікідзе*

*Дарагі Серго!*

Вам, аднаму са слаўнейшых з кагорты старой ленінскай гвардыі, найбліжэйшаму другу і саратніку геніяльнага Сталіна—беларускія савецкія пісьменнікі шлюць палкае прывітанне ў дзень Вашага пяцідзесяцігоддзя.

Ваша імя і справы, дарагі Серго, непарыўна звязаны з бяссмертнай і свяшчэннай справай Леніна—Сталіна. І ў змрочныя дні Вашага юнацтва і ў громах грамадзянскай вайны і ў пераможным будаўніцтве соцыялізма Вы высока і непарушна нясеце сцяг працоўнага чалавека—сцяг Леніна—Сталіна.

Ваша выдатнае, яркае жыццё прайшло ў бітвах і наступленнях. Вы, як і Вашы вялікія настаўнікі і саратнікі Ленін і Сталін, не ведалі паражэнняў.

Вашай выключнай энергіі абавязана савецкая краіна не адной перамогай на франтах грамадзянскай вайны, у абароне нашай радзімы і ў галіне цяжкой прамысловасці, слаўным кіраўніком якой Вы з'яўляецеся.

Дарагі Серго!

Нам, беларускім савецкім пісьменнікам, асабліва дорага Ваша імя таму, што з ім звязана не адна перамога беларускага народу, Чырвонай арміі ў гады барацьбы супроць панскіх польскіх наймітаў. Мы ўспамінаем дванцаты год, Беларусь, якая стагнала пад пятой пілсудчыны, гарады і сёлы, знішчаныя дарэшты ворагам, і Вас, наш родны Серго, які асабіста ідзе ў разведку на белапалякаў, Ваш сакрушальны ўдар па часцях польскай арміі пад Барысавам.

Горача вітаючы Вас у дзень Вашага слаўнага пяцідзесяцігоддзя, беларускія пісьменнікі жадаюць Вам многа год жыцця, радасці і шчасця.

Няхай жыве наш слаўны, родны Серго!

Няхай жыве геній чалавецтва—Сталін!

*Андрэй Александровіч, З. Аксельрод, З. Бядуля, Я. Браніштэйн, П. Броўка, П. Глебка, П. Галавач, І. Гурскі, Янка Купала, Якуб Колас, А. Кучар, М. Кульбак, К. Крапіва, М. Лынькоў, Ізі Харык, Кузьма Чорны.*

*Сулейман Стальскі*

# ПАЭМА ПРА СЕРГО ОРДЖАНІКІДЗЕ, ЛЮБІМАГА САРАТНІКА І ДРУГА ВЯЛІКАГА СТАЛІНА

Даўно імкнулася рука
Цябе апець на струнах саза, *
Песняр, услаў большэвіка,
Што роджаны ў гарах Каўказа,
Услаў яго арліны зрок
І перамог нястрымны крок
Прасторы, што шумяць здалёк
Ад Ленінграда да Каўказа.
З правадыром з юнацкіх год
Ён мужна вёў нас у паход,
За ім мільённы йшоў народ
Узброеных сыноў Каўказа.
Узняўшы перамогі сцяг,
З адвагай сталінскай ў грудзях,
На ленінскі ступалі шлях,
Раскоўваючы лёд Каўказа...

I

Жылі мы бедна. Злосны боль
Ламаў нам косці ў сцюжу й золь
І крыўда горкая, як соль
Нам сэрцы раз'ядала, горцы.
Жылі мы страшна. Падаў снег
Ад веку ў век, ад веку ў век,
Быў распластаны чалавек
На вострарэбрых скалах, горцы.
Ляцелі хмары, быццам дым,
Хаваўся месяц ў дыме тым,
І можа толькі маладым
Вясна была пагоднай, горцы.
Быў повен дом бядняцкіх дум,
Мы зналі толькі гора й сум,
І свет быў змрок, і свет быў тлум,
Як удава, няшчасны, горцы.

* Саз—музычны інструмент.

Былі мы вечна жабракі,
Драўляны плуг ды дзве рукі,
Часнок з цыбуляй—харч такі,
А ў свята—чай мы зналі, горцы.
Ў жыцці быў белым—белы снег,
Быў самым чорным—наш начлег,
Жылі так,—чуеш, чалавек,
Жылі так на Каўказе горцы.
Было так шмат гадоў назад,
Калі бясплённым быў наш сад,
Калі ад незлічоных лат
Чаркеска з плеч спадала, горцы.
Ці-ж мне забыць тых дзён разгул,
Быў катаваны мой аул,
Але я чуў падземны гул,
Што перад бурай чуюць, горцы.
Быў повен свет бядняцкіх дум,
Гнеў разганяў наш чорны сум,
Гатовы мы былі на штурм,
На подвіг і пагібель, горцы.
Даволі! Змучыў нас прыгнёт,
Сябры, наперад, у паход!
Сямнаццаты ўварваўся год,
Як гром, як кананада, горцы.
Нас Ленін да жыцця узняў,
Да перамог ён нас натхняў.
Нам Сталін меч у рукі даў
І сілы нам патроіў, горцы.
І вось бліжэй стальной сцяной,
Свет скалыхнуўшы сілай той
Шумела бура, а за ёй
Як шчыт, зара ўставала, горцы.
Тады ён вёў у бойку нас
Саратнік Сталіна здаўна,
Нязменны друг, брат родны наш
Серго Орджанікідзе, горцы.

II

На радасць нам радзіўся ён,
А катам горных зграй—на скон.
Тады ў садах збіралі плён—
Айву празрыстую надзіва.
Пара ўраджайная была,
На горы ліўся сонца бляск,
Тады з крыніц вада цякла
Крыштальна чыстая надзіва.
У час той лоўчыя ў лясах
Куркі ўзвялі звяр'ю на страх,
Тады ў рабочых гарадах
Работа добра йшла надзіва.

Быў пільным вострым зірк людзей,
Быў мудрым кожны сказ людзей,
Стараўся кожны быць прасцей
І больш сумленным быць надзіва.
Для бур радзіўся ён і рос,
Як леў, ён волю сваю нёс,
Ён знаў з дзяцінства горач слёз
І думы беднаты надзіва.
З дзяцінства быў ён большэвік,
Нарком наш слаўны, баявы
Хто, праўдай сталінскай жывы,
Адважны ў справах быў надзіва.
Яшчэ з гадоў ён маладых
Пазнаў жыццё і мудрасць кніг,
Ён бачыў праўду для адных
Няпраўду для другіх надзіва.
Ён бачыў: повен свет бядот
У горы церпіць люд прыгнёт,
Ды кліча правадыр народ,
Байцоў збірае ён надзіва.
Тады-ж у юную пару,
Ён даў зарок правадыру
Ісці спаткаць жыцця зару,
Заўжды адданым быць надзіва.
Стаяць за праўду, за народ,
З правадыром ісці ў паход,
Не баючыся перашкод,
І непахісным быць надзіва.
І вось ён рос у дзён агні,
Як волат у стальной брані
(Не шкодзіла-б пра тыя дні
Мне скласці іншы спеў надзіва).
Ён вырас цвёрды, як граніт,
Аб ім і слава ўжо грыміць,
Бо з ворагамі барацьбіт
Бясстрашны й мужны ён надзіва.
Ён быў усюды: і ў гарах,
І на Бакінскіх прамыслах,
І нёс ён зграям царскім страх,
Будзіў адважнасць у байцах,
Заўжды нястомны быў надзіва.

III

Шануем, любім голас твой,
Хадзіў са Сталіным у бой,
Працоўным горцам родны, свой,
Цябе завуць—
Серго любімы.

Яшчэ да сонца, з даўніх пор
Здружыўся ты з народам гор,
Свабоды ўбачыўшы простор
Наступных дзён,
Серго любімы.
Ты чуў у цемры волі гром,
Хто можа стаць большэвіком,
Ї ў дні Кастрычніка з клінком
Хто выйдзе ў бой,
Серго любімы.
Хто з намі верны да канца,
Пяройдзе шлях цяжкі байца,
Ї не спужаецца свінца
Варожых куль,
Серго любімы.
Ты многа выцярпеў за нас
У турмах, ссылках быў не раз,
Ї зноў з'яўляўся на Каўказ,
Змагаўся зноў,
Серго любімы.
Мы славім тых, хто ў бой ішоў,
Адданых нам таварышоў—
Ты самы верны між сяброў
Друг Сталіна,
Серго любімы.
Ты з намі хлеб наш падзяляў,
Дзяцей ты нашых цалаваў,
Сяброў між намі выбіраў,
Ї гартаваў,
Серго любімы.
У тыя цяжкія гады
Калі пылалі гарады,
Сваіх таварышаў тады
Не пакідаў,
Серго любімы.
Ї праз Каўказскія хрыбты
Ішоў да нас змагацца ты,
Як помста грознай беднаты,
Для ворагаў,
Серго любімы.
Укрыўшы плечы башлыком,
Ты на кані імчаў агнём,
Наш слаўны баявы рэўком
Ты ў бой нас вёў,
Серго любімы.
Ты нам патроны выдаваў,
Нас абуваў, нас апранаў,
У паходзе буркай накрываў,
Бярог байцоў,
Серго любімы.

Імя не сходзіць з языка,
Ў палоне струн мая рука,
І песня льецца, як рака,
Ўсё пра цябе,
Серго любімы.

IV

Прысланы Леніным ты к нам,
На помач горскім беднякам,
Вучыўся ў Сталіна баям,
Магутны леў—
Серго любімы.
Таму й народ цябе любіў,
Што ты паноў няшчадна біў,
Як Сталін непахісны быў
Заўсёды ты,
Серго любімы.
Калі Гацынскі паміж гор,
З ардой бандытаў на падбор
Ляцеў на вёскі, як віхор,—
Нас вызваляў
Серго любімы.
Ты верных партызан сабраў,
Ты за радзіму ў бой пазваў,
Заданне сталінскае даў,
Біць ворагаў,
Серго любімы.
Ішлі адважнай грамадой
Атрады партызан на бой,
Тваёй узнятыя рукой
Перамагаць,
Серго любімы.
А там шпарчэй за плынь ракі,
Узняўшы вострыя штыкі,
Прышлі чырвоныя палкі—
Нам памаглі,
Серго любімы.
То рускі пролетарыят,
Наш кроўны, наш магутны брат,
Адвёў ад нас свінцовы град
Не першы раз,
Серго любімы.
То Ленін слаў змагацца іх,
То Сталін даў іх, баявых,
Каб шчасцем у гарах сівых
Жыццё было,
Серго любімы.
Каб сонца ясны быў усход,
Каб быў шчаслівы наш народ,

Каб чорнай злыбеды прыгнёт
Не звіў гнязда,
Серго любімы.
Ты нам, вялікі, агнявы,
Што вобраз Леніна жывы,
Што вобраз Сталіна жывы
Данёс да нас,
Серго любімы.
Што сцяг ты партыі сваёй
Пранёс ў віхуры агнявой,
Да перамог вёў за сабой
Народы гор,
Серго любімы.
У тыя дні начэй не спаў
Наш Кіраў—зрок яго палаў,
З табою катаў ён знішчаў,
З табой ішоў,
Серго любімы.
За смерць яго (настане час)
Дасць фашыстоўскі воўк адказ,
Ва ўсіх гатовы стрэльбы ў нас,
Забойцам смерць!
Серго любімы.
Ім не ўцячы, ўжо хутка суд,
Бо іх дагоняць, прывядуць,
І нам у рукі аддадуць,
Забойцам смерць!
Серго любімы.
Таму зарок-краіны гнеў,
Што па-над светам ускіпеў,
Таму зарок—мой гэты спеў
Што я пяю,
Серго любімы.

## V

У радаснай краіне ў нас,
Усё мацнеючай штораз
І гарачэй больш кожны час
Шумяць крыніцы шчасця
Бачу.
У перамогах з краю ў край,
Цвіце краіна, быццам май.
І кожны дзень на небакрай
Ідзе ў агнях зарніца,—
Бачу.
Мудрэйшы Сталін, бацька наш,
Чыё імя—магутны марш,

Палац будуе ясны наш,
Палац усіх працоўных,
Бачу.

Па ўсіх рэспубліках наўкруг,
Паслушныя правадыру
Напоўніўшы адвагай рух
Скрозь цягнікі імчацца,
Бачу.

На моры караблі плывуць,
Маторы ў вышыні гудуць
І коннікі ў гарах ідуць
Дарогай сталінскаю,
Бачу.

Рэспублікі ў красе ўстаюць,
Сваю вясну яны пяюць,
Мільёны прывітанне шлюць
Правадыру народаў,
Бачу.

Краіны слаўлю вольных шлях,
Герояў смелых у гарах,
Якія ў будучых баях
Перамагчы гатовы,
Бачу.

Работнікаў жалезны строй
Нясе краіну над зямлёй,
Туды, дзе юнасці прыбой
І дзе вясны прасторы,
Бачу.

Папрастарнелі гарады,
Пабагацеў запас руды,
Байцам свабодным, маладым
Пакорна ўсё ў краіне,
Бачу.

Жыцця старога змецен прах,
Багаты плён цвіце ў садах
Электрастанцыі ў гарах
І школы сталінскія
Бачу.

І правадамі край гудзе,
Нібы па струнах песня йдзе,
І самых стройных, як відзе,
Я юнакоў калгасных
Бачу.

І Край непераможны мой,
Цвіце, як яблыні вясной,
І кожны з нас усёй душой
Правадыра ўслаўляе
Бачу.

Усё, аб чым гадалі мы
У дні за кратамі турмы,
Ад Ленінграда да Урмы *
На яве я сягоння
Бачу.

Усё, за што змагаўся ты,
Вялікі рыцар беднаты...
Цвіце краіна пекнаты
Шчаслівымі садамі,
Бачу.

Шуміць над намі летні сад,
Салодкі спее вінаград,
І кожны шчырым сэрцам рад
Вялікасці краіны
Бачу.

Ліюцца песні песняра,
Цвіце палац, нібы зара.
І мужным гартам змагара
Мы загартаваныя,—
Бачу.

Стаханаўцаў магутны строй,
Ён ўзгадованы табой,
І перамогі, як прыбой,
Усё растуць, квітнеюць,
Бачу.

Заводы, шахты, руднікі,
Дзе людзі ўсё большэвікі...
Тваёй руплівае рукі
Упартую работу
Бачу.

Мы славім большэвіцкі сцяг,
Спяваем аб правадырах,
Што неслі на сваіх плячах
Увесь цяжар змагання,
Бачу.

З правадыром з юнацкіх год
Ты мужна вёў нас у паход.
Таму і любіць так народ
Цябе, краіны нашай,
Бачу.

Ты, праўдай сталінскай жывы,
Магутны, мудры, агнявы,
Нарком наш слаўны, баявы.
Я вобраз твой любімы
Бачу.

Узор крыштальнай чыстаты,
Кагорты сталінскае ты,

---

* Урма—далёкі аул у Дагестане.

Найлепшы вучань, і затым
Любімы ты радзімай
Бачу.

* * *

Ах, Сулейман, твой звонкі саз
Вядзе аб мужнасці расказ.
І горды радасны Каўказ
Серго вітае шчыра
Бачу.

*Пераклалі:*
*Пятро ГЛЕБКА,*
*Мікола ХВЕДАРОВІЧ*

*Янка Купала*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Жыві і ў радасці і ў шчасці,
У яснай долі, слаўнай волі,
Няхай праклятыя напасці
Цябе, брат, не крануць ніколі.

Хай сонца след табе карчуе
Да новых песень каласістых,
Хай кожны знае, хай пачуе,
Як мы йдзем сцежкай залацістай.

А дні былі, калі жылі мы
Ў нядолі, ў падняволлі цяжкім;
Жыла ўся нашая радзіма
Пад гнётам панскім і пад царскім.

Над Нёманам спяваць пачаў ты
У хаце курнай, загібелай
У час рэакцыі праклятай,
Пад скрогат шыбеніц, расстрэлаў.

Былі то песні смутку, жалю
Над сваім краем, над народам:
Свабодны вецер бліжай, далей
Разносіў іх у непагоду.

Ты помніш, помніш, Колас мілы,
Як я к табе ішоў у госці,
У час той подыху магілаў,
У час бяссільнай помсты, злосці.

Княжацкі бор шумеў пакутна,
Як нашы песні таго часу,
Пужалі зверы штомінутна,
Душа не бачыла папасу.

Княжацкі бор шумеў, а Нёман
Мне да цябе дарогу значыў,
Блішчэлі зоры, чуўся гоман
Над Нёманам, змяшаны з плачам.

Сягоння пешкі мы не ходзім,
А на машыне ў госці едзем.
Княжацкі бор, пужаць нас годзе,
Не страшны князявы мядзведзі.

Ды веру хутка, незадоўга,
У непрымушанай ахвоце
З табой нябеснаю дарогай
Мы паляцім на самалёце.

Мы паляцім над Нёман сіні,
Над бор, ад князя ўжо свабодны,
Заглянем хто жыве ў хаціне,
Дзе жыў ты, брат, з жыццём нязгодны.

Стуль паляцім мы і да Вільні,
Дзе хлеб і соль дзялілі спольна,
І ўсё агледзім вокам пільным
У Вільні ўжо савецкай, вольнай.

Жыві і ў радасці, і ў шчасці,
У яснай долі, слаўнай волі,
Няхай праклятыя напасці
Цябе, брат, не крануць ніколі.

Шляхі нам партыя да зораў,
Да небывалых цудаў знача,—
Народ не знае болей гора,
Народ раскованы не плача.

Гудкі на фабрыках, заводах
Гудуць гудліва, безустанна.
Заваяваную свабоду
Рабочы люд не дасць спаганіць.

Калгаснік—а мужык нядаўна—
Паходкай пахаджае гордай,
Зямлю парадкуе аддана,
І ў Сталіна ён верыць цвёрда.

Дык хай-жа песні з лета ў лета
Твае мкнуць, Колас, вольнай хваляй,
І кажуць людзям, кажуць свету,
Як гаспадарыць мудры Сталін.

Менск,
Кастрычнік, 1936 г.

*Пятрусь Броўка*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Твой сад густы, расцвіўшы і высокі,
Там шум паэм і дзівосных песень сказ...
Я піў не раз іскрыстыя іх сокі,
З крыніц жывых напіўся я не раз.

Я там з героямі бунтоўнымі сустрэўся,
Мінулага прайшлі перада мною дні.
Там дзед Талаш у глыбіні Палесся
Ішоў са стрэльбай волю бараніць.

Я да зямлі прыпаў. Твае гучэлі словы,
Яны праўдзівымі, прыгожымі былі—
Я ў іх вясну пачуў, напеў бароў сасновых,
І сілу рэк Бярозы і Сулы.

Твой голас разгарнуў магутнейшыя крыллі,
Праз цемру праляцеў у наш вялікі час.
І дарма ворагі чмутою паланілі,
Твой поўдзень сонечны сягоння сярод нас.

Твой сад цвіце у радаснай краіне,
Ягоны шум прасторамі звініць...
І доўга будзеш ты, пад небам сінім,
Ісці, спяваць, паэт, і жыць і жыць!

10 кастрычніка 1936 г.



## НАРОДНАМУ ПАЭТУ РЭСПУБЛІКІ ЯКУБУ КОЛАСУ

У дзень 30-годдзя Вашай літаратурнай дзейнасці Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі горача вітае Вас, як аднаго з выдатных паэтаў Совецкай Беларусі і Совецкага Саюза і майстра мастацкага слова, зрабіўшага велізарны ўклад у справу развіцця літаратуры беларускага народу.

ЦК КП(б)Б жадае Вам доўгага плённага жыцця і новых вялікіх поспехаў у Вашай далейшай мастацкай творчасці на карысць нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, на радасць і шчасце працоўных, якія пад кіраўніцтвам нашага любімага друга і настаўніка мудрага Сталіна будуюць прыгожае шчаслівае жыццё.

*ЦК КП(б)Б*

## МЕНСК, САЮЗ СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ЯКУБУ КОЛАСУ

Жадаю доўгіх год жыцця, далейшага творчага поспеху. Прывітанне ўсім. Цісну руку.

*Гікало.*

Сочы, 11 кастрычніка.

## НАРОДНАМУ ПАЭТУ РЭСПУБЛІКІ ЯКУБУ КОЛАСУ

Совет Народных Камісараў Беларускай ССР горача вітае Вас з 30-гадовым юбілеем Вашай літаратурна-мастацкай дзейнасці і жадае Вам бадзёрасці і сіл для далейшай паспяховай работы на карысць совецкага народу. Працоўныя масы Беларусі адзначаюць Ваш юбілей, як чалавека і работніка, які лепшыя гады свайго свядомага жыцця аддаў на карысць народу і сваім майстэрскім словам заклікаў працоўных на барацьбу за вызваленне ад гнёту і несправядлівасці.

Цяпер у нашы совецкія часы шырокія масы працоўных у Вашай асобе бачаць глашатая новага шчаслівага жыцця. Таму

Вы заслужана карыстаецеся званнем народнага паэта, якім узнагародзіў Вас савецкі ўрад.

Совет Народных Камісараў выказвае ўпэўненасць у тым, што Вы і ў далейшым будзеце ў перадавой шарэнзе совецкіх пісьменнікаў і свае дараванні майстра мастацкай літаратуры аддасце без астатку на карысць новага соцыялістычнага грамадства.

*Совет Народных Камісараў Беларускай ССР.*

## НАРОДНАМУ ПАЭТУ БЕЛАРУСКАЙ ССР ТАВАРЫШУ ЯКУБУ КОЛАСУ

Дарагі таварыш Колас!

На вялікі жаль, я не маю магчымасці ў сувязі са службовай камандыроўкай удзельнічаць разам з Вамі на ўрачыстым сходзе, прысвечаным Вашаму юбілею. Сардэчна вітаю Вас з 30-гадовым юбілеем Вашай пладатворнай літаратурнай дзейнасці і жадаю Вам далейшых і яшчэ большых поспехаў у Вашай рабоце на карысць нашага совецкага грамадства.

Вы, таварыш Колас, сапраўдны сын беларускага народу, які вышаў з самай гушчы гэтага народу. Вы ведаеце яго мінулае жыццё, галечу, гора, бяспраўе, соцыяльны і нацыянальны гнёт і самі усё гэта на сабе адчулі. Таму Вы так маляўніча і праўдзіва ва многіх Вашых выдатных літаратурных і паэтычных творах апісалі цярністы шлях беларускага народу, яго барацьбу за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне.

Многія Вашы творы клікалі беларускі народ на барацьбу з праклятым царызмам, панамі і багацеямі, з усімі эксплаататарамі. Гэтым Вы саслужылі вялікую службу працоўным масам Беларусі.

Няма патрэбы даваць ацэнку мастацкім якасцям Вашых твораў, гэтыя якасці ўсім вядомы і іх можна выказаць пяццю словамі: Вы—вялікі майстар мастацкага слова. І іменна таму, што Вы сапраўдны сын свайго народу ўсё сваё жыццё жывеце яго інтарэсамі.

Вам, аднаму з першых пісьменнікаў Беларусі, удалося правільна асмысліць і правільна зразумець асноўныя этапы барацьбы і будаўніцтва новага жыцця, гістарычную перабудову вёскі на новы калгасны лад. Таму Вы адзін з першых адлюстравалі ў сваіх апошніх творах працэсы калектывізацыі беларускай вёскі, цяжкасці і поспехі гэтай грандыёзнай пераробкі жыцця мільёнаў працоўнага сялянства.

Сіла пісьменніка заключаецца ў тым, што ён чалавек сваёй эпохі, што ён адчувае біенне яе пульса. А наша сталінская эпоха самая шчаслівая, самая велічная: шчаслівы і той совецкі пісьмен-

нік і паэт, на долю якога выпала шчасце сваімі творамі апяваць гэту эпоху і ў ногу ісці з ёю. Вы, таварыш Колас, належыце да ліку гэтых шчаслівых людзей. Ваш талент вялікага майстра мастацкага слова належыць нашаму шчасліваму совецкаму народу, на яго карысць Вы яшчэ многа і многа будзеце працаваць.

Жадаю Вам многа, многа сіл і здароўя для далейшай пладатворнай работы. Сардэчныя Вам мае віншаванні са шчаслівым юбілеем.

*Старшыня Совета Народных Камісараў БССР*
*М. Галадзед*

10 кастрычніка 1936 г.
г. Масква.

## ПРЫВІТАННЕ АД ПРЭЗІДЫУМА ЦВК БССР

Прэзідыум ЦВК БССР горача вітае народнага паэта Совецкай Беларусі Якуба Коласа з 30-гадовым юбілеем творчай дзейнасці, жадае здароўя, сіл і доўгага жыцця і выказвае ўпэўненасць у тым, што Якуб Колас аддасць усё сваё жыццё і веды, каб сваім мастацкім словам служыць справе Соцыялізма.

*Старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў.*

## НАРОДНАМУ ПАЭТУ БЕЛАРУСІ ЯКУБУ КОЛАСУ

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

У дзень трыццаціголдзя Вашай літаратурнай дзейнасці праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў СССР шле таварыскае прывітанне і сардэчныя віншаванні.

Будучы адным з пачынальнікаў паэзіі беларускага народу, Вы трыццаць год горача і пладатворна працавалі над расшырэннем мастацкіх магчымасцей роднай паэзіі і абагачэннем беларускай літаратурнай мовы. Узнятая на грэбні рэволюцыі 1905 года творчасць Ваша, кроўна звязаная з народнай паэзіяй, была прысвечана справе вызвалення працоўнага сялянства Беларусі ад гнёту, п'янства і расійскага самадзяржаўя.

Вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя, скінуўшы з беларускага народу ланцугі нацыянальнага прыгнечання і памешчыцкай кабалы, зрабіла тое, аб чым марылі Вы ў сваіх ранніх песнях. Мудрая нацыянальная палітыка вялікай партыі Леніна—Сталіна ўзняла забіты і прыгнечаны народ Беларусі да вяршынь гаспадарчага і культурнага росквіту.

Яна апракінула ўсе спробы нацдэмаў і іншых ворагаў соцыялізма павярнуць народ Беларусі назад, у змрочны засценак капіталістычнага заняволення. Яна ўказала мастакам беларускага народу адзіны шлях росту беларускай культуры і літаратуры, шлях стварэння мастацтва—нацыянальнага па форме і соцыялістычнага па зместу.

Ордэнаносная Беларусь, якая квітнее ў магутнай і шчаслівай сям'і народаў СССР, ствараючы для працоўных трывалыя асновы радаснага, заможнага, соцыялістычнага жыцця, адкрыла перад паэтамі невычарпальныя крыніцы матэрыялу для стварэння прыгожых, сонечных песень.

І мы ўпэўнены, што апладатвораная гераічнымі справамі нашага часу творчасць Ваша будзе доўга гучэць молада і ўпэўнена—на славу совецкай Беларусі, на славу вялікаму Совецкаму Саюзу, бацькаўшчыне працоўных усяго свету.

***Праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў СССР***
***Бюро маскоўскай секцыі паэтаў.***

## ДАРАГІ КАНСТАНЦІН МІХАЙЛАВІЧ!

Трыццаць год назад, у глухую поўнач народнага гора і гневу, над палітымі крывёю і потам працоўных беларускімі абшарамі, упершыню ўзнялася Ваша песня, простая і хвалюючая, гордая і суровая, яна клікала на штурм супроць багацеяў, паноў і самаўладства.

Былі гады, калі Ваша песня падала ў багну нацыяналізма. Але зноў узнімаючыся, яна нарэшце ажыла, знайшла свой народны голас і цяпер дапамагае совецкаму беларускаму народу будаваць пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў Беларусі і яе баявога кіраўніка Н. Ф. Гікало новае радаснае і шчаслівае жыццё.

Вашы песні, Ваша мастацкае слова, дарагі Канстанцін Міхайлавіч, як ніколі расквітнелі ў вясне новых чалавечых спраў, у вясне краіны соцыялізма. Вы адчулі, што толькі Кастрычнік і ленінска-сталінская нацыянальная палітыка вядуць да разняволення працоўныя народы, да разняволення мастацкага слова.

Няхай-жа ваша мастацкае слова яшчэ больш горда, яшчэ больш моцна загучыць на гора ворагам і на радасць творцам соцыялізма. Няхай жыве пераможная партыя большэвікоў! Няхай жыве вялікі Сталін!

***ПРАЎЛЕННЕ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР:***
***Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Якаў Бранштэйн, Платон Галавач, Ільля Гуркі, Янка Купала, Міхась Лынькоў, Ізі Харык, Міхась Чарот, Кузьма Чорны.***

## ДАРАГІ КАНСТАНЦІН МІХАЙЛАВІЧ!

Сустрэўшыся ў дзівосным Кіеве, мы, паэты Совецкай Украіны, г. Леніна і Малдавіі, украінскія, рускія, яўрэйскія, малдаўскія, пісьменнікі, шлем свае сардэчныя прывітанні і віншаванні Вам, нашаму старэйшаму брату і таварышу па зброі, мужнаму песняру гістарычных перамог беларускага народу, буйнейшаму майстру паэтычнага слова нашай соцыялістычнай радзімы. Жадаем радаснага юбілею і новых творчых перамог.

Няхай жыве наша радзіма—Совецкі Саюз, няхай жыве наш натхніцель і правадыр, геніяльны паэт чалавечага шчасця вялікі Сталін!

Моцна паціскаем вашу руку.

*Сенчэнка, Тычына, Мікітэнка, Пракоф'еў, Рыльскі, Браун, Первамайскі, Камісарава, Ле, Бажан, Садоф'еў, Усенка, Фефер, Кулік, Магіленка, Даніэль, Млейман, Семенка, Любчэнка, Гільдзін, Тардаў, Іогансен, Лур'е, Гарадской, Паступальскі, Конфельд, Турчанаў, Рэзнік, Палянкер, Гардзееў, Скамароўскі-Фефер.*

## ПРЫВІТАННЕ АД ПІСЬМЕННІКАЎ ГРУЗІІ

Саюз пісьменнікаў Грузіі шле брацкае прывітанне народнаму паэту Совецкай Беларусі тав. Якубу Коласу, барацьбіту за шчаслівае жыццё, у сувязі з трыццацігоддзем яго літаратурнай дзейнасці.

*Татарышвілі.*

## ЯКУБУ КОЛАСУ

У дзень 30-годдзя Вашай слаўнай літаратурнай і грамадскай дзейнасці саюз совецкіх пісьменнікаў Татарыі шле Вам сваё палкае прывітанне. Ваш творчы шлях—гэта шлях барацьбы супроць прыгнятальнікаў за шчасце народу. Шырокія масы чытачоў ордэнаноснай Татарыі ведаюць і любяць Коласа—тварца цудоўных песень аб людзях, падзеях вялікай эпохі. Жадаем Вам шматгадовай плённай работы на радасць працоўных усіх народаў, на страх ворагам соцыялізма.

*Саюз пісьменнікаў Татарыі*
*Наджмі.*

* * *

Трыццаць год літаратурнай дзейнасці Якуба Коласа—гэта вялікае культурнае свята беларускага народу. Паэзія Коласа моцна звязана з жыццём Беларусі—з яе песнямі, фальклорам, паверʻямі, з яе працоўным людам, з яе барацьбой і бытам. Разам з усёй краінай Якуб Колас прайшоў цяжкі і доўгі шлях.

У яго першых вершах гучыць журба беларускага сялянства, жорстка прыгнечанага царскім урадам.

Часам гэта журба выліваецца ў заклік да паўстання. Так, у 1909 г. у самую глухую часіну царскай рэакцыі Якуб Колас пісаў у сваім вершы „Мужык“:

Я мужык, а гонар маю
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры.“

Вершы Якуба Коласа савецкага перыяду напоўнены радасным усведамленнем таго, што яго колішнія надзеі апраўдаліся, далёкія і невыразныя мары паэта ажыццявіліся.

Новы лад паняццяў, народжаных барацьбой пролетарыята, моцна ўвайшоў у паэзію Коласа, і перад паэтам стаяць цяпер задачы—увасобіць у сваіх яркіх вобразах лірыку калгаснай соцыялістычнай працы, паказаць нашу надзвычайную рэчаіснасць і лепшых людзей Совецкай Беларусі.

Дарагі Колас!

Сардэчна вітаю цябе з 30-годдзем тваёй слаўнай літаратурнай дзейнасці і жадаю табе многа новых творчых поспехаў і дасягненняў.

Нам, **громящим** вражью свору,
Счастье высшее дано.
Жить, работать в нашу пору—
Упоение одно.

*Д. Бедны.*

## ХАЙ ДОЎГА ЗВІНЯЦЬ ТВАЕ САРДЭЧНЫЯ ПЕСНІ

Усёй душой жадаў-бы асабіста прысутнічаць на трыццацігадовым юбілеі тваёй літаратурнай дзейнасці—свяце ў беларускай культуры, свяце совецкай літаратуры. Злы грып адабраў ад мяне гэтую радасць. Ад усяго сэрца вітаю цябе, дарагі Колас. Хай доўга звіняць твае сардэчныя, глыбока народныя песні над вольнай шчаслівай нашай радзімай.

*Лахуці.*

* * *

Совецкая Беларусь мае свой Эльбрус паэзіі, адна з гэтых вяршынь Эльбруса—Якуб Колас.

Вітаю народнага паэта Якуба Коласа. Вітаю Совецкую Беларусь. Слава Комуністычнай партыі, Сталіну слава!

*Паўло Тычына.*

## НАРОДНАМУ ПАЭТУ СОВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ ЯКУБУ КОЛАСУ

Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!

Рэдакцыя часопіса „Полымя Рэволюцыі“ шчыра вітае Вас з 30-ці гадовым юбілеем літаратурна-мастацкай дзейнасці і жадае далейшага росквіту Вашай творчасці.

Вы прайшлі вялікі і складаны творчы шлях. Ад песень горкай нядолі і нуды—да мужных і бадзёрых песень аб нашай слаўнай краіне, аб шчаслівым культурным заможным жыцці нашага народу, якое расцвіло пад мудрым кіраўніцтвам генія ўсяго чалавецтва таварыша Сталіна.

Мы ўпэўнены, што Вашы песні—песні вялікага таленту, будуць і надалей узорам для нашай квітнеючай літаратуры і паслужаць магутным сродкам выхавання маладых кадраў совецкіх пісьменнікаў.

Жадаем доўга жыць і працаваць на карысць нашай цудоўнай радзімы.

*Рэдакцыя часопіса „Полымя Рэволюцыі“.*

*Якуб Колас*

## НАШ РОДНЫ КРАЙ

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балота ды пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

А туманы, як пялёнка!
Засцілаюць лес і гай.
Ой, ты, бедная старонка!
Ой, забыты богам край!

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе—льецца пот.

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш—сэрца забаліць.
На двара—паленне, цёскі,
Куча сметніку ляжыць.

Крыж збуцвелы пры дарозе,
Кучка топаляў сухіх...
Сцішна, нудна, бы ў астрозе
Ці на могілках якіх.

А як песня панясецца—
Колькі ў песні той нуды!
Уцякаў-бы, бег, здаецца.
Сам не ведаеш куды.

Край наш родны, бедна поле!
Ты глядзіш, як сірата,
Сумны ты, як наша доля,
Як ты, наша цемната.

1906 г.

## ВОРАГАМ

Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі“!
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

Ї на грозных межах
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

„Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

Ї за што, скажэце,
Палкамі нас білі,
Секлі-катавалі,
Голадам марылі?

Ласкаю-ж чыёю
Ї з чые вы працы
Замкі збудавалі,
Пышныя палацы?

Ўсё ад нас забралі,
А што нам далі вы?
Чые нудна ў полі
Так марнеюць нівы?

Вузенькаю ніццю
Чые йдуць палоскі?
У чыім то жыце
Многа так бярозкі?

Каму адвялі вы
Пусташы, каменне?
Хто з свайго засеву
Не збярэ насення?

Чые гумны, хаты
Гнуцца сіратою?
Чые слёзы льюцца
Кожнаю парою?

І чыя скацінка
Сохне ў пустым полі?
І як гаспадар іх
Гіне у няволі?

Чыя песня-скарга
У неба йдзе дакорам,
К месяцу і сонцу
І к далёкім зорам?“

Багачы і панства
І вы, ўсе брадзягі!
Ў бок з дарогі, каты!
Бойцеся сярмягі!

Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

1906 г.

## НАША ДОЛЯ

Наша доля нас не знае,
Жыццё наша—ноч і цьма.
Ўлетку жар нас данімае,
Цісне холадам зіма.

Не красуе наша ніва,
Луг не цешыць нам вачэй.
Гне к зямлі нас праца жыва,
Гоніць ў могілкі дзяцей.

Наша жыцце невясёла...
Ноч і цьма на нас ляглі.
Нашы хаты, вёскі, сёлы
Сівым мохам абраслі.

Нашы слёзы нешчыслёны,
З нас крывавы льецца пот...
Люд забіты, люд хрышчоны,
Абяздолены народ!..

* * *

— Што, брат Грышка: папраўляйся—
Чутка ёсць—зямлі дадуць.
Не хварэй, брат, падымайся
Ды ачуньвай як-небудзь.
— Эх, Мікола: што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць.

1907 г.

## МУЖЫК

Я—мужык, бядак пахілы.
Усе ўшчуваюць мужыка.
Цягнуць кроў з яго і жылы,
Надрываюць яго сілы,
У мазалёх яго рука.

Я—мужык, я—сын пакуты,
На мякіне вырас я,
Гічанамі пуза ўздута,
Ногі ў лапцікі абуты,
Бедна вопратка мая.

Я—мужык, я—сын бядоты.
Недаем і недасплю,
Гнусь пад цяжарам работы,
Дзень працую за два злоты,
Здзекі ўсякія цярплю.

Я—мужык, не чую звону,
Толькі-ж есць мяне чарвяк:
Ці не брэша поп з амбону
Што цару бог даў карону?
Ой, не, мусібыць, не так!

Я—мужык, а гонар маю.
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
„Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!“

1909 г.

*Якуб Колас*

# СОЦКІ ПАДВЁУ

## I

Важна ходзіць па мястэчку ўраднік, пакручваючы рыжыя вусы. Пры баку ў яго цяляпаецца трапло—шабля, чырванеюць шнуры і наплечнікі, і блішчаць на сонцы наваксаваныя боты. Ен толькі што прыехаў на службу; у яго галаве мітусяцца тысячы думак,— думак аб тым, як звясці крамолу. Яму толькі што данёс стражнік, што у вёсцы Галадранцы нядаўна з'явіўся падазрэнны чалавек. А раз чалавек падазрэнны, то ён напэўна, соцыяліст або, па меншай меры, забастоўшчык. І ўраднiцкая галава строіць замыславатыя планы, тчэ хітрыя сеці, у якія павінна заблытацца крамола. Яму здаецца, што ён выкрыў „праступнае саобчаства" захапіў лісты, рэвальвер і бомбы, і ўсё гэта даставіў да начальства. Яму даюць павышэнне, пасылаюць у горад, робяць акалодачным, потым прыставам, а потым... і пайшоў наш ураднік угару, як цыган па драбінах на неба.

Пры гэтым ураднік аж засмяяўся сам сабе і ляснуў рукамі па сваіх тоўстых кумпяках.

— Гм! Ты кажаш „падазрыцельны" чалавек?—пытаў вечарам ураднік сваю правую руку—гарбатага стражніка.

— Бясспрэчна, падазрыцельны!—сказаў стражнік таемным паніжаным голасам.

— І ты яго бачыў?

— Бачыў, гаспадзін ураднік. І цікава тое, што ён—малады чалавек і астрыжаны! Звычайна ўсе крамольнікі кудлатыя і абарваныя. А гэты нішто сабе адзеты, у чорнай кашулі, падпяразан шырокім поясам... Гатоў у заклад ісці, што гэта самы настаяшчы „сіцыліст".

— А ты не пытаўся аб ім? Не наводзіў справак у мужыкоў?

— Дык вам мужык так і скажа, асабліва галадранскі мужык. Гэта—гадаўё!

— Калі з'явіліся пракламацыі ў Галадранцы?

— На той нядзелі ў пятніцу.

— Вось што, брацe,—пачаў, памаўчаўшы ўраднік голасам начальства:—заўтра ты паедзеш у Галадранку і навядзеш даклад-

ныя спраўкі аб гэтым рэволюцыянеры. Мы яму пакажам свабоду! Зайдзі да соцкага Рамана Камлюка. Але не надта выкладай яму усё на талерку: трэба помніць, што ён—галадранец, забастоўшчык.

II

— Скажы, брат,—пытаўся адзін худы, высокі, як цапільна, галадранскі селянін, гаворачы „брат“ усёй грамадзе,—што гэта за чалавек? Пэўна „сіцыліст!“

— Гэтакі ён „сіцыліст“, як ты маёй кабыле дзядзька!—адказаў яму Андрэй Падгорны, чалавек лёгкі на язык.

Усе зарагаталі.

— А ты, мусіць, знаешся на „сіцылістах“, як мая свіння на пастах?

— Разумны напаў на разумнага,—сказаў стары Базыль, не выпушчаючы з зубоў люлькі.

— Знайшлі за што сварыцца, — ўмяшаўся Карусь з-пад карчмы: — Андрэй гаворыць праўду. Ці-ж „сіцыліст“ пойдзе да пана або будзе лаяць сам сябе?

Галадранскі соцкі, Раман Камлюк, замысліў, як відаць, нешта хітрае, бо засмяяўся сам сабе ў доўгія вусы, але нікому не сказаў чаго засмяяўся, і пайшоў дахаты.

Да сялянскай грамады падыходзіў Янка Дудар. Яму было надта весела, ён спяваў на ўсю вуліцу:

А ты, Янка, не зважай
На кажух падраны...

Ногі не слухалі Янкі, а ішлі, як хацелі: адна ўлева, другая ўправа, а сам Янка падаваўся то ўзад, то ўперад, то ў адзін бок, то ў другі.

Прадам бульбу, прадам жыта,
Абы было шыта-крыта...

зачаў Янка другую песню.

— Глядзі, каб не падашукалі!—прасцярог яго Андрэй Падгорны.

— Чаго ты смяешся?—накінуўся на яго Янка,—куст ты альховы! Ты знаеш, хто я? Я—дэмакрат і забастоўшчык першай гільдыі... Хлопцы! браткі мае родныя! Хадзем бунтавацца...

— А вунь ураднік!—пастрашыў яго стары Базыль.

— Дзе ён?!—крыкнуў Янка, азіраючы вуліцу:—падайце мне яго сюды!

Людзі пацяшаліся, а Янка, згарнуўшы кулакі, біў імі па паветры, мясіў нагамі пясок, як-бы там ляжаў ураднік, а ён яго мясіў нагамі.

— Вось падла, Янка! Глядзі ты, што ён вычварае!

Невядома, што зрабіў-бы Янка са сваім ураднікам, каб не прыйшла жонка. Яна трымала пад пахай мяшалку.

— Вось, брат, папаўся!—жартавалі сяляне.

— Спяваў, што „няма каму бараніць“,—бараніся-ж сам.

— А каб ты смалы напіўся, гад!—крыкнула жанчына, і мяшалка

мільгнула ўгары і гладка прыстала да сярэдзіны худога Янкавага цела.

— Што робіш?—крыкнуў, нібы сярдзіта, стары Базыль на Дударыху.—Не бачыш, ці што? Ён зямлі і свабоды дабіваецца людзям, а яна яго мяшалкаю!

Мяшалка паддала Янку сілы, і ён даволі борзда стаў на ногі.

— Арыштую!—крычаў ён на жонку.—Не палагаецца насіць аружжа! У рыштанскія роты аддам па 25 стацці!

— Так, так, Янка!—падтрымлівалі яго суседзі.

— Ваенна-палявым судом судзіць буду!—бушаваў Янка.— Я—забастоўшчык, а ты хто? Чорнасоценец! От хто ты!—гаварыў Янка сваёй жонцы, ужо ідучы дадому.

III

— Скажы мне, Раман, што гэта ў вас за чалавек з'явіўся?— пытаў стражнік у соцкага.

— А ці я ведаю?

— Можа-ж чуў што пра яго?

— Чуць-то чуў, ці мала што людзі гавораць!

— Прызнавайся, Раман, нечага адвільваць. Што ты чуў?

Раман аглядзеўся навокал і ціха сказаў:

— Соцыяліст!

— Ну?!

— Такія рэчы гаворыць, што ў Сібір саслаць і то мала. Дае кніжкі і лісты раскідае. Вось пабач!

І Раман дастаў з-за пазухі пракламацыю, якую ён знайшоў два гады назад, будучы ў павятовым горадзе на першых выбарах.

У стражніка так і заблішчэлі вочы.

— А мужыкі яго слухаюць?

— Дзе там слухаюць! Цара лае.

— А што ён, прымерна, казаў?

— Казаў, што наш цар—дурань.

— Цыц!—прамовіў стражнік і азірнуўся.

— А дзе начуе ён?

— Усюды. Раз нават у папа начаваў.

— Як-то ў папа?

— Абмануў; сказаў, што яго кансісторыя паслала, і нейкі знак паказаў.

— Заўтра ўначы чакай нас тут з дзесяцкімі. А калі ён уцячэ— ты адказваць будзеш.

Стражнік выйшаў, а Раман, стоячы, весела пасмейваўся.

IV

Ціха, асцярожна краўся ўраднік са стражнікам да вёскі Галадранкі. Вёска ўжо спала. Адзінокі месяц плыў над ёю, як срэбны круг. Абросшая вербамі, спакойна цякла рэчка каля самых хат, і дробныя хвалі, як жывыя, пераліваліся і блішчэлі на месяцы.

Соцкі і два дзесяцкіх стаялі на двары, чакаючы „начальства“. Прыехаўшы да соцкага, урадніх распытаўся аб „сіцылісту“. А гэты „сіцыліст“ спаў сабе, як пшаніцу прадаўшы. Ен начаваў у папа.

У ўрадніка пранеслася ў галаве думка арыштаваць і папа за пакрыванне крамольніка. Але перадумаў і знайшоў, што не варта, бо хітры соцыяліст не толькі папа, але і чорта абмане. Апрача таго, поп скора не ўздымаецца і ўцякаць яму няма куды.

Урадніх, стражнік, соцкі і дзесяцкія ўзышлі на ганак папоўскага дома і пастукалі.

Поп вышаў босы, накінуўшы на сябе шырокі каптан.

— У чым дзела?

— У вас, бацюшка, праступнік начуе!—сказаў урадніх.

— Не можа быць!

— Аб гэтым будзем талкаваць потым... звольце паказаць, дзе ён.

Поп пабялеў і стаяў, як укапаны толькі губы яго дрыжэлі, і ён шаптаў:

„Ад вешчы, ва цьме прахадзяшчыя, ад беса палудзеннага“...

Увайшлі ў пакой, дзе спаў „сіцыліст“. А таму і гора мала: спіць сабе на баку, толькі носам свішча і храпе, як пшаніцу прадаўшы. Урадніх прыставіў да яго караул, а сам запусціў руку ў яго дарожную раменную торбу і выцягнуў цэлую жменю лісткоў. Нікому і ў галаву не прышло паглядзець, што гэта былі за лісткі.

А „сіцыліст“ усё спіць—проста ўраднік не ведае, як арыштаваць соннага чалавека. На помач яму прышоў соцкі. Ён папароў соцыяліста, як мядзведзя, кіем. Схапіўся „сіцыліст“, вырачыў вочы—і рукою пад падушку, дзе ляжаў рэвальвер. Тут на яго накінуліся стражнікі і дзесяцкія. Усе зляпіліся ў адзін клубок і некалькі часу мітусіліся па пакоі. У канцы адзін дзесяцкі вырабіўся з гэтай кучы, паапляваў на рукі і, скамандаваўшы сам сабе: „Ну, Сымон! вазьмі папраўдзе!“—згроб і стражніка і „сіцыліста“, падняў іх „на жывот“, потым спрытна падставіў ножку і аблажыў абодвух.

— Каторы тут з вас „сіцыліст“?—пытаў ён, седзячы наверсе.

Стражніка аслабанілі, а „сіцыліста“, якому ўраднік палічыў сваім абавязкам даць у зубы за спраціўленне,—звязалі.

— Як вы смееце?—крычаў „сіцыліст“.—Я—член „саюза рускага народу“.

—А гэта што?—паказаў урадніх на лісткі і рэвальвер.

— Цягні яго, хлопцы!

—„Яко ісчэзае воск ад ліца агня“,—маліўся поп.

## V

„Сіцыліста“ вялі па пустой вуліцы. Цікавы месяц выплыў з-за белай хмаркі і, глянуўшы на гэтую працэсію, мусіць, засароміўся людскога глупства, бо зараз-жа схаваўся ў другой хмарцы; ды яшчэ сучка старога Базыля была сведкай камедыі, што разыгралася ў Галадранцы.

Усю дарогу думаў урадніх, якую карысць на свеце прыносяць людзям урадніхі.

„От,—думаў ён,—усе спяць, а ты валачыся цэлую ноч, бойся кожны момант за сваё жыццё. Ласне тут ёсць што-небудзь труднае— дастаць сабе ў лоб кулю? А якая падзяка? Ну, прыстаў можа падаць руку і заклікаць на шклянку гарбаты“.

Але дзесьці, на дне душы яго, варушыліся другія думкі, і яму прадстаўлялася цэшка і прыстаўскія наплечнікі. Стражнік, соцкі, дзесяцкія і сам „сіцыліст“ таксама думалі,—кожны на свой фасон. Але трудна залезці ў чужую душу і ведаць, хто што думае. Усе маўчалі.

## VI

— А ты добра зрабіў, што дагадаўся зайсці да мяне!—такімі словамі сустрэў прыстаў ўрадніка.—Бачыш, сюды прыслан член „саюза рускага народу“.

— Ваша высокаблагароддзе! Я арыштаваў і прывёў да стану „соцыяліста“, аб чым і маю чэсць асабіста далажыць вам!—перабіў ураднік прыстава.

— Дзела добрае. Дзе арыштаваў?

— У Галадранцы, ваша высокаблагароддзе!

Тут прыставу нешта цюкнула. Ён глянуў на ўрадніка. Той стаяў і пазіраў на прыстава так, як-бы, ён, ураднік, схапіў з неба зорку або японскага мікаду забраў у палон.

— Пашпарт у яго ёсць?

— Не спраўляўся.

— Дзе арыштаваны? Пазваць сюды!

Ураднік кінуўся на двор.

Соцкі і дзесяцкія ўвялі „сіцыліста“.

— Як дапушчаеце вы такое безабраззе і сваявольства вашых падлеглых?! Я самому губернатару жалавацца буду! Я—член „саюза рускага народу“! Вот мае дакументы!

— Звініце,—сказаў прыстаў „сіцылісту“,—тут абмылка.

Прыстаў грозна зірнуў на ўрадніка. Ураднік апусціў вочы і зірнуў на стражніка, стражнік—на соцкага.

Соцкі стаяў бокам і смяяўся ў рукаў.

*Якуб Кола*

# НАШЫ ДНІ

Праімчаўся віхор, пыл і затхласць размёў.
Сцяг чырвоны разняўшы ўгары...
Вы, таварышы, вы ўладары
Гэтых фабрык, заводаў і вольных палёў.
Зарунела ралля,
Твар мяняе зямля,
Новы засеў вянкі перамогі заплёў.
У нябыт адыходзіць закляцце вякоў,
Гэты здзек, гэты жах кабалы,
Гэта цемра папоўскай імглы,
Гэта тхлань і насланне ліхіх ведзьмакоў—
Запалілі агні
Большэвіцкія дні
І спалілі нашчэнт звон іржавых акоў.
Не пазнаеш зямлі і вясковых людзей—
Не, не тыя, не тыя яны!
Іншым клопатам людзі пауны:
Крута іх павярнуў большэвік-чарадзей.
Новы гоман наўсцяж,
Замест „мой“ громка „наш“
Вылятае з калгасных здаровых грудзей.
Знята ўлада зямлі, векавечны прыгон,
Што пракляццем лажыўся на нас,
Бляск фальшывы навекі пагас...
Я вітаю вялікі шырокі разгон
Нашых дзён маладых,
Гоман творчасці іх...
Дык ярчэй-жа гары, сонца радасных дзён!

1933 г.

## З ДАРОГІ

*(Прысвячаю Заходняй Беларусі)*

Мінула шмат гадоў,
І многа змен за час той адбылося!
У подыхах вятроў
Шмат страчана гадоў,
Бы красак тых у выцвіўшым пракосе.

І часта, нібы ў сне,
Мінулае мільгнецца прад вачамі,
Як песня аб вясне,
Аб той, што колісь мне
Няяснымі звінела галасамі.

Пазбыцца гэтых сноў
І з'яў былых не ў сілах я і сёння:
Не-не, ды успомню зноў
Той кут, дзе я даўно
Сагрэты быў пяскамі Наднямоння.

Я свет угледзеў там,
Пазнаў складанасць гам яго і тонаў.
Адчуў дзівосны храм—
Злучэнне блеску, плям,
Дзе ўсё дрыжыць, звініць, напеўным звонам

І колькі з'яў і чар
У памяці захована з былога!
Дзяцінства ясных мар,
Прывабны скарб і дар,
Як першая ў жыцці мая дарога.

Хоць след пуцін маіх
Засыпан там ужо даўно вятрамі,
Я бачу, як жывых,
Мне блізкіх, дарагіх,
Замучаных панамі і царамі.

Дзяцінства сны мае
І вобразы пад нёманаўскім сонцам!

Як часта паўстае
і вабіць і пяе
Акорд, адспеваны і злучаны з бясконцым!

* * *

Прайшоў час не малы,
К нам светлыя заглянулі дзянніцы,
А там, у бок Сулы,
Драпежныя арлы
Дзюб звесілі ў панурай таямніцы.
Па сходзе многіх дзён
Я зноў зірнуў у вочы родным долам...
Зняменне, ціш і сон,
Убоства і прыгон,
За крыжам крыж, астрогі і касцёлы.
Зноў сунуцца з імглы
Забытыя малюнкі і настроі:
„Двухглавыя“ арлы,
Жандар, тупы і злы—
Прыпеўкі усё з той оперы старое!
Вось ён, другі жандар...
Нутро адно, хоць іншае аблічча:
Насунут брыль на твар,
Ён бог тут, ён тут цар
І „польскасці“ ахова ў прыграніччы.
Гляджу, лаўлю вакол
Знаёмыя і выцвіўшыя рысы.
Дзе-ж люд, ярэмны вол?
Спусціўшы вочы ў дол,
Ён ходзіць дзесь, адцёрты за кулісы.
Дзе-ж посулы паноў,
Іх лёкаяў аб роўнасці, аб волі?
У дзвенькканні званоў,
У звоне кайданоў,
У свісце бізуноў,
У голадзе, асадніцтве, падполлі!
Дык вось які ты, край,
Прытулак мар і сноў маіх дзяцінных!
Стары снуеш ты бай.
Пра царскі, панскі „рай“,
Гаротная, зняемелая краіна!
Пасечаны лясы,
І толькі хмыз на торфішчы буяе
Загоны—паясы,
Ні сілы, ні красы,—
На тыя-ж галасы
Звініш зямля заходняя, старая!

І горкім палыном
Павеяла ад песні, ужо забытай,
Мой родны край і дом
Пад белым пад арлом!
Нядоляю ты цяжкою спавіты.
І я твой родны сын,
Чужынцам у табе сябе ўжо адчуваю
Прымі ж хоць на ўспамін—
Нататку з пуцявін—
Жальбу маю аб лёсе тваім, краю!

1935 г.

## ПЕСНЯЙ ВІТАЮ Я ВАС

Леглі шырока нівы калгасаў.
Глянеш—разлог, далячынь!
Стужак дарожных роўныя пасы
Мераюць смужную сінь.

Ходзіць паважна дбалы араты,
Трактар—палёў гаспадар.
Дужы і ў працы спорны, заўзяты.
Ходзіць—гамоніць абшар!

Скінуты межы, свет разгарожан—
Далеч, бязмежны прастор!
Яснае заўтра, дзень наш прыгожы,
Досвіткаў тысячы зор.

Змоўкла ў прасторах песня старая—
Скаргі адвечны палон.
Вольная праца нас адарае
Песняй расквечаных дзён.

Песні гавораць—жыць стала лепей.
Песні, як мак расцвілі.
Поўняцца імі горы і стэпы
Нашай савецкай зямлі.

Плаваюць песні звонам-разлівам,
Песні расквечаных дзён.
Песням вясёлым, песням шчаслівым
Хочацца ўторыць у тон.

Марш перамогі ў радасным гудзе...
Хіба-ж не радасць наш час?
Краю Совецкі, вольныя людзі!
Песняй вітаю я вас.

1936 г.

*Якуб Колас*

# ВАИНА ВАИНЕ

*Драма ў 4-х актах* *

## АКТ 1-шы

Прымаюць удзел:

ДЗЕД МІКІТА, селянін гадоў за 60.
БАБКА ТАЦЯНА, яго жонка.
МІХАСЬ, сын дзеда Мікіты, салдат запаса.
НАСТА, жонка Міхася.
ГАРАСЬКА, сын Міхася, хлопчык гадоў 9.
АЛЕСЬ, вясковы настаўнік, кватарант дзеда Мікіты.
МАРЫНА, настаўніца, гадоў 20.
АСЛАЎ, сусед дзеда Мікіты і прыяцель. Заіка.
ДУМАКА ПАТАП, шахцёр } Запасныя.
ДЗЯМЕНЯ ДЗЯМЯН, бабыль. } Запасныя.
ДРОБ ПАЎЛЮК. } Запасныя.
ГУЗЫР АНДРЭЙ. } Запасныя.
ТЭКЛЯ, вясковая кабета.
КАРАЛІНА, дурная жанчына.
СТАРАСТА, селянін гадоў пад 40.
ПОП.
ШЫШЛА, паліцэйскі ураднік.
БУДАН-РЫЛЬСКІ, земскі начальнік, афіцэр запаса.
ЖУХІН, афіцэр. Сястра міласэрдная.
Дзесяцкія, салдаты, афіцэры, матросы.

Дзея адбываецца ў вёсцы.

Перад падняццем заслоны на сцэне спявае жаночы хор:

Гнуцца лозы над крыніцай
Ды шумяць тужліва.
Ідзе гора з маладзіцай
У поле на жніва.

ПРЫПЕЎКА: Зачыніла свет вайна,
А я з дзеткамі адна,
З дробнымі, малымі,
Цяжка адной з імі.

* П'еса напісана для другога Беларускага тэатра.

Вее вецер па-над борам,
Ходзячы па свеце.
Ой, вы, сонца, месяц, зоры!
Праўду мне скажэце:
Дзе мой горкі бедачына,
Мой салдат пахілы?
Без яго мне, сіраціне,
Белы свет не мілы.

ПРЫПЕЎКА: Зачыніла свет вайна,
А я з дзеткамі адна,
З дробнымі, малымі,
Цяжка адной з імі.

Ці жывы ён ці забіты,
Ці ў чужым палоне?
Шапаціць мне штосьці жыта,
Ды слоў не гамоніць.
У каго-ж я запытаю—
Нема ўсё навокал:
Дзе ты, дзе, у якім краю
Мой нявольнік-сокал?

ПРЫПЕЎКА: Зачыніла свет вайна,
А я з дзеткамі адна.
Горка мне адненькай
Сумна маладзенькай!

Сярэдзіна лета. Вясковая вуліца. Адным канцом упіраецца ў пяшчаны бераг рэчкі. На беразе дзе-ні-дзе стаяць пахіленыя вербы. Недалёка ад рэчкі стаіць хата дзеда Мікіты. З акна хаты відаць галава дзеда Мікіты. Насупроць, каля свае хаты, стаіць Аслаў, залажыўшы рукі ў рукавы пільчака. Пыхкае люлечкаю. Берагам ідуць Марына і Алесь, гутараць.

Алесь *(запыняецца)*. Вось ты зірні, Марынка, якая спакойная, якая ціхая гэта сельская аколіца, і колькі ў ёй смутку і, ведаеш, нейкага тужлівага задумення!

Марына. Ты, здаецца, упадаеш у лірычны настрой. Па-мойму ўсё залежыць ад таго, як хто ўспрымае тое, што нас акружае.

Алесь. Не, я не пра гэта хачу сказаць. Я проста хачу адзначыць, што гэты спакой фальшывы.

Марына. Не зусім ясна для мяне твая думка.

Алесь. Да я-ж і не выказаў яе да канца. *(Жартліва)*. Слухай, і ты пачуеш вялікую праўду.

Марына. Калі ты скажаш вялікую праўду, дык я абвяшчу цябе прарокам і першая пайду за табою.

Алесь *(хітра)*. Памажы-ж мне, божа, сказаць вялікую праўду!.. Не, я лепей запішу яе наперад у сваю кніжку. *(Дастае запісную кніжку, піша. Марына заглядае ў запісь, Алесь хаваецца, не паказвае)*. Не, не пакажу: а раптам ты скажаш, што гэта не такая праўда, каб абвяшчаць мяне прарокам. Не, не!

Марына. Ну, пакажы!

Алесь. Не, не: не хачу рызыкаваць!

(Смяюцца, праходзяць).

Аслаў *(да дзеда Мікіты, ківаючы галавой у іх бок, заікаючыся).* Ш-ш-пацыруюць.

Дзед Мікіта. А што ім рабіць, чуй, дурань браце? Маладыя!

(На вуліцы паказваецца жанчына з сярпом, перавязаным анучкаю і са збанком на восілцы ў руках. Ідзе, борзда спяшаецца. Аслаў расстаўляе рукі, як-бы хоча лавіць яе, перагароджвае дарогу).

Аслаў *(расставіўшы рукі, заікаючыся).* І-і-і не пушчу. *(Тэкля кідаецца ў другі бок, каб абыйсці Аслава. Аслаў зноў пераймае).* Сказаў—нне ппушчу, і-і н-не пушчу.

Тэкля *(не прымаючы жартаў).* Ах, адстань! Няма калі жартаваць.

Аслаў. Не, нне ппушчу!.. Ччаму ты не сказала мне „дзень добры“?

Тэкля. Да адвяжыся-ж ты, слата! Стары чалавек, а робіць чорт ведае што!

Аслаў. Вось-жа і-і-і нне адвяжуся. Чаму-ж не сказала „дзень добры“?

Тэкля. Ну, дзень добры, няхай ты недажджы!

Аслаў *(не апускаючы рук).* А-а-а цяпер ужо позна... Сскажы, куды ідзеш? *(Тэкля злосна плюе, парываецца ў другі бок, Аслаў загараджвае дарогу).* Б-б-брэшаш, Тэкля, і-і-і нне ппушчу.

Тэкля *(злосна).* А бадай табе, Аслаўка, вочы загарадзіла, як загарадзіў ты мне дарогу! Вось вар'ят чалавек, зусім ужо здзяцінеў!

Аслаў. Сскажы, куды ідзеш, тады ппушчу!

Тэкля. Аслаўка, родненькі! Пусці-ж ты мяне—не да жартаў мне, жыта асыпаецца на полі. І так выбралася позна.

Аслаў *(апускае рукі).* Ччаму-ж ты адразу так не сказала? А то сабе ччас зводзіць і ад мяне адбірае!.. Ну, ідзі сабе. *(Тэкля борзда ідзе далей).*

Дзед Мікіта *(са смехам нагля даючы ўсё гэта).* Ха-ха-ха! Чуй, дурань-браце: стары ты ўжо чалавек, а ўсё дзівацтва не кідаеш. Ха-ха-ха! Жанчына ледзь са скуры не выскачыць, на поле бяжыць, а ён запыняе!

Аслаў. А хто-ж іх розуму навучыць, калі не я?.. Ты, вось глядзі, Мікіта: замест таго, каб ісці проста і зразу сказаць, куды ідзе, яна пачынае блутацца, перашкоды абмінуць хоча.

Дзед Мікіта. Ды як-жа ёй, чуй, дурань-браце, і не абмінаць, калі на дарозе вось такі пень стаіць?

Аслаў. А ты ўмей цераз пень пераскочыць латвей... Вось так і ўсе мы блытаемся, як сляпыя ў лесе, і ўсе мы мінаем перашкоды, а яны ўсё стаяць на нашай дарозе, і чуць бяда—мы галовы губляем.

**Дзед Мікіта.** А кепскі з цябе, чуй, дурань-браце, настаўнік: вучыш ты нас, вучыш, а мы штось не разумнеем. Як жылі ў бядзе і нэндзы вахлакамі, так і жывём.

(Падходзіць **Патап Думака**, адзеты па гарадскому, з граблямі на плячах. Запыняецца, слухае).

**Аслаў.** Бо я адзін, а дурняў—як пяску на беразе, унь гэтай рэчкі.

**Патап.** Дзень добры, дзядзькі!

**Дзед Мікіта і Аслаў.** Дзень добры, Патапе, дзень добры!

**Патап** *(да Аслава).* Дык, дзядзька, усё вучыш?

**Аслаў** *(рашуча).* А і вучу!

**Патап.** Ды скажы-ж мне, дзядзька Аслаў: чаму гэта ёсць мужыкі і ёсць рабочыя, вось, скажам, я шахцёр? Чаму адны працуюць, а жывуць, як кажа дзядзька Мікіта, у бядзе і нэндзы? Другія-ж нічога не робяць і жывуць у роскашы? На што поп і паліцэйскі стражнік?

**Дзед Мікіта** *(да Аслава).* Ну, чуй, дурань-браце, растлумач?

**Аслаў** *(вымае з зубоў піпку, павольна, развažліва круціць галавою, падымае ўгару палец разам з піпкаю).* Мудра запытаў, мудра! Не быў-бы то Думака.

**Дзед Мікіта.** А што, Аслаў, чуй, дурань-браце, папаўся!

**Аслаў** *(да Патапа).* Падумаць трэба, сынку! Глуздом паварушыць.

**Патап.** Падумай, дзядзька, падумай і запішы, ды толькі не кажы, што гэта я пытаў. *(Ідзе далей).*

**Аслаў** *(да дзеда Мікіты).* Запытаў, злодзей! Моцна запытаў! *(З глыбі сяла даносіцца дзілінькание званка. Дзед Мікіта паварочвае галаву, слухае).*

**Дзед Мікіта** *(у голасе непакой).* А што гэта, чуй, дурань-браце, за званок там? З воласці едуць, ці што?

**Аслаў.** А мабыць ужо нейкае ліха вязуць, няхай яны зубамі звоняць. *(Разважае).* Гм! Навошта поп і паліцэйскі стражнік? Як на добры лад, то яны і не патрэбны!

(На вуліцы замецен рух. Замітусіліся людзі. З іх чарады аддзяляецца ўнук дзеда **Мікіты, Гараська**. Бяжыць узбуджаны, устрывожаны).

**Гараська** *(запыхаўшыся).* Прыехаў нейкі пан, ды на пары коняй, пад званком... Старасты шукае. „Дзе, кажа, стараста? Дзе стараста?.. Знайсці яго хутчэй!“ *(Зноў бяжыць назад).*

**Дзед Мікіта.** Хіба пайсці, чуй, дурань-браце, паглядзець? *(Зачыняе акно, выходзіць на вуліцу. Аслаў стаіць у позе глыбока задумлённага чалавека).*

**Аслаў** *(сам з сабою).* „Навошта поп і паліцэйскі стражнік?“. Вось, бэстыя, куды загнуў! *(Рух на вуліцы павялічваецца. Паказваюцца адзінокія фігуры. Дзесь за сцэнаю крык „Бяжы на поле, гані на сход людзей!“*

**Дзед Мікіта** *(затрывожаны).* Навошта сход? Чуй, дурань-браце, хадзем туды!

Аслаў. Гэ, Мікіта: калі што добрае, таго мы не пабачым, не пачуем і не панюхаем. А ліха знойдзе нас само.

(Шум за сцэнаю павялічваецца. Выразна чуваць крык: „Сымон! Дзесяцкі Сымон Бадыль! Бяжы на званіцу, звані ў пажарны звон!")

Дзед Мікіта і Аслаў *(разам)*. Пажарны звон!.. Вось ліха! *(Паварочваюцца адзін да аднаго спінамі, пазіраюць кожны на свой будынак, потым пазіраюць на сяло)*.

Дзед Мікіта. Нічога не відаць!

Аслаў. Ні дыму, ні агню.

Дзед Мікіта. Чуй, дурань-браце, тут штосьць не так! Склікаць народ пажарным звонам!

Аслаў *(ускідае плячамі)*. Няйначай, як трэба нам пайсці туды бліжэй.

(Збіраюцца ісці, але іх увагу затрымлівае кабета ў лахманах, з клункам за плячыма, з доўгім кіем у руках).

Дзед Мікіта. А хто гэта там, чуй, дурань-браце?

Аслаў. Ды гэта-ж Караліна!

Дзед Мікіта *(у здзіўленні)*. Жыве яшчэ яна?.. Тфу, згінь ты прападзі! Ніколі на дабро не прыдзе гэта ведзьма.

Караліна *(ідзе павольна, азіраецца па баках. Спявае непрыемным скрыпучым голасам)*.

Эх, з-пад Слуцка ды з-за Клецка
Едзе дружба маладзецка...

*(Падыходзіць)*. Дзень добры вам, мужчынкі. Смерць вам нізка кланяецца. Даўно, кажа, чакаю іх у госці.

Дзед Мікіта *(у злосці і махае рукой)*. Ідзі, ідзі, чуй, дурань-баба. Ідзі, куды ідзеш.

Караліна. Які-ж ты фанаберысты! А я-яй! *(Праходзіць далей)*.

Чуваць звон, глухі, надтрэснуты. Голас яго дужа нагадвае словы: „гвалт, гвалт!"

Дзед Мікіта *(перапалоханы)*. О, божа твая воля! Што-ж гэта ёсць такога? У звон пажарны зазванілі! Даўно яго не чулі мае вушы!.. Тут нешта ёсць, тут нешта ёсць, суседзе мой Аслаў!

Аслаў *(твар яго раптам мяняецца)*. А ведаеш, Мікіта, напэўна лес княжыцкі гарыць.

Дзед Мікіта. О, даў-бы гэта бог! Каб толькі таго ліха. Абы не нас яно кранула, чуй, дурань-браце!

(Шум, трывога нарастаюць. Збягаецца народ, устрывожаны, ніхто нічога не ведае. Зноў, як мага, бяжыць Гараська).

Гараська. Вайна, дзядок, вайна!.. Прыехалі гнаць на вайну!.. Усіх, усіх!

Дзед Мікіта *(прысядае)*. Дзе вайна?

(Аслаў і дзед Мікіта выбягаюць на сярэдзіну вуліцы, пазіраюць за рэчку).

Гараська. Вайна, дальбог, дзядок, вайна!.. Сам земскі з воласці прывёз загад такі ад цара!.. І пад званком прыехаў!

(За сцэнаю голас старасты: „На сход, на сход! Увесь запас гані на сход! Збірацца каля хаты дзеда Мікіты“. Сходзяцца мужчыны, жанкі, дзеці. Усе перапалоханы, растрывожаны. Каля хаты дзеда Мікіты збіраецца натоўп. З натоўпу відаць папова галава ў капялюшы. Праз натоўп праціскаецца староста, за ім земскі начальнік Будан-Рыльскі, паліцэйскі вураднік Шышла і дзесяцкія з палкамі. Будан-Рыльскі ўзлазіць на калодку. Народ замаўкае. Паказваецца Караліна).

Караліна. Ха-ха-ха! Кажуць бо пажар. А тут няма ніякага пажару. Пакідалі на полі работу і выдумалі нейкае вяселле спраўляць... вось дурныя, а бадай...

Шышла. Замаўчы, брыда! *(Б'е яе нагайкаю. Караліна, дзіка азіраючыся, хаваецца).*

Будан-Рыльскі *(Выраз твару важны. Акідае поглядам народ. Колькі моманту захоўвае маўчанне.)*. Слухайце! *(Вымае паперу, чытае адрывіста, націскаючы на кожнае слова)*. Высочайшее повеление о мобилизаций...

Шышла. *(Крычыць на ўсё горла)*. Шапкі далоў! Імператарскі ўказ, да, собственна-да!

(Мужчыны знімаюць шапкі).

Будан-Рыльскі *(чытае)*. Государь император повелеть соизволил привести армию и флот на военное положение. Первым днем мобилизации назначено 12 часов ночи на 17 июля.

Во исполнение высочайшего повеления о приведении армии и флота на военное положение:

1. Нижним чинам запаса с увольнительными билетами, а неимеющим таковых с видом на жительство или удостоверениями о личности явиться на сборный пункт уездного воинского начальника в г. Минске на другой день мобилизации в 6 часов утра.

2. Все учреждения и лица, у которых запасные служат, обязаны немедленно выдаць увольнительные билеты, если таковые находятся у нанимателей. *(Пауза)*.

Бабка Тацяна *(ціха да жонак)*. А што-ж гэта ён, мае любачкі, вычытвае? Якая-ж гэта аблізацыя? *(Голас жанчыны)*. А ліха яе ведае. Век жылі, не чулі?

Будан-Рыльскі. Мабілізацыя азначае вайну. Не ўпершыню нашай доблеснай арміі крышыць ворагаў. Мы скрышым іх і цяпер. Вайна раджае, як гаворыцца, герояў. Запасныя, салдаты! Будзьце героямі, і цар-бацька вас не забудзе. Ваюйце добра, страляйце метка, бейце крэпка. Была ўжо раз руская армія ў Берліне, яна будзе там і зноў. Дык з богам за святую Русь! Я сам іду на вайну і буду біцца разам з вамі...

Алесь *(ціха, з глыбіні натоўпу)*. Калі нашы камандзіры будуць біцца так, і з немцамі, як біліся яны з японцамі, дык не бачыць ім Берліна, як свайго вуха.

Будан-Рыльскі (*у абурэнні*). Хто сказаў гэта? (*Маўчанне. Будан-Рыльскі грозна ўглядаецца ў натоўп, запыняе погляд на Алесю*). Ты сказаў?

Алесь. Прашу не тыкацца г. земскі начальнік.

Будан-Рыльскі. А ты хто такі?

Шышла (*бярэ пад казырок*). Тутэйшы настаўнік, г. земскі начальнік.

Будан-Рыльскі. І такія ідэі настаўнік праводзіць у народ? (*да Шышлы*). Ураднік, выясніць гэта. (*Да Алеся з пагрозай*). Мы яшчэ пагаворым з вамі.

(У натоўпе гуд нездаволення).

Патап Думака (*ціха, таксама з пагрозай*). Пагаворым на вайне, запішы!

Будан-Рыльскі (*не заўважае, да старасты*). А ты, стараста, калі не ў часе і не ўсе збяруцца запасныя, будзеш, як гавораць, нясці адказ па законах ваеннага часу.

Шышла. Да, собственна-да! Палажэнне не церпіць.

(Будан-Рыльскі і Шышла выціскаюцца з натоўпу. Некалькі момантаў—магільная цішыня. Народ, прыдушаны грознаю весткаю, яшчэ не разабраўшыся ў ёй, пераглядаецца, Месца Будана-Рыльскага займае стараста).

Стараста. Вы чулі, грамада, якая навала насоўваецца на народ? Усенародна абвешчана збірацца на вайну. Вы чулі, што казаў мне земскі і чым ён пагражаў. Дык вось, браткі запасныя, збірайцеся барджэй, бо сёння-ж усе мусіце быць у валасці. Дык помніце гэтае і помніце, што вайна—не жарты. Спыняй работу ў полі, кідай гаспадарку, дом і жонку, і дзяцей, бацькоў,—усё кідай!

Патап Думака (*стараецца стрымаць сябе, спакойна*). Вайна!.. ну што-ж? ваяваць, дык ваяваць, але каб ад гэтай вайны не было часам горача ці холадна каму. Запішы гэта!

Голас з натоўпу. А з кім вайна? За вошта? з якім там чортам ваяваць?

Стараста (*па-начальніцку*). Не наша дзела разважаць, з кім ды за што, бо гэта разважанне можа скончыцца вельмі дрэнна.

Наста (*занепакоеная падбягае да Міхася*). Міхаська, міленькі! І цябе пагоняць на вайну?

Міхась. А што-ж, у зубы паглядзяць мне? Не вышлі яшчэ мае гады, далёка да сарака.

Бабка Тацяна (*галосіць*). А мой-жа ты сыночак! А мой-жа ты саколік! На каго-ж ты нас пакідаеш?

Дзед Мікіта. Ціха ты, чуй, дурань-браце! Разгаласілася. Памогуць тут твае прычытанні, як кашаль хваробе.

(Загаласілі і другія жанкі... А божа-ж, мой божа. Ды куды-ж вас гоняць? Ды куды-ж вас забіраюць? Шум, нічога не чуваць).

Стараста. Сціхніце! Ціха! бацюшка сказаць штось мае.

Поп (*праціскаецца на віднае месца, становіцца на прызбу дзеда Мікіты*). Брацце і сёстры! Вялік гасподзь у гневе справядлівым, і міласці яго несць меры і канца... Не зведаны гасподнія пуціны, і не відна нам яго караючая дзясніца, не ведаем бо мы скуль вецер паўстае і дзе запыніцца дыханне яго ходу. Будзьце-ж цвёрды, надзейцеся на міласць божжу, памятаючы, што ў кары сваёй—вайна-ж ёсць біч той кары—яўляе нам гасподзь сваю міласць, бо не да канца прагневаўся на нас і не адхіліў яшчэ ад нас ён свайго твару.

Хто меч падняў, і згіне ад мяча.

Нямецкае войска збіраецца на нашай граніцы, і ў кожны міг агонь вайны гатоў закінуцца і ў нашу дзяржаву. І вось, брацце, і выбраў вас гасподзь, як зброю свае кары над пагардлівымі адступнікамі яго прамудрай волі. Высока-ж узнімiце яго караючую дзясніцу! Пыхлівы, горды быў і цар Навуходаносар, але сміры́ў яго гасподзь, у звера абвярнуў яго, і сем гадоў карміўся ён травою і бегаў па лясах.

З малітваю, з надзеяю святою ідзеце вы на суд гасподзен, бо хто вялік, як ён наш бог? Памолімся, брацце! (*Падымае вочы на неба*). Ты ёсць наш бог і творыш ты дзівоты! Яві ты міласць абранаму табою памазаніку твайму. Маланкаю і громам паразі яго адступнікаў і супастатаў. Прыхілі вуха да праваслаўнага твайго народу... Разумейце усе языцы і пакарайцеся, яко з намі бог!

Жанкі (*плачуць*). Ох, божа наш божа!

Патап Думака (*ціха*). Ведаем мы, скуль паўстаюць гэтыя тваё вятры.

Гузыр (*у тон Патапу*). Так лёгка табе падымаць чужыя дзясніцы кары. А ты папрабаваў-бы падняць яе сам.

Дроб. Пацягаў-бы салдацкую лямку ды падставіў-бы сваю валасатую галаву пад кулі—не тое заспяваў-бы.

Аслаў. А можна, бацюшка, запытаць вас?

Поп. Ну, што?

Аслаў (*вымае з зубоў люльку*). А-а як-жа, ббацюшка, вось гэта пагадзіць: любеце ворагаў сваіх, благаслаўляйце тых, хто вас ненавідзіць, адплачвайце дабром за зробленае зло?

Поп (*пазірае на Аслава, з дакорам ківае галавою*). Аслаў, Аслаў! Ты мала ў цэркаў ходзіш, злы дух спакуснік заблутаў табе розум... Сказаў гасподзь: „Несць болей той любві, ашчэ хто жывот паложыць за другі свая“.

Аслаў (*паціскае плячыма*). Ддык, значыцца, у бога сем пятніц на тыдні: трэба табе біць—бі. Любіць зажадалася—любі,—усё будзе па божжаму?

Поп. Богахульнік! Што ты сказаў? Не будзе адпушчэння твайму грэху:—пекла там тваё месца. (*Выходзіць у абурэнні*).

Аслаў (*у дагонку*). Не будзе і не трэба... А ты вось што лепш скажы: навошта поп і паліцэйскі стражнік?

Стараста. Хлопцы, хлопчыкі! Не зводзіць часу!—Збірайцеся хутчэй!

(Народ расходзіцца. Чуюцца галасы: „Ось, і дачакаліся ліха". „Эх-хе! прышла пагібель на народ". „Андрэй! Дзям'ян!—збірайцеся—разам пойдзем". Шум, галасы аддаляюцца, заціхаюць. Міхась, Наста і дзед Мікіта ідуць у хату. За імі, ціха плачучы, ідзе бабка Тацяна. Застаюцца Марына і Алесь).

Алесь (*журботна*). Вось як яно выходзіць, Марынка! (*Марына апускае галаву, перабірае пальцамі брыжы шарфіка, маўчыць у засмучэнні*).

Алесь. А як уз'еўся наш ваяка-земскі!

Марына (*падымае вочы на Алеся*). Ахвота была табе чапаць гэтага салдафона... Неасцярожны ты і задзіра, Алесь.

Алесь (*з горкім жартам*). Ідучы на вайну, трэба-ж набірацца ваяцкасці... (*Са злосцю*). Сволач!

Марына. І ты зараз пойдзеш! Прыдзе вечар і цябе ўжо тут не будзе!.. І не думала ніколі, што нам так хутка прыдзецца разлучыцца.

Алесь. Разлучыцца надоўга і можа быць... назаўсёды.

Марына. Кінь, Алесь, гэтыя думкі, не гавары гэтага. Можа ты і зусім не пойдзеш на вайну... Ды ты-ж і ў войску не служыў. Няўжо-ж цябе, неабучанага, пашлюць на вайну?

Алесь. Навукі вялікай тут і не трэба: памуштруюць месяц— і салдат.

Марына (*з болем*). О, божа! Якая недарэчнасць, якая дзіч— вайна. Людзі, культурныя людзі дваццатага сталецця не могуць знайсці іншага спосабу, апроч вайны, каб разыйсціся мірна.

Алесь. Калі-б на вайну, пад першыя кулі ішлі тыя, хто вайну ўзнімае і гоніць людское стада на смерць і вынішчэнне, то можа вайны і не было-б... Эх, вайна, вайна, Марынка! Хто вернецца з яе, калі вернецца, то як?

Марына (*хватае Алеся за руку*). Не гавары ты гэтак! Толькі вярніся. Вярніся, Алесь, мілы мой!

Алесь (*паволі, як-бы выпрабоўваючы Марыну*). А калі вярнуся я... калекаю... без рук, або без ног?

Марына (*узрушана*). Не гавары так!.. Не гавары!.. Я не хачу!

Голас старасты. Збірайся, выходзі!

Алесь. Клічуць!.. Рвуцца апошнія звенні... Марынка, будзеш мяне помніць?

Марына (*горача*). Кожны час, кожны момант (*кладзе галаву на плячо Алесю*).

Голас. Не зводзьце часу.

Алесь. Ну, Марыначка, любая мая, прашчай. (*Падае руку, цалуе яе*).

Марына. Алеська... шануйся! Але ты вернешся. Ты вернешся. Я так хачу... Бывай-жа шчаслівенькі, здаровы! Пішы-ж мне, пішы чым найчасцей. (*Бяжыць і знікае*).

Алесь (*засмучаны праводзіць вачамі*). Так блізка яна і так далёка!.. Бяздонніца кладзецца паміж намі... А хто кладзе і для чаго? (*Апускае галаву, стаіць момант, задумаўшыся*).

Пяройдзена нейкая мяжа... Як гэта дзіўна! (*Паварочваецца, ідзе ў хату дзеда Мікіты. Падыходзяць Андрэй Гузыр і Паўлюк Дроб з клункамі, гатовыя ў паход. Спыняюцца каля хаты дзеда Мікіты. У Паўлюка гармонік*).

Гузыр (*стукае ў акно*). Міхась! Міхась! (*У акне паказваецца Міхась*).

Гузыр. Сабраўся ты? Пойдзем разам!

Дроб. Рушым, брат, у кампаніі: людзі ўжо пашлі.

Міхась. Зараз, брат! Пачакайце трошкі. Чорт яе не забярэ вайну, а без нас не абыйдзецца. А то зайшлі-б у хату?

Гузыр. Мы тут пачакаем. (*Міхась адыходзіць*).

Дроб. Давай закурым. Спяшацца вельмі няма куды. Чорт іх там не пабярэ. (*Дастаюць кісеты, закурваюць*).

Гузыр. Праваліся ты, гэтакае ліха!

Дроб. Агні-б яе спалілі гэтую вайну... Раптам, як з грому ў самы рабочы час...

(Выходзіць Міхась з клункам, за ім Наста, дзед Мікіта. Выбягае бабка Тацяна).

Бабка Тацяна. Дык што-ж гэта мы, як-бы пасварыўшыся? (*Да дзеда Мікіты.*) Бацька! Трэба-ж было-б хоць пасілкавацца на дарогу ды па чарцы выпіць. (*Плача*). Не ў госці-ж ідуць.

(Выходзіць Алесь).

Дзед Мікіта. І галаву страціў сваю старую. Пастойце, дзеткі, чуй дурань-браце! (*Варочаецца назад. Усе запыняюцца*).

Міхась. А праўда, хлопцы: адходнага шмаргануць трэба для храбрасці.

Дроб. Ды яно-б не пашкодзіла-б.

Міхась. Дык зойдзем у хату.

Гузыр. А мы тут, па паходнаму.

Міхась. Ну давай тут. Цягні бацькаў варштат. (*Міхась і Гузыр выносяць варштат, на якім майструе дзед Мікіта*). Такога, брат, стала на пазыцыях не знойдзеш. (*Міхась, Гузыр і Дроб знімаюць клункі, вешаюць іх на плоце*). Дзед Мікіта нясе бутэлькі, бабка Тацяна—закуску, *Наста—абрус. Борзда накрываюць варштат*).

Міхась. Хоць раз маёўку справім. Падыходзь, хлопцы, бліжэй!

Бабка Тацяна (*плача*). Забіраюць вас, мае дзеткі. Ды хто-ж мне вочкі зачыніць? Хто-ж мае костачкі пахавае?

Дзед Мікіта (*налівае чарку, п'е першы, да Міхася*). Здароў-жа будзь сынок! Варочайся шчасліва і хутка дамоў.

(Чарка пераходзіць з рук у рукі).

Міхась (*да Алеся*). Што, прафесар, зажурыўся? Выпі! (*Алесь бярэ чарку*).

Гузыр. Журыся, не журыся, а ісці трэба.

Міхась. І пойдзем! У крыўду не дамося, вернемся з вайны, пакажам Радзівілам, па чым хунт сушанага ліха.

Бабка Тацяна. Няхай-жа вас бог святы бароніць. Варочайцеся здаровенькія!

Міхась *(разыходзіцца)*. А я, брат, не абы што: я гвардзеец! А цяпер яшчэ падвышэнне дадуць. Тады са мною да трох не гавары. *(Падае каманду)*. Рота справа ва ўзводную калону стройся!

Дроб. Камандзір з цябе добры!

Міхась. А што ты думаў? Яшчэ, брат, помню салдацкую службу.

Бабка Тацяна *(выцірае слёзы)*. Вось гэтыя мужчыны і вайна іх не пужае. Усё гатовы забыць, са ўсяго жартаваць.

Дзед Мікіта *(гаротна)*. Ох, божа, божа! Адзін ты, Мікіта, чуй, дурань-браце, застаешся! *(На вуліцы шум, праходзяць запасныя з клункамі, іх праважаюць жанкі і дзеці)*.

Міхась *(Дробу)*. А ну, Паўлюк, заіграй ты на дарогу так, каб аж сам чорт нам пазайздросціў!

Гузыр. Пакажы сябе, Паўлюк!

(Паўлюк бярэ гармонік, пачынае вясёлую, заліхвацкую штуку. Усе заціхаюць. Міхась і яго таварышы ў такт музыцы ускідаюць плечы, ківаюць галовамі, пераглядаюцца з вясёлымі мінамі, Міхась не вытрымлівае, тупае нагою, пускаецца ў прысядкі).

Галасы. Валі, валі, Міхась!

Запасныя. Малайчына, Міхась!

(На змену Міхасю пускаецца ў танцы Гузыр. Заліхвацкі ўскідвае цела, вырабляе плячыма, рукамі і нагамі)

Гузыр *(плешча ў ладкі, падпявае)*.

Затраслася наша хата,
Выпраўляючы салдата.
Тут галосяць і спяваюць
Разам хрысцяць і хаваюць
Ідзі, салдат, на вайну
У чужую старану!
Ты не будзеш там араці—
Стрэльба будзе твая маці.
Стрэльба—жонка, стрэльба—цешча
Ды яна-ж цябе прыплешча.
Ідзі-ж, салдат, ваяваць,
Лоб пад кулі падстаўляць!

Галасы. Брава, брава, Андрэй!

(Бабка Тацяна, Наста плачуць. Праходзіць яшчэ грамада запасных і стараста).

Стараста *(стукае кіем у вароты)*. Хлопцы, хлопчыкі! У дарогу! Пара browse браткі!

Запасныя *(з вуліцы)*. Гэй, пойдзем разам! *(Музыка абрываецца)*.

Дроб *(складае гармонік)*. Збіраймася, браткі. *(Збіраюць клункі, прашчаюцца. Міхась цалуе бацьку і матцы рукі)*.

Міхась *(бярэ Гараську, высока падымае, цалуе)*. Расці, сынок, вось гэтакі! Памагай дзеду гаспадарыць, матку шануй і будзь добрым хлопцам.

Алесь. Ну, дзядзька Мікіта, бывайце!

Дзед Мікіта. Бывай, соколік!.. Ні бацька, ні маці не праважаюць цябе, чуй, дурань-браце.

Галасы жанок *(плачуць)*. Ды куды-ж вас гоняць? Ды як-жа мы тут жыць будзем?

Галасы. „Бывайце здаровы!“ „Пращчайце“. „Шчасліва і скора вярнуцца!“

(На вуліцы чуваць песня „Последний нонешний денечек“. Запасныя выходзяць. Наста з малым на руках ідзе з плачам, узяўшыся за Міхасёву руку, вісне на яго руцэ, замлявае. Працэсія аддаляецца, шум заціхае, моўкне. Каля хаты стаіць дзед Мікіта, Аслаў і яшчэ пара старых, панура звесіўшы галовы. Трохі далей—стараста, глядзіць услед знікшых запасных. Ззаду павольна ідуць, пабраўшыся за рукі, Патап Думака і Дзяменя Дзямян, трохі падвыпіўшыя).

Стараста. Вы што цягнецеся, як кішкі?

Дзяменя. Без строгасці, стараста! Мы—казённыя людзі, салдаты. Што ёсць салдат? Абаронец веры, цара і айчыны. А калі Дзяменя возьмецца за што, дык ну!

Патап. А ты, стараста, запішы: вера—папу мера, цар—па баку жар! Айчына—авечая аўчына!.. Дарогу рабочаму шахцёру і парабку-бабылю! *(Праходзяць. Бяжыць Гараська).*

Гараська *(да дзеда Мікіты)*. Ох, дзядок, і многа-ж народу паваліла з сяла! *(З плачам)*. І тата пашоў і настаўнік наш!

(Дзед Мікіта моўчкі кладзе руку на Гараськаву галаву, пазірае на Аслава. Моўчкі трасуць галовамі).

Дзед Мікіта. Так, чуй, дурань-браце, застаўся лом адзін—калекі, нядошлыя, старыя!.. *(Уздыхае)*. Эхе-хе! Пабралі нашых сакалікаў, пагналі... Куды? Чаго? На што? *(Стаяць моўчкі, апусціўшы галовы).*

*ЗАСЛОНА.*

## АКТ ДРУГІ

Пачатак восені 1915 года.

Дзея адбываецца ў (той-жа) вёсцы, каля школы. Шчыток школьнага даху абапіраецца на круглыя пабеленыя слупы ганку. Ганак прадстаўляе сабою невялікую адкрытую веранду. Па адзін і па другі бок веранды пярылы. Паўздоўж пярыл простыя дзераваныя лаўкі. Каля аднае з іх стаіць стол. На стале газеты, чарнільніца. Перад школаю даволі прасторны двор. У канцы двара пералаз. У веснічкі з вуліцы на двор школы прасоўваецца поп. Павольна сунецца на ганак школы. Узыходзіць на веранду, бярэцца за ручку дзвярэй, штурхае. Дзверы не адчыняюцца. Стукае, ніхто не адклікаецца.

Поп *(сам сабе, нездаволена)*. Не можа быць, каб спала да гэтага часу. Вышла куды ці дома няма? *(са злосцю)*. А можа зачынілася з ім? *(Топчацца на ганку, падыходзіць да стала, чытае загалоўкі газет „русские ведомости“!*. *Ліберапка!* *А газет, рэкамандаваных начальствам, не чытае! (Круціць галавою, дакорліва)*. Вольнадумствам заражана. Дабром гэта ніколі не канчаецца... Эх, народ, народ! Пагібелі сабе шукае.

(На пералазе паказваецца Шышла. Ідзе ў школу. Заўважае папа, запыняецца. Бярэ па ваеннаму пад казырок).

Шышла. Здрастуйце, ацец Кандраці!

Поп. А, гаспадзін Шышла! Маё шанаванне! І вы сюды? А яе і дома няма!

Шышла *(збянтэжана)*. Вы, бацюшка, да-собственна-да, таксама па справе?

Поп *(хітра)*. Ой, хітрэц які Арцём Іванавіч! А калі-б і без справы, ну, скажам, як і вы! Не аднаму-ж вам толькі, Арцём Іванавіч, падзяляць прыемнасць кампаніі Марыны Мікалаеўны. А я хіба не маю на гэта права?

Шышла *(ускідвае плячыма)*. Яно, як сказаць, да-собственна-да? Крыху перашкаджае духоўны сан, ну... і матушка. А па-другое, адкуль вы ўзялі, што ў мяне справы няма?

Поп *(смяецца, стукае Шышлу па плячы)*. Жартую, Арцём Іванавіч. *(Мяняе тон, ціха, сур'ёзна)*. Вось што я вам скажу: за ёю не шкодзіць наглядаць. Вы толькі зірніце, якога роду прэсу яна чытае! *(паказвае газету)*. Орган конституцыяналістаў! І не цясняецца пакідаць тут на стале!.. А можаце вы сказаць што чытае яна за зачыненымі дзвярамі?

Шышла *(напускае на сябе важнасць)*. Я, да, собственно-да, і не спускаю яе з вока.

Поп *(насмешліва)*. Вы, быць можа, глядзіце на яе і дужа пільна. Ды я баюся, каб прыгожая шыльда не засланіла ад вас асноў. нага.

Шышла *(задзеты)*. Не разумею, да, собственно-да, на што намякаеце вы, айцец Кандраці?

Поп *(хітра ўсміхаецца)*. Дух бодр, плоць немашчна. „Блюдите, како опасно ходите". Жанчына-ж—сасуд граха. І, каб спакусіць святых аскетаў, шатан прымаў аблічча жанчыны.

Шышла. Гэта факт, да, собственно-да. Але-ж і начальства, пасылаючы мяне сюды, чым-небудзь ды кіравалася-ж... Шышла не сказаў яшчэ свайго слова!

Поп. І гэта факт прыемны, можна сказаць, факт. А вуха трымаць трэба востра: гутаркі крамольныя пашлі. Расце нейкая сукрытая варожасць. Ананімныя лісткі супроць вайны паяўляюцца. Салдаты кідаюць фронт самавольна. Вось я і думаю сёння пагутарыць з народам. Ды і настаўніца няхай паслухае. Яе таксама паслухаць не мяшае. За гэтым і прышоў сюды, каб дагаварыцца. *(Ціха, таемна)*. А каля яе народ пакручваецца. Баюся, каб не было тут патрэбных крамольных гутарак. На мне, як на пастыру, а на вас, як на агенту ўлады, ляжыць абавязак падтрымаць дух народу і патрыятызм... Давайце пройдземся—хачу аб сім-тым пагутарыць з вамі. *(Бярэ Шышлу пад руку. Выходзяць)*.

(Уваходзіць Марына з газетамі ў руках. Садзіцца на лаўку каля стала. Кладзе на стол газеты).

Марына. Два месяцы ніякіх вестак ад яго! Што-ж бы гэта магло значыць? Ці ранены, ці забіты, ці без весці прапаў... Колькі цяпер гіне народу без весці! *(Задумваецца. Разгортвае газету, чытае моўчкі. Адрываецца ад газеты, уголас з іроніяй)*. Адступаем у поўным парадку, займаем новыя пазіцыі, як-бы гэта ўваходзіць у праграму нашага штаба... Ды як-жа не будзеш адступаць з голымі рукамі!.. Прадажная шайка казнакрадаў! Пасылаюць на ўбой безаружных людзей. *(Кладзе на стол газету, апускае галаву)*. Чаму ад яго няма пісем?... Пачала пісаць яму пісьмо, ды куды пасылаць? *(Вымае пісьмо, чытае:)* „Мілы, любы Алесь! так чакаю тваіх пісем і так рада, калі яны прыходзяць! Тады для мяне свята, тады я бясконца шчаслівая і на момант забываю гэта штодзейнае болеснае, поўнае жудасці водгулле вайны. Нявесела, мой мілы, тут! Гора, скаргі, бядота! Прыходзяць да мяне жанчыны-салдаткі, мацеркі. Пішу ім пісьмы, супакойваю, памагаю гараваць. Адна думка, адно жаданне—скончылася вайна! Жывецца тут цяжка. Гаспадаркі занепадаюць. Народ замучан вайной. Грунт для работы дужа падхадзяшчы...

(На двор школы ўваходзяць дзед Мікіта і Аслаў. Марына хавае).

Дзед Мікіта. Да тут яшчэ, чуй, дурань-браце, і няма нікога.

Аслаў. Як-то няма? А вось-жа настаўніца! Дзень добры вам!

Марына. Дзень добры! Сядайце.

Аслаў. Не турбуйцеся, знойдзем сабе месца. *(Садзяцца)*.
Марына. Ну, як жывеце, што добрага чуваць?
Дзед Мікіта. А што ў вас добрага пачуеш?
Аслаў. Самі вось прышлі, каб ад вас пачуць што-колечы. Вы-ж такі газеты чытаеце.
Марына. Не ўсю праўду і газеты пішуць. А добрага нічога не чуваць. Варшава здана, Асавец пакінулі і Коўну аддалі.
Аслаў. Заўзяты-ж гэты немец—столькі гарадоў нашых пазабіраў!
Дзед Мікіта. І Коўну аддалі! Да гэта-ж ужо, чуй, дурань-браце, не так та і далёка... Праклятая вайна, і хто яе выдумаў?
Аслаў. Хто яе, кажаш, выдумаў?.. Эх, Мікіта! Хто нас гне, той нас і б'е!
Дзед Мікіта. Народу многа расплодзілася на свеце. Куды-ж народ падзець! Гані пад нож, як быдла на разніцу! І не будзе каму крычаць: зямлі, заработкаў! Зробіцца прасторна, а паны маёнткі захаваюць.
Аслаў. Так яно і выходзіць. А вось бацюшка дык той кажа: ваюем за справядлівасць, за народ і за свабоду.
Марына. Не ўсё-ж тое праўда, што бацюшкі вам кажуць.
Аслаў. Хлеб з гэтага есць. Не дарма-ж пытаў шахцёр Думака: навошта поп і паліцэйскі стражнік?
Дзед Мікіта. Паліцыі панаганялі. Скубуць, трасуць, а ты і не пікні. І каму пойдзеш скардзіцца?
Аслаў *(уздыхае)*. Многа мы скардзіліся, ды толку з гэтага няма!

(У веснічкі ўваходзіць салдат. Спыняецца, пазірае на ганак. Марына, Аслаў і дзед Мікіта ўглядаюцца ў салдата).

Салдат. Дзень добры вам! *(Дзед Мікіта, Аслаў і Марына ўглядаюцца ў салдата)*. Не пазналі?
Дзед Мікіта *(кідаецца да салдата)*. Міхась, сынок! Адкуль-жа ты, ды як-жа ты гэтак неспадзявана? О, дурань-браце!
Аслаў *(таксама кідаецца да Міхася)*. Ваяка ты наш родны! З таго свету вярнуўся!
Міхась. Здароў, дзядзька Аслаў!
Дзед Мікіта. Зусім вярнуўся?
Міхась. На кароткі час... Сам сабе водпуск даў *(да Марыны)*. Здрастуйце, Марына Мікалаеўна. Вам пісямко з фронту. *(Вітаецца, перадае пісьмо. Марына пазнае знаёмы почарк, адразу весялее. Крэпка трасе руку Міхасю. У веснічкі ўбягае Гараська. Нічога не зважае, крычыць)*.
Гараська. Дзядок! Паліцыя клуню нашу трасе! Вобады і дубкі пазнаходзіла... Цябе шукаюць! Хавайся—заарыштуюць!
Дзед Мікіта. А бадай-жа-ж яе трасца трэсла! І парадавацца не дадуць... Ды ты зірні, чуй, дурань-браце, хто прышоў!
Міхась. Ты што-ж, жэўжык, не пазнаеш бацькі?
Гараська *(радасны)*. Тата! *(Туліцца да бацькавай рукі. Міхась абнімае яго)*.
Міхась. Глядзі ты яго, як вырас... Дык, кажаш, паліцыя вобыск робіць?
Аслаў. Без яе ніяк не абыйдзешся.

Дзед Мікіта. Ох, ліха! Радавацца трэба-б, а радасці няма. Пашыемся, дзеткі, покі што ў каноплі... Ох, жыццё наша!

(Усе выходзяць у бок пералазу. Марына застаецца адна, журботна праводзіць іх вачыма, моўчкіківае галавой. Борздзенька разрывае канверт. Тарапліва прабягае вачыма пісьмо. Некаторыя мясціны пісьма чытае ўголас). Нашы пісьмы і пісьмы да нас прагледае ваенная цэнзура. Май гэта на ўвазе. (Марына адрываецца ад пісьма, слухае. За веснічкамі чуецца песня:

„Куды, куды, зайчык, скачаш?
Чаго, чаго, дзеўча, плачаш?
Зайчык скача ў чыста поле,
А ў дзяўчыны злая доля".

(Веснічкі адчыняюцца. Паказваецца Караліна. Марына хавае недачытанае пісьмо пад газету. Караліна падыходзіць да Марыны).

Караліна. Добры дзень табе, паненачка!

Марына. Як жывеш, Караліна?

Караліна. Вось ішла, ды думаю сабе: зайду на мамэнцік... Ты не гневайся!.. Не, не: маўчы! Бачу, усё бачу! Мала што я дурная Караліна! А я і гадаць умею: я знахарка! А можа і ведзьмарка! Вось хто я! *(Смяецца).*

Марына. Дзе-ж ты хадзіла, што бачыла?

Караліна. Дзе хадзіла, кветачка мая ты! Па свеце хадзіла!.. Салдаты ідуць. Песні спяваюць... Вось весела ім! А людзі, як дурныя, усё едуць і едуць. Запыняцца, пахаваюць дзіцятка каля дарогі і далей едуць. *(Кладзе на ганак палку).* Вось ты мне скажы, што, кветачка мая ты... Уміраюць людзі. Хаваюць іх... Паложаць на мары і нясуць. Так і пазносяць усіх... усіх пазносяць... Але астанецца нехта адзін... апошні. Дык як-жа ён, той панясецца, што адзін астанецца?

Марына (*стрымліваючы смех, напускае сур'ёзнасць, нібы гэта пытанне дужа важнае*). Сапраўды, становішча яго вельмі труднае. І як адказаць на гэта, не ведаю.

Караліна *(уважліва глядзіць Марыне ў вочы).* Не ведаеш? Вось-жа і я не ведаю!.. А можа хто здалёку прыдзе і пахавае? Як ты думаеш?

Марына. Не ведаю.

Караліна (*мяняе гутарку*). Ці няма ў цябе, кветачка мая ты, кусочка хлеба? Я табе пагадала-б за гэта.

Марына. Хлеба найду. Пабудзь тут, я зараз.

Марына выходзіць. Караліна садзіцца на ганак. Кладзе кій пад лаўку. Разгортвае далоні рук, уважна разглядае іх, ківае сама сабе галавой. Зрэдка аглядаецца па баках. Паказваецца Шышла. Караліна хаваецца пад лаўку. Шышла ідзе на ганак, не бачыць Караліны. Пазірае на стол. Перакідае газеты, знаходзіць лісты. Чытае першыя радкі пісьма.

Шышла. „Дарагая, мілая, слаўная Марынка". Дужа інтымна пачынае, шэльма! А пра што ён піша і хто ён такі, Шышла павінен ведаць. (*Кладзе пісьмо ў бакавую кішэню тужуркі.* Чытае другое: „Мілы, любы Алесь!".. Гэ, да тут раман, да, собственно-да! *(Кладзе пісьмо туды-ж).* Шчаслівая акаліч-

насць, калі ўласныя інтарэсы супадаюць са службовымі! Чуе мой нос, што таямніца непрыступнай красуні рашчыніцца ў гэтых пісьмах. А цяпер знікну, акі тацъ у нашчы, як гаворыць мудры ацец Кандраці. А Шышла яшчэ скажа сваё слова да, собственно-да! *(Заварочваецца, каб ісці. Караліна з-пад лаўкі).*

Караліна. На што ўзяў чужое? Палажы назад!

(Шышла знянацку палохаецца, Караліна вырываецца з-пад лаўкі, хапае Шышлу за рукаў, сама трасецца. Шышла вырывае рукаў, з сілай штурхае Караліну. Караліна падае).

Шышла. Пікні, шалёная ведзьма, яшчэ раз—заб'ю. (*Вымае шаблю, замахваецца над Каралінай, потым борздзенька шыбуе у бок пералазу. Караліна ўстае, крычыць наўздагон):*

Караліна. Начніца! Кажан! Злодзей! Хапун! Ты што зрабіў? Пастой! Вярніся!.. У ля-ля-ля!

(Уваходзіць Марына з хлебам, пазірае ўстрывожана на Караліну).

Марына. Што тут за крык? На каго крычыш, Каралінка?

Караліна. Злодзей! Торбахват! Глядзі, ці не грошы з стала падхапіў!.. Бяжы, даганяй! (*Крычыць у бок пералаза*). Начальства! Пачакай! Нашто чужое ў кішэню паклаў?

Марына (*устрывожаная, недаўменна*). Якое начальства? Што паклаў?

На, вазьмі хлеб, супакойся. (*Перадае Караліне хлеб*).

Караліна. Цар паліцэйскі з доўгім траплом пры боку! Штурхануў мяне ды яшчэ засеч хацеў. Ой, глядзі дзеўчына, каб ён табе ліха не нарабіў! Бяжы, даганяй!

Марына (*хапаецца за галаву*). Божа мой! Ці не Шышла тут быў! Пэўна-ж забраў мае пісьмы!

Караліна. Ён, красачка мая ты, ён!

(Марына тарапліва перабірае газеты, шукае пісем. Караліна стаіць моўчкі, перапалоханая).

Марына. Няма—забраў. Бедная-ж галоўка мая! Што-ж я нарабіла?

Караліна. Я найду яго! Найду! З-пад зямлі адкапаю, гада лютага!

(Бярэ з-пад лаўкі кій, выходзіць. Марына, як акамянелая, стаіць, узяўшыся за галаву. З вуліцы даносіцца песня Караліны).

„Я не такая,
Як тая другая:
І высокая, і харошая,
Толькі-ж доля мая злая".

Марына. Што-ж цяпер будзе? Загубіла я сваю радасць! Выдала Алеся. Сама сябе засыпала і аддала ў рукі ворагаў таго, каго больш за ўсё любіла і люблю!.. І пісьма-ж усяго не дачытала. На бяду, на няшчасце маё прышла гэта вар'ятка... Што-ж рабіць? (*Апускаецца на лаўку, сціснуўшы рукамі галаву.*

*Колькі моманту сядзіць нерухліва. Парывіста ўстае*). Папярэдзіць Алеся! Але як?.. (*Паўза*). Ехаць, уцякаць самой на фронт!.. Ды як прабрацца туды?.. Бедны Алесь! Што я нарабіла?.. Не! вярнуць, вырваць пісьмы з рук праклятага барбоса-сышчыка! А не—купіць—якою-б не было там цаною. (Забірае з стала газеты, парывіста ідзе ў дзверы школы).

(Дзея пераносіцца на кватэру Шышлы. Сялянская хата. Каля покуця стаіць просты стол. Над сталом, пад столлю, вісяць абразы па адзін і па другі бок кута. Ніжай на адной з сцен вісіць партрэт Мікалая II і партрэты генералаў. Пад генераламі фатаграфія Шышлы. Каля другой сцяны простая канапка. Шышла сядзіць каля стала, чытае пісьмы, потым разважае).

Шышла. Да, собственно-да сітуацыя! папулярная сітуацыя. „Блюдите, како опасно ходите“. Да, собственно-да: ходзяць, апасна ходзяць, ды толькі не Шышла... Што сказаў бы ты, айцец Кандраці, калі-б у тваё рукі папаў вось такі скарб? (*Трасе пісьмамі*). Шышла скажа сваё слова, да собственно-да! (*Бярэ недапісанае пісьмо Марыны, чытае*). „Мілы, любы Алесь“. Якая сардэчнасць: і мілы, і любы! А ты, Шышла, аблізвай губы! Вось адкуль яе холад. (*Трасе галавою, з засмучэннем*). Без канца рада, калі атрымае пісьмо ад яго! Ёй тут нявесела!.. Шышла-ж усё рабіў, каб даць табе вясёласць, крамольніца! А чым не кавалер табе быў Шышла? (*Падыходзіць да фатаграфіі*). Унь красавец які! Мужчына на заказ! Малады, сакавіты! І хіба не прыгожы? Адны вусы чаго варты!.. Але Шышла яшчэ скажа сваё слова, да, собственно-да. (*Зноў садзіцца*). Піша—грунт для работы добры. Які гэта грунт? Якая-такая работа?.. (*Паўза*). Ось дзе ён, ключ, да гэтай работы! (*Трасе другім пісьмом*). „Мая мілая, мая слаўная Марынка“. Якая закаханасць! Мая і мая! Не разыходзься—мы яшчэ пабачым, твая яна ці не. (*Чытае пісьмо*). „Ачумела і астачарцела вайна, пачатая царамі і гандлярамі“... Што піша, вы чулі? (*Чытае далей*). „За вайну цяпер стаяць толька генералы ды розная сволач, што акапалася ў тылу, а таксама памешчыкі і купецтва, што на крыві народа нажываюць прыбыткі, ды цэлая армія рознай нечысці і дармаедаў, як, напрыклад, духоўны сышчык поп Кандрашка ды гэты глупы, тупы кабан Шышла...“ І мяне ўспомніў! О, паршывец! Няхай сабе і глупы, і тупы, а вось чытаю-ж тваё паганае крамольніцкае пісьмо. Ты не сніш там і не думаеш і не гадаеш, куды пасаджу я цябе гэтым пісьмом. Шпіён нямецкі! Здраднік! І ўсё начыстую распісаў—зняважэнне свяшчэннай царскай асобы, падрыўная шпіёнская работа на фронце, наглая прапаганда рэволюцыі і грамадзянскай вайны... Вось ён, грунт іхнае работы! Ён—там, яна—тут!.. Не, гэта вам не ўдасца! А ты, мая красуня, паначуеш на гэтай канапцы, перш чым пайсці пад канвоем. Урэшце шмат што будзе залежаць і ад тваёй добрай волі. А цяпер справімся, хто такі твой Алесь, да собственно-да! Зірнём у яго фармуляр. (*Адмыкае ў стале шуфлядку, дастае папку з паперамі, гартае*).

Ага, вось пра яго! (*Чытае*). „Справа аб сельскім вучыцелю Чорнабыльскай народнай школы... губэрні... павету... воласці Александру Пятровым Шабуры. Заведзена ў лістападзе 1905 г. Паходзіць з сялян. Год нараджэння 1883. Будучы вучыцелем азначанай школы, вёў, згодна агентурных звестак, прапаганду супроць існуючага дзяржаўнага ладу і падбухторваў сялян да аграрных беспарадкаў. За адсутнасцю фактычных даных выслан адміністрацыйна на адзін год у Архангельскую губэрню і ўзят пад патайны нагляд паліцыі.

Па агентурных вестках установлена, што азначаны Александр Шабура вёў па звароце з высылкі перапіску з соцыялдэмакратычнай фракцыяй IV Дзяржаўнай Думы“.

Дык вось ён які, твой мілы, да-собственно-да! Відаць пан па халявах! Гэта ён грубіяніў г. земскаму начальніку. Упіша ў яго фармуляр яркую страніцу свайго летапісу Арцём Іванавіч Шышла, і скажа сваё важкае слова, да, собственно-да!

(Бярэ паперу, піша: „Яго высокаблагародзію г. Прыставу 3—га стана“... Стук у дзверы. Шышла хавае пісьмы ў кішэню).

Шышла. Хто там? (*Стук паўтараецца. Шышла падыходзіць да дзвярэй, адчыняе*). Вайдзеце!

(У дзвярах паказваецца Марына, адзета скромна, з густам. У капялюшыку. Усхваляваная, стараецца быць спакойнай).

Шышла. А, зрабіце ласку, заходзьце! Якраз я аб вас і думаў. (*Расшаркваецца з усімі адзнакамі галантнага кавалера*). Што-ж гэта прывяло вас у маю рэзідэнцыю, да, собственно-да?

Марына (*строга*). Кіньце, Арцём Іванавіч, гуляць у святую нявіннасць: добра ведаеце, за чым прышла я да вас.

Шышла. Скуль-жа мне, да, собствевенно-да, ведаць, што можа прыйсці ў галаву прыгожай дзяўчыне?

Марына. Давайце прасцей і бліжэй да справы.

Шышла. Я вас слухаю, да, собственно-да!

Марына (*горача*). Я вас прашу, як чалавека, у якога ёсць сэрца і хоць кропля чалавечнасці: аддайце пісьмы, якія належаць мне і якія бясчэсна, выбачайце, узялі вы з майго стала.

Шышла. А вы думаеце, што ў паліцэйскага Шышлы няма сэрца да, собственно-да? Яно ёсць! Ёсць сэрца ў Шышлы і гэта сэрца даўно прагне вашага сэрца. (*Ласымі вачыма пазірае ў твар Марыне, аглядае яе ўсю, запаляецца і горнецца бліжэй*).

Марына (*адыходзіць ад яго*). Дык давядзеце-ж гэта на справе: вярніце мне мае пісьмы, і я тады прызнаю сваю несправядлівасць у дачыненні да вас.

Шышла. Прыемна чуць з вашых прыгожых вуснаў, да, собственно-да! Але ці маю я права аддаць вам гэтыя пісьмы: яны належаць ні вам, ні мне, а закону! (*Прыцішана, голас перарываецца*). Марына Мікалаеўна! Марыначка! Рыбка! Шмат што залежыць ад вас самой. Для вас асабіста зраблю ўсё. Але наўперад, я-ж вас люблю. Наўперад... задатачак. (*Марына стаіць, апусціўшы галаву. Шышла горнецца бліжэй*). Вось

яны тут, гэтыя пісьмы! (*Стукае па грудзіне*). Мы тут адны. (*Глядзіць на сцены*). Багі, цар і генералы будуць маўчаць, а Шышла падтрымае Шышлу.

(Падыходзіць бліжэй. Марына стаіць нерухомая. Гэта прыдае смеласці Шышлу. Ён разнімае рукі, каб абняць Марыну).

Марына (*парывіста*). Не смець дакранацца да мяне!

Шышла (*страціўшы здольнасць валодаць сабою*). Дык ты яшчэ брыкацца тут будзеш? Не, дудкі. Не на такога напала. Не хочаш па добрай волі, вазьму сілаю! І пісем не аддам. (*Хапае Марыну ўпол*).

Марына (*адбіваецца*). Прэч, мерзавец!

Шышла. Шышла сваё возьме! (*Не выпускае Марыны з рук, цягне яе да канапы. Марына хапае Шышлу рукой за гарляк. Другой рукой намацвае Шышлаў наган. Вырываецца з яго рук, адбягае да дзвярэй, наводзіць на Шышлу наган. Шышла слупянее.*)

Марына. Краніся з месца—застрэлю!

Шышла (*труслiва аглядаецца*). Я... я... пажартаваў. Даруйце!

Марына. Станавіся на калені!

Шышла. А а—пусцеце наган! Вы-ж і абыходзіцца з ім не ўмееце. Знянацку застрэліце чалавека.

Марына. На калені!

(Шышла прысядае, становіцца на калені).

Марына. Даставай з кішэні пісьмы і кідай іх мне сюды!

Шышла. Апусцеце наган, а то рукі трасуцца. (*Расшпільвае тужурку. У гэты момант адчыняюцца дзверы, уваходзіць поп. Запыняецца на парозе*).

Поп. Да ўваскрэсне бог і растачацца вразі яго! (*Хватае Марыну за рукаў. Марына вырываецца. Наган знячэўку страляе ў падлогу. Поп і Шышла кідаюцца на зямлю. Марына выбягае*).

Шышла. Ратуйце мяне, ацец Кандраці!

Поп (*падымае галаву*). Што сіе значыць?

Шышла (*устае, садзіцца на канапу*). Шышла быў ужо на тым свеце. (*Набіраецца смеласці*). Але Шышла яшчэ скажа сваё слова, да, собственно-да! (*Падбягае да акна, свішча ў свісток*).

*ЗАСЛОНА*

## АКТ III

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Дзея адбываецца на фронце.
Пачынаецца песняй, якую спяваюць салдаты.

Старана чужая не родная маці,
А касцей салдацкіх нагацілі гаці!
Эх, ваюй, ваюй, салдат!
Выступай за радам рад!
За гарой, за лесам ліха, смерць блукае,
А крумкач у госці крумкачоў склікае.
Эх, ваюй, ваюй, салдат,
Па зямлі паўзі, як гад!
У сырых акопах гіне люд рабочы,
А там дома жонка праплакала вочы.
Эх, ваюй, ваюй, салдат,
За цара, за царанят!
Над зямлёю цяжка злегла ноч сляпая,
А ў каго матуля пра сына спытае?
Эх, ваюй, салдат, ваюй!
Смокча кроў тваю буржуй.
Рассяваеш косці ты, салдат, на свеце,
А там з галадоўлі пухнуць жонка, дзеці.
Эх, ваюй не так, салдат:
Павярні ты штых назад!

Ноч. Цемра ночы разрываецца ўспышкамі гарматных стрэлаў. На заднім плане змроку няясна вырысоўваюцца постаці хат і высокі крыж. На пярэднім плане фігуры салдат, залёгшых на зямлі ў баявым ланцузе. Група салдат, чалавек пяць, у смяртэльным страху туліцца за каменем, прынікаючы да зямлі. Крыху на водшыбе справа залёг прапаршчык Жухін.

Жухін (*здушана, парывіста перадае каманду па ланцугу*). Перадаць па цэпі— гатовіцца ў атаку!) *Бліжэйшы салдат, якому аддае каманду Жухін, маўчыць. Жухін паўтарае нервова*). Перадавай па цэпі—гатовіцца ў атаку! (*Салдат не адклікаецца. Жухін падпаўзае да салдата, штурхае).* Чуеш каманду?—перадавай па цэпі—гатовіцца ў атаку! (*Салдат не варушыцца. Жухін палохаецца, рэзка падаецца ад салдата*). Забіты! *(Адпаўзае ад яго. Да суседняга салдата)*. Перадавай па цэпі—зараз ідзем у атаку.

Голас салдата. Гатовіцца ў атаку!

(Па ланцугу ад салдата к салдату перадаюцца словы: „Гатовіцца ў атаку! Каманда аддаляецца, даносіцца глушэй—у атаку... таку.“ Чуецца свісток. Жухін зрываецца з зямлі, выхватвае шаблю).

Жухін. За мной, братцы, ура!
(Салдаты ўсхопліваюцца (некаторыя ляжаць нерухліва) з дзікім крыкам „ура“, бягуць наперад, збіваючыся ў адзін паток. Трэск стрэлаў мяшаецца з надрыўным жудасным крыкам. Крык аддаляецца, глухне, пераходзіць у стагнанне—„а-а-а-а-а-а“. Нарэшце заціхае зусім, становіцца ціха. Некаторы час на сцэне пуста. Дзесь далёка чуваць салдацкая песня: (Запявала).

„Тучки темны, тучки грозны
По поднебесью плывут.
Хор — Гэй, гэй, охо-охо!
По поднебесью плывут.
апявала: Наши храбрые стрелочки
Со учения идут“. *(Хор)*.

За сцэнаю чуваць голас каманды: „Правае плячо ўпярод—эрш. Праама“. Узвод салдат у поўнай амуніцыі ўваходзіць на сцэну. Салдаты стомленыя, змучаныя, бледныя, атупелыя. Узвод вядзе прапаршчык Жухін).

Жухін. Узвод—стой! Вольна! *(Аглядае парадзелы ўзвод)*. Ну-с, рабята, тут нам аддышка. Паставіць ружжы ў козлы. Узводны! Прадставіць мне спісак забітых, раненых і прапаўшых без весці.

(Выходзіць. Салдаты ставяць стрэльбы ў пірамідкі. На сцэне таўханіна. Чуюцца галасы, асобныя сказы: „Прападзі ты пропадам!“ „Прывал“ „Чакай папаўнення“. „Грэй зямельку сваім целам“).

Дроб *(разглядаецца, выбірае месца, шпурляе на зямлю амуніцыю)*. Ах, будзь ты тры разы проклята!.. Хадзеце, хлопцы, у гурт: весялей будзе. *(Падыходзяць Патап, Думака і Гузыр. Алесь сядзіць на водшыбе, запісвае штось у запісную кніжку.*

Патап. Распрагайся—знімай салдацкі хамут. *(Скідаюць скаткі, садзяцца)*. *(Да Алеся)*. Хадзі, прафесар, да нас: пусцім дымок, каб дома не журыліся. *(Алесь падыходзіць моўчкі)*. Ну, вось і ўся наша загаруйская фамілія. *(Дастаюць кісеты, скручваюць цыгаркі)*.

Гузыр. Пакурыць добра, наеўшыся. А жаваць дык вось і няма чаго.

Патап. Паходная кухня яшчэ не прыехала.

Гузыр. Чачавічкі згатуюць. Раней кармілі ёю коней ды перасталі: шэрсць вылазіць пачала. А цяпер—салдат чачавічку хлёбай.

Дроб *(тупа ўставіўшыся ў дол)*. І так з дня ў дзень, з ночы ў ноч, ужо два гады... І ніякай прасветліны. Калі-ж той канец, га?

Алесь (*прыяцельскі стукае Дроба па плячы*). Не тужы, дружа. Няма на свеце нічога, што-б не мела свайго пачатку і канца.
Патап. Жар, прафесар, лекцыю ды павесялей: калі не накорміш галоў, дык ашукай хоць кішку.
Гузыр (*скептычна*). Галаву можна ашукаць, а кішку—ніколі.
Патап. Верна, брат: вайна—самы праўдзівы прыклад.
Дроб (*да Алеся*). А з канцом-жа як?
Алесь. А вось я табе на гэта што скажу.
Стаяла ў садзе яблыня. Завёўся на ёй чарвяк і патачыў усе яе плады. Застаўся ўгары адзін толькі яблык, уцеха і апошняя надзея яблыні. І вось бачыць яна—паўзе чарвяк, каб і той яблык згрызці. З гора, са страху, з бяды і са злосці страсянула тады яблыня ўсімі лісцямі. Узняўся вецер і скінуў чарвяка на голую сцежку, а там садоўнік растаптаў яго нагою. Вот і ўсё.
Дроб. Навучыўся ты ў школе байкі расказваць дзецям. Ты мне проста скажы.
Алесь. А ты падумай, дружа. Не ўсё, што проста, можа адразу ясным паказацца.

(На сцэне чуваць пявучы вясёлы жаночы голас. Салдаты прымаўкаюць, слухаюць).

Жаночы голас. Ну, што вы кажаце? Не паверу!
Мужчынскі голас. Сур'ёзна, мілая сястрыца! Вы,—як гаварыцца,—ангел, пасланы богам у пекла вайны!
Гузыр. Ці не наш гэта новы ротны, земскі начальнік?
Жаночы голас. Як красамоўна вы гаворыце! Але я не дапускаю такой... скораспеласці.
Мужчынскі голас. А між тым гэта—святая праўда, як праўда і тое, што я—паручык Будан-Рыльскі.
(Салдаты пераглядаюцца).
Дроб. Глядзі ты яго, сволач: як у бой ісці, дык ён хворы ці туляецца ззаду. А тут—унь які ваяка!
Будан-Рыльскі (*набліжаецца*). Вы, можа, хочаце, як гаворыцца, довадаў праўдзівасці маіх слоў? Дык вот яны! (*Некаторая замінка, валтузня, лёгкія ўздыхі*).
Патап (*іранічна*). Атакуецца камандная вышыня. (*Падміргвае, а потым моўчкі падымае палец у гару, адыходзіць, становіцца на выцяжку*).
Жаночы голас (*блізка каля сцэны*). Ах, вашы губы порахам пахнуць. Люблю запах пораху.

(Паказваецца Будан-Рыльскі з сястрою пад ручку. Патап падае каманду).

Патап. Устаць! Смі-і-ірна!
Сястра (*уздрыгвае*) Ох!
Будан-Рыльскі. Чаго, дурак, гарланіш? У часе адпачынку каманда „устаць“ і „смірна“ пры паяўленні начальства не падаецца.
Патап. Вінават, ваша благароддзе!

Гузыр. Ваша благароддзе! Галодны мы. Вёска пустая. Харчоў няма.

Будан-Рыльскі. Ведаеш салдацкую службу? Хочаш есці, зацягні тужэй рэмень на жываце. А не паможа—смакчы свае пальцы!

(Пад руку з сястрой праходзяць).

Сястра (*за сцэнаю*). Які вы строгі! Баявы афіцэр!

Будан-Рыльскі. Наглець пачынае салдатня, дай толькі ім волю... Зойдзем, сястрыца, пагдядзіце, як гаворыцца, на маю баявую абстаноўку.

(Гузыр зрываецца з месца, хапае стрэльбу, кідаецца ўслед за Буданам-Рыльскім і сястрою. Алесь хватае Гузыра за плечы).

Алесь. Стой! Куды ты!

Гузыр (*не помнячы сябе, вырываецца*). Пусці! На штык пасаджу, сволача, пакажу яму нагласць. (*З цемнаты высоўваюцца салдаты, пазіраюць на валтузню*).

Салдат. А правучыць белую костку не памяшала-б.

Галасы. Шкуры-б драць з такіх паскудаў.

Алесь (*не выпускае Гузыра*). Не вар'яцей. Што ты дакажаш гэтым?

(Патап *і Дроб* акружаюць Гузыра).

Патап. Кінь, Андрэй: не рабі глупства. Прыхавай сваю злосць на потым. Буры ты не падымеш. З-за аднаго такога сцервы... не варта! Давай сваю качаргу!

Гузыр (*аддае вінтоўку, злосна*). Першая куля—у яго паганую мазгаўню.

Алесь (*мякка*). Не трэба, дружа, гарачыцца.

Дроб. Многа ўжо іх, паганцаў такіх, бралі на мушку, ды толку не было, а цярпеў наш брат.

Голас салдата. І будзе цярпець, калі спускаць.

Патап (*сур'ёзна*). Не гарачэцеся, хлопцы! І не кідайцеся ў вір з галавой, не падумаўшы. Адна ластаўка вясны не робіць.

(Уваходзіць Дзяменя).

Дзяменя (*запыняецца, аглядае ўсіх*). Здарова, землякі, арлы баявыя! Што за шум, а дракі няма, прыгарні вас цёплая ручка і мяккая пасцелька!

(Паяўленне Дзямені ажыўляе салдат. Яго акружаюць, трасуць, штурхаюць, закідаюць пытаннямі).

Дроб. А, Дзяменька! Што новага прынёс?

Патап. Здароў, лапатун! Дзе хадзіў?

Алесь. Што чуў?

Дзяменя (*адмахваецца рукамі*). Што ў вас за мода штурхаць чалавека? Калі мне было яшчэ сем месяцаў, дык я ўжо ў матчыным жываце штурхаўся нагамі: думалі, што з мяне барабаншчык будзе.

Патап (*жартліва*). А вышаў салдат службы сувязі, ды і то недарэчны.

Дзяменя. А як толькі я на свет нарадзіўся, дык заместа таго, каб заплакаць, я спяваць пачаў. Бабка сказала, што з мяне баян выйдзе.

Патап. А вышаў—лапатун-балбатун.

Дзяменя. Маўчы, шахцёр, вугляная галава! Бо калі Дзяменя возьмецца за што, дык ну! Дай мне пра сябе расказаць. Панеслі мяне кумы да папа хрысціць. Пытае поп, як назваць? Кумы і кажуць: „Баян“. Поп быў глухі, не дачуў і запісаў „Дземян“.

Патап. І ўсё-ж такі самае падхадзяшчае імя табе—балбатун.

Дзяменя (*дакорліва трасе галавою*). Каб я не балбатаў, дык вы-б тут з нуды пазаходзіліся.

Патап (*па прыяцельску стукае па плячы*). Верна! Балбачы, балбачы, браток! Цецярук заусёды на нягоду балбоча.

Дзяменя (*многазначна*). А можа і на добрую пагоду.

Галасы. Раскажы, што чуваць на тваей лініі.

Дзяменя (*расчаравана*). Як відаць, зімаваць будзем тут. А ведаеце, хто наш ротны? Земскі начальнік, што нас на вайну гнаў! *(Да Алеся, мяняючы тон).* Аб табе, брат прафесар, спраўляліся з канцылярыі палка.

Алесь (*занепакоена*). Як спраўляліся?

(Салдаты ўважна прыслухоўваюцца).

Дзяменя. Шукаюць па ротах... Радавы Александр Пятроў Шабура... Ці ёсць, пытаюць, такі?

Алесь (*устрывожана*). Вось яшчэ ліха, ёлкі-палкі! Навошта я ім здаўся?

Патап. Можа для пасылкі ў школу прапаршчыкаў. Ты-ж чалавек вучоны?

Алесь. Не падабаецца мне, калі салдатам канцылярыя палка цікавіцца... Ты, Дзяменька, разнюхай гэта.

(Высоўваецца салдат).

Салдат. Эй, падымайцеся з пасцелі, гарачыя храновіны паспелі, кухня прыехала!

(Салдаты падымаюцца, бразгаюць кацялкі. Выходзяць. Астаюцца Дзяменя, Патап і Алесь).

Алесь. Эх, ёлкі-палкі! Прызнацца, устрывожыў ты мяне, Дзяменька! Баюся каб не даведаліся там.

Патап (*з трывогаю ў голасе*). Ты думаеш?

Алесь. Даўно сказана, дружа... „Няма нічога патайнага, што-б не сталася яўным“.

Дзяменя. Калі праўду сказаць, то і мне гэта трохі цюкнула.

Алесь. Важна, каб не заспелі знянацку. Можа гэта і фальшывая трывога, ды вуха трымай востра. А ты, Дзяменька, пакапайся ў гэтай справе ды разведай, у чым тут яна. І вось што, хлопцы, на ўсякі выпадак: у мяне яшчэ захаваліся адозвы.—„Вайна-вайне“.

Патап. Адозвачкі харошыя! Іх трэба парассоўваць салдатам розных часцей ды так, каб ад гэтага карысць для справы была.

Дзяменя. Давай іх мне: ні адна не прападзе. (*Алесь дастае з ватоўкі жмуток паперы, перадае Дзямені*).

Алесь. А цяпер, хлопцы, вячэраць. Прыхвацеце і на маю долю. Ідзеце, а я зараз за вамі.

Патап. Ты, брат прафесар, запішы: плюнь і не трывожся—у бяду цябе не папусцім.

Дзяменя. Ужо калі Дзяменя возьмецца за што, дык ну!

(Патап і Дзяменя выходзяць. Алесь астаецца адзін. Некаторы час сядзіць моўчкі, абняўшы рукамі калені).

Алесь. Горш за ўсё, што нічога не ведаеш. І так, і гэтак думаецца... А можа Будан-Рыльскі хоча прыпомніць старую крыўду? Спраўляліся, у якой роце знаходжуся. Для чаго спраўляліся? Можа проста па пусцяковай справе, а я трывожуся і сею трывогу вакол сябе. (*Паўза*). Эх, выматалі нэрвы за гэтую подлую вайну... Не. галубчыкі: не давесці вам яе да пераможнага канца! Я загіну, тысячы загінуць, а ход падзей пойдзе сваёю дарогаю, і не на вашу карысць... Але гінуць я не хачу. Я хачу жыць, змагацца і перамагаць. У гэтым сэнсе жыцця... Будзем змагацца!

(*Змаўкае, потым ціха напявае*):

„Ночка цёмна, я баюся,
Правадзі мяне, Маруся.
Праважала, жалка стала,
Правадзіла, ўсё забыла
І другога палюбіла.“

Тфу. Якая пошлая песня лезе ў галаву. Яе толькі і пачуеш тут ад афіцэраў і сясцёр—вярціхвостак.

(У глыбі сцэны мільгае цёмны сілуэт чалавека. Алесь насцярожваецца, углядаецца. Постаць паволі набліжаецца. У яе руху нясмеласць і неўпэўненасць. У меру набліжэння вырысоўваецца чалавек у шынелю).

Алесь (*ціха*). Хто ідзе?

Чалавак у шынялю. Выбачайце, зямляк, ці не скажаце мне, дзе расквартаравана дзевятая рота?

Алесь. А хто вы такі?

Чалавек у шынялю. Я прыбыў з эшалонам з тылу. Шукаю свайго земляка, знаёмага.

Алесь. А ў якім ён узводзе?

Чалавек у шынялю. Быў у трэцім.

Алесь. Як прозвішча яго?

Чалавек у шынялю. Шабура. Александр Шабура.

Алесь (*стрымліваючы трывогу*). Шабура? Быў такі! (*Сам сабе*). Няўжо мяне разысківаюць? (*Да чалавека ў шынялю*). Быў такі... Але, здаецца, яго цяпер няма.

Чалавек у шынялю. Няма?.. А дзе ён?

Алесь (*засцярожліва*). Рота нядаўна вышла з бою.

(Змаўкае. Чалавек у шынялю бяссільна асядае. З яго плячэй спаўзае шынель. З пад шынелі відна жаночая жакетка з белымі нагруднікамі і чырвоным крыжам. Алесь працірае вочы. Падыходзіць усутыч, асцярожна ссоўвае з ілба незнаёмай салдацкую папаху).

Алесь. Марына!

Марына (*абуджаецца з анямення, момант пазірае ў твар Алесю*). Алесь! Мілы! Гэта ты? Ты-ж на смерць перапалохаў мяне: думала, што ты забіты. (*Туліць галаву Алесю на грудзі, уздрыгвае ад здушанага плачу*).

Алесь. Не сніў і не марыў сустрэцца з табою тут. Супакойся, Марынка!..

Марына. Нарэшце я знайшла цябе. Ты жывы і цэлы.

Алесь. Ніяк не спадзяваўся... Ну, як ты, Марынка, адважылася?.. Як папала сюды?

Марына (*вінавата апускае галаву*). Няшчасце, Алесь пагнала мяне сюды.

Алесь. Няшчасце?! Што здарылася?

Марына. Ты памятаеш пісьмо, што прыслаў мне праз Міхася? Яно у руках паліцыі!

Алесь (*пасля паўзы*). Цяпер мне ясна, чаму пытаюць пра мяна ў канцылярыі палка і шукаюць па ротах.

Марына. Алеська, мілы! Вінавата я, што не ўсцерагла твайго пісьма... Уцякай, уцякай адгэтуль, покі не позна... Шышла злы і помстлівы. Ен напэўна пераслаў ужо пісьмо ў полк. Цябе забяруць, не пашкадуюць. (*Плача*). Я згубіла цябе, але я хачу цябе ратаваць!

Алесь (*разважліва, мякка*). Ты не вінавата, а калі і была твая віна, то ты болей, чым выкупіла яе. А ўцякаць мне няма куды і ўцякаць я не магу і не смею.

Марына (*з жахам*). Што ты гаворыш? Калі не шкадуеш сябе, дык мяне ты пашкадуй. Ці ты баішся дэзертырам стаць? Ты яшчэ вольны, пакольнкі можа быць воля ў гэтым жахлівым салдацкім бязволлі, пакуль ты не пад канвоем... Адступіся хоць на нейкі час ад сваёй ролі. Узваж ўсё яшчэ раз халодным розумам... Слухай, Алесь—мне страшна вымавіць гэта: ці не мыляешся ты, стаўшы на шлях паражэння? Вораг прыставіў нож к сэрцу Расіі!

Алесь (*расчаравана*). Не варта было шукаць мяне, каб сказаць такую ісціну. Яе прапаведваюць папы, купцы і генералы. Я-ж даўно перастаў ім верыць. І калі Расія—заўваж, царская Расія, будзе паражана ў сэрца, то я толькі вітаць буду гэта. Мяне трымае тут не дэзертырства з фронту, а дэзертырства з тае справы, якая робіцца на фронце. Калі ты любіш і паважаеш мяне, дык палюбі і тую справу, якую раблю я.

Марына. Я люблю цябе, Алесь, але я люблю і праўду. Дзе-ж яна, праўда?

Алесь. Ты пытаеш, дзе праўда? Я прышоў да яе тысячамі дарог, прышоў праз свае пакуты і пакуты мільёнаў, праз іх убоства,

бяспраўе, слёзы і кроў. Яна для мяне ясна цяпер: праз рэвалюцыю буржуазна-дэмакратычную да рэвалюцыі соцыялістычнай. Ты верыш у гэту праўду?

Марына (*апускае галаву, нясмела, ціха*). А калі гэта праўда пойдзе дарогаю яшчэ большай крыві?

Алесь (*сурова*). Усё роўна, якою-б дарогай ні ішла, абы прышла.

Марына. Вайна зрабіла цябе жорсткім да чалавека, Алесь.

Алесь (*мякка*). Ты памыляешся, Марына: вайна навучыла мяне яшчэ болей любіць чалавека, і калі ты цяпер гаворыш так, то голас твой далятае да мяне здалёку.

Марына (*з горкаю крыўдаю*). А ці далятаў ён да цябе хоць калі зблізку?

Алесь (*з горыччу*). На што рабіць такія закіды, Марына?.. Будзь шчыра сама з сабою... Такі час быў—тады, калі мы разам чакалі рэволюцыі і рабілі ўсё, што маглі і як умелі, каб наблізіць яе.

Марына. Прызнаюся, Алесь, мілы: я часамі баюся, што рэволюцыя ў часе вайны прывядзе краіну да пагібелі.

Алесь (*з горкаю насмешкаю*). Царскія міністры таксама кажуць: наперад заспакаенні, а потым рэформы.

Марына. Ты ні кроплі не маеш да мяне жаласці, Алесь. Спатканне з табою, якога я так прагла, з-за якога я так перамучылася, прынесла мне не радасць і спакой, а гора і трывогу. Хіба-ж магу я быць спакойнаю, калі цябе шукаюць, каб арыштаваць? Ты адзін на свеце блізкі мне чалавек. Дарогі-ж назад у мяне няма. Мне толькі астаецца ісці далей... адной... адзінокай.

Алесь (*затрывожана*). А са мной ты не пойдзеш?

Марына. Калі ты астаешся тут, то нас сягоння ці заўтра разлучаць.

Алесь (*прыцішана, праніклїва*). А калі гэтай разлукі не будзе, пойдзеш са мною?

Марына. Я-ж сказала—назад для мяне дарогі няма.

Алесь (*у парыве радасці прынікае да Марыны*). Мілая, радная! Ты тая-ж, ранейшая Марына! Сумленная і баязлівая. Дык пойдзеш са мною?

Марына (*ціха*). Пайду... усюды абы ты быў жывы і вольны.

Алесь. Мілая мая, слаўная! (*Туліць яе*). А цяпер падумаем, як быць. Ведаеш, Марынка, на якую думку навяла ты мяне? Калі ты распытвалася пра Шабуру, то засцярожлівасць падказала мне адказ, які так напалохаў цябе. Ды вось: а што калі я запішуся ў спісак забітых? Узводны—свой чалавек, салдаты—свае людзі. Дык няхай жыве забіты Шабура, а на яго месцы ажывім забітага Макара Макарука. Ідэя добрая. Што ты скажаш?

Марына. Дык і я ж цяпер не Марына Кублік, а Ірына Загайская.
Мяне-ж таксама шукае Шышла і можа быць яшчэ стараннéй, чым цябе.

Алесь (*усміхаючыся*). Ірына Загайская! Гучыць не кепска... Ну, як-жа ты папала сюды? Дзе асталявалася?

Марына. Ох, доўга расказваць! Усяго нацярпелася і наглядзелася. Сустрэла ваеннага доктара, генерала. Лгала-ж ужо яму, лгала! Шукаю, кажу, брата. Ранены ён. У палявым шпіталю. Сказала полк. Сказала, што хачу хоць сядзелкаю быць у салдацкім шпіталю. Ён мяне за святую палічыў. На вас, кажа, маліцца, як на абраз, можна. І напісаў мне рэкамендацыю. Вось я і сястра ў палявым салдацкім дывізіённым шпіталю.

Алесь. Ах, ты мілая сястрычка мая, Марынка—Ірынка! Будзем выкручвацца... Значыцца—згода? А мужчына ў згодзе з жанчынаю—сіла не малая. (Моўчкі туліць яе да сябе).

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Прадвесне 1917 года.
Афіцэрская зямлянка. У зямлянцы: Будан-Рыльскі, камандзір батальёна, капітан, падпаручык Жухін і некалькі афіцэраў. Збоку каля зямлянкі, наверсе, стаіць Дзяменя, прылажыўшы вуха—падслухвае.

Будан-Рыльскі. Вам вядома, гаспада, што манархія пала. Улада перайшла да часовага ўраду. Глаўны штаб і вышэйшае камандаванне яго прызналі. Мы, як гаворыцца, не палітыкі, мы—ваенныя людзі. Наша задача—захаваць боездольнасць арміі. Салдаты толькі і думаюць аб замірэнні, адказнасці і абавязкі перад айчынаю адчуваюць слаба і лёгка паддаюцца на агітацыю розных палітычных авантурнікаў. Наш полк мае асабліва, як гаворыцца, нядобрую славу. У дзевятай роце вёў у свой час здрадніцкую работу радавы Шабура, пісьмо якога было перахвачана ў тылу паліцыяй і даслана ў штаб палка. Гэты здраднік, на шчасце, лічыцца ў спіску забітых, і справа аб ім спынена.

Дзяменя (*пасміхаецца і сам сабе падміргвае*). Жывы, як гаворыцца, дзякаваць богу, і па сенняшні дзень, і справа яго цяпер не ў штабе палка, а ў Дзямені—вось тут у кішэні. (*Стукае рукою па кішэні*).

Будан-Рыльскі. Гаспада! Але горш за ўсё, што побач з часовым урадам арганізаваўся так званы Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Ён выпусціў, з пазвалення сказаць, прыказ № 1. Прыказ гэты—пачатак і вогнішча разбурэння арміі. Ні ў якім разе не паказваць яго салдатам, не гаварыць аб ім!

Дзяменя (*сам сабе*). Не, брат: прыказік гэты мы з-пад зямлі выкапаем!

Будан-Рыльскі. Давайце, гаспада, абсудзім палажэнне. Яно прымушае шукаць новых спосабаў. Лепшая часць рускага грамадства гарыць жаданнем давесці вайну да пераможнага канца і мы павінны пайсці яму насустрач. Ваша слова, гаспада!

(Будан-Рыльскі садзіцца. Некалькі моманту афіцэры маўчаць).

Першы афіцэр (*насмешліва*). Эпіграфам да мае прамовы могуць служыць словы раманса:

„Я угасаю с каждым днем,
И злобы в сердце нет моем".

А самую прамову выкажу так:

„Все это было бы смешно,
Когда бы не было так грустно".
(Дзяменя з насмешкаю ківае сам сабе галавой).

Будан-Рыльскі. І гэта, паручык, усё?

Першы афіцэр. А болей што казаць? Палажэнне, я сказаў-бы, закавырыстае і безнадзейнае... Не ў часе рэволюцыя...

Падпаручык Жухін. А ці правільна будзе, г. капітан, не паказваць салдатам прыказ № 1? Як можна схаваць такі дакумант, што афіцыяльна апублікаваны па войску? Гэта можа выклікаць толькі яшчэ большае недавер'е да афіцэраў з боку салдат.

Дзяменя. А які чорт калі вам верыў?

Будан-Рыльскі. Ні ў якім разе не паказваць яго салдатам. А запытаюць, гаварыць—гэта фальш, гэта нямецкая выдумка, каб абяззброіць рускую армію. Прыказ можа быць адменены, а шкоды ён наробіць многа, калі аб ім даведаюцца салдаты.

Дзяменя. У бутэльку ўлезем, а даведаемся!

Будан-Рыльскі. Рэволюцыя пераблутала, як гаворыцца, карты і паставіла нас у труднае становішча. Але няма таго крытычнага палажэння, з якога-б не было выхаду.

Дзяменя (*скептычна трасе галавой*). Не хваліся.

Першы афіцэр. Даваў генерал задачу афіцэру: „Два флангі вашай роты атакованы пяхотаю праціўніка. Спераду на вас налятае конніца, ззаду б'е артылерыя, а над галавою аэрапланы скідаюць бомбы. Якую падасце каманду". Афіцэр адказвае: „На малітву, шапкі далоў!"

Дзяменя. Ну, калі да малітвы справа даходзіць у вас, дык, значыцца, салдат радуйся.

Будан—Рыльскі. Наша палажэнне не такое труднае, як тое, аб якім гаворыце вы, паручык. Мы, як гаворыцца, не асвоіліся яшчэ з новай сітуацыяй.

Другі афіцэр. Калі свабода зачынаецца з развалу арміі і з прынцыпу выбарнасці ў войску, то асінавы кол у спіну такой свабодзе.

Першы афіцэр. Правільна.

Дзяменя. Вось сволачы!

Будан-Рыльскі. Не можна, гаспада, сеч з пляча там, дзе дрэвы стаяць густа. Трэба раней расчысціць прастор для тапара, а для гэтага, як гаворыцца, патрэбна іншая тактыка. У нашым арсенале ёсць цяпер покі што адна толькі зброя—слова.

Першы афіцэр. Паможа тут слова, як мёртваму кадзіла.

(Дзяменя ў знак згодыківае галавою).

Жухін. Гаспада! Рэволюцыя выбіла вас з сядла, і вы ўпалі ў адчай. А становішча не такое ўжо страшнае. Мы павінны перш за ўсё растлумачыць салдатам, як правільна адзначыў г. капітан, сэнс рэволюцыі. У ёй павінны знайсці жывы струмень нашай апоры. Калі раней салдату незразумелы былі задачы вайны, то цяпер ён будзе ведаць, што ён ваюе за сваю зямлю, за сваю свабоду, за права, што называецца, быць свабодным грамадзянінам. Трэба змяніць таксама і свае адносіны да салдата, стаць з ім на роўную нагу.

Дзяменя. Чуеш? На роўную нагу?! Але ці таварыш гусь каню?

Першы афіцэр. Дэмагогія, паручык! Да яны і самі скора асядлаюць цябе

Жухін. Не, паручык! Калі чэсна і шчыра падыйсці да салдата, то ён чэсна і шчыра прызнае ў афіцэры кіраўніка і ўсюды пойдзе за ім.

Дзяменя. Нахадзіліся ўжо! Быў конь, ды з'ездзіўся.

Першы афіцэр. Як гэта ліберальна і гуманна! Усе парабіліся соцыялістамі-рэволюцыянерамі.

Жухін. Не ў лібералізме і не ў соцыялістах-рэволюцыянерах тут, што называецца, сіла: сіла ў той правільнай лініі, якую павінны заняць афіцэры, каб утрымаць, што называецца, за сабою армію.

Будан-Рыльскі. Дык так, гаспада. Палажэнне, як гаворыцца, ахаўскае, але не безнадзейнае. Бліжэй да салдата, гаварэце з ім, раз'ясняйце сэнс пераварота. Валі на старую ўладу ўсе нашы няўдачы. Курс браць на партыю соцыялістаў-рэволюцыянераў. Яна ўсіх пагодзіць. Яна за вайну і за дысцыпліну ў войску. Выведваць настрой салдат. Аб прыказе-ж № 1 ні слова! Дык з богам, гаспада!

(Дзяменя адрываецца ад зямлянкі, бяжыць, потым запыняецца).

Дзяменя. Ох, ох, Дзяменя! Мілы ты мой Дзяменя! Повен ты цяпер, як ніколі: ну, як той клешч, што насмактаўся крыві з сабачага вуха! Ах афіцэрыкі!.. Бягу, бягу! (*Кідаецца бегчы. Выходзіць Марына. Дзяменя запыняецца*). Сястрыца! Шкадую, што вы не мужчына.

Марына (*здзіўлена*). А што, Дзяменька?

Дзяменя. Пацалаваў бы вас. Такія навіны!

Марына (*смяецца*). А хіба мужчыну прыемней цалаваць?

Дзяменя. Яно то... не, але-ж адвага тут патрэбна.

Марына. Дык рэволюцыя?

Дзяменя. Самая сапраўдная... Дарэчы, сястрыца: ці не бачылі прыказа № 1?

Марына. Я яго маю.

Дзяменя. Да ну? Дайце мне яго!

(Марына дастае лісток, аддае Дзямені).

Марына. Вось ён. Парадуйце ваякаў.

(Дзяменя прасоўвае руку ў ватоўку, вымае пакет, аддае Марыне).

Дзяменя. Дар за дар... Гэта тое, што зрабіла вас сястрою, а прафесара прымусіла ў нябошчыкі запісацца. Цяпер за гэтыя дакументы вам абаім нагарода належыць.

Марына. Мілы Дзяменька! Ну, які-ж вы дасціпны! (*Бярэ пакет, вымае паперы*). Яны аплаканы горкімі слязьмі і авеяны трывожнымі думкамі бяссонных начэй. Гэта—цяжкі камень, што прыгінаў мяне да зямлі. Я буду хаваць іх, як кайданы і як святыню.

Дзяменя (*з гордасцю*). Да ўжо-ж калі Дзяменя за што возьмецца, дык ну!.. Пабягу-ж я, сястрыца: не церпіцца мне.

(Дзея пераносіцца ў салдацкія акопы. На сцэне адрэзак акопаў дзевятай роты. Два канцы іх расходзяцца ў бакі і губляюцца уводдалі. Шырокі ўваход у акоп. У акопе відна група салдатаў. Сярод іх Дроб, Думака, Гузыр. Угнуўшыся, бяжыць Дзяменя, шыбуе ў бок увахода. Не даходзячы да самага ўвахода ў акоп, падае каманду).

Дзяменя. Устаць і сустрэць Дзяменю!

(Салдаты мітусяцца, высыпаюць з акопа, акружаюць Дзяменю).

Патап. Што шуміш, іскравая рота?

Дзяменя. Вешайце вушы на цвічок увагі! Браты мае—рэволюцыя!

Галасы. Ці не брэшаш. Факты давай!

Дзяменя. Царызма пала! Міністраў арыштавалі! Новы ўрад Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. (*Трасе прыказам № 1*). Вот ён, факт! Вот дакумант, што хаваюць ад нас афіцэры. Прафесар! Нябошчык прафесар! Выпісвайся са спіскаў забітых! Ажыві! На, чытай нам у голас.

(Падбягае Алесь, бярэ прыказ № 1, момант глядзіць у яго, потым кідаецца на шыю Дзямені, цалуе яго).

Алесь. Факт, таварышы, рэволюцыя прышла.

Дзяменя. Чытай, чытай нам маніхвест, ды чытані так, каб аж за граніцаю пачулі.

Алесь (*усхваляваны чытае*). По гарнизону Петроградского округа. Всем солдатам гвардии, армии, артиллерии и флота для немедленного и точного исполнения, а рабочим Петрограда для сведения.

Совет робочих и солдатских депутатов постановил:

I. Во всех ротах, батальонах, полках, парках, батареях, эскадронах и отдельных службах разного рода военных управлениях и на судах военного флота немедленно выбрать комитеты из выборных представителей от нижних чинов вышеуказанных воинских частей.

Патап. Братцы вы мае. Пішы--сваё начальства будзе.

Алесь (*з яшчэ большым уздымам*).

2. Во всех воинских частях, которые еще не выбрали своих представителей в совет рабочих депутатов, избрать по одному представителю от рот, которым явиться с письменным удостоверением в здание государственной думы к 10 ч. утра 2 сего марта.

Гузыр. А, душа з іх вон! Палавіна марца, а мы нічога не ведаем.

Галасы. Сволачы! Скруціць думалі!

Алесь. Увага, таварышы!

3. Во всех своих политических выступлениях воинская часть подчиняется Совету рабочих и солдатских депутатов и своим комитетам.

Галасы. Малайцы! Добра запісана.

Алесь.

4. Приказы военной комиссии Государственной думы следует исполнять, за исключением случаев, когда они противоречат приказам и постановлениям Совета рабочих и солдатских депутатов.

Галасы. Брава!

Алесь. 5. Всякого рода оружие, как-то: винтовки, пулемёты, бронированные автомобили и прочее должно находиться в распоряжении и под контролем ротных и батальонных комитетов и ни в коем случае не выдаваться офицерам, даже по их требованиям.

Галасы. Правільна.

Алесь. 6. В строю и при отправлении служебных обязанностей солдаты должны соблюдать строжайшую военную дисциплину, но в частной жизни солдаты ни в чем не могут быть умалены в тех правах, коими пользуются все граждане. В частности вставание во фронт и обязательное отдание чести вне службы отменяется.

Патап. Для генералаў гэта—пішы, як кажухом па печы.

Алесь. 7. Равным образом отменяется титулование офицеров: ваше превосходительство, благородие и т. п. и заменяется обращением: г. генерал, г. полковник и т. д.

Дзяменя. Ды я яго проста буду звäць: „Эй, ты, генерал. Сюды ідзі"!

(Салдаты смяюцца).

Алесь. 8. Грубое обращение с солдатами всяких воинских чинов в частности обращение к ним на „ты" воспрещается, и о всяком нарушении сего, равно как и о всех недоразумениях между офицерами и солдатами последние обязаны доводить до сведения ротных комитетов.

Настоящий приказ прочесть во всех ротах, батальонах, полках, экипажах, батареях и прочих строевых и нестроевых командах.

*Петроградский Совет рабочих и солдатских депутатов"*.

(Кончыўшы чытаць, А л е с ь аглядае салдат).

А л е с ь. Чулі, таварышы. Вот ён (*трасе прыказам*) наш салдацкі дакумант. Касуецца шэрая скацінка. Салдат стаў чалавекам, грамадзянінам. Ён вызвален ад афіцэрскага прыгону. Няхай жыве Совет рабочых и салдацкіх дэпутатаў. Няхай жыве рэволюцыя.

С а л д а т ы. Ура! (*Падкідаюць угару шапкі.*)

Д р о б выносіць гармонік, іграе заліхвацкі матыў. Салдаты танцуюць, гікаюць, выгукваюць: „Свабода“. „Рэволюцыя“. „Наша бярэ“. „Ура рабочым і салдатам“. У гушчу салдат урэзваецца Д з я м е н я, трасе шапкаю і рукамі.

Д з я м е н я. Увага. Слухайце мяне (*шум змаўкае*). Тэлефонаграму даць немцам!

Г а л а с ы. Правільна.

(Д з я м е н я выцягвае з сумкі салдацкую кашулю, надзяе на штых, вылазіць на бруствер акопа).

Д з я м е н я. Германішэн! Браткі немцы! Салдаты! Гэр-мэр! У нас рэволюцыя. (*Раздзельна*). Рэ-во-люю-цыя. Годзі ваяваць! Далоў вайну!

(З нямецкіх акопаў чуваць галасы: „Рус! Рус! Гох, Рус!“ Уваходзіць Б у д а н-Р ы л ь с к і. Шум заціхае. Салдаты заўважаюць капітана).

Д з я м е н я (*не бачыць Будан-Рыльскага, махае саматужным сцягам*). Далоў гандлярскую вайну! (*Азіраецца, заўважае Будан-Рыльскага. Злазіць з бруствера ў акоп, хаваецца за салдат. Будан-Рыльскі стаіць моўчкі, глядзіць халоднымі, злымі вачамі. Сваю злосць і абурэнне выказвае зняважлівым ківаннем галавы*).

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Той-жа самы участак фронта.
Бліжэйшы франтовы тыл. Салдацкі мітынг. На мітынгу абмяркоўваюцца пытанні міра і вайны. Мітынг праводзіць А л е с ь.

А л е с ь. Даю слова Думаку.

П а т а п Д у м а к а. Таварышы! Ужо другі месяц, як пачалася рэволюцыя, мы-ж усё яшчэ гніем у акопах. За гэты час пабывала тут шмат народу, розных прадстаўнікоў ад розных партый. Што-ж яны гаворацць нам? Яны кажуць: „Ваюйце, вольныя салдаты! Абараняйце свабоду, нашы героі!“ Усе яны дудзяць на адной дудцы: і меншавікі, і эсэры, якія сталі цяпер заправіламі, але скачуць пад буржуйскую флейту. Мілюковым усё яшчэ хочацца забраць нашымі рукамі турэцкія Дарданелы. Словам, таварышы, канца вайне не відаць. А як мы, салдаты, ставімся да вайны? У нас—так і пішы—адно жаданне: кончыць яе, як найхутчэй.

Г а л а с ы. Верна! Праўда!

Патап Думака. Хто-ж нас у гэтым падтрымлівае? Хто выказвае нашы набалелыя жаданні, нашы мыслі, нашы пачуцці? Толькі адна партыя,—гэта партыя большэвікоў. Яна наша партыя, яна гэта—мы, рабочыя, сяляне, горкая бедната і галеча. І большэвікі кажуць нам: „Салдаты! Вы самі бярэцеся канчаць вайну. Братайцеся з вашымі праціўнікамі—яны такія-ж як і вы рабочыя, сяляне. Дабівайцеся, каб уся ўлада перайшла советам. Ці правільна гавораць большэвікі?

Галасы. Правільна.

Патап Думака. Дык давайце, таварышы, самі канчаць вайну. Давайце правядзем братанне арганізавана, цэлымі часцямі. Гэтым наблізім мір і канец вайны. (*Дастае жмут газет*). Вот вам, таварышы, наша салдацкая газета „Окопная правда". Яе пішуць людзі, што стаяць за мір, за нашага брата салдата, за народ, за сапраўдную свабоду. Яны гавораць нам, хто такія людзі, што стаяць за грабежніцкую вайну, і куды яны вядуць нас.

(Салдаты нарасхват бяруць газеты. Галасы: „Пачытаем сваю „Окопную праўду". Даволі кармілі нас буржуі сваімі газетамі).

Голас з натоўпу. Але ці няма тут, таварышы, ашуканства? Іхнага правадыра, Леніна, немцы падкінулі ў Расію.

Алесь. Хлусня, таварышы, кадэцкі паклёп, каб зганьбіць партыю большэвікоў.

Патап. Хто гаварыў тут, што Леніна немцы падкінулі? Выступі тут перад народам, мы паслухаем і пабачым, што ты за чалавек. Мы ўсім даём слова. Гавары, што хочаш. Дык выходзь на народ. (*Ніхто не выходзіць*).

Галасы. Гэта буржуйчык прытаіўся тут.

Алесь. Хто хоча яшчэ гаварыць?

Галасы. Ды яно-ж ясна. Мы за большэвікоў. Самі будзем канчаць вайну.

Алесь. Дык, значыцца, таварышы, правядзем шырокае братанне. І другія роты і палкі будзем заклікаць да гэтага. Бо толькі такім чынам і можна дабіцца канца вайны. Дык згодны, таварышы?

Галасы. Згодны.

Алесь. Прагаласуем. Хто за гэта, падыміце рукі. (*Салдаты дружна падымаюць рукі*). Мітынг скончан. Будзьце, таварышы, смелы, рашучы, упарты, і мы свайго даб'емся.

(Салдаты расходзяцца. Алесь застаецца на сцэне. Садзіцца, дастае запісную кніжку, запісвае. Дзесь у акопах іграе гармонік. Алесь адрываецца ад запісі. Слухае).

Алесь. Якая незвычайная для фронта цішыня! Фронт замірае. Шчаслівы будзе той час, калі ён замрэ тут назаўсёды.

(Піша ў сваю кніжку. Здалёку паказваецца Марына. Запыняецца, спасцярожліва разглядаючыся. Бачыць Алеся. Борздзенька падыходзіць да яго. Запыняецца. Момант стаіць моўчкі).

Марына. Так захапіўся, што і не бачыць нічога.

Алесь *(Згортвае кніжку. Падымае вочы).* Марынка—Ірынка! Два імёны, а дзяўчына адна... Здарова, Марынка—Ірынка!

Марына (*заклапочаная*). Я на хвілінку. Алесь слухай: тое, што вы робіце і збіраецеся рабіць тут, вядома там. Праўда, што вы ладзіце масавае братанне?

Алесь. Цяпер гэта звычайная з'ява. Яе не схаваеш. І хаваць не збіраемся.

Марына. Вы мяркуеце тут па свойму, а там упатайку гатуюць вам западню.

Алесь. Западню? Якую западню?

Марына. У тым-та і гора, што вы нічога не ведаеце. Будан-Рыльскі мне ўсё расказаў. Ён ні перад чым не спыняецца, каб заваяваць маю сімпатыю да яго.

Алесь. А якія віды ў яго на поспех?

Марына. Кінь, Алесь, жарты: не месца для іх і не час. План іх пякельны: „Мы“, кажа Будан-Брудан, „падстроім так, што іхнае братанне самі немцы расстрэльваць будуць“. Сцеражыся! Вы можаце загубіць тысячы людзей. Яны ведаюць пра ўсе, і як толькі пачнецца братанне, змяшаюць вас з прахам: артылерыя папярэджана і падгатавана—яна на іх баку.

Алесь *(маўчыць, апусціўшы галаву, а потым пазірае на Марыну, смяецца).* Будан-Брудан! Удалае імя! Будан, Бруднае Рыла.

Марына. Ты ўсё жартуеш, Алесь, а ў мяне сэрца не на месцы. Я дрыжу за цябе: ты ідзеш напралом, без аглядкі. Я ўся трасуся, калі падумаю, што загінуць тысячы народу. Ды і аб сабе я таксама думаю. Не так аб сабе... *(запінаецца, апускае вочы).* Алесь! Нас павянчаў не поп, а трывожная франтавая ноч пад грукат гармат, і ты не забывайся, хто ты цяпер. (*Нахіляецца над вухам Алеся, гаворыць нячутныя словы*).

Алесь (*У змяшанні*). Праўда, Марынка? *(Марына моўчкі ківае галавой).* Мілая мая, слаўная, баязлівая, не трывожся! Помніш тую ноч, калі першы раз сустрэліся мы тут? І ўсё абышлося шчасліва. І цяпер, я веру, наша справа возьме верх.

Марына. Алеська, шануйся! І памятай, што нас будзе трое.

Алесь. Спакойна будзь, Марынка! Тое, што ты сказала мне на вуха я запішу ў сваёй памяці навекі.

Марына. Ведаеш, мне часамі здаецца, што яны дагадваюцца аб маёй ролі. Але не гэта мне страшна. *(Абрывае гутарку. Паўза. Другім тонам).* Ну, бывай-жа! А калі даведаюся пра што, паведамлю. *(Выходзіць. Алесь глядзіць ёй услед).*

Алесь (*у засмучэнні*). Пашла і нібы большую часць ад мяне забрала з сабою. Бедная! Ёй цяжка, а я так суха абышоўся з ёю! А хацелася-ж сказаць так многа і так сардэчна! (*Сядзіць моўчкі, схіліўшы галаву*). Даведаліся... Ставяць пастку... Як-жа быць? (*Крэпка задумваецца. Выходзіць Патап, сур'ёзны, задуменны, ціха высвістваючы матыў нейкай песні. Не заўважае Алеся*).

Алесь *(аклікае Патапа).* Хадзі, дружа, сюды!

Патап (*падымае вочы на Алеся).* Ты што, прафесар, стаіўся тут?

Алесь. Справа, брат, такая, што аднае „прафесарскае“ галавы мала.

Патап. Ну?

Алесь. Будан-Брудан пранюхаў пра братанне.

Патап. Ну дык што? На гэта і нюхаўкі спецыяльнай не трэба.

Алесь. А ты паслухай. Справа ў тым, што ён рыхтуе нам пастку. Артылерыю паставілі расстрэльваць братальнікаў. Што рабіць?

Патап (*уражаны*). Гэта—факт?

Алесь. Настаяшчы і паганы факт.

Патап (*павольна і ўнушліва*). Адступаць не можна, прафесар.

Алесь. Не можна, гэта ясна. Але калі мы правалім братанне, дык мы дыскрэдытуем і самую ідэю яго.

Патап. Павесці справу так, каб правалу не было. Пішы!

(Дзея пераносіцца ў афіцэрскую зямлянку. У зямлянцы Будан-Рыльскі і тры ротныя камандзіры).

Будан-Рыльскі. Чаму большэвізм залівае тыл і так востра паражае сваёю гангрэнай фронт? Ён развязвае нізкія інстынкты маласвядомага салдата. Вайна-ж, як гаворыцца, стварыла ўсе прадпасылкі на тое. Вайна патрабуе ахвярнасці, вялікага напружання волі і выяўлення лепшых парываў чалавечага сэрца. А большэвізм кажа салдату: уткні штык у зямлю, ідзі братайся з ворагам, і ты даб'ешся міру. Гані сваіх афіцэраў—яны твае класавыя ворагі і стаяць за вайну. Адбірай зямлю ад памешчыкаў і фабрыкі ад фабрыкантаў, і ты станеш багатым.

Жухін. Гэтага мала, г. капітан: большэвікі давялі салдату і пераканалі яго ў тым, што вайна для яго не мае сэнсу, як грабежніцкая вайна ў інтарэсах багатых класаў... Яны прапаведуюць іншую вайну.

(Убягае афіцэр).

Афіцэр (*узрушана*). Г. капітан. Другі і трэці батальёны і дзве роты першага выступаюць з акопаў пад белым сцягам братацца. Выступленне пачынае дзевятая рота.

Будан-Рыльскі. Дзякую, паручык. (*Да афіцэраў*). Сачыць за рухам здраднікаў. Аб кожным руху дакладаць мне.

(Афіцэры выбягаюць з зямлянкі, глядзяць у біноклі. Будан-Рыльскі кідаецца да тэлефона.)

Будан-Рыльскі. Ало! Батарэя! Капітан Сумяцін? Здрастуйце! Капітан Будан-Рыльскі. Будзьце гатовы! Сектар—3, квадраты № 13 уключна па № 24 выключна... Вельмі рад! Так, так, Дзякую.

Афіцэр (*не аднімаючы бінокля*). Г. капітан. Дзевятая рота выходзіць з белым сцягам. Паяўляюцца адзіночныя людзі на ўчастках 10 і 11. Натоўп павялічваецца. Рады гусцеюць. Стаяць на месцы... Паказваюцца немцы. Накапляюцца. Фронт шырыцца... Г. капітан, пара.

Будан-Рыльскі (*хватае трубку тэлефона*). Ало, ало! Капітан Сумяцін? Адкрывайце агонь! Сектар—3, квадраты 13—24. (*Вешае трубку*).

Афіцэр. Г. капітан!.. Самы час. Тысячы!..

Будан-Рыльскі (*нервова*). Што-ж яны не страляюць? (*Бярэцца за трубку тэлефона, грыміць гарматны стрэл. Будан-Рыльскі адыходзіць ад тэлефона, радасна хрысціцца*). Дзякуй богу!. Назірайце, гг., узрывы.

(Мёртвая цішыня. Афіцэры стаяць, пазіраюць у біноклі. Званок тэлефона. Будан-Рыльскі знімае трубку).

Будан-Рыльскі. Ало, я, я!.. Што? У процілеглы бок?.. Сволачы! (*Шпурляе трубку, у ярасці б'е кулаком па тэлефону*). Павярнулі хобаты гармат у процілеглы бок. Выстралілі адзін раз... у штаб свае дывізіі. Братаюцца таксама артылерысты з пехацінцамі. Мерзаўцы! Негадзяі! (*Хватаецца рукамі за галаву, апускаецца на лаўку. Афіцэры стаяць, адняўшы біноклі. У воддалі відны акопы нашы і нямецкія. Рускія салдаты і немцы сышліся. Рух і ажыўленне. Ходзяць групамі і парамі, пабраўшыся за рукі. Немцы заходзяць у нашы акопы, рускія салдаты—у нямецкія*).

Афіцэр. Якая мерзасць! Якая ганьба!

Жухін (*безнадзейна*). Лішнія мы тут і непатрэбныя.

(Бліжэйшы франтовы тыл. Прасторны пусты двор, запоўнены салдатамі. На пярэднім плане Дроб і Гузыр. Салдаты соваюцца па двары, выходзяць і прыходзяць. Сям-там сядзіць па некалькі чалавек).

Дроб (*сядзіць на бервяне, курыць цыгарку*). Правініліся, значыцца перад буржуямі. Як заразную, роту вывялі з акопаў. (*Смяецца*). Ну-ж і злосці было ў Будана-Рыльскага! Ось, думаў, гакну. Аж нічога не вышла.

Гузыр. Адлучылі, каб лягчэй справіцца. За дысцыпліну бяруцца. Керэнскі, чуеш, на фронт едзе. Строгасць. Зноў у наступленне гнаць будуць.

Дроб. Няхай Керэнскі сам і наступае. Які дурань будзе наступаць яму? Самому на мазоль наступаюць, вось і круціцца.

Гузыр. Глядзі, каб і нас не ўкруціў.

Дроб (*спакойна*). Няхай ён лепш сам сабе галаву скруціць. (*Вымае з ватоўкі нейкую рэч, загорнутую ў газету*).

Гузыр. Судзяць-жа нас, Паўлюк, чуў? За братанне.

Дроб. А няхай судзяць. Прысудзяць у Сібір? Дык чым горай Сібір за вайну (*мяняе гутарку*). Спрытныя падлы, гэтыя немцы! Якія добрыя штучкі вырабляюць! Вот ты зірні, Андрэй, якую хвацкую брытву падараваў мне на памяць нямецкі салдат!

Гузыр (*разглядае брытву*). Хвацкая брытка, ядры яе качан. (*На двары чуецца трывожны голас*).

Голас. Таварышы, сюды!

(Дроб хавае брытву. З усіх куткоў двара збягаюцца салдаты, збіваюцца ў круг. На калодцы ў сярэдзіне круга стаіць Патап).

Патап. Таварышы! Мы толькі што даведаліся, што нас зараз прыдуць абяззбройваць. Палкавы суд, дзе большасць была афіцэраў і прыслужнікаў буржуазіі, пастанавіў расфармаваць нашу роту за тое, што мы праводзілі братанне. Таварышы, помніце, мы цвёрда пастанавілі не пакарацца ніякім іхнім судам. Запішыце гэта!

Дружныя галасы. Не здавацца! У штыкі ўзяць іх суд!

Дзяменя (*ускоквае на калодку*). Таварышы, стаяць да канца цвёрда. Вінтовак з рук не выпускаць. Яны за вайну да пераможнага канца, а мы за сваю вайну. Нас зноў хочуць гнаць у наступленне. І калі мы дапусцімся, каб нас абяззброілі, то мы не салдаты. А калі дазволім арыштаваць каго з нас, то мы не таварышы.

Голас. Ідуць!

(Паказваецца Будан-Рыльскі, з ім група салдат і афіцэраў. Рота замаўкае. Будан-Рыльскі з групаю падыходзіць бліжэй. Запыняецца. Будан-Рыльскі аддзяляецца на некалькі крокаў ад групы, падыходзіць да дзевятай роты).

Будан-Рыльскі. Ну-с, так званыя салдаты, Мы прышлі сюды па даручэнню палкавога камітэта. Палкавы камітэт разам з прадстаўніком ад часовага ўраду і армейскага камітэта разглядзеў, як гаворыцца, справу салдат дзевятай роты. Пастанавіў (вымае паперку, чытае): „*За здраду айчыне, што выразілася ў форме пагалоўнага брытання з ворагамі, роту абяззброіць і расфармаваць. (Прыходзіць Марына, неспакойная, устрывожаная. Прыпыняецца збоку, слухае)*. Радавых Макара Макарука, Дзяменю Дзямяна, Патапа Думаку, як зачыншчыкаў і падбухторшчыкаў, арыштаваць, і судзіць ваенным спецыяльна вызначаным судом. Ні ў якія перагаворы і ўгаворы не ўваходзіць. Капітану Будан-Рыльскаму, прадстаўніку ад армейскага камітэта таварышу Сінухіну і дэлегату ад салдат унцер-афіцэру Гарбузову пастанову выпаўніць“. (*Кладзе пастанову ў абшлаг шынеля. Напружанае маўчанне*).

Алесь. Рота даручыла мне заявіць, што пастановы чужога і варожага камітэта яна не прызнае і падпарадкоўвацца ёй не будзе. Гэта адно. Другое: Макар Макарук забіты ў баю 27 лістапада мінулага года.

(Будан-Рыльскі пазірае збянтэжаны).

Патап. Судзіць любіце, г. капітан? Судзілі, будучы земскім начальнікам, і цяпер судзіце. Але нябожчыка Макара Макарука дарма засудзілі: як яго цяпер арыштуеш? Пішы—прапала.

Дзяменя (*падхоплівае*). Нябошчыкаў судзяць! Вось якая іхняя праўда! Я таксама нябошчык, калі на тое пашло!

Будан-Рыльскі. Мярзаўцы! Што за камедыянства?!

Галасы. Ад мярзаўца чуем!

Вон старарэжымшчыкі!

(Будан-Рыльскі адступае на крок. Свішча ў свісток. Марына стаіць, сашчапіўшы рукі. Парываецца ісці, але стрымліваецца. Да яе падыходзіць Будан-Рыльскі).

Будан-Рыльскі. Любіце батальныя сцэны? Ідзіце адгэтуль, сястрыца: вам тут не месца.

(Чуецца густы барабанны бой. Паказваюцца салдаты ў поўнай баявой выправе. Уперадзе афіцэр. Абарачваецца назад, рукою дае знак спыніць барабаны. Падыходзяць да Будана-Рыльскага. Напружаная цішыня. Афіцэр бярэ пад казырок, рапартуе).

Афіцэр. Г. капітан. Батальён у складзе васьмісот штыкоў пры васьмі кулямётах прыбыў.

Будан-Рыльскі. Вы паступаеце ў мае распараджэнне. Ваша задача—абяззброіць зараз-жа гэту банду, не спыняючыся ні перад якімі мерамі.

Афіцэр (*бярэ пад казырок*). Слухаю, г. капітан! (*Адыходзіць да свайго батальёна).* Г. г. ротныя камандзіры, ка мне! (*Падыходзіць група афіцэраў, бяруць пад казырок*). Заняць указаныя пазіцыі і чакаць майго загаду. Камандзіру першай роты выдзяліць канвой у складзе аднаго аддзялення для прыёму зброі. Камандзіру кулямётнага ўзвода! Паставіць кулямёты на пярэднюю лінію. (*Афіцэры бяруць пад казырок, адыходзяць. Афіцэр варочаецца да салдат дзевятай роты*).

Афіцэр (*да салдат дзевятай роты*). Прыказваю: зараз-жа здаць вінтоўкі і амуніцыю!

(Салдаты дзевятай роты маўчаць, не рухаюцца).

Афіцэр. Яшчэ раз і апошні раз паўтараю—здаць вінтоўкі і амуніцыю!

(У радах роты хістанне. Некаторыя салдаты робяць рух для выпаўнення загаду. Чалавекі тры выходзяць з радоў, каб здаць вінтоўкі; іх не пускаюць. Чуецца голас: „Здраднікі!“ „Трусы!“ „Ганьба!“ З радоў салдат-усмірыцеляў выходзіць салдат).

Салдат. Ад імя салдацкага камітэта франтавікоў прыказваю безадкладна выпаўніць загад! Цырымоніцца з вамі не будзем!

(Хістанне ў радах роты павялічваецца. Яшчэ некалькі салдат выходзяць, аддаюць вінтоўкі).

Алесь (*вырываецца на сцэну, згортвае кулакі, трасе імі. Да салдат, здаўшых вінтоўкі*). Сорам і ганьба вам! Вы не таварышы! (*Зварачаецца да ўсмірыцеляў*). Таварышы! Ці-ж вы падымеце руку на вашых братоў? На свабоду, што заваявалі мы нашай кроўю?..

Будан-Рыльскі (*у абурэнні кідаецца з наганам да Алеся*). Заткні глотку, нямецкі агент! Шпіён!.. Паручык! Арыштаваць яго!

(Марына стаіць акамянелая збоку).

Афіцэр (*да групы канвойнікаў*). Узяць яго! (*Некалькі салдат акружаюць Алеся*).

Алесь (*тонам горкай крыўды да салдат*). Мілыя таварышы! Так да рэволюцыі распараджаліся жандары. Так бралі мяне гарадавыя за тое, што я стаяў за працоўны народ. (*Павышае голас, да салдат-усмірыцеляў*). А вы, таварышы, становіцеся на іхнюю дарогу!.. Эх, вы!..

Патап. Ці не сорам вам, таварышы! Вас прывялі, як паліцэйскіх, і па-паліцэйску вы паступаеце!

Будан-Рыльскі. Даволі большэвіцкіх мітынгаў!

(Сярод салдат шум. Шум пракачваецца і па радах салдат-усмірыцеляў).

Голас з радоў усмірыцеляў. Даць яму сказаць!

Другі голас. Так не можна! Гэта не стары рэжым!

Будан-Рыльскі (*трасучыся ад злосці*). Не смець мітынгаваць! Забараняю!

(Шум нарастае. Афіцэр збянтэжана азіраецца. Марына зрываецца з месца, выбягае на сцэну).

Марына. Браты-салдаты! Родныя, апамятуйцеся! (*Шум заціхае. Выступленне Марыны і яе словы робяць уражанне сваёй нечаканасцю*). Адумайцеся, што вы робіце? Вашымі рукамі расчышчаюць тут дарогу вашай-жа няволі! Мала таго, што вашы ворагі мільёнамі салдацкіх трупаў высцілалі зямлю ў імя іхных грабежніцкіх інтарэсаў, дык яны капаюць тут магілу вашай свабодзе і кідаюць вас брат на брата. Зразумейце-ж вы гэта!

Будан-Рыльскі. Шпіёнка! Правакатар! Большэвіцкая патаскуха!

Алесь (*вырываецца з групы канвойнікаў, падбягае да Марыны. Па адрасу Будан-Рыльскага*). Не смей абражаць жанчыну, сволач, царскі халуй!

(Будан-Рыльскі, калоцячыся, як у ліхаманцы, падымае наган, страляе. Марына хапаецца рукой за бок, падае. Сярод салдат шум і рух. Да Будана-Рыльскага падбягае афіцэр. Чуецца яго голас: „Што вы зрабілі, капітан?" Галасы салдат: „Забіў жанчыну!", „Сястру забіў!" „Дзяржы забойцу!" Каля Марыны група салдат. Алесь расшпільвае на ёй тужурку. З кішэні курткі відаць беражок пакета. Бярэ руку Марыны, слухае пульс).

Алесь. Кончана жыццё!.. (*З болем*). І чырвоны крыж не адвёў рукі забойцы! (*Вымае з курткі пакет. Падымае яго ўгару*). Вот яны, крывавыя дакуманты чалавечага жыцця! І гэта ўсё, што засталося ад яго! (*Нахіляецца над Марынай, цалуе яе ў лоб*). Даруй, Марынка! (*Устае, падымае ўгару пакет, трасе ім*). Гвалтоўнікі! Забойцы! Каты! Перад людскім судом адкажаце вы за гэта!

(Убягае Дзяменя. Спыняецца перад трупам Марыны).

Дзяменя. Сястрыца, родная наша! (*Згортвае кулакі*). Забойцы! Не схаваецеся! Адкажаце кроўю за кроў!

Патап (*абарочваецца ў той бок, куды ўцёк Будан-Рыльскі*). Запішы гэта на сваім каінавым лобе!

ЗАСЛОНА

## АКТ IV

Дзея адбываецца ў сяле.
Невялікая круглая плошча пасярэдзіне сяла. На заднім плане, на водшыбе, выглядае сельская цэркаўка. На плошчы пуста. З двара высоўваецца п о п. Выходзіць на край плошчы, запыняецца. Некалькі моманту стаіць моўчкі ў задуменні. Абводзіць вачамі пустую плошчу. Падымае вочы на цэркаўку, моўчкі хрысціцца.

П о п (*б'е кулаком у грудзі*). Божа, міласцівы будзь ка мне грэшнаму! (*Пазірае на царкву, гаротна трасе галавою*). Пустуе, госпадзі, дом твой святы.. У грэх, у шатанскую аблуду папусціў ты народ свой... Вялікі і многаміласцівы божа, дакульжа будзе тваё доўгацярпенне? Асатанеў народ, паслухаў голасу вельзявула большэвіцкага, князя цемры і разбурэння. Не пакінь, госпадзі, улады яго над намі грэшнымі!

(Здалёк выходзіць чалавечая постаць. П о п углядаецца. Чалавек адзеты салдатам, заўважае папа, ідзе да яго).

П о п (*устрывожана*). Што-ж гэта за салдацюга? Ці не агітатар іхны, што-б ён галавою налажыў! Ці гэта які рэквізітар-бандыт?

Ч а л а в е к, а д з е т ы с а л д а т а м (*здалёку*). Маё шанаванне, а. Кандраці!

П о п (*няветла, панура*). Здрастуй! (*Падазрона аглядае салдата*).

Ч а л а в е к, а д з е т ы с а л д а т а м (*падыходзіць, спыняецца*). Не пазналі, да, собственно-да?

П о п (*у радасці*). Арцём Іванавіч!.. Даруйце—не пазнаў адразу. Думаў—рэквізітар большэвіцкі. Ха-ха-ха... Каб не ваша прымоўка, дык і не пазнаў-бы, ісціны бог!

(З-за вугла паказваецца К а р а л і н а. Згледзіўшы папа і Ш ы ш л у, падаецца назад, сама сабе робіць знакі перасцярогі. Спыняецца, прыслухоўваецца да гутаркі, мімікаю рэагуе на яе).

Ш ы ш л а. Я-ж і хачу, каб мяне не пазнавалі. На тое і салдатам пераадзеўся і вусы астрыг. Інкогніта хаджу, да, собственно-да!

П о п. Так, так, я вас разумею, г. Шышла...

(Пры слове „Ш ы ш л а" К а р а л і н а ўздрыгвае, рухам губ вымаўляе „Ш ы ш л а". Стульваецца, уцягвае галаву. На яе твары страх).

П о п (*з горыччу ківае галавою*). Вось да чаго дажыліся мы г. Шышла. Наш сапраўдны вобраз, аблічча наша—цяжар для нас.

Шышла (*таямніча робіць знак, падымае палец, ціха, урачыста*). Не доўга ім панаваць, а. Кандраці. Збіраецца граза на іх галавы... А горладзёраў, грабежнікаў у барані рог скруцім.

(Караліна трасецца ад страху).

Поп (*твар яго праясняецца*). Залатыя словы гаворыце вы, Арцём Іванавіч! Ах, каб гэтыя словы ды госпаду богу ў вушы!.. Навіны якія ёсць?

Шышла (*прыцішана, урачыста*). Вы хутка пачуеце і ўбачыце іх сваімі вачамі, а. Кандраці! А Шышла справу робіць, да, собственно-да!.. (*Мяняе тон*). Скажэце, а. Кандраці, хто завадыякамі быў у разграбленні маёнтка г. Будана Рыльскага... і наогул маю даручэнне экстрана сабраць спраўкі.

Поп (*баязліва азіраючыся*). Зойдзем да мяне, Арцём Іванавіч!

(Поп прапускае наперад Шышлу, азіраецца. Выходзіць Караліна, нясмела выцягвае галаву, глядзіць ім услед, потым ступае крокі два, запыняецца. Стаіць, ківае сама сабе галавою. Грозіць пальцам у той бок, куды пашлі поп з Шышлам. Мімікаю, рухамі выказвае свой страх і нейкія свае мыслі).

Караліна. Шышлі!.. Паліцэйскі цар... А казалі-ж, яго няма! Салдатам ходзіць, салдатам, мае красачкі! А які страшны!.. Пайду, пайду-ж я ад вас далей!.. Хітранькія вы, але і Караліна нябось не дурная (*грозіць кулаком*). Найду я цябе! З-пад зямлі адкапаю, гада печанага! (*Намерваецца ісці. Запыняецца як-бы нешта ўспомніўшы. Углядаецца*). Няма—пахаваліся!.. Ой-жа, хітрыя які я!.. Бачу, бачу вашы хітрыкі! (*Сама сабе ківае галавою, рагоча*). Салдатам ходзіць! З чорнага ў шэранькага перакінуўся! (*Раптам змаўкае, прыкладвае палец да кончыка носа*). Але на што вусы астрыг, красачкі мае вы? Няўжо для таго, каб харашэйшым быць? Вось фацэція!.. Пайду, пайду-ж я ад вас далей!

(Ідзе шпарка, далёка наперад закідаючы палкаю. За сцэнаю чуваць невыразныя галасы гутаркі. Выходзяць дзед Мікіта і Аслаў, прыпыняюцца).

Дзед Мікіта. Пахавалі, чуй, дурань-браце! Яны сабе так думаюць: „А, не да ўпадобы вам былі паны і буржуі, папраганялі нас, дык вось паспрабуйце без нас жыць“. Гэта значыць, чуй, дурань-браце, каб мы ім зноў рукі цалавалі.

Аслаў. А няхай ім лепей сырая зямля вочы зацалуе!

Дзед Мікіта. Людзі-ж, чуй дурань-браце, кажуць, што яны заграніцу сюды заклікаць ладзяцца, каб скінуць большэвікоў і свабоду адабраць.

Аслаў. Ты не зважай, Мікіта! Быў цар, мы што рабілі? Зямлю калупалі! З'явіўся Керэнскі, і зноў-жа панамі нас не парабілі. Цяпер вось большэвікі прышлі, весялей каля зямлі хадзіць пачалі. Але ад зямлі мужыка, покі мужык жыве, ніхто не адарве.

Дзед Мікіта. Ну, гэта, чуй, дурань,-браце, гледзячы, як хто рване.

(*Непадалёку чуецца песня*):

„Сядзіць зайчык на мяжы,
Што ён думае, скажы?
Зайка з поля ў лес бяжыць,
Добра зайку ў лесе жыць".

Дзед Мікіта (*прыслухоўваецца*). Хто гэта, чуй, дурань-браце, вые? Тфу! Як перад пустым канцом!

Аслаў. Хто-ж, як не Караліна! Ды унь яна і сама!

(Паказваецца Караліна. Заўважае Аслава і дзеда Мікіту. Накіроўваецца да іх).

Дзед Мікіта (*ківаючы галавой на Караліну*). Ізноў яна! Ты вось заўваж, Аслаў: ужо колькі разоў прымячаю я, што як толькі пакажацца яна, дык зараз-жа нейкае ліха следам за ёю. Праціўная, чуй, дурань-браце, кабета.

Аслаў. І без яе ліха на свеце многа. Яна па сабе, ліха па сабе.

Караліна (*падыходзіць*). Жывы яшчэ, мужчынкі? Жывеце, жывеце старыя алешыны!

Аслаў. А ты гэта адкуль паўзеш, Караліна?

Караліна. Поўзаю, Аслаўка, поўзаю, галубок! Ёсць ногі, вот і поўзаю, а хлеба людзі дадуць. Ды хлеба, кажуць, няма... А чулі вы, што паліцэйскі цар шэранькім зрабіўся і вусы астрыг. Вось фацэція! Ха-ха-ха! (*заліваецца доўгім дурным смехам*).

Дзед Мікіта (*адварочваецца. Злосна*). Тфу!

Аслаў. А ты, Караліна, хвацка смяешся!

Караліна (*не слухае*). Ды чаго смяюся, як дурная? Тут можа плакаць трэба, а я смяюся!

Дзед Мікіта. Ідзі ты, чуй, дурань-браце, куды ідзеш!

Караліна. Ой, які ганарысты!.. Ты глядзі—кажан лётае! (*Выходзіць*).

Дзед Мікіта (*плюе*). Тфу! чаўпе немаведама што, аж слухаць моташна... І жывуць-жа такія людзі на свеце!

(Бяжыць Гараська).

Гараська (*перапалоханы*). Дзядок! Нейкія салдаты прышлі з афіцэрам! Двары трасуць!

Дзед Мікіта (*устрывожаны*). Якія салдаты? Адкуль?

Аслаў (*палохаючыся*). З афіцэрам? Ну, то дабра не будзе!.. А можа гэта немцы?

(Азіраюцца і бездапаможна топчуцца. За сцэнаю шум. Чуваць тупат конскіх капытоў, брэх і выццё патрывожаных сабак, галасы перапалоханых людзей і крыкі. Чотка даносіцца чыйся начальніцкі голас: „Знасіць на плошчу! Туды-ж вядзі і падбухторшчыкаў!")

Дзед Мікіта. Што-ж гэта ёсць такога?

Гараська. Уцякайма, дзядок, хаваймася!

Аслаў. Вось не было яшчэ ліха!

(Дзед Мікіта, Аслаў і Гараська кідаюцца з плошчы. Нечакана ім дарогу перагараджвае салдат са стрэльбаю).

Салдат *(грозна)*. Стой на месцы!

(Дзед Мікіта, Аслаў і Гараська нямеюць, застываюць на месцы. Уваходзіць Будан-Рыльскі, суровы і грозны. За ім пад канвоем ідуць сяляне, нясуць крэслы, люстэрку, канапку, столікі, каўры і розныя рэчы панскага ўжытку. Трое салдат Будан-Рыльскага вядуць Міхася, Дроба і Гузыра. Зэаду на некаторай адлегласці за імі ідуць жанкі і Наста з імі. Жанкі лемантуюць, прычытваюць. Чуюцца галасы: „За што вы іх пабралі?" „Куды вядзіцё?" „Разбойнікі!" „З немцамі ваяваць не ўмелі, а з жанчынамі ды з безаружнымі дык вы хваты!" Уваходзіць банда ўзброеных людзей).

Будан-Рыльскі. Маўчаць, хам'ё!

(Гараська, убачыўшы бацьку пад канвоем, кідаецца да яго).

Гараська. Тата! Татачка!

Будан-Рыльскі *(заносіць над Гараськай нагайку)*. Назад, шчанюк!

(Гараська з крыкам „а-яй-яй" кідаецца наўцёкі).

Міхась *(не помнячы сябе)*. Не смей біць хлапчука! *(вырываецца з-пад канвоя. Салдаты штурхаюць яго, таўкуць прыкладамі)*.

Будан-Рыльскі *(падносіць к носу Міхася кулак)*. Хам расцугленый! Шпана большэвіцкая! З кім гаворыш? Рукі па швам!

Двед Мікіта. Ды што вы робіце? За што здзекуецеся, катуеце нас?

Будан-Рыльскі *(да дзеда Мікіты)*. Маўчаць, пудзіла старое! *(Узіраецца ў Дроба і Гузыра)*. А, быццам-бы знаёмыя? Слаўныя воіны знамянітай дзевятай роты! Братальнічкі?.. Ух вы, морды.. Я вамі зараз займуся!

(Прыходзіць Шышла, адзеты салдатам. Становіцца каля Будан-Рыльскага).

Будан-Рыльскі *(да натоўпу, іранічна-абразлівым тонам)*. Ну-с, таварр-ішчы! *(Паказвае на знесены хлам)*. Адкуль вы гэта ўзялі? *(паўза)*. Паслухалі большэвіцкіх агітатараў, горладзёраў, лодыраў—забірай, моў, панскае дабро, знішчай паноў і буржуяў, вашых класавых ворагаў. Знішчыце і тады, як гаворыцца, рай будзе на зямлі? *(паўза)*. Дзе-ж ваша сумленне? Дзе розум? Дзе доўг перад айчынай? Краіна разбурана і разгромлена большэвіцкай анархіяй, дэмагогіяй і аддана немцу на разграбленне. Салдацкія банды і матрасня знішчаюць лепшых сыноў айчыны, тых, хто крывавымі слязмі плачуць аб яе лёсе і гатовы аддаць, як гаворыцца, сваё жыццё на алтар яе шчасця. А вы, шкурнікі, чэрві, несвядомае быдлё, у труну кладзеце няшчасную Расію! Хіба для вас свабода? Яшчэ мала вас білі, каб даць вам свабоду!.. Вы думаеце, што мне шкода

гэтага барахла? (*Паказвае на энесены хлам*). Ды я плюю на яго! (*Хватае шаблю, матлошыць ёю па століках і крэслах. Спагнаўшы свой патрыятызм, зварачваецца зноў да натоўпу*). Так мы будзем выбіваць большэвіцкі дур з вашых галоў! Ці вы думаеце, што вашаму своевольству не будзе граніцы і канца? (*Грозна абводзіць вачамі натоўп*). А цяпер мой суд і пакаранне! (*Дастае спісак, выклікае па спіску*). Міхась Мікітаў Таміла! (*Міхась не адклікаецца*).

Шышла (*да Міхася*). Чаго маўчыш?.. Унь ён, г. капітан. (*Паказвае на Міхася*).

Будан-Рыльскі (*аглядае Міхася*). Трымаць пад самым строгім канвоем! Павал Сымонаў Дроб!

Дроб (*апаўшым голасам*). Я.

Будан-Рыльскі. Андрэй Грыгораў Гузыр?

Гузыр. Я.

Будан-Рыльскі. Брагальнічкі! (*да канвойнікаў*). Адвесці ўсіх трох у бок і чакаць майго прысуду!

Канвойнікі (*да арыштаваных*). Ну, ідзі!

(Арыштаваных штурхаюць, адводзяць. Жанкі падымаюць лямант. На іх замахваюцца прыкладам, адціскаюць. Прыходзіць поп, строгі і суровы. З натоўпу выціскаецца бабка Тацяна, кідаецца ў ногі Будан-Рыльскаму).

Бабка Тацяна. А паночак! А даражэнькі! Злітуйцеся! Куды ж іх вядуць!.. Даруйце ім! (*Кідаецца да папа*). Заступецеся хоць вы, бацюшка!

Поп. Не маё дзела ўмешвацца ў мірскія справы... Якою мераю мерыце, такою адмерыцца і вам.

Шышла. Не замінай, старая: суд ідзе! (*Ківае Будан-Рыльскаму на Аслава і дзеда Мікіту*).

Будан-Рыльскі. Узяць і гэтых дамарослых мудрацоў і ўсыпаць па пятнаццаць шампалоў кожнаму. (*Салдаты кідаюцца на іх*).

Дзед Мікіта (*адбіваецца*). Смярдзюхі вы, чуй, дурань-браце! Куды лезеце?

(Дзеда Мікіту валяць на зямлю. У гэты час на званіцу шыбуе Гараська. Залазіць і звоніць. Заглушаючы шум, далятае глухі, надрэснуты пажарны звон. Гукі яго нагадваюць словы: „гвалт! гвалт! гвалт!“ Будан-Рыльскі і яго салдаты палохаюцца. Сярод іх замінка).

Будан-Рыльскі (*у грозным тоне хаваючы страх*). Хто распарадзіўся падымаць трывогу?

Чыйся голас. Падпалілі нас! (*Агульны рух. Праз плошчу, як мага, бяжыць салдат са стрэльбаю. Здалёк крычыць: „Г. капітан, ратуйцеся: чырвоная гвардзія акружае нас! (Кідае вінтоўку, на бягу скідае шынель, уцякае*).

Будан-Рыльскі (*пакідае ролю суддзі, адбягаецца на плошчу расстаўляе рукі, падае каманду*). Салдаты, ка мне! На коні!

(Дзесь за сялом зататакаў кулямёт. Сярод салдат Будан-Рыльскага паніка. Канвойнікі кідаюць арыштаваных. Міхась накідваецца на канвойніка, валіць на зямлю, вырывае

вінтоўку. Агульная сумятня. Народ разбягаецца. З розных краёў плошчы паказваюцца байцы, адзетыя, як папала: у шынелях, у скураных куртках, з гранатамі за поясам і з кулямётнымі пасамі праз плячо. Дзед Мікіта падымаецца з зямлі, недаўменна аглядаецца. Будан-Рыльскі, пакінуты сваімі салдатамі, пускаецца наўцекі. За ім бяжыць Шышла, потым зварачвае ў другі бок. За сцэнаю голас: „Стой, рукі ўгору!" Чуваць стрэл з нагана. Валтузня, тупат людскіх ног. Голас: „Марная твая справа, капітан!" Уваходзіць з ваяўнічым відам Патап, за ім, панура звесіўшы галаву, бледны, без шапкі і безаружны ідзе Будан-Рыльскі пад канвоем двух матросаў. На сцэне астаюцца Наста, бабка Тацяна, дзед Мікіта, Міхась Аслаў, Дроб, Гузыр, некалькі мужчын і жанчын).

Патап (*спыняецца, паказвае рукою на канапку*). Прашу садзіцца, капітан! (*Будан Рыльскі панура машынальна садзіцца. Патап аглядае а навяскоўцаў, весела*). Здарова брацішкі, дзядзькі і цёткі! (*Момант недаўменнага маўчання*).

Голас. Ды гэта-ж Патап Думака!

Міхась, Гузыр, Дроб (*разам*). Патап! Родны! Браток! (*Акружаюць яго, радасна паціскаюць яму руку*).

Дзед Мікіта (*у радасным парыве*). Збавіцелі нашы! (*Абнімае Патапа, выцірае вочы*).

Бабка Тацяна. Што-ж гэта творыцца на свеце!

Наста. Божа-ж мой, што яны хацелі рабіць з намі.

Аслаў (*паказвае на Будан-Рыльскага*). Гэта пан начальнік, разбойнік гэты, збіраўся да сценкі ставіць тут. А нам, нядошлым і старым, мне і Мікіце, прысудзіў па пятнаццаць шампалоў! Дзіця нагайкаю сек!.. За што? Я пытаюся... Эх, Патапе, помню пытаўся ты: навошта поп і паліцэйскі стражнік?.. А навошта (*паказвае на Будан-Рыльскага*) азіят гэты?

Голас. Гэта ўсё адна хэўра.

Другі голас. Камень яму на шыю ды ў бухту!

Будан-Рыльскі (*панура апускае галаву, потым падымае вочы*). За маё ўніжэнне адкажаце перад законнаю ўладаю!

Дзед Мікіта (*трасе галавою*). Ці бачылі, якая цаца! (*Сярдзіта насядае з кулакамі*). Маўчы, чуй, дурань-браце, бо вось зараз пляcну табе ў морду!

Патап. Разбяромся, таварышы, па справядлівасці разбяромся!..

(Уваходзяць Алесь і Дзяменя. За імі чырвонагвардзеец вядзе Шышлу. Збіраецца натоўп народу).

Алесь. Далучыць гэтага бандыта да яго атамана! (*Зварачаецца да народу*). Здарова, таварышы!

Галасы. Александр Пятровіч!

Гузыр. Прафесар!

Дроб. Наш настаўнік!

Дзед Мікіта. Кватарант наш! Родны ты мой, чуй, дурань-браце!

Алесь. А запытайцеся, таварышы, атамана шайкі, царскага афіцэра і былога земскага начальніка—вось ён сядзіць на сваёй ўласнай канапцы, дзе ваша настаўніца, Марына Мікалаеўна?

(Будан-Рыльскі панура захоўвае маўклівасць)

Дзяменя. Адзін яе забойца злоўлен. Вот ён! (*Паказвае на Будан-Рыльскага*). Другі жыве сярод вас і моліцца за збавенне нашых душ! А трэці дзе? Дзе Шышла, што быў тут ураднікам.

Аслаў. Ён сынку, яшчэ да рэволюцыі знюхаў, чым вецер павявае і сышоў адгэтуль, як прусак перад пажарам.

(Шышла сядзіць ні жывы, ні мёртвы. Прыбягае Гараська, узрушаны і радасны).

Гараська (*горда*). А гэта я злётаў на званіцу ды ў пажарны звон лупянуў. Каб людзі збіраліся і ратавалі нас. Вот яны і прышлі! (*Смяецца радасным смехам*).

Галасы. Маладзец Гараська! Растаропны хлопец!

Матрос (*сурова*). Што-ж мы, таварышы, тут будзем у пачэснай варце стаяць? Пара зімі (*паказвае на палонных*) канец рабіць.

Голас. Судзіць іх.

Гузыр. Які тут суд? Я яго, сукінага сына, яшчэ на пазіцыях на штык хацеў пасадзіць, ды вы, таварышы, утрымалі мяне... А шкода!

Дзед Мікіта. Тут нядаўна бацюшка нам сказаў: „якою мерою вы мерыце, такою адмераюць і вам“. Вось трэба ім адмерыць так, як збіраліся яны, чуй, дурань-браце, адмерыць нам.

Голас. Правільна!

Патап. Мы, таварышы, салдаты рэволюцыі, а суд—не наша чыннасць. Ёсць асобныя органы пролетарскай дыктатуры. Яны і будуць судзіць іх. Пустазел і шкодныя расліны трэба вырываць з карэннямі, і там гэта лепей зробяць. Браць-жа прыклад з белагвардзейскіх бандытаў не будзем. (*Да Будан-Рыльскага*). Дык так, грамадзянін Будан-Рыльскі! Вы абяцалі пагаварыць з намі. Гаварылі мы на фронце, ды ўсяго не дагаварылі... Вашай асобы ўстанаўліваць тут не будзем: у чэка аб вас сабраны матэрыял багаты. Вас трэба было толькі злавіць. Вашых-жа апрычнікаў мы тут выяснім.

Будан-Рыльскі. Прашу натацый мне не чытаць і не абражаць мяне!

Алесь (*з ненавісцю пазірае на яго*). Хіба можна абразіць забойцу і бандыта?..

Патап (*да матросаў*). Вывядзіце яго адгэтуль, таварышы, каб не мазоліў нам вачэй, ды пільнуйце яго крэпка!

(Будан-Рыльскага выводзяць. Натоўп праваджае яго шумам і пагрозамі: „Тут бы прыкончыць яго“! Уваходзіць Караліна, апіраецца на доўгі кій, запыняецца, углядаецца ў людзей).

Караліна. Колькі народу, людцы мае мілыя! Знаёмыя і незнаёмыя. Вот люблю, калі многа народу збіраецца!

Дзед Мікіта. Ціха ты!

Караліна. Ой, які ты ганарысты! Дай-жа і мне паглядзець! (*Узіраецца ў Шышлу, заліваецца смехам*). Ха-ха-ха! Паглядзеце-ж які ён смешны!

Дзяменя. Хто, цётка, смешны?

Караліна. Ну, хто-ж? Ён—цар паліцэйскі. (*Шышла курчыцца*). Быў чорны, а зрабіўся шэранькі. І вусы астрыг. Думае, што так харашэй... Фацэція ды годзі!

Дзяменя. Пакажы, пакажы нам, цётка, цара паліцэйскага!

Караліна Баюся, міленькі! Ён-жа нагайкай біў мяне і шаблю хацеў .засеч... Унь ён! (*Паказвае на Шышлу*).

Шышла (*змяніўшыся ў твару*). Што ты клеплеш на мяне? Які я табе цар паліцэйскі, да, собственно-да?

Дзед Мікіта. Задакаў, чуй, дурань-браце! Да, гэта ён, Шышла-дакала!

Міхась. А дык вось яно што!.. А я гляджу, адкуль ён мяне ведае.

Галасы. „Фараон!“, „Ад'ютант Рыльскага!“, „Спіскі падаваў яму!“

Дзяменя (*да Шышлы*). А ну, дзядзька, пакажыся! (*Углядаецца ў Шышлу. Шышла апускае вочы*).

Галасы. Ён! ён! От прычапі яму толькі вусы, дык і цэлы Шышла.

Шышла. Гаспада таварышы! Я не Шышла, ей богу не Шышла! То быў другі Шышла. Я—Кандрашкевіч! Так і ў пасведчанні значыцца, да... (*спыняецца*).

Дзяменя. Дагаворвай ужо—„собственно-да!“

(Шышла дастае дакумант. Разам з дакумантам няўмысля—вымае паперку, хапаецца, хоча схаваць яе).

Дзяменя. Давай, давай! Усё паказвай! (*Забірае паперы, аддае Алесю*).

Алесь (*разгортвае, чытае*). „Копія. Спісак ліц сяла Загаруйкі, каторыя замешаны ў разграбленні маёнтка г. Будан-Рыльскага“. Ты пісаў спісак?

Шышла (*бянтэжыцца*). Не... не я!.. Гэта не я пісаў!

Алесь (*вымае з кішэні пакет, дастае лісток спісанай паперы, падносіць яго к шышлаваму носу*). Пазнаеш гэты дакумант—„яго высокаблагароддзю г. прыставу стана“. (*Шышла пазірае, садрыгаецца, маўкліва апускае галаву*). Што-ж маўчыш. (*Зварачаецца да народа, падымае спісак і допіс прыставу*). Таварышы! Адна рука, рука даносчыка, шпіёна, закаранелага ворага пісала і спісак гэты і гэты данос на мяне і на настаўніцу Марыну Мікалаеўну. Ён перахваціў нашы пісьмы, украў іх, як злодзей са стала Марыны Мікалаеўны.

Шышла (*падае на калені*). Даруйце мне, таварышы!

Галасы абурэння. К сценцы яго! Застрэліць даносчыка! (*Шышла стульваецца, замаўкае*).

Алесь (*трасе пакетам*). Вот, таварышы дакуманты чалавечай пакуты, крыві і слёз! І гэта ўсё, што асталося мне на памяць аб самым блізкім для мяне чалавеку!.. Вось часцінка жудаснай аповесці пра барацьбу супроць нашай праўды. (*Паўза*). Таварышы! Людзі, што жылі гэтай праўдай, часта гінулі за яе, але думка аб праўдзе жыве. Праз паліцэйскія засценкі, праз

турмы, выгнанні, высылкі, катаргі, праз слёзы і кроў ішла яна тысячамі дарог, каб вывесці нас з адвечнай цемры, нуды, галечы. Мы заваявалі яе сваёю кроўю. Мы напісалі яе сёння агнявымі літарамі на большэвіцкіх штандарах. Яна засланіла вочы панам, гандлярам усіх прафесій і яны зноў намагаюцца закавáць яе ў кайданы і нас разам з ёю. Усе гэтыя Буданы-Бруданы, земляўласнікі і прамыслоўцы іх паслугачы гавораць аб айчыне, аб вялікіх абавязках перад ёю... Ім шкада маёнткаў, фабрык, заводаў, улады свае над намі... Зірніце на гэты хлам, успомніце гэты бандыцкі налёт—вось чаго ім шкода! Вось якіх абавязкаў і правоў яны дамагаюцца! Ці-ж мы, таварышы, дазволім, каб ад нас адабралі нашу праўду, волю, аблітую слязмі і кроўю? Вайна за нашу волю, за наша шчасце не скончана, яна толькі пачынаецца. (*Змаўкае*).

Патап. Таварышы! Мы спыніліся тут не надоўга. Мы вельмі рады, што прышлі сюды ў часе і захапілі гэту белабандыцкую шайку. Яна не міне сваёй кары. Але задача нашага атрада не выпаўнена. Нам вядома, што на поўдзень прабіраецца цэлы эшалон такіх-жа бандытаў. Мы павінны перасеч ім дарогу і абясшкодзіць іх, а вы, таварышы, памажэце нам. Для нас дораг кожны баец, кожны фунт хлеба... Які будзе ваш адказ, таварышы?

Бабка Тацяна. Ох, галубкі мае, ізноў вайна! Дык калі-ж ёй канец?

Голас. Ізноў мабілізацыя!... Ох, ты, гора наша!

Міхась. Мабілізацыя? Ды яна наша, свая мабілізацыя!.. Стаялі ўжо пад расстрэлам, ізноў паставяць, калі будзем сядзець ды на каго спадзявацца... Запішы мяне ў чырвоную гвардыю!

Гузыр. І мяне пішы!

Дроб. А я што? Цяля ў бога ўкраў? Пішы, брат, і я з вамі!

Дзяменя (*падбягае да запісаўшыхся*). Браткі мае, арлы баявыя! Разам будзем крышыць белую костку! Завінемся, дык знай нашых.

Галасы з натоўпу. Запісвай!.. І мяне пішы! (*Настрой падымаецца. Чуюцца галасы: „Самі за сябе ваяваць будзем!"*)

Аслаў (*выціскаецца з натоўпу, махае рукамі*). Дайце мне сказаць.

Алесь. Слова дзядзькі Аслава!

Аслаў. Праводзіў цар мабілізацыю, дык і поп яму памагаў. Ён памагаў і Будан-Рыльскаму, калі той пад расстрэл ставіў нас, пад шампалы. Прасілі яго заступіцца, дык кажа, у мірскія справы не ўмешваюся! Дзе-ж ён цяпер дзеўся?

Галасы. Забраць доўгагрывага! Прышпіліць да Шышлы і Рыльскага-Будана: усе яны—адзін сатана!

Алесь. Правільна, таварышы!

Гараська (*падыходзіць да Алеся*). І я хачу на вайну. Запішэце і мяне!

Алесь (*кладзе яму руку на плячо*). Эх, міляга! ладны ты хлопец, ды без бацькавага дазволу не можам узяць.

Дзед Мікіта. А з кім-жа я застануся? Ты-ж у нас цяпер адзін гаспадар дома, чуй, дурань-браце!

(Па вуліцы чувацъ гармонік. Ідзе Дроб, сабраны ў дарогу, у шынелю і з салдацкаю сумкаю. Праз плячо надзета салдацкая труба. Дроб іграе на гармоніку вясёлы матыў).

Патап (*скідае шапку*). Таварышы, у паход! Камандзіры па мясгах! Пратрубі, Паўлюк, збор.

(Паўлюк бярэ трубу, трубіць збор. Чырвонагвардзейцы збіраюцца, строяцца ў калону. Выводзяць Будан-Рыльскага і Шышлу пад канвоем).

Галасы. Далоў афіцэраў! Далоў паліцыю! Смерць буржуям!

(Калона рухаецца, ідзе. Алесь, Дзяменя, Патап, знімаюць шапкі, махаюць ім на развітанне. Галасы: „Шчасліва аставацца!“ „Шчаслівай дарогі!“ За калонаю чырвонай гвардыі ідзе народ. Ужо за сцэнаю грыміць песня пад заліхвацкі посвіст і акампанімент гармоніка).

Запявала:
Рушым дружна грамадою
На паноў у свой паход,
Скончым з панскаю ардою
І адвечны знішчым гнёт!

Хор:
Эй, гарніст, іграй паход!
Дружна, армія, ўпярод!

Запявала:
Разгарні ты, люд рабочы,
Сілу, волю ва ўсю шыр,
Зграі рознай патарочы
Улажы навекі ў жвір!

Хор:
Эй, гарніст, іграй паход!
Смела, ратнічкі, ўпярод!

Запявала:
Узнімайся, сцяг чырвоны,
Ды ўгары агнём шугай,
І над светам паланёным
Ясным сонцам заіграй!

Хор:
Эй, гарніст, іграй паход!
Дружна, армія, ўпярод!

Запявала:
Развязаў нам Ленін вочы,
Расказаў, дзе шчасце, мір.
Разгарніся-ж, люд рабочы,
Ва ўсю моц сваю і шыр!

Хор:
Эй, гарніст, іграй паход!
Грамада, валі ўпярод!

Песня аддаляецца, заціхае. Астаюцца бабка Тацяна, Аслаў і дзед Мікіта. Паказваецца Караліна.

Караліна (*запыняецца, апіраецца на палку, развакліва*). Колькі народу!.. Адкуль ён бярэцца?.. Салдацікі!.. І цара паліцэйскага павялі, павялі, красачкі мае! Вось фацэція! (*Рухаецца павольна праходзіць. Бабка Тацяна стаіць у гаротнай постаці, сама сабе ківае галавою*).

Бабка Тацяна. Зноў асталіся мы адны!..

Аслаў. Пашлі нашы саколікі, наша войска!.. Няхай-жа нам будзе радасць і доля!

Дзед Мікіта (*з усмешкаю глядзіць на Аслава, журботнаківае старою галавою*). Эх, Аславе, Аславе! Няма—адышла, мінулася наша маладосць! А то і мы пашлі-б, пашлі-б, чуй, дурань-браце, разам з імі! Здабываць сабе долю і вольнае жыццё. Эх! Старасць!

*ЗАСЛОНА.*

*П. Пасюкевіч*

# ВЯЛІКІ МАЙСТАР МАСТАЦКАГА СЛОВА

*(Да трыццацігоддзя літаратурнай дзейнасці народнага паэта БССР Якуба Коласа)*)*

Дазвольце перадаць шчырае большэвіцкае прывітанне нашаму слаўнаму юбіляру, народнаму паэту Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі Якубу Коласу.

Сёння Совецкая Беларусь—рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, вучоныя і вучні, партыйныя і комсамольскія арганізацыі, совецкая інтэлігенцыя—адзначаюць выдатную дату—трыццацігоддзе літаратурнай дзейнасці аднаго з лепшых прадстаўнікоў беларускага мастацкага слова, народнага паэта Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі—Якуба Коласа.

Якая гіганцкая гістарычная дыстанцыя паміж той цёмнай парой царскага самаўладства, калі Канстанцін Міхайлавіч прыйшоў у беларускую літаратуру, і шчаслівай эпохай Сталіна, калі юбіляр пачынае чацверты дзесятак год творчай літаратурнай дзейнасці. Адыйшлі ў мінулае сумныя журботныя песні прыгону. Радасна і весела жыве цяпер беларускі народ. Ён ганарыцца поспехамі сваёй соцыялістычнай будоўлі, росквітам сваёй совецкай культуры. У дні, калі ўся наша краіна вітае вялікую сталінскую канстытуцыю, асабліваю радасць і ўрачыстасць перажываюць народы, гісторыя якіх запоўнена крывавымі старонкамі прыгнёту і падняволля. Толькі Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя і ленінска-сталінская нацыянальная палітыка адчынілі беларускаму народу шырокі шлях да нацыянальнага росквіту.

Сталінская канстытуцыя радаснай песняй гучыць над усім светам. Негры, індусы, кітайцы, абісінцы і ўсе прыгнечаныя імперыялізмам народы ўздымаюць, як сцяг барацьбы, словы сталінскай канстытуцыі: „Уся ўлада належыць працоўным горада і вёскі, жанчына роўная ў правах з мужчынай, усякае распальванне расавай, альбо нацыянальнай нянавісці і зневажання караецца законам“ і г. д.

Самыя смелыя мары чалавецтва заключаны ў гэтым законе, складзеным вялікім правадыром працоўнага чалавецтва—таварышам Сталіным. Праца атрымала перамогу над паразітамі—багацеямі і над усімі, хто ім дапамагаў—папамі і лакеямі ад навукі і мастацтва.

---

*) Даклад, прачытаны на ўрачыстым сходзе 11/X—36 г.

Нелішне ўспомніць у сувязі з гэтым верш Якуба Коласа пра канстытуцыю царскага рэжыму, напісаны ім у 1908 годзе.

Канстытуцыю далі;
Адчынілі дзверы.
У астрог нас павялі
І таўкуць без меры...

Сын селяніна-лесніка, прайшоўшы ў дзіцячых гадах суровую школу жыцця ў абставінах беларускай вёскі, Якуб Колас не толькі бачыў увесь жах жыцця вёскі, забітай, задушанай паліцэйска-памешчыцкім ладам царскай Расіі, але і сам адчуваў яго ў сваім асабістым жыцці. Выхаванец настаўніцкай семінарыі і потым настаўнік пачатковай вясковай школы Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, які выступаў у прозе пад прозвішчам Тараса Гушчы, аб'ездзіў беларускія пушчы; ён бачыў многа нядолі і гора дарэвалюцыйнага беларускага народу. Вёска і вясковы быт сялян былі жывымі крыніцамі, з якіх пісьменнік чэрпаў свае вершы. Таму яго вершы, яго песні ў той час носяць галоўным чынам характар жальбы.

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Так гаворыць пра сябе Якуб Колас з першых крокаў сваёй паэтычнай дзейнасці яшчэ ў 1904 годзе.

Рэвалюцыя 1905 г., калі працоўнае сялянства на чале з пролетарыятам, як гегемонам рэвалюцыі, паўстала супроць царскага самаўладства, калі прыгнечаныя працоўныя масы былі ўцягнуты ў рэвалюцыйны нацыянальна-вызваленчы рух, паэт знайшоў сілу свайго таленту, стаў сапраўдным песняром рэвалюцыйна-сялянскай дэмакратыі. Яго вершы спалучаюць у сабе рэалістычны паказ цяжкога жыцця сялянства з заклікам да барацьбы:

Багачы і панства
І вы, ўсе брадзягі,
У бок з дарогі, каты,
Бойцеся сярмягі.
Ўжо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.

(1906 г.).

Такіх вершаў ў Якуба Коласа было шмат. У іх паэт мастацкімі вобразамі заклікаў беларускі народ да соцыяльна-нацыянальнага вызвалення. Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі абудзіла сярод нацыянальна-прыгнечаных народаў былой царскай Расіі нацыянальна-вызваленчы рух за сваё вызваленне з-пад нацыянальнага ўціску.

У выніку рэвалюцыйна-дэмакратычных настрояў і дзеянняў (удзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе) Якуба Коласа садзяць у менскую крэпасць, куды паэт трапляе ў 1908 г., асуджаны царскім судом на 3 гады турмы.

Паэт у астрозе на першых парах не пакідае заклікаць да рэвалюцыйнага пратэсту. Гэта асабліва яскрава падкрэслена ў такім вершы, як „Покліч“, напісаны паэтам у 1909 годзе і накіраваны супроць тых, хто пад уплывам рэакцыі адыходзіў ад рэвалюцыі.

Гэй, чуеце, хлопцы? дзе, вы, скажэце?
Развеяны ветрам па беламу свеце.
Па ўсіх вы куточках маўчком распаўзліся,
Ад думак даўнейшых сваіх адракліся.
Забылі вы песню пра вольную волю,
Змаганне за шчасце, за лепшую долю.
Адспявана песня бясследна прапала,
Бо хлеба скарынка язык вам звязала.
І нізка прыгнула вас першая бура—
Ацеслівa, хлопцы, знаць, ваша натура.
І тыя ярэм'і, што вы асмялі,
Вы зноў-жа пакорна на шыі паклалі.

Рэвалюцыйны рух беларускага сялянства нельга зразумець незалежна ад рэвалюцыйнага руху ўсёй былой царскай імперыі. Для Я. Коласа рэвалюцыя 1905 г. павінна была адыграць рашаючую ролю ў справе фармавання свядомасці паэта. Больш таго, мы павінны падкрэсліць яшчэ адну асаблівасць—гэта ўплыў на паэта лепшых прадстаўнікоў класічнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай літаратуры рускага народу: Пушкін, Кальцоў, Гогаль, Некрасаў, Шэўчэнка і Горкі—вось настаўнікі Коласа. Контррэвалюцыйныя нацдэмаўскія літаратуразнаўцы ў лепшым выпадку замоўчвалі гэты фак

Колас у першы перыяд сваёй творчасці напісаў шмат вершаў, якія былі насычаны палітычным і соцыяльным пратэстам, яны пранікалі ў глухую беларускую вёску, як пракламацыі. У адным з вершаў паэт звяртаецца да „багачоў і панства“ з запытаннямі:

Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі,
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

І заклікае на суд „катаў і зладзеяў“.

Трыццаць гадоў Якуб Колас аддаў служэнню справе беларускай мастацкай літаратуры. Гэта была не лёгкая прагулка, а суровая школа класавай барацьбы. Былі гады яркага ідэйна-творчага ўздыму, але былі і гады заняпаду, гады ідэйнага і творчага надлому паэта. Ужо ў 1907—1908 гг. сярод бадзёрых рэвалюцыйных строф Я. Коласа трапляюцца радкі, якія сведчаць аб ідэйнай разгубленасці паэта, аб тым, што Колас адчувае сябе адзінокім.

Безумоўна, паэту ў надзвычай складанай абстаноўцы таго перыяда—рэвалюцыя 1905 года, потым—наступіўшая рэакцыя, уплыў беларускіх контррэвалюцыйных буржуазных нацыяналістаў, якія абкружалі ўвесь час паэта і абвінавачвалі яго ў абмежаванасці матываў яго першых рэвалюцыйна-дэмакратычных песень—цяжка было разабрацца, не будучы ўзброеным марксісцка-ленінскім светапоглядам. Большэвіцкая партыя была той адзінай партыяй пролетарыята і ўсіх эксплаатуемых, якая, выкрываючы меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў, нацыяналістаў і іншых, прыслужнікаў буржуазіі,

змагалася за рэвалюцыйны шлях развіцця Расіі, за поўнае знішчэнне рэвалюцыйным шляхам феадальных парадкаў, за расчыстку шляху социялістычнай рэвалюцыі. Хістанне пісьменніка, якое мы назіралі на працягу яго літаратурнай дзейнасці, ёсць адлюстраванне вельмі складаных і супярэчлівых умоў барацьбы класаў у Беларусі, калі рад контррэвалюцыйных партый і груповак імкнуліся затушаваць класавую барацьбу, выступаючы пад фальшыва-нацыянальным сцягам.

У сваёй вялікай паэме „Новая зямля“ (пачала пісацца ў 1911 г. і закончана ў 1923 г.) паэт хоча паказаць шляхі выхаду з галечы беларускай вёскі і яе мужычкоў. Яго „герой“ селянін Міхайла імкнецца да „сваёй зямлі“, „купіць зямлю“, „нажыць свой кут“. Хаця ў гэтым творы пісьменніка і трапляюцца высокапаэтычныя зарысоўкі беларускіх пейзажаў, але гэта ўжо толькі лірычныя адступленні, а па сутнасці ў творы праводзіцца рэакцыйная ідэя моцнагаспадарчага мужычка...

Яшчэ ў большай меры Колас адыходзіць ад рэалізма і ад рэвалюцыйнай дэмакратыі ў паэме „Сымон музыка“, на якой адчуваецца моцны ўплыў беларускага нацыяналізма. Мастацкая літаратура—адна з вострых зброй класавай барацьбы. Контррэвалюцыйныя беларускія нацдэмы імкнуліся ўсякім чынам, пускаючы ў ход ашуканства, правакатарскія хітрыкі, зладзействы і жульніцтва, зацягнуць паэта ў свой лагер.

Калі ў перыяд рэвалюцыі 1905 г. Якуб Колас здолеў спалучыць соцыяльную барацьбу з барацьбой за нацыянальнае вызваленне беларускага народу, дык пазней, знаходзячыся ў палоне беларускіх нацыяналістаў, ён неспрыяльна паставіўся да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта тлумачылася ўплывам беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якім доўгі час удавалася трымаць пісьменніка ў сваіх нацыяналістычных сецях.

Подлыя вырадкі, прадажныя псы польскіх і нямецкіх імперыялістаў—беларускія контррэвалюцыйныя нацыянал дэмакраты здраджвалі і прадавалі інтарэсы працоўных Беларусі. З'яўляючыся непасрэднымі агентамі польскай дэфензівы і германскай контррэвалюцыйнай разведкі, атрымліваючы адтуль інструкцыі, яны вялі шпіёнскую работу супроць рабочых і сялян Беларусі. Беларускі народ пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі выкрыў усе махінацыі контррэвалюцыйных нацыяналістаў, „выгнаў гэтых прадажных сабак і выкінуў іх на сметнік гісторыі“. Паны контррэвалюцыйныя нацдэмы пралічыліся, калі яны думалі канчаткова зацягнуць у сваё нацыяналістычнае балота такіх мастакоў слова, вышаўшых з асяроддзя беларускага народу, як Янка Купала і Якуб Колас. Пад уплывам гіганцкіх перамог соцыялістычнага будаўніцтва, перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і нябачанага росквіту беларускай культуры, соцыялістычнай па сваіму зместу і нацыянальнай па форме, лепшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас канчаткова рвуць з нацдэмамі і назаўсёды пераходзяць на бок пролетарыята.

Сакратар ЦК КП(б)Б тав. Гікало, выступаючы на нарадзе з беларускімі пісьменнікамі—удзельнікамі ўсесаюзнага з'езду, сказаў: „Вазьміце сёння Янку Купалу, Коласа, заслужаных, старых пісьменні-

каў, я думаю, што маю права за іх сказаць: „яны становяцца іншымі людзьмі ў палітычных і іншых адносінах“. І гэта сапраўды так, аб гэтым у поўнай меры сведчыць уся далейшая праца Якуба Коласа і Янкі Купалы.

На бок пролетарыята, на бок рэволюцыі, на бок совецкай улады пераходзяць усе лепшыя людзі з інтэлігенцыі, не толькі тыя, якія знаходзяцца ў Совецкім Саюзе і самі пераконваюцца ў перамозе соцыялізма, але і тыя, якія знаходзяцца ва ўмовах буржуазнага грамадства і буржуазнай культуры, усвядоміўшы ўсё вялікае значэнне перабудовы грамадства на соцыялістычны лад. Асабліва яскравым з'яўляецца пераход на пазіцыі рабочага класа майстроў мастацкай літаратуры. Наступ фашызма і абвастрэнне класавых супярэчнасцей, пагрозы вайны і рост імперыялізма вядуць у рады саюзнікаў пролетарыята лепшых прадстаўнікоў мастацкага слова, такіх буйных мастакоў, як Ромэн Ролан, Андрэ Мальро, Марцін Андэрсен-Нексе і іншыя, не гаворачы аб тых, якія цесна звязалі свой лёс з рабочым класам і комуністычнай партыяй (Анры Барбюс, Іоганес Бехер і інш.). Фашызм руйнуе культуру, па-варварску нішчае культурныя каштоўнасці, створаныя на працягу гісторыі чалавецтва і асуджае працоўныя масы і працоўную інтэлігенцыю на „беспрасветнае невуцтва і галечу“. Гэтаму яскравы прыклад—грамадзянская вайна, якая адбываецца ў Іспаніі. Цёмныя сілы фашыстоўскай рэакцыі з дапамогаю замежных бандытаў—германскіх, італьянскіх і партугальскіх фашыстаў—хочуць патапіць у крыві іспанскага народу нядаўна заваяваную ім дэмакратычную рэспубліку і задушыць рух рабочых, сялян і дэмакратычнай інтэлігенцыі за сваю свабоду, за зямлю, за інтарэсы працоўных мас Іспаніі. Разам з усімі народамі нашай вялікай радзімы мы выказваем сваю братнюю салідарнасць з гераічнымі барацьбітамі іспанскага народу супроць фашыстаў.

Мастацтва гасне ў краінах фашыстоўскай дыктатуры, вялікае мастацтва можа з'явіцца і жыць толькі на аснове вялікіх ідэй, хвалюючых шырокія народныя масы.

Працоўныя БССР пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра народаў таварыша Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, дасягнулі велізарных поспехаў у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка ў цесным саюзе з іншымі братнімі рэспублікамі пры дапамозе ўсяго Совецкага Саюза пераможна прайшла шлях ад калоніі рускага царызма, якую аплакваў калісьці паэт, да рэспублікі ордэна Леніна. Усё гэта абумовіла беспаваротны пераход Якуба Коласа на бок соцыялізма. У радзе апошніх вершаў паэт становіцца песняром Совецкай Беларусі, якога любіць і паважае беларускі народ, калгасная і рабочая моладзь, вучні і совецкая інтэлігенцыя.

Паэт становіцца на шлях абвяржэння таго, што ён раней лічыў адзіным выхадам і асновай жыцця.

„Мая зямля“, „мой поплаў“,
„Мой луг“, „мой конь“, „мае каровы“,
Злінялыя старыя словы,
Пара, пара даць сэнс ім новы,
Змяніць іх час на „наш“ і „наша“.

Паэт адгукаецца на ўсе важныя падзеі ў Совецкім Саюзе з пачуццямі захаплення і радасці; паэт прысвячае свае вершы совецкім героям—лётчыкам.

З вялікай нянавісцю да праклятых ворагаў з трацкісцка-зіноўеўскага лагеру паэт піша верш памяці Сяргея Міронавіча Кірава.

Якуб Колас за апошнія гады разгарнуў свой вялікі талент празаіка. Яго аповесць „Адшчапенец“ якая паказвае калектывізацыю ў БССР, ёсць яскравы творчы дакумент пераходу пісьменніка да совецкай тэматыкі.

Адным з твораў, які можа быць пастаўлен у першыя рады беларускай совецкай прозы—з'яўляецца твор Якуба Коласа „Дрыгва“. Палеская пушча зноў стала тэмай для Якуба Коласа, але зусім у іншым сэнсе і ў іншай абстаноўцы. Гэта не тая „самабытная“ пушча, ад балот якой „патыхала нейкім невыразным смуткам“, дзе „жыццё стварыла свае асобныя формы“ (так пісаў Колас у творы „У палескай глушы“).

Палеская пушча, глуш, у аповесці „Дрыгва“ ператварылася ў арэну змагання, дзе „слаўтыя палешукі“ вялі класавую барацьбу, аддавалі сваё жыццё, абараняючы соцыялістычную радзіму ад нападу польскіх паноў і інтэрвентаў.

Ой, вы, пушчы нашы, ой, ты, наша поле...
Вы яшчэ не знаді гэткай горкай долі,
Але банду белых польскіх легіёнаў
Выгнала адвага арміі Чырвонай.

Так пішуць пра гэты перыяд беларускія пісьменнікі, у тым ліку і Якуб Колас, у лісце беларускага народу да таварыша Сталіна.

З вялікаю цікавасцю чытае беларуская моладзь гераічную аповесць аб тым, як сялянская бедната Палесся ўзнялася супроць белапольскіх паноў і бандытаў і як стыхія сялянскіх паўстанняў у Палессі ў перыяд грамадзянскай вайны пад ідэйным і палітычным штодзённым кіраўніцтвам партыі большэвікоў і слаўнай Чырвонай арміі была ўзнята да ўзроўню свядомай барацьбы з польскімі фашыстамі. У гэтай кнізе развенчваюцца беларускія нацыяналістычныя схемы. Дзед Талаш—гэта не стылізаваны нацдэмамі беларускі дзед,—гэта атаман партызанскага атраду. Безумоўна, у гэтай аповесці яшчэ не разгорнуты як след усе героі, у прыватнасці роль большэвіка—падпольшчыка Нявіднага.

Такія творы напамінаюць слаўнае мінулае нашай Чырвонай арміі і гераічную партызанскую барацьбу рабочых і сялян за сваю радзіму... Гэта нам асабліва неабходна сёння, бо польскія фашысты, ведучы бязлітасную барацьбу супроць якога-б там ні было праяўлення рэволюцыйнай думкі і слова, абапіраюцца пры правядзенні каланіяльнай палітыкі ў Заходняй Беларусі на здрадніцкую работу контррэволюцыйных беларускіх нацыяналістаў.

У Польшчы за ўжыванне беларускай мовы праследуюць і караюць. Амаль штодзённа газеты пішуць аб гэтым. Орган беларускіх ксяндзоў і „...клерыкальнай Х Д (хрысціянска-дэмакратычнай партыі) „Беларуская крыніца“ не можа схаваць каланізатарскай ролі каталіцкага духавенства на „ўсходніх крэсах“ Польшчы. У апош-

нім нумары гэтай газеты змешчаны ліст беларускага селяніна з мястэчка Харошчы на Віленшчыне, у якім гаворыцца:

„У нас, у Харошчы, як і ўсюды, ксёндз выконвае службу на польскай мове. Пры выхадзе з касцёла людзі апасаюцца гаварыць па-беларуску. Калі ў каго-небудзь знянацку вырвецца беларускае слова, дык ён азіраецца па ўсіх баках, каб ніхто не падслухаў... Гаварыць адкрыта па-беларуску каля касцёла і нават у мястэчку ў людзей не хапае храбрасці. Асабліва страдаюць за размовы па-беларуску нашыя дзеці. Наогул па ўсёй акрузе мястэчка Харошчы дзяцей прымушаюць размаўляць толькі па-польску. Дзецям не дазваляецца гаварыць па-беларуску нават са сваімі бацькамі“...

Працоўныя Заходняй Беларусі на прыкладзе Якуба Коласа і Янкі Купалы пераконваюцца, што лепшая беларуская інтэлігенцыя пераходзіць на бок пролетарыята; іх вершы, аповесці, раманы, якія будуць створаны метадам соцыялістычнага рэалізма, будуць заклікаць тую частку беларускага працоўнага народу, якая знаходзіцца пад ботам польскага фашызма, да барацьбы супроць польскага імперыялізма і яго лакеяў—беларускіх нацыяналістаў. Нам неабходны такія творы, на якіх выхоўвалася совецкая моладзь і вучылася-б бязмежна любіць сваю радзіму, партыю і правадыра партыі, роднага вялікага Сталіна. Асабліва гэта неабходна падкрэсліць у святле тых падзей, якія адбываліся нядаўна ў нашым Саюзе—раскрыццё подлай тэрарыстычнай трацкісцка-зіноўеўскай контррэволюцыйнай групы і іх знішчэнне мечам правасуддзя пролетарскай дыктатуры. Для людзей, якія забыліся пра класавую барацьбу, якія ўцягваліся ў мірны, утульны быт, якія згубілі рэволюцыйную пільнасць,—гэты факт павінен паслужыць вялікім урокам. Мастацкая літаратура павінна „отразить и сконцентрировать накаленную ненависть масс к подлым наемникам фашистов и самому фашизму“. Вялікі мастак пролетарскай літаратуры М. Горкі не раз кляйміў ганьбай „нейтральнасць“ ці „надкласавасць“ людзей навукі і мастацтва ў адносінах вострых класавых баёў нашага часу, бо і перад усёй сучаснай інтэлігенцыяй усяго свету пастаўлена пытанне: „З кім вы, майстры культуры“.

Для народнага паэта Якуба Коласа гэта пытанне вырашана. У яго няма другога шляху апрача шляху рабочага класа і яго партыі, у яго няма іншых мэт, акрамя мэт, пастаўленых геніямі чалавецтва Леніным—Сталіным.

Гэта беларускія пісьменнікі асабліва яскрава выказалі ў сваім пераказе вершамі лісту беларускага народу таварышу Сталіну і ў сваіх 12-ці песнях, прысвечаных маршалу Совецкага Саюза тав. Варашылаву.

Якуб Колас, як выдатнейшы пісьменнік, як народны паэт БССР, быў актыўным удзельнікам гэтых велізарнейшых гістарычных для Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі дакументаў.

Якуб Колас вядомы нам не толькі як паэт і празаік, ён адначасова з'яўляецца вучоным, педагогам, акадэмікам і віцэ-прэзідэнтам Акадэміі Навук, ён нясе і выконвае вялікія дзяржаўна-грамадскія абавязкі, ён у 1935 годзе, як народны паэт БССР, паехаў дэлегатам у Парыж на міжнародны кангрэс абароны культуры.

Якуб Колас вялікі майстар мастацкага слова адгукнуўся на вельмі вострае, неабходнае ў нашых умовах пытанне—гэта стварэнне высокамастацкіх беларускіх совецкіх п'ес для беларускіх тэатраў.

Канстанцін Міхайлавіч узяўся і ўжо напісаў п'есу „Вайна вайне". Гэтым самым ён уносіць першы ўклад у фонд падрыхтоўкі гераічных п'ес да дваццацігоддзя нашай Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі.

Вялікія задачы стаяць перад совецкім мастацтвам у сувязі з надыходзячым святам XX гадавіны Вялікай пролетарскай рэволюцыі,—задачы паказу ўсёй грандыёзнасці і велічы ленінска-сталінскай эпохі.

Нідзе ў свеце мастацтва і літаратура не акружаны такой увагай і клопатамі, як у Совецкім Саюзе з боку партыі і ўрада, з боку вялікага чалавека—правадыра, нашага настаўніка таварыша Сталіна, які назваў пісьменнікаў „інжынерамі чалавечых душ". Верны атрад совецкай літаратуры—беларуская літаратура акружана штодзённымі клопатамі з боку ЦК КП(б)Б і лепшага большэвіка — сталінца Нікалая Фёдаравіча Гікало, кіраўнікоў беларускага ўрада і партыі—сакратара ЦК КП(б)Б тав. Валковіча і старшыні СНК БССР тав. Галадзеда.

Гіганцкі рост нашай літаратуры ёсць вынік перамогі соцыялізма, вынік перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Пажадаем-жа нашаму юбіляру Якубу Коласу складаць яшчэ доўгія гады песні і творы, якія ўзбройвалі-б працоўныя народы ўсяго свету на канчатковую перамогу соцыялізма ва ўсім свеце, якія ўсхвалялі-б слаўную эпоху Сталіна.

---

# МАГУТНАЯ РЭЧАІСНАСЦЬ ЖЫВІЦЬ НАШУ МЫСЛЬ

*Адказная прамова народнага паэта Якуба Коласа на ўрачыстым сходзе*

Хацелася-б, дарагія таварышы, сказаць многа, але трудна мне сягоння выказаць ўсё тое, чым перапоўнены пачуцці. Дык дазвольце мне ад паўнаты сэрца сказаць усім вам, сабраўшымся на гэты вечар, усім прывітаўшым мяне добрым словам, маё самае гарачае дзякуй.

Таварышы! Гэты ўрачысты вечар я разглядаю не толькі як сваю асабістую радасць і свята—я разглядаю яго, як свята ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Такія святы магчымы толькі ў совецкай краіне, дзе будуецца новае, поўнацэннае, сапраўды шчаслівае жыццё, дзе кожнаму сумленнаму і чэснаму чалавеку—ці то рабочы, ці калгаснік, ці чалавек разумовай працы—забяспечваецца поўны прастор для развіцця яго здольнасцей, яго імкненняў, накіраваных на агульную карысць новага людскога грамадства. Бо такая прырода, бо такі характар вялікага совецкага гуманізма. Толькі ленінска-сталінская нацыянальная палітыка забяспечыла рост і росквіт нашых агульных дасягненняў. Дазвольце ілюстраваць гэта прыкладам з нашай мастацкай беларускай літаратуры.

Калі гадоў 30 таму назад беларуская паэзія, прадстаўленая малалікімі адзінкамі, яшчэ няўпэўнена намацвала свой грунт і ступала нясмелымі крокамі, часта збіваючыся з дарогі і пападаючы ў палон варожых буржуазна-нацыяналістычных плыняў, дык сягоння беларуская совецкая мастацкая літаратура налічвае ў сабе многія дзесяткі таленавітых прадстаўнікоў, маючы перад сабою яснасць задачы і акрэсленасць мэты. Калі раней жанры беларускай літаратуры зводзіліся да песні, казкі, невялікай паэмы, дык ва ўмовах совецкай рэчаіснасці мы стварылі і ствараем лірыку гераізма, паэмы эпічнага размаху, раман і драму. Калі раней мысль нашых пісьменнікаў была замкнёна ў цесным коле нацыянальнай і нацыяналістычнай тэматыкі, дык пісьменнікі Совецкай Беларусі разбілі гэтыя рамкі і шырока рассунулі соцыяльны гарызонт свае творчасці, паставіўшы ў цэнтры ўвагі пытанні соцыялістычнага будаўніцтва, змагання з класавым ворагам, пытанні інтэрнацыянальнай пролетарскай салідарнасці. Гэта магутная рэчаіснасць жывіць нашу мысль і нашы пачуцці, расчыняе перад нашым зрокам бліскучыя далі новага свету, у пабудове якога мы самі бяром удзел, мы, творцы мастацкага слова.

Гэта соцыялістычная рэчаіснасць вывела нас з зачараванага кола цэхавай літаратурнай замкнёнасці і паставіла нас усутыч, твар з

тварам, сэрцам да сэрца з новым шматмільённым масавым чытачом, і ў гэтым чытачу мы знаходзім не толькі чулага, уважлівага друга, але часта і празорлівага крытыка, які патрабуе ад нас быстрага ўздыму на вяршыні мастацкага майстэрства. Мы, пісьменнікі і паэты маладой ордэнаноснай Совецкай Беларусі, яшчэ не можам заявіць сягоння, што мы ўжо дасягнулі гэтых вяршынь. Каб авалодаць імі мы павінны шмат працаваць і вучыцца. Факт-жа нашага вялікага прагрэсу ў галіне мастацкага слова астаецца неабвержным, несумненным фактам. Але дасягненні нашай совецкай паэзіі складаюць маленькую часцінку ў суме нашых агульных дасягненняў на іншых участках соцыялістычнага будаўніцтва. Ці трэба, таварышы, гаварыць аб гэтым? Даволі азірнуцца навокал, глянуць на нашы калгасныя палі, на нашы дарогі, на нашы гарады, на фабрыкі і заводы, на нашу неперможную Чырвоную Армію, на нашы навуковыя, навукова-даследчыя і навучальныя ўстановы, на нашы дзіцячыя яслі, сады, дамы і палацы і іншае і іншае, даволі прыгадаць дзесяткі тысяч герояў працы, народжаных і ўзгадаваных нашай творчай сталінскай эпохай пад непасрэдным сталінскім кіраўніцтвам, даволі прыгадаць сотні легендарных пілотаў, устанаўляючых сусветныя рэкорды, каб пераканацца і сваімі вачамі ўгледзець, які гіганцкі крок наперад зрабілі мы пад кіраўніцтвам нашай непахіснай партыі большэвікоў ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы за два няпоўныя дзесяткі гадоў. Але, таварышы, і гэтыя вялізныя дасягненні з'яўляюцца толькі выходнымі пазіцыямі для далейшага пераможнага руху наперад у бязмежныя далі новага дня, куды вядзе нас комунізм і геній Сталіна.

Гаворачы аб нашых вялікіх перамогах, мы, таварышы, ні на адзін момант, ні пры якіх абставінах не павінны забываць, што за лініяй нашых дзяржаўных граніц, на захадзе і на ўсходзе на нас панура пазіраюць чорныя ночы старога свету. У цемры гэтых начэй шнырацць выхадцы сярэдневякоўя, ворагі і магільшчыкі культуры і прагрэсу, легалізаваныя шайкі разбойнікаў, ператварыўшых разбой у сваю прафесію. Як галодныя, труслівыя, пражорлівыя шакалы, яны арганізоўваюць чыста бандыцкія напады на слабыя і неарганізаваныя народы. Прыклады таму—Кітай, Абісінія і Іспанія, якая сягоння сцякае крывёю ў цяжкой барацьбе са сваімі і іншаземнымі шакаламі-фашыстамі. Расцугленыя бандыты ў сваіх разбойніцкіх учынках наглеюць усё болей і болей. Мы ведаем з газет, якія прамовы гаварылі ў Нюрэнбергу фашысцкія майстры заплечных спраў. Яны разяўляюць свае звярыныя пасці на тэрыторыі Совецкага Саюза. Мы ведаем, якую шалёную агітацыю супроць нашай вялікай радзімы і яе палітычнае сістэмы вядзе фашысцкі друк гітлераўскіх засцянкаў. А з гэтага мы павінны зрабіць адзін асноўны вывад—і шчыльней згуртавацца вакол нашай вялікай комуністычнай партыі, яе баявога ЦК і яе геніяльнага кіраўніка, нашага настаўніка і правадыра таварыша Сталіна. Усе свае сілы, энергію і волю аддамо на ўмацаванне абароназдольнасці нашай радзімы, яе шчасця і добрабыту.

Калі я сягоння прыгадваю свае першыя крокі ў якасці беларускага паэта і прыпамінаю, што прадстаўляла сабою тады беларуская паэзія, у якіх умовах яна зараджалася, як развівалася і куды скі-

роўвалася яе плынь, дык усё гэта здаецца цяпер далёкім і цяжкім сном. Паліцэйская апека, гады астрожнага жыцця, вандраванне вобмацкам малавядомаю дарогай у змроку чорнай ночы сталыпінскай рэакцыі, бадзянне без работы і службы, жорсткая пята царскага самаўладства. А ўсё гэта часта заводзіла ў ідэйны тупік. Вось чаму я сягоння самае гарачае слова падзякі прыношу нашай вялікай бальшэвіцкай партыі і яе кіраўнікам — яна вывела мяне, разам з мільёнамі прыгнечаных з цемры гэтай ночы і з гэтага тупіка. Я дзякую ёй за яснасць тых задач, за веліч тых мэтаў, што пастаўлены ёю перад чалавецтвам і з поспехам ажыццяўляюцца, бо гэтыя задачы—пабудова новага людскога грамадства — сапраўднае шчасце мільёнаў працоўных. Я дзякую ёй і за тое, што я, як і кожны з нас, у меру сваіх сіл і здольнасцей маю поўную магчымасць браць удзел у ажыццяўленні гэтых задач і гэтых мэтаў. У паасобных членаў партыі, у асобе адказнейшых яе прадстаўнікоў я заўсёды сустракаў самыя чулыя, самыя ўважлівыя адносіны да мяне і да мае творчай работы.

Я павінен проста і адкрыта заявіць яшчэ раз: няма на свеце іншай краіны, апроч нашай вялікай соцыялістычнай радзімы, дзе-б у такіх спрыяючых умовах расла і развівалася культура, прыгожае пісьменніцтва, мастацтва, дзе-б так многа адводзілася ўвагі, чуласці як з боку нашай партыі і нашага ўраду росту і развіццю кожнага савецкага чалавека, на якім-бы ўчастку соцыялістычнага будаўніцтва ён ні знаходзіўся. Яркім сведчаннем гэтаму з'яўляецца і наша вялікая хартыя свабод і правоў чалавека, дзівосная сталінская Канстытуцыя, якую так шырока і радасна абмяркоўваюць народы Савецкага Саюза і якая ў бліжэйшыя месяцы будзе зацвярджацца на з'ездах Саветаў. Вялікі савецкі гуманізм праглядае з кожнага параграфа гэтага нябачанага ў гісторыі народаў дакументу.

Дык няхай жыве вялікая партыя Леніна—Сталіна і яе баявы ЦК! Няхай жыве наша савецкая радзіма, яе культура, яе няспынны пераможны наступ у ясныя далі новага, радаснага дня!

Няхай жыве наш настаўнік, правадыр і натхніцель, таварыш Сталін!

Няхай жыве партыя бальшэвікоў ордэнаноснай Беларусі і яе кіраўнік, лепшы сталінец і друг працоўнага беларускага народу, арганізатар яго дасягненняў і перамог, Нікалай Фёдаравіч Гікало і яго бліжэйшы саратнік Мікалай Матвеевіч Галадзед!

*Алесь Жаўрук*

# ВЕРШЫ Ў ГОНАР СЯБРОЎСТВА

I

Засталося пакланіцца клёнам
Ды ускінуць куртку на плячо.
Не сумуй па госцю, мой зялёны,
Мой птушыны горад Рагачоў!
Кіраўск. Стынь. Карэльскія бярозы.
Кліча новых даляў хараство—
Што паробіш з неспакойным лёсам—
Салаўіным цяжкім рамяством?!
Пад самой вясёлкай ўзгадаваным
Нам такая ростань не ў разлік:
Непарыўнай дружбай знітаваны
Людзі сонечнай маёй зямлі.
Я заўжды пад Энгельсам і ў Горкім,
Зморланы шляхамі, сустракаў
Землякоў, сяброўскую махорку
І руку знаёмую ў руках.
Бо адным ускрылены народы,
Аб адным спяваюць правады,
І вядзе нас дарагі і родны,
Да адзінай мэты, правадыр.

II

Мы з бацькамі, шчуплыя, хадзілі
Самі з карабінамі у бой,
Здабывалі слаўную радзіму
Бессмяротнай, гнеўнаю крывёй.
Не атруцяць золкія туманы
Над Дняпром зялёную траву.
Над магілай ціхай Цымермана
Строі ліп трымаюць караул.
І плывуць у сонца пералівах
Самалёты між абрыўкаў хмар,
І звініць дзіцячы смех шчаслівы,
Пра каторы марыў камісар.
І на золку, пеўнямі узняты,
Архітэктар едзе на раён—
Месца для будынкаў камбіната,
Як хутчэй, агледзець хоча ён.

Росна. Цёткі на высокіх градках
Выбіраюць свежыя гуркі,
Покуль цэглу і цэмент у кадках
На гару імчаць грузавікі.

III

Першы вераснёвы вечар. Рочаць
Кожнай вуліцы бурліць ключом.
Гэта з краем цэлым поруч крочыць
Маладосць твая, мой Рагачоў.
Гэта песня ліўняў і вясёлак
І грымот вясновых над табой,
Над усёй рэспублікай вясёлай
Праплыла, як шчырасці прыбой.
Па вачах, па кроках, па далонях
Я сяброў сапраўдных пазнаю.
Хай пакліча маршал хоць сягоння—
За зямлю узнімемся сваю.
Чорныя, бялявыя, рудыя
Гнеўныя героі навальніц,
Ўстанем мы, як ветры маладыя,
Па абрысах матчыных граніц.
Каб арлы у пух і прах ляцелі,
Толькі перайка вадой плыло,
Каб яны дзесятым захацелі
Заказаць, ды гэткіх-б не было.

IV

Засталося пакланіцца клёнам
Ды ускінуць куртку на плячо.
Не сумуй па госцю, мой зялёны,
Тройчы слаўны горад Рагачоў!
Пра спатканні гэткія і ў далях
Успамін не хутка растае.
На любым карэльскім перавале
Буду славіць яблыкі твае.
Буду частаваць сяброў на сходзе—
Успамінаць пра светлыя сады,
Пра гурток мастацкі на заводзе,
Ды разгул Дняпроўскае вады.
Пра вазоў калгасных караваны,
Пра дзяўчыну з грыўкай залатой,
Што маіх паэм усхваляваных
Не хацела слухаць ні за што.
І заўжды праходзіла пагардна,
Нясучы высока галаву...
... У дзевяць сорак, як заўжды, дакладна
Цягнікі праходзяць на Маскву.

Рагачоў—Масква, 1936 г.

*Алесь Жаўрук*

## ДРУЖБА

Як заўжды, у восем дваццаць—
На пероне ажыўленне,
Хуткі „Ленінград—Одэса“
Адбывае. Паглядзі,
Ён адразу набірае
Шпаркасць. Ён не чуе ўздыхаў
Правіжытах, што махаюць
Доўга хустачкай услед.
Прамінуўшы мост і дачы
З пеўнямі і гамакамі,
Ён імчыцца у зялёны,
Поўны шолахаў прасцяг.
І як раз у гэты момант
У вагоне „для курящих“
Некурашчы архітэктар
Хоча адчыніць вакно.
А яно—ні ўзад, ні ўперад.
Пасажыр нервуе вельмі,
„Крокодил“ у бок адклаўшы,
Спадарожніца тады
Кажа: „Кінье, меней пылу
Нацярусіць! Вы далёка?“—
А яму не да гаворкі!!
Нешта ён бурчыць ў адказ
І залазіць на паліцу,
І глядзіць ў акне праз шыбу—
Белыя і залатыя
За акном плывуць палі.
Архітэктар марыць: хутка
На блакітным узбярэжжы
Пабудую санаторый,
Светлы, горды, як палац.
Каб увесь са шкла стаяў ён
Паміж гор, сярод магнолій.
Пад выдатным небам поўдня,
А пад ім—шумеў прыбой.
І ад самага прыбоя
Каб вяла да вестыбюля
Мармуровых белых сходак
Чарада. У добры час

Пройдуць тут з прыгожай яхты
З чамаданамі мужчыны,
І жанчыны ў сарафанах
Пройдуць з дзецьмі ўпершыню.
Ён смяецца. Толькі потым
Пахмурнее: на пероне
Не сустрэў ён паміж хустак
Хусткі самай дарагой.
Ён кусае моцна губы,
Ён цыгарку ў мяне просіць.
Санаторый выйдзе светлым
Усё па плану. Толькі што-ж
З твару ён сагнаць не можа
Новай зморшчынкі? Атрутай
Бракне кроў. Яму—Отэло
Нашых дзён—куды цяжэй!
Загубіўшы дружбу,—цяжка,
Чалавек у адзіноце,
Хоць народам да адказу
Перапоўнена купэ.
Любая, з паліцы верхняй
Я сачыў за ім упарта.
Спадарожнікі драмалі,
За акном стаяла ноч.
І здалося мне: як птушка
Без паветра, як расліна
Без вады—без дружбы шчасна
Жыць не можа чалавек.
Цёплая, яна патрэбна,
Каб радзіла ў полі свёкла,
Каб ударней здабываўся
Чорны камень—антрацыт,
Каб мячы ганяць азартней,
Каб лятаць вышэй і далей,
Каб бялок ў тваіх прабірках
З нежывога узнікаў,
Каб радкі маёй паэмы
Гарт адменны набывалі
З кожным днём. І ўрэшце мужна
Загучэлі, як метал.

*Ал. Міронаў*

# ЗАКОН ПРОДКАЎ

З кожным днём непакой усё больш агортваў Навагіна. Да Петрапаўлаўску яшчэ можна было трываць: мора, напоўзабытае за гады жыцця ў Маскве, невыразныя абрысы берагоў, вільготны вецер— усё гэта зноў варочалася ў яго жыццё, напамінаючы пра далёкую радзіму. Але паступова ён прызвычаіўся да мора. Захацелася як мага хутчэй дабрацца да шэрай, скалістай і пустыннай зямлі, адкуль чатыры гады назад параход павёз палахлівага і замкнутага хлапчука.

Дні ішлі надакучліва доўга. Шасцібальны норд-оставы вецер узняў крутыя хвалі. Цяжка гружаны параход гайдала, як паплавок: у каютах нішто не трымалася на месцы. Здавалася-б толькі і спаць у такое надвор'е! Але Навагін, толькі крыху прыдрамнуўшы ўначы, раніцою акрываўся непрамакальным плашчом і ішоў на нос парахода,—на поўбак. Тут гайдала асабліва моцна. Салоныя грабяні хваль з свістам і шалясценнем перакочваліся праз борт, каскадамі пырскаў абдаючы чалавека. Дробны дождж бесперастанку сыпаўся з нізкіх хмар. Выў вецер. Пасажыры, і нават, прывычныя да непагод Охоцкага мора, матросы са здзіўленнем назіралі за дзіўным падарожным з сінім значком парашутыста на грудзях. Матросы спрабавалі пачынаць з ім гаворку. Навагін абыходліва ўсміхаўся, нервова торгаў значок і адказваў не да рэчы. Ён імкнуўся адчапіцца лаканічнымі і кароткімі адказамі.

Хутка ўсе перасталі турбаваць дзіўнага пасажыра. Нікому не замінаючы, ён працягваў маячыць на насу карабля, пакідаючы свой назіральны пост толькі для кароткага сну, для абеду і снедання.

... Гэта навязчывая ідэя з'явілася раптоўна: першым на караблі ўбачыць берагі Чукоткі. Спачатку яна была капрысам вымушанай незанятасці, але паступова ператварылася ў неабходнасць, перамагчы якую не ставала сіл. Здавалася, разам з берагам ён убачыць і тое, што павінна вырашыць сумненні, якія мучаць яго ўсе апошнія дні.

Берагі ён убачыў сапраўды першым, але палёгкі не адчуў. Яны паволі плылі паўз левы борт судна, яны былі шэрыя, хмурныя і туманныя. Ад іх патыхала холадам і пустыннасцю. Зямля ляжала суровая і прыгожая ў сваёй маўклівасці. Вякамі, непрабудна спала гэтая зямля. У нетрах яе хаваліся невычэрпныя багацці. Пургі і вятры насіліся над ёй. Рэдка калі звяры плямілі пушысты россып снягоў. Яшчэ больш рэдкія людзі туліліся на малюсенькіх ласкутках яе, асуджаныя на жабрацкае, напоўжывёльнае існаванне. Людзі тыся-

чагоддзямі жылі на старажытных і прымітыўных законах продкаў, яны палявалі на звяроў, апраналіся ў звярыныя скуры і елі звярынае мяса. Звяры пладзіліся, яны прывыклі да суровай палярнай прыроды. Людзі-ж вымiралі, яны гінулі ад марозаў і пургі, ад страшных мядзведзяў, ад голаду і, нарэшце, ад на сябе падобных.

Памяць людзей захоўвае тут успаміны пра цёмныя гады бесправнасці, роўнага якому не было ў свеце.

Думаць пра гэта Навагіну было вельмі балюча. Ён выразна памятаў доўгабародых і тоўстых рускіх купцоў, уедлівых, даўгалыгіх і рэзкіх амерыканцаў, чыста выбрытых і ганарыстых англійскіх негацыянтаў. Усе яны былі аднолькава сквапныя і ненасытныя ў здабычы. Тады іхная прысутнасць на Чукотцы здавалася натуральнай і нават неабходнай. Праўда, луораветланы называлі іх „тангі-тан“, што азначае прышлы, вораг. Але купцы прывозілі вінчэсцеры, порах, муку і галоўнае—гарэлку. І няхай сабе, што дрэнны вінчэсцер каштаваў восем пясцоў: гэта здавалася дружбай, добрадзейнасцю. Яны спайвалі паляўнічых, і тыя дарылі сябрам каштоўнейшыя ў свеце скуркі блакітных пясцоў...

Толькі цяпер, бачучы дзяцінства сваё праз прызму шасцігадовай вучобы ў Маскве, праз гады партыйнай закалкі, Навагін асабліва востра адчуў вялікую радасць. Гэта радасць была ад усведамлення, што „тангі-тан“ розных колераў даўно змецены з халодных прастораў радзімы, што новыя людзі—большэвікі—вучаць па-новаму жыць яго народ.

На бераг Навагін паехаў адным з першых. Бераг па-ранейшаму быў жоўта-шэры, яго ўкрывалі пясок і галька. Недалёка ад берагу, гайдаючыся на дробнай хвалі, стаялі тры гідрапланы. Гледзячы на іх, Навагіну ўспомніліся яго першыя прыжкі з парашутам. Яму раптам захацелася прыгнуць з бязвоблачнай вышыні, і іменна на гэту суровую і родную зямлю. І нібы супакойваючы сябе, ён зноў паторгаў сіненькі парашутны значок на грудзях. Сям-там каля берагу яшчэ трымаўся зімовы лёд. У лагчынах сопак бялеўся снег, які яшчэ не растаў. Маленькія домікі культбазы, вядомыя з дзяцінства, абраслі цэлым пасёлкам жоўтых сасновых дамоў. На ўскраінах высіліся прысадзістыя ярангі.

На беразе, назіраючы за выгрузкай парахода, стаяў натоўп луораветланаў. Спакойныя і звонку абыякавыя, яны непрыметна пазіралі на прыезджага. Іх здзіўляў еўрапейскі гарнітур яго, вялікія круглыя акуляры і чаравікі, якія коўзаліся па берагавой гальцы. Такую вопратку луораветланы прывыклі бачыць толькі на еўрапейцах. А тут, з-пад пукатых шкелцаў акуляраў, на іх пазіралі чорна-карычневыя вочы свайго чалавека, над вачыма ўздрыгвалі чорныя касаватыя бровы, а смуглыя, шырокія надсківіцы прыезджага мог мець толькі чыстакроўны луораветлан.

Людзі чакалі, каб прыезджы назваўся першым. Усміхаючыся, Навагін па паўночнаму павольна падышоў да натоўпу. Усе павярнуліся ў яго бок. І калі ён вольна і проста загаварыў на роднай мове, шмат хто ветліва і радасна ўсміхнуўся.

— Я таксама луораветлан,—гаварыў Навагін.—Вы павінны мяне памятаць і ведаеце майго бацьку,—паляўнічага Катарына.

З натоўпу выступіў высокі сівы стары. Ён абапіраўся на сукаваты кій і моцна горбячыся пад цяжарам пражытых гадоў, дапытліва паглядзеўшы ў твар прыезджага, сцвярджальна кіўнуў галавой:

— Я ведаю цябе. Ты Наванга. Ты шэсць год назад паехаў ад нас на караблі рускіх.

Цяпер многія пазналі ў Навагіну былога абшарпанца Навангу, другога сына паляўнічага Катарына. Людзі памяталі старую, падраную ярангу на ўскраіне стойбішча, памяталі дзяцей, якіх так цяжка было пракарміць кульгаваму, калісьці пакалечанаму мядзведзем паляўнічаму. Яны ўважліва разглядалі Навангу, пра якога думалі, што яго даўно на свеце няма. Іх здзіўляў і зварот яго, і незвычайнае для луоравэтлана адзенне, і прыгожы значок, і стрыманасць, уласцівая вопытным, адважным луоравэтланам.

— Чаго ты прыехаў?—папытаўся адзін з іх.

Навагін радаваўся, што яго пазналі. Шукаючы простыя словы, ён загаварыў:

— Я быў у Маскве, дзе жыве наш Сталін. Я вучыўся там мудрасці лячыць людзей і зрабіўся доктарам. Я ўмею лячыць раны, зробленыя мядзведзем, і боль унутры чалавека. Ты пытаешся стары, чаго я прыехаў? Я скажу: шчаня таксама цягнецца да сыскоў свае маткі. Я прыехаў на родную зямлю, да свайго народу, каб жыць і працаваць тут.

— Ты шаман—недаверліва паглядзеў на яго малады хударлявы хлапец. Навагін усміхнуўся на яго наіўнасць.

— Хіба ў Маскве вучаць быць шаманам? У Маскве няма шаманаў. Шаманы ашукваюць людзей, яны лечаць не ад хваробы, а ад духаў. Яны вар'ююцца і пяюць заклінанні. А я лячу ў людзей хваробы. Ты чуў пра большэвікоў, пра комуністаў?

— Так,—ажывіўся хлапец.—Я ведаю комуністаў, я комсамолец.

— А я комуніст. Доктар-комуніст не можа быць шаманам. Праўда?

... К пасёлку Навагіна пайшлі праводзіць стары з недаверлівым хлапцом. Навагін ішоў павольна, стараючыся ступаць у нагу са старым. Ён уважліва слухаў, што казаў стары. Праз хмары прарвалася сонца, яно запалала велізарным вогнішчам. У яго праменях, мора, далёкія сопкі і тундра зрабіліся квола-блакітнымі. Бярвенчатыя домікі пасёлка яшчэ ярчэй заблішчэлі сваімі новенькімі жоўтымі сценамі.

— Дзе мой бацька?—запытаўся раптам Навагін. Стары адразу пасураве́ў, махнатыя бровы нізка навіслі над яго вачамі. Хлапец, што ішоў побач, нагнуўся і пачаў перавязваць рэмень у торбасах. Адчуваючы нядобрае, Навагін настойліва паўтарыў сваё пытанне.

— Ён памёр, Наванга,—глуха сказаў стары.—Ён дрэнна памёр, стары паляўнічы Катарын. Ён быў стары, не мог хадзіць на паляванне. Вочы яго страцілі бляск, ён не бачыў нават сваёй рукі. Тады ён паклікаў свайго старэйшага сына Катано і сказаў, каб ён узяў сырамятны рамень. Ты сам луоравэтлан, Наванга. Ты ведаеш законы продкаў, ведаеш, як паміраюць ад улюбёнай рукі. Усё было скончана вельмі хутка...

Навагін слухаў моўчкі. Ніводзін мускул не здрыгануўся на яго смуглым твары. Толькі вочы звузіліся ад нутранога болю. Роўным, спакойным голасам ён запытаўся:

— Часта тут бывае смерць ад улюбёнай рукі?

— Не,—ажывіўся стары,—цяпер вельмі рэдка. Гэта дрэнны закон продкаў. Я таксама стары, але памру сваёй смерцю.

— Навошта паміраць?—усміхнуўся хлапец.—Хіба табе дрэнна жывецца?

Ён павярнуўся да Навагіна, і, нібы спяшаючыся схаваць нядаўнае замяшанне, загаварыў хутка і ўсхвалявана:

— Твой бацька памёр два гады назад. Мы не ведалі, што ён патрабуе смерці ад улюбёнай рукі. У іншым выпадку мы перашкодзілі-б: комсамол-жа змагаецца супроць дрэнных законаў продкаў. Твой брат плакаў: ён не хацеў душыць бацьку, але стары пагражаў яму праклящцем.

— А маці?— перабіў Навагін.

— Твая маці не тут,—зноў загаварыў стары.—Яна ў Энурмыне, на Сэрцы-Камяні. Жыве ў Катано.

Маленькая больніца ззяла чыстатой. У шасці палатах яе стаяла па восем ложкаў. Папярэднік Навагіна, рускі доктар Жылкін, неахвотна пакідаў і больніцу, і поўнач, і Чукотку. Паказваючы Навагіну больніцу ён скардзіўся:

— Усё жонка вінавата. У мінулым годзе паехала адгэтуль, і цяпер шле ўльтыматыўныя тэлеграмы: або прыязджай у Маскву, або развод!

Навагін слухаў, толькі зрэдку ўстаўляючы ў доктарскія ламентацыі кароткае „так-так“. Ён чуў ужо не мала добрых водгукаў пра доктара. Пацыенты луоравэтланы з шчырым жалем сустрэлі вестку пра ад'езд Жылкіна. Іх супакойвала толькі, што новым доктарам у больніцы будзе луоравэтлан Наванга.

Не менш цяжка перажываў свой ад'езд і сам Жылкін. Ён нават падаў заяву, што жадае астацца на другі тэрмін працы, і цяпер пакутаваў, не ведаючы, як зрабіць.

— Вы падумайце, баценька, — торгаў ён Навагіна за рукаў пінжака, — хіба я магу паехаць адсюль? Будынак больніцы будавалі паводле маіх указанняў, ложкі я сам расстаўляў. Спачатку разам з хворым уся яго сям'я ў палаты лезла. Рассядуцца на падлозе, вакол ложка, і хоць караул крычы. Я і строгасць напускаў, і нагамі тупаў—не дам рады! „Гоніш нас,—кажуць мы і хворага возьмем. Не пакінем табе яго!“ Не верылі мне, баценька, баяліся, што шкоду зраблю чалавеку. І даводзілася трымаць іх тут, пакуль не вылечваўся пацыент.

Жылкін у замяшанні ўсміхаўся. Маленькія вочы яго, шэрыя і ласкавыя, ад хвалявання пакрываліся вільгаццю. Навагін глядзеў на мітуслівага і добрага доктара, і мімаволі ўсміхаўся, уяўляючы як ён, „напускае строгасць“ і тупае нагамі.

— А цяпер што? Самі бачыце, баценька: нават малышоў двухгадовых кладуць у больніцу. Ну што?—нахіліўся ён над смуглявай чарнавокай дзяўчынкай, і на роднай яе мове дадаў:—Падабаецца табе ў нас?

— І-і*), —адказала малая, пяшчотна кранаючыся рукі доктара.

— Чорт, я яшчэ падумаю,—рукавом халата змахнуўшы слязу выпрастаўся Жылкін. —Бадай што, пашлю жонку к чорту і астануся тут.

... Ён так і паехаў, відаць не зразумеўшы, што робіцца. На бераг мора праводзіць доктара выйшла амаль усё насельніцтва стойбішча. Навагін стаяў побач з загадчыкам культбазы—Паповым, і са здзіўленнем назіраў, як моцна любяць луораветланы свайго сябра-доктара.

Надзвычайны чалавек,—павярнуўся Папоў.—Усё роўна на Вялікай зямлі доўга не вытрымае. Але праветрыцца яму трэба: стаміўся ён у нас...

... Навагін зрабіўся цяпер поўным гаспадаром больніцы. Луораветланы перанеслі на яго любоў і павагу, якую яны выяўлялі да Жылкіна. Яны даверліва ішлі ў больніцу, выяўлялі цярплівасць пры балючых перавязках, паслухмяна прымалі лекі.

Навагін ведаў, якая вялікая адказнасць ляжыць на ім. Кожная ўдалая аперацыя, вылечаная хвароба былі яго перамогай. Самую дробязную яго памылку маглі скарыстаць ворагі. З тундры і з паўночнага ўзбярэжжа даходзілі весткі пра тое, як лечаць шаманы, прычым хворыя іншы раз паміралі. Шаманы лічылі больніцу сваім ворагам, перашкоду іхнаму ўладарству, і не зважаючы ні на што намагаліся настроіць луораветланаў супроць яе і супроць доктара. Навагін бачыў, што ў далёкіх раёнах Чукоткі шаманы яшчэ маюць вялікі ўплыў і з імі цяжка змагацца.

На нарадах у Райвыканкоме пра далёкія раёны гаварылі з трывогаю. У іншыя мясціны можна было трапіць толькі зімой, саннаю дарогай, а ў астатні час шаманы гаспадарылі там без перашкод.

Усё гэта вельмі непакоіла Навагіна. Ён цвёрда наважыў весці бязлітасную барацьбу з шаманамі, не спыняючы яе пакуль не пераможа.

Увосень, як толькі лягла санная дарога, доктар пачаў аб'езд раёнаў.

З кожным разам ён забіраўся ўсё далей і далей. Навіна на Чукотцы не затрымліваецца ў адным месцы,—яна імчыць, быццам на шпаркай аленняй запражцы. Куды не прыязджаў-бы доктар, яго сустракалі, як даўно чаканага госця, садзячы на пачэснае месца ў яранзе. Луораветланы ўжо ведалі пра яго і з ахвотаю дазвалялі лячыць сябе.

У адну з паездак Навагін дабраўся да Энурмына. У вялікай яранзе яго сустрэў чалавек, крыху падобны на яго самога. Навагін пазнаў у ім старэйшага брата Катано, і, вітаючыся, назваў сябе. Катано нічым не паказаў свае радасці. Ён першым пралез у полаг і гучна паведаміў:

— Вось прыехаў мой брат Наванга, ён доктар у Лаўрэнціі, маці, ты хацела яго бачыць.

У полагу Навагіна абняла старая, згорбленая бабулька. Яна не хавала сваю радасць. Плачучы ў голас, яна скардзілася Навагіну, што бацька не здолеў дачакацца яго.

— Мы думалі, ты загінуў у чужых землях,—гаварыла яна,—і гладзіла сына па твары.—Мы не чакалі цябе дахаты.

*) І-і — па луораветланску „так“.

Катано з'ездзіў у тундру і прывёз асвежаванага аленя. Ён ціхом паклікаў Навагіна з полагу, і паклаўшы рукі яму на плечы, сказаў:

— Ты доктар. Ты маеш вогненную ваду. Дай.

Замест адказу Навагін падвёў яго да сваёй нарты. Катано добрасумленна абмацаў паклажу, і шкадуючы прыцмокнуў губамі, не знайшоўшы спірту.

— Ты дрэнны доктар,— жартам сказаў ён.

Яны павячэралі, напіліся чаю і гутарылі да позняй начы. У ярангу сабралася шмат гасцей. Навагін расказваў пра Маскву, пра сваю вучобу, пра работу ў Лаўрэнціі. Людзі слухалі яго не перапыняючы, толькі зрэдку, выяўлялі цікавасць кароткімі заўвагамі. Але калі ён асцярожна, здалёк пачаў гаворку пра шаманаў, у полагу зрабілася ціха. У Энурмыне ўлада шаманаў была яшчэ моцная, іх баяліся і не хацелі настрайваць супроць сябе. Навагін ведаў, як небяспечна адкрыта гаварыць пра ашуканства шаманаў. Неасцярожным словам ён мог выклікаць варожасць усіх жыхароў Энурмына, нават брата і маці. Наважыўшы на першы раз навесці на сумненне, ён расказваў пра шаманаў смешныя рэчы, тут-жа выдумляючы іх.

— А ў вас таксама ёсць шаман?— незнарокам запытаўся ён.

Катано адказаў станоўча, ён назваў нават імя шамана.

— Гэта Тайел, ён жыве ў трэцяй яранзе к поўначы.

Навагін больш не пытаўся ні пра што.

Позна ўначы, калі ўсе моцна заснулі, Навагін ціха паклікаў маці. Старая прыўзняла са скуры сваю галаву.

— Ну?

— Скажы, праўда, што бацька памёр ад улюбёнай рукі?

— Так, Наванга. А што?

— Нічога, маці,—ён памаўчаў. Старая зноў прыўзнялася і зашаптала горача і хутка:

— Я чакала цябе, Наванга. Даўно чакала. Я ведала, што ты вернешся. Бацька даўно кліча мяне, у багатую на звера тундру добрага духа. Мне трэба памерці, і я ведала, што ты вернешся і дапаможаш мне ў гэтым. Ты дапаможаш?

Стрымліваючы хваляванне, Навагін запытаўся, адкуль яна ведае, што яе кліча бацька.

— Мне казаў Тайел, —адказала старая.— Ён камлаў добрых духаў і духі дазволілі яму гаварыць з Катарынам. Праз яго Катарын перадаў сваё жаданне. Ты дапаможаш мне?

— Не! — раптам рэзка адказаў Навагін.—Не дапамагу. Ты не памрэш ад улюбёнай рукі!

Маці спалохана сцішылася пад сваёй скурай. Праз хвіліну Навагін зноў паклікаў яе, але яна не адказала.

З Тайелам доктар сустрэўся ў наступны-ж дзень. У суседняй яранзе ляжала хворая жанчына. Яна хварэла доўгі час, і Тайел лячыў яе заклінаннямі. Але лепш ёй ад гэтага не рабілася. Яна хутка худзела, яе часта ташніла і мучылі схваткі моцнага болю ў жываце.

Навагін увайшоў у ярангу, не чакаючы сустрэчы з Тайелам. Ён спакойна атрасаў снег з торбасаў, як раптам пачуў глухія ўдары

бубна. У полагу было цёмна і душна. Маленькі каганец цмяна асвятляў яго сцены. У поўзмроку ледзь разгледзеў сухарлявую постаць шамана, пасцель на падлозе і распасцёртую на ёй жанчыну. Не зварочваючы ўвагі на шамана, ён прайшоў да каганца і пачаў папраўляць мох.

— Што ты робіш? — злосна крыкнуў Тайел. Каганец успыхнуў ярка і весела, і шаман пазнаў Навагіна.

— Што табе трэба тут?— прысунуўся ён да доктара. Навагін выпрастаўся і сціснуў кулакі. Тайел з хвіліну паглядзеў на яго, і раптам, адыходзячы задам і адплёўваючыся, выпаўз з полагу. Знадворку ён гучна крыкнуў хворай:

— Не давай яму аглядаць цябе! Ён прадаўся тангі-танам і сам зрабіўся ворагам луораветланаў. Цябе і яго пакараюць духі!

Жанчыне было ўсё роўна. Хвароба змардавала яе, жыццё здавалася ёй непатрэбным цяжарам. Навагін старанна выслухаў яе і даў лякарства. Праз гадзіну ён зноў зайшоў да хворай. Яна сядзела на сваёй пасцелі і ўдзячна глядзела на доктара. Побач з ёй, на кукарках, сядзеў яе муж. Ён радасна ўсміхнуўся і моцна пацiснуў Навагіну руку.

— Палягчэла табе?—запытаўся Навагін у хворай.

— О, так!

— Гэтыя парашкі пі тры разы ў дзень. Ты ачуняеш, але гані вон шамана. У цябе вельмі хворы жывот.

У полагу брата, Навагіна сустрэлі варожа. Маці не забылася на крыўду, што ён адмовіўся. Брат паспеў пагутарыць з Тайелам, ён ведаў пра сустрэчу каля пасцелі хворай. Нявестка злосна фыркнула і выйшла з ярангі. Непрыязнасць не спалохала доктара. Ён моўчкі сабраў свае рэчы, запрог у нарту сабак, і, весела крыкнуўшы „бывайце“, паехаў дахаты.

Навагін спагадзя яшчэ некалькі разоў прыязджаў у Энурмын. Хворая ачуняла і цяпер сама ўгаварвала луораветланаў лячыцца ў доктара. Людзі з ахвотаю слухаліся яе. Толькі старыя па-ранейшаму ставіліся непрыязна да Навагіна. Шаман маўчаў і пазбягаў з ім сустракацца.

У Лаўрэнціі, седзячы ў Папова, Навагін расказаў яму пра сваю сутычку з шаманам. Абодва весела рагаталі над баязлівасцю Тайела і хвалілі жанчыну, што паўстала супроць духаў.

— Яе завуць Німанга. Яна зрабілася галоўнай маёй памочніцай у Энурмыне,—казаў Навагін.—Яна смела выступае супроць Тайела і ўсіх хворых агітуе ездзіць да мяне ў Лаўрэнцій. Яе муж спачатку баяўся шамана, але бачучы, што на мяне не дзейнічаюць закліканні перайшоў на мой бок...

... Так ішоў час да вясны.

Вясновае сонца, цёплае і ласкавае, хутка зганяла снягі. Блакітны снег з кожным днём асядаў усе ніжэй. Пад снегам, нібы жывыя, цурчэлі ручайкі. У бяздонным блакіце неба замільгаліся першыя чайкі. Яны рэзкімі ўзмахамі крылляў рэзалі паветра і крычалі трывожна, прарэзліва і ажыўлена. У тундры пясцы заспявалі песні кахання. Алені ўздрыгвалі ад уласнага цяню і ўнюхваліся ў пахі важанак. Аленія вочы наліваліся крывёю.

Санная дарога прападала на вачах. Вясна ішла бурліва, хутка і весела, заліваючы аснежаную зямлю яркімі патокамі сонечных праменяў.

Разам з вясной набліжаліся белыя ночы.

У Энурмыне амаль што не заўважылі ад'езда Німангі. Толькі Тайел, сустрэўшы яе мужа, запытаўся, чаму ён дазволіў жанчыне адной, у бездараж, паехаць з стойбішча.

— Яна паехала недалёка,—адказаў той.—Праз восем месяцаў*) яна вернецца ў маю ярангу.

Шаман амаль супакоіўся, пачуўшы гэта. Нават лепш,—падумаў ён,—Німанга нічога не будзе ведаць і нічога не скажа Навангу.

Ён не ведаў, што жанчына перахітрыла яго.

А смелая Німанга тым часам бязлітасна гнала па тундры запражку. Яна не баялася, што вестка пра яе паездку дойдзе да Энурмына. У такое разводдзе, ніхто без патрэбы не робіць пераездаў нават паміж бліжэйшымі стойбішчамі. Яна то дапамагала сабакам выцягваць нарты з мокрага снегу, то трэпетка ўслухоўвалася ў страшнае патрэскванне ільда пад палазамі, калі нарта з разгону праязджала праз раку. Іншы раз ёй здавалася, што ззаду, у вячаровым змроку, за нартай гоняцца злыя духі. У яе ад жаху замірала сэрца, яна хацела ўжо каяцца ў сваёй смеласці, але ўспамін пра бясстрашнага Навангу, яго загад сачыць за шаманам зварочвалі ёй бадзёрасць і мужнасць.

У рэдкіх стойбішчах Німанга пакідала змардаваных сабак і амаль не сілком брала новых. І з кожным днём затока Лаўрэнція набліжалася да яе больш і больш.

... А ў Энурмыне ўсё было падрыхтавана для выканання старажытнага абраду продкаў. Тайел разлічыў правільна. У разводдзе ніхто не перашкодзіць яму! Катано хадзіў пануры, задуменны. Ён спрабаваў угаварваць маці, але яна адказвала строга, сурова, і сын не адважваўся адмовіць ёй у перадсмяротным жаданні.

Нарэшце доўгачаканы дзень прышоў. У полаг Катано сабраліся ўсе блізкія луораветланы стойбішча. Старая ў новым адзенні выйшла з ярангі—развітацца з роднай тундрай. Яна доўга глядзела на тундру, на сопкі і на абледзянелае мора. Пасля ўвайшла ў полаг. Людзі ўрачыста сядзелі каля сцен і моўчкі смакталі люлькі. Старая села на пачэснае месца, каля каганца. Яна строга і проста глядзела перад сабой амярцвелымі вачамі. Катано апусціўся побач з ёй, нервова камячучы доўгі, мяккі раменчык.

Тайел нахіліўся да старой. Нешта нашоптваючы, ён мяккім рамянём з пясца абвязаў ёй горла. Павольна, пахістваючыся ён заскакаў на адным месцы, зрэдку стукаючы ў бубен. Заспяваў заклінанні, усё паскараючы рытм скокаў. Цішыня ў полагу зрабілася тугой, напружанай, як тэціва лука. Яе парушала толькі цягучая шаманава песня, ды глухія, трывожныя ўдары бубна.

— Духі, добрыя духі народа луораветланаў!—спяваў шаман.— Да вас, у вашы багатыя тундры ідзе жонка Катарына. Ці чуеш ты мяне, храбры паляўнічы Катарын? Ці радуешся ты сустрэчы з жон-

*) Ад слова месяц—„луна" (заўвага перакладчыка).

кай? Тундра багатая на тлустага звера, тундра, дзе пасуцца незлічоныя стады аленяў, ты будзеш багатай радзімай Катарына і старой яго жонкі. Духі, добрыя духі вечнага шчасця! Ці чуеце вы?

І раптам шаман змоўк. Ён напружана выцягнуўся, на міг сцішыўся і пасля гучна і злосна вылаяўся, парушыўшы ўрачыстасць рытуала. Людзі заварушыліся. Усе выразна пачулі рокат матора, які гуў усё бліжэй і бліжэй.

Адзін за адным людзі выскачылі з полагу. Знадворку ярка ззяў вясновы дзень, і пасля змроку ярангі ў ва ўсіх зліпаліся вочы. Апошнімі выйшлі Тайел і ўсё яшчэ засяроджаная старая. Вочы яе па-ранейшаму былі амярцвелыя і нерухомыя.

Катано першы ўбачыў угары сталёвую птушку, што рабіла кругі над стойбішчам. Ён як вар'ят заскакаў на адным месцы, гучна і радасна крычучы:

— Самалёт! Самалёт!

За ім і іншыя ўбачылі самалёт. Моўчкі, як зачараваныя, глядзелі яны на яго. А самалёт, зрабіўшы яшчэ круг, скінуў раптам маленькую чорную кропку. Кропка хутка павялічвалася, набліжаючыся да зямлі, але раптам над ёй успыхнуў дымок, і разляцеўся вялікім белым воблакам. Падзенне прыпынілася, і людзі ўбачылі чалавека, які апускаўся з неба. Перамагаючы страх, луоравегланы кінуліся да месца, куды апусціўся нябёсны госць. Каля ярангі асталіся толькі старая ды шаман.

Калі Навагін вызваліўся ад парашута, ён убачыў вакол сябе цесны круг энурмынцаў. Доктар прызямліўся на ваколіцы стойбішча, каля апошняй ярангі. Ён весела ўсміхнуўся, вітаючыся з луоравегланамі.

Каля ярангі Катано стаяла толькі старая маці. Шырока расплюшчанымі, поўнымі жаху вачамі глядзела яна на падыходзіўшага Навагіна. Ён ласкава пагладзіў сівую галаву маці, і зняў з яе шыі мяккі раменчык.

— Не трэба, мама,—сказаў ён,—не трэба паміраць. Пажыві са мной. Я хачу, каб ты дачакалася ўнукаў.

Вочы старой звузіліся, сталі больш ласкавымі. Яна абняла сына за шыю і, прыгарнуўшыся да яго грудзей, заплакала гучна і радасна. Сын пяшчотна гладзіў яе па галаве, нашэптваў ласкавае і супакойваючае. Падышоў Катано. Ён крануў маці за рукаў камлейкі і ціха сказаў.

— Не памірай, мама. Табе добра будзе з намі. Скора мая жонка народзіць табе ўнука. А Навангу трэба яшчэ ўсватаць жонку.

Жанчына выпрасталася, паглядзела на сыноў.

— Я не памру, калі вы не хочаце маёй смерці,—сказала яна.— Я парушу закон продкаў. Чуеш, Тайел?

Але шаман не адказаў, яго не было ў натоўпе луоравегланаў. Людзі павольна пайшлі да яго ярангі. Сыны з пашанаю пад пашкі вялі сівую маці. За імі, урачыстыя і строгія, нібы на суд, ішлі луоравегланы.

Тайела знайшлі ў яранзе. Ён не паспеў пралезці ў полаг. Смерць заспела яго на парозе. Ён ляжаў, выскаліўшы жоўтыя, пракураныя

зубы і раскідаўшы рукі з сударгава сагнутымі пальцамі. Навагін нагнуўся да яго, памацаў пульс.

— Подлае сэрца ілгуна не вытрымала,— паднімаючыся сказаў ён.—Тайел памёр ад разрыву сэрца.

Старая доўга, уважліва паглядзела ў твар Тайелу. Пасля адвярнулася і пайшла да выхаду з ярангі.

... Увечары, сустрэўшы мужа Німангі, доктар ціхенька шапнуў.

— Чакай жонку, як растане снег. Ёй добра ў Лаўрэнціі. Яна прыедзе да цябе летняй дарогай.

*З рускай мовы*
*пераклаў Я. Ш.*

*Пімен Панчэнка*

## ІСПАНСКАМУ ТАВАРЫШУ

Я хацеў-бы, далёкі мой друг,
тваё мужнае сэрца ўславіць,
і пацісьнуць далоні рук,
што нясуць неўміручую славу.

Інквізітараў подлых арда
падпаўзла да Іспаніі спрутам.
І па вёсках, па гарадах
смерць гуляе ў хмарах атруты.

Ненасытнае цемры рот
праглынае смурод пажараў...
Ды жыве геранчны народ,
З ім і ты, мой мадрыдскі таварыш!

Я хацеў-бы цяпер быць з табой,
У паходах хадзіць суровых.
І табе, перад выхадам у бой,
Прапяяць сваё шчырае слова.

„Сталін!“—слова маё. Ты з ім
сцяг чырвоны ўзнясеш на руінах!
Бо ў спякоту і ў сіверы зім,
З гэтым імем, як гром агнявым,
Здабылі мы советаў краіну.

*Пімен Панчэнка*

## ШЫЗЫ ГАЛУБОК

Я рад вясне. Я рад гучанню
дзявочых песень ля бяроз...
Як плаўлены метал у чане,
Гарыць ружовы край нябёс,—

То дзень нам шле на адыходзе
усмешкі сонечнай зары.
Каля крыніцы песні ходзяць,
у лад гудзе ім гай стары.

І словы песні немудронай
звівалі казачны клубок:
— Кранаючы бярозаў кроны,
плыў шпарка шызы галубок.

Як сонейка ён быў прыгожым,
Як дзень вясновы, маладым;
Стаміўся ён і ў падарожжы,
Прысеў на камень ля вады.

А там, за цёмнымі барамі,
За люстрамі азёр і рэк,
яго галубку хтось параніў,
дзявочы ўбор завяў навек...

Спыніў свой шлях і шызы голуб
У каршуновых кіпцюрах...
Хрыпела смерць... А ў небе кволым
як і цяпер была зара...

І толькі кроплі анямелай
Крыві глынуў блакітны вір...
Высока песня дазвінела
І апусцілася на жвір.

Дзяўчаты крыху пасмутнелі.
Я шчырасць думак ім нясу:
— Вы ад душы, напэўна, пелі,
але навошта гэты сум?

Мы каршунам падбілі крылле.
У сэрцы-ж вырасла любоў
да лёгкакрылых эскадрылій
магутных, шызых галубоў.

Куды ні глянь—над Запаляр'ем,
Над Ферганой пагрозны гул,—
Героі ў песенным надхмар'і
Радзіму нашу берагуць!

Дзяўчаты мне ў адказ запелі,
і чулі травы ля крыніц
аб тым, што кожны наш прапеллер
нясе спакой і мір граніц.

1936 г.

*Пімен Панчэнка*

## ЯБЛЫНЯ

Стаяла яблыня ля вёскі,
Як падарожнік між дарог.
Вясною падалі пялёсткі,
нібы сняжынкі, на мурог.

Ніхто не дбаў аб ёй, і вецер
хацеў галіны пакрышыць.
А побач—помнік нейчай смерці—
гнілі два сумныя крыжы.

Як сірата расла... І кожны
пахучым кветкам крыўду нёс.
І ціха скардзілася пожням
яна пра свой паганы лёс.

Ды кожны год аздобай новай
Здзіўляла птушак і людзей...
А гэтай сонечнай вясною
такі выдатны выпаў дзень:

Мы перавезлі беражліва
Яе у сад, калгасны сад,
дзе на ігрушах і на слівах
цвіце блакітная раса...

— Расці!—сказалі ёй з пашанай,
— Гадуй нам сочныя плады.
— Расці!—загрукаў гром, і хмара
паслала дождждык малады.

І ападаў на сад са звонам
бліскучых, буйных, кропель рой...
А з поўдня ехаў май зялёны
да нас з вясёлкавай дугой.

в. Казулічы, 1936 г.

*Віт. Вольскі*

# ГАУМАРДЖОС САБЧАТАС САКАРТВЕЛОС!

> Дружба паміж народамі СССР — вялікае і сур'ёзнае заваяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць вольны і непераможны. Ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, покуль гэта дружба жыве і здраўствуе.
>
> СТАЛІН

Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная Рэволюцыя вызваліла шматмільённыя, шматнацыянальныя працоўныя масы былой расійскай імперыі ад соцыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, ад капіталістычнай эксплаатацыі і перажыткаў феадалізма.

Народы, якім давялося вытрымаць столькі пакут і прыгнечання, аб'ядналіся пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі ў адну дружную, моцную, згуртаваную адзінствам волі, мэты і сталінскага кіраўніцтва, вялікую сям'ю совецкіх народаў. Яны стварылі першы ў гісторыі магутны і несакрушальны аплот міжнароднага брацтва, які натхняе ўсіх лепшых людзей сучаснага свету ў барацьбе з фашыстоўскім шавіністычным ізуверствам і расавым мракабессем.

Дружба народаў СССР неразрыўна.

Гэта дружба моцна спаяна брацкай крывёй, пралітай рускімі, украінскімі, грузінскімі, беларускімі працоўнымі масамі ў сумеснай барацьбе супроць царызма, у грамадзянскай вайне, у баях з інтэрвентамі.

Гэта дружба спаяна агульнай палкай ненавісцю да праклятага мінулага, агульным творчым уздымам у будаўніцтве соцыялізма, адданасцю і любоўю да соцыялістычнай радзімы і гарачай верай ў вялікія, неабсяжныя перспектывы яе бліжэйшага будучага.

Пад знакам гэтай вялікай дружбы народаў растуць і мацнеюць з кожным днём узаемныя творчыя сувязі паміж асобнымі нацыянальнымі атрадамі нашай адзінай, вялікай і шматмоўнай совецкай літаратуры.

Пасля першага з'езда пісьменнікаў асабліва шырока разгарнулася практыка міжнацыянальнага літаратурнага яднання совецкіх народаў: класічныя творы рускай, украінскай, грузінскай і іншых

літаратур становяцца неад'емным агульным, інтэрнацыянальным здабыткам усіх народаў Савецкага Саюза. Пушкін, Гогаль, Некрасаў, Талстой, Чэхаў, Горкі, Шаўчэнка, Руставелі, Важа Пшавела становяцца, незалежна ад часу, незалежна ад мовы, на якой яны пісалі—аднолькава блізкімі, дарагімі і зразумелымі для ўсёй шматмільённай і шматнацыянальнай масы савецкага чытача.

Гэта з асаблівай сілай і яркасцю выяўлена ў цудоўных радках надзвычайнага пісьма грузінскага народа тав. Сталіну.

Песцім дар мы Руставелі і яго прыгожых слоў
Непамерных, шматкаштоўных, як сузор'і жамчугоў,
Любім мы Саба-Сулхана. Любіць наш народ цяпер
Чаўчавадзеўскую мову, Гурамішвілі ясны верш.
Любіць ён Бараташвілі бурны хмель, яго парыў,
І адважны голас Важа, слоў Акакія ўзвіў.
Любы Пушкін нам, Некрасаў, дарагі нам Леў Талстой,
Мы праз Гогаля пазналі Украіны хараство.
Любім верш Шаўчэнкі гнеўны, Чэхаў, Горкі нам свае.
Рады слухаць мы заўсёды, хай любы народ пяе.

У гэтым і заключаецца адна з арганічных асаблівасцей нашай савецкай культуры, якая з'яўляецца па сутнасці агульнай сумай соцыялістычных па зместу і нацыянальных па форме культур усіх народаў, насяляючых СССР.

У наш вялікі непараўнальны час перад кожным з народаў СССР поўнасцю раскрываюцца і зіхацяць ва ўсім бляску сваёй мастацкай чароўнасці незлічоныя скарбы нацыянальнай творчасці, не толькі сваёй уласнай, але і ўсіх братніх народаў. Скарбы, якія нядаўна яшчэ былі схаваны ад людзей і свету ў цёмных сутарэннях царскага самаўладства.

Адначасова з першымі праявамі міжнацыянальнай еднасці савецкіх літаратур—з першым узаемным азнаямленнем, з узмоцненай перакладчаскай работай—шырока разгортваецца ў апошні час непасрэднае творчае зблізэнне, абмен творчым вопытам паміж пісьменнікамі розных нацыянальнасцей. Паспяхова перамагаюцца элементы нацыянальнай абмежаванасці. Усё часцей карыстаюцца пісьменнікі ў сваёй рабоце матэрыялам братніх рэспублік. Узмацняецца плённая практыка творчых камандыровак і паездак, звязаных з непасрэдным і сур'ёзным вывучэннем пісьменнікамі працэсаў соцыялістычнага будаўніцтва ў братніх рэспубліках.

У парадку ажыццяўлення ўказанняў А. М. Горкага і адпаведных рашэнняў Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў, Праўленнем ССП была паслана ў Грузію беларуская брыгада ў складзе т. т. В. Вольскага, М. Хведаровіча, Эд. Самуйлёнка і В. Кавальскага. Адначасова ў БССР выехала брыгада грузінскіх савецкіх пісьменнікаў у складзе Б. Буачыдзе, А. Кутатэлі, К. Лордкіпанідзе, І. Мосашвілі і Р. Гветадзе.

Мэтай работы гэтых брыгад з'яўлялася ўстанаўленне сталых братніх сувязей паміж літаратурамі абодвых ордэнаносных рэспублік, узаемнае азнаямленне з дасягненнямі соцыялістычнага будаўніцтва ў рэспубліках, абмен творчым вопытам, арганізацыя перакладаў і выдання лепшых твораў абодвых літаратур на грузінскай і беларускай мовах.

Паездка брыгады беларускіх совецкіх пісьменнікаў у Грузію, адным з першых вынікаў якога з'яўляецца зборнік твораў, прысвечаных Грузіі, працяглае прабыванне брыгады грузінскіх совецкіх пісьменнікаў у Беларусі—усё гэта асобныя звенні аднаго агульнага ланцуга, неразрыўнага ланцуга вялікай дружбы совецкіх народаў.

Мы шчаслівы адзначыць, што нашае прабыванне ў Грузіі, таксама як і прабыванне нашых грузінскіх таварышоў у Беларусі дало ўжо пэўныя вынікі.

З глыбокім задавальненнем успамінаем мы, з якой увагай выслухоўваліся ў Тбілісі, у Чыатуры, у Кутаісі, у Поці, у Батумі і іншых гарадах, у рабочых клубах, у тэатрах, у соўгасах і калгасах даклады пра беларускую літаратуру, з якой жывой зацікаўленасцю ўспрымалася чытка беларускіх літаратурна-мастацкіх твораў як на беларускай мове, так і ў перакладах на грузінскую мову.

Незабыўнае ўражанне пакінула ў нас гутарка з кіраўнікамі ордэнаноснай Грузіі, са слаўным правадыром закаўказскіх большэвікоў, сакратаром ЦК КП(б) Грузіі і Закаўказскага крайкома ВКП(б) тав. Лаўрэнціем Паўлавічам Берыя, з старшынёй Совета Народных Камісараў Грузінскай ССР Германам Еўгеньевічам Мгалоблішвілі.

Шмат дала нам сустрэча з камандуючым Закаўказскай Ваеннай акругай камандармам М. К. Левандоўскім і наша наведванне Земо-Аўчальскага лагернага збора.

Шмат абавязаны мы нязменнай увазе і штодзённай дапамозе з боку Наркома асветы і старшыні саюза совецкіх пісьменнікаў Грузіі тав. Акакія Самсонавіча Татарышвілі.

З цёплым сяброўскім пачуццём успамінаем мы незабыўныя сустрэчы з імерэтынскімі калгаснікамі, з чыатурскімі гарнякамі, з мінгрэльскімі пастухамі, з рабочымі ЗАГЭС'а і АЦГЭС'а, з кахетынскімі вінаробамі, з кутаіскімі ткачамі, з камбайнерамі Шыракскага збожжавага соўгаса.

Вялікі і differenceнастайны нашы ўражанні.

Цяжка ахапіць іх у нашым, досыць скромным, зборніку, але мы спадзяемся значна шырэй і глыбей адлюстраваць усё бачанае і пазнанае намі ў шэрагу наступных асобных твораў.

У сувязі з працай брыгад упяршыню з'явіліся на грузінскай мове творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, А. Александровіча, М. Чарота, П. Труса, П. Броўка, К. Крапівы, М. Хведаровіча, Эд. Самуйлёнка, В. Кавальскага, А. Куляшова і інш. у перакладах С. Эулі, В. Гапрындашвілі, Ш. Дадыяні, Н.Міцішвілі, К. Надзірадзе і інш.

Упяршыню з'явіліся на беларускай мове творы Т. Табідзе, С. Чыковані, С. Эулі, К. Лордкіпанідзе, Ш. Дадыяні, І. Мосашвілі, А. Кутатэлі, Р. Гветадзе ў перакладах А. Александровіча, П. Броўка, П. Глебка, М. Хведаровіча, Эд. Самуйлёнка.

Першы раз у гісторыі беларускай літаратуры з'явіліся цяпер беларускія аповесці з грузінскімі героямі, з грузінскай тэматыкай. Упяршыню загучэлі на беларускай мове вершы пра прыгожую совецкую Грузію.

Брыгада беларускіх пісьменнікаў сустрэла ў Грузіі надзычайна спрыяльныя для прадукцыйнай працы ўмовы. Яна карысталася ўвесь час нязменнай увагай з боку савецкіх, партыйных і літаратурных арганізацый.

Брыгада беларускіх пісьменнікаў вярнулася ў Беларусь з цёплымі ўспамінамі аб вялікай братняй гасціннасці грузінскага народа і яго лепшых прадстаўнікоў, з упэўненасцю, што гэты першы вопыт ўзаемнага літаратурнага збліжэння не будзе выпадковым, што ён працягнецца і надалей, што ён дасць яшчэ шмат станоўчых вынікаў, што ён з'явіцца моцным пачаткам сталай і сістэматычнай сувязі паміж нашымі літаратурамі. Мы азнаёміліся з усім, што толькі можна было агледзець на працягу такога параўнальна невялікага адрэзку часу ў такой выключна шматвобразнай, паводле сваіх прыродных, эканамічных і культурна-гістарычных асаблівасцей, краіне, якой з'яўляецца Грузія.

І тое, што мы бачылі, напоўніла нашыя сэрцы гордасцю і захапленнем. Пачуццё бязмежнай радасці, пачуццё вялікага замілавання і пашаны да грузінскага народа, да яго жыццёвай сілы і творчага генія ахапіла нас, калі мы азнаёміліся з яго гераічным, шматпакутным мінулым, з яго тысячагадовай культурай, калі мы ўвачавідкі пераканаліся ў тых нябачаных, дзівосных, сапраўды казачных зменах і ператварэннях, якія ажыццявіў ён у сваёй краіне пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Змены гэтыя сапраўды цудоўны.

Мы пераканаліся ў выключным росце маладой грузінскай індустрыі. Мы былі на Зестафонскім фера-марганцавым камбінаце і на Чыатурскім горным заводзе. Мы наведалі такія магутныя рухавікі індустрыялізацыі, як ЗАГЭС, РЫОНГЭС, як будаўніцтва новай вялікай гідра-электрастанцыі на Аджарыс-Цхалі.

Мы бачылі, як ператвараецца старадаўні багаты сваёй шматвяковай гісторыяй Кутаісі,—у нядаўным мінулым улюбёны горад феадальнага дваранства і мяшчан,—у буйны цэнтр лёгкай прамысловасці.

Мы бачылі, як на тлустых, пладародных глебах Алазанскай даліны, на ўпершыню ўзоранай цаліне ўзнікаюць новыя збожжавыя соўгасы-волаты (Алазанскі, Шыракскі, Хірсы), як выходзяць на неабдымныя прасторы савецкага поля дзесяткі камбайнаў савецкай вытворчасці.

Мы бачылі, як дзесяткі тысяч гектараў балот Калхідскай нізіны,—непраходная гразкая дрыгва, смуроднае гняздо балотнай ліхаманкі, пакрытае першабытным субтрапічным лесам,—уступаюць сваё месца квітнеючым, пахкім пладаносным садам залацістых цытрусаў.

Падземныя нетры раскрываюць свае багацці перад пераможным і працаздольным грузінскім народам.

Магутныя горныя рэкі, пакораныя большэвіцкай рукой, змяняюць сваё рэчышча, падпарадкоўваюцца чалавечай волі і аддаюць сваю шалёную, непакорную энергію на службу соцыялістычнаму будаўніцтву.

У горных цяснінах на паднябесных скалістых кручах вырастаюць новыя электрастанцыі. Агні іх разганяюць злавесны змрок міну-

лага і нясуць радасць новага светлага жыцця. Яны зіхацяць на адноўленых скалах сонцам соцыялізма.

Мы наведалі незлічоную колькасць вялікіх і малых заводаў, узброеных навейшай тэхнікай, соўгасаў і калгасаў — збожжавых вінаробных, плодаводчых, цытрусавых, чайных і рысавых, вырошчваючых каштоўныя і рэдкія культуры.

Мы былі захоплены грандыёзным, сапраўды большэвіцкім размахам і неабдымнымі перспектывамі эканамічнага і культурнага развіцця Грузіі, у якім так яскрава ўвасабляецца нацыяльная палітыка Леніна—Сталіна. Пад сцягам гэтай палітыкі працоўныя масы Грузіі вызваліліся з-пад прыгнёту царызма і меншавіцкага ўраду і ўпэўнена ідуць па шляху шчаслівага і радаснага жыцця". (Л. П. Берыя).

Ніколі жыццё не было такім поўнацэнным і шматбаковым, як зараз. Гэта мы асабліва добра адчулі ў Грузіі.

Мы гутарылі з новымі людзьмі—з гордасцю і багаццем грузінскага народа—з грузінскімі совецкімі інжынерамі, калгаснікамі, прафесарамі, пастухамі, аграномамі, вінаробамі, гарнякамі, хімікамі, электрыкамі, урачамі, меліоратарамі, настаўнікамі, камандзірамі, пісьменнікамі.

Мы бачылі кучаравыя зялёныя горы і ўзгоркі Заходняй Грузіі, пакрытыя дубовымі гаямі і вінаграднікамі, што аддаюць свае плады працоўным.

Мы дыхалі чыстым, празрыстым, нібы крышталь, паветрам Кахецыі.

Мы былі зачараваны суровай прастатой Хэві, вялікаснай краіны цяснін і бясстрашнымі мужнымі людзьмі, што насяляюць яе.

Мы ішлі па старых горных дарогах, высланых салдацкімі касцямі.

Хто толькі тут не быў!

Чые ногі не таптаді гэтую благадатную зямлю, пачынаючы з арганаўтаў антычнай дрэўнасці і канчаючы сучаснымі драпежнікамі міжнароднага імперыялізма?

Прыродныя багацці гэтай дзівоснай, благаславеннай краіны здаўна прыцягвалі да сябе хцівыя вочы прыгнятальнікаў.

Цяжкім, мерным поступам праходзілі тут легіоны Пампея.

Горы гэтыя бачылі войскі Александра Македонскага.

Незлічоныя полчышчы арабаў, візантыйцаў, манголаў, туркаў і персаў ператваралі квітнеючую пладароднейшую краіну ў груды трупаў і дымных руін, асуджаючы яе на жабрацтва і галечу.

Уласныя феадалы—шматлікія князі разам са сваімі маўравамі, эрыставы і азнауры грабілі і прадавалі народ на нявольніцкіх рынках Малай Азіі.

Варварскі салдацкі бот рускага вялікадзяржаўнага каланізатарства таптаў гэту „жамчужыну расійскай кароны", як часамі любілі крывадушна называць Грузію царскія сатрапы і іх прыслужнікі.

І ці-ж даўно, нарэшце, гэтая зямля, тройчы праданая меншавіцкімі авантурыстамі, палівалася братняй крывёю, скідваючы ў мора імперыялістычных акупантаў, белагвардзейцаў і іх агідную агентуру.

Як нядаўна ўсё гэта было і як далёка адыйшло, нібы пакутны сон, у беззваротнае мінулае.

Вольны і таленавіты грузінскі народ, звязаўшы свой лёс з рэвалюцыйнай барацьбой рускага пролетарыята, натхнёны большэвіцкім кіраўніцтвам, пасляхова і пераможна будуе тут цяпер, як поўнаўладны гаспадар сваёй аднооўленай краіны бліскучы палац бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Гэтыя месцы, абвеяныя дымкай гераічных успамінаў, тысячы разоў палітыя потам і крывёю грузінскага працоўнага народа, квітнеюць цяпер радасным, поўнакроўным і творчым жыццём. Яны назаўсёды застануцца ў нашым сэрцы і ў нашай памяці.

Для нас назаўсёды застанецца дарагой гэта прыгожая краіна, такая шматпакутная ў мінулым і такая асляпляюча-яркая, сонечная, іскрыстая і радасная ў сучасным.

Для нас заўсёды будзе блізкім і дарагім яе адважны, гераічны і даравіты народ.

Тройчы шчаслівы гэты народ, што пранёс аж да нашых дзён праз тысячагоддзі цяжкіх гістарычных іспытаў, праз вякі няволі і жабрацтва, свой неўгасімы творчы геній, сваю здзіўляючую жыццёвую сілу. Тройчы шчаслівы гэты народ, што стварыў бясцэнную паэзію Руставелі, што ўпісаў столькі слаўных старонак і столькі слаўных імён у летапісы вялікай вызваленчай барацьбы пролетарыята. Тройчы шчаслівы гэты народ, што даў чалавецтву магутны светач соцыялізма, правадыра народаў Савецкага Саюза—вялікага Сталіна.

Звяртаючыся думкаю да ўсяго бачанага, зноў аднаўляючы ў памяці ўсе перажытыя ўражанні, хочацца яшчэ раз усклікнуць:

Гаўмарджос Сабчатас Сакартвелос!
Гаўмарджос Сакартвелос мшромел халхс! *)

---

*) Хай жыве Савецкая Грузія! Хай жыве грузінскі працоўны народ!

*Я. Бранштэйн*

# ТРЫЦЦАЦЬ ГОД

*(Творчы шлях Якуба Коласа)*

Выступаючы 15 верасня 1934 г. у ЦК КП(б)Б на нарадзе з беларускімі пісьменнікамі—удзельнікамі першага ўсесаюзнага з'езда совецкіх пісьменнікаў, Нікалай Фёдаравіч Гікало сказаў: „Для нас Янка Купала, Якуб Колас—неадрыўная частка літаратуры Совецкай Беларусі".

Стаць сапраўды неадрыўнай часткай літаратуры сваёй квітнеючай шчаслівай радзімы; стаць штодзённай культурнай жыццёвай неабходнасцю мільёнаў працоўных, вострай зброяй іх у барацьбе за лепшыя ідэалы чалавецтва, заслужыць такую найвышэйшую пахвалу з боку найвялікшай у свеце рэволюцыйнай партыі,—ды хіба-ж не пра гэта марылі на працягу стагоддзяў лепшыя сусветныя майстры мастацкага слова? Іці не ёсць гэта найцудоўнейшы незвядальны вянок шматгадовай творчай працы?

## I.

Трыццаць год Якуб Колас аддаў служэнню справе беларускай мастацкай літаратуры.

Гэта была не пустая „прагулка па садах славеснасці", а суровая школа класавай барацьбы. Былі гады яркага ідэйнага творчага ўздыму, але былі і гады спадання, гады ідэйнага і творчага надлому.

Клара Цэткін у сваіх успамінах пра Леніна расказвае, што Ленін заўсёды падкрэсліваў момант народнасці, як крытэрый сапраўднага мастацтва.

„Мастацтва,—казаў Ленін,—належыць народу, яно павінна ўваходзіць сваімі найглыбейшымі карэннямі ў самую тоўшчу шырокіх працоўных мас. Яно павінна быць зразумелым гэтым масам і любімым імі, яно павінна яднаць пачуцці, думкі і волю гэтых мас, падымаць іх".

Колас вырастаў на галаву вышэй свайго абмежаванага сялянскага і правінцыяльнага акружэння тады, калі ён адчуваў на сабе гарачы подых рэволюцыйнага народу. Тады пашыраўся яго ідэйны кругагляд, вастрэйшым рабілася яго вока,—вока мастака, больш яркімі і поўнакроўнымі рабіліся яго вобразы. Колас няўхільна ўпадаў у разгубленасць, падала, марнела яго творчасць, калі ён

трацiў „адчуванне локця“ ў адносінах да народу, калі ён трацiў кроўныя сувязі з народнымі масамі.

Колас увайшоў у беларускую літаратуру ў 1906 годзе, дваццацічатырох гадовым юнаком, скромным вясковым настаўнікам з глыбокага Палесся.

Блізкі маладому вясковаму настаўніку Міцкевічу (сапраўднае прозвішча Коласа) дарэволюцыйны, абмежаваны вопыт сялянства з яго супярэчлівай соцыяльнай прыродай і палавінчатасцю („пратэст мільёнаў сялян і іх адчай“—Ленін) з яго „сілай і бяссіллем“, мог навучыць юнака Коласа нянавісці да ворагаў працоўнага сялянства, але не мог навучыць яго, дзе шукаць адказу на праклятыя пытанні, дзе шукаць выхаду з беспрасветнай цемры самадзяржаўнага ладу. Гэтаму магла навучыць рэволюцыя, на чале якой стаяў рабочы клас, гегемон гэтай рэволюцыі,—вялікая, усенародная рэволюцыя 1905 г.

Гэтая рэволюцыя адыграла рашаючую ролю ў фармаванні таленту Якуба Коласа. Яна рабіла глыбокую прабоіну ў кітайскай сцяне нацыянальнай і правінцыяльнай адчужанасці, што панавала стагоддзямі ў былой расійскай імперыі. Яна абудзіла ад векавой спячкі мільённыя масы, дала ім бадзёрасць і рэволюцыйную адвагу, фармавала іх соцыяльную і нацыянальную самасвядомасць, навучыла іх змагацца за свае правы.

Якуб Колас—цела ад цела і косць ад касці беларускага працоўнага сялянства—знайшоў у гэтай рэволюцыі непасрэдны адказ на праклятыя пытанні, якія мучылі яго. Ён стаў песняром рэволюцыйнай сялянскай дэмакратыі поруч з другім сапраўдным пачынальнікам сучаснай беларускай мастацкай літаратуры—Янкам Купалам.

Падобна да таго, як нельга зразумець рэволюцыйнага руху беларускага сялянства па-за рэволюцыйным рухам па ўсёй былой царскай імперыі (у першую чаргу рускага рэволюцыйнага руху),—па-за кіраўніцтвам пролетарыята, які, па словах Леніна, паклаў на буржуазную рэволюцыю пятага года адбітак сваёй пролетарскай рэволюцыйнай тактыкі,—таксама нельга зразумець творчасці Якуба Коласа па-за пладатворным уплывам рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры народаў царскай Расіі, у першую чаргу вялікіх літаратур рускага і украінскага народаў. Гэтая кроўная сувязь першых паэтычных строф Якуба Коласа з лепшымі заваёвамі вялікай рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры прыкметна нават пры павярхоўным знаёмстве з вершамі Якуба Коласа перыяда першай рускай рэволюцыі.

Гэтага не маглі не бачыць ворагі беларускага народу—беларускія нацыяналісты, якія таму і прыкладалі ўсе свае намаганні для таго, каб утаіць, змазаць не толькі ролю рускай рэволюцыі ў фармаванні таленту Коласа, але і бясспрэчны ўплыў лепшых узораў рускай і украінскай дэмакратычнай літаратуры на творчы рост маладога Коласа.

Першы зборнік вершаў Якуба Коласа, які вышаў у 1910 г. („Песні жальбы“), сустрэў характэрны ў гэтым сэнсе прыём у „Нашай Ніве“.

„У некаторых вершах Якуба Коласа,—пісаў рэцэнзент Бульба,— спатыкаем вялікі ўплыў расійскіх паэтаў—Лермантава, Некрасава, і калі ён стараецца патураць ім, тады верш яго траціць па сіле і колерах, стаецца наіўным, як гэта бачым у вершы „Песня над Калыскай“, але гэтых вершаў не багата і з твораў яго відаць, што самабытная беларуская нота паэту лепш удаецца, і што Колас нам дасць больш родных вобразаў“.

Аўтар гэтай рэцэнзіі са скуры лезе вон, каб пераканаць маладога Коласа ў тым, што „вялікі ўплыў рускіх паэтаў“, у прыватнасці рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, тармозіць рост „самабытнага“ беларускага таленту. Паэтычная страфа Коласа траціць, бачыце, сілу і вобразнасць, становіцца наіўнай іменна тады, калі яна адчувае на сабе ўплыў блізкай рэволюцыйна-дэмакратычнай паэзіі рускага і украінскага працоўнага народаў.

Ці варта гаварыць багата на тэму пра выключна-пладатворны ўплыў рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры на раннюю творчасць Коласа? Чытайце гэтыя цудоўныя паэтычныя радкі Коласа:

АРОЛ

Над смужнай раўнінай высока, высока
Разняў свае крыллі арол адзінокі,
І вокам празорным ён даль азірае
І гучныя крыкі над полем раняе.
А поле замлела, ляжыць у тумане
У покрыўцы смужнай, бы у цёмнай сутане.
Свая, відаць, думка аб чымсці гаруе,
І крыкаў арліных нізіна не чуе.

(1910 г.)

У гэтай суровай паэтычнай мове, у гэтым вобразе арла, які лётае над „смужнай раўнінай“, у гэтых крыках арліных, якіх „нізіна не чуе“,—хіба мы не чуем, да некаторай ступені, паэтычную баявую пераклічку маладога Якуба Коласа з горкаўскім буравеснікам, які лунае „над сівой раўнінай мора“?

Хіба не традыцыйны ўзрушаюча-мужны вобраз маткі рэволюцыянера (варта прыгадаць „Маці“ Горкага), прыходзіць на памяць, калі вы чытаеце наступныя радкі:

Не ў салдаты выпраўляе
 Маці свайго сына,
Не на службу ў двор да пана,—
 Ідзе у суд хлапчына.
Знае маці—не жартуюць,
 Судзяць суддзі строга,
Хоць сынок яе не злодзей,
 Не зрабіў нічога:
Не забіў, не абясславіў,
 О, не, не! Крый божа!
Гаварыў ён—ну, што ў гэтым?
 Што так жыць нягожа.

(1910 г.)

Пераклічка ранніх вершаў Якуба Коласа з гнеўнай паэтычнай страфой Тараса Шэўчэнкі чутна не ў адным вершы Коласа. Колас піша:

Ой, вы, думкі, думкі,
Сэрца майго раны!
Ці вы мае дзеці,
Ці вы кім пасланы?—

(1909 г.)

выклікаючы ў памяці чытача такія-ж цудоўныя лірычныя радкі Тараса Шэўчэнкі.

Пушкін і Некрасаў былі настаўнікамі маладога Коласа.

Якуб Колас любіў гэтых пісьменнікаў за сувязь іх з народам, за праўду жыцця, увасобленую ў іхных радках.

Можна прывесці вялікую колькасць тэкстаў, якія пацвярджаюць гэтую творчую пераклічку паміж маладым беларускім паэтам і класікамі рускай дэмакратычнай літаратуры.

Нельга прайсці міма творчага ўплыву Пушкіна на Коласа. Гутарка ідзе не толькі пра рытмічную блізкасць між паэтычнымі строфамі Коласа і Пушкіна. Колас у шэрагу мясцін па-свойму творча вар'іруе паэтычныя матывы Пушкіна. Возьмем, напрыклад, верш Пушкіна „Эхо“:

Ревет ли зверь в лесу глухом,
Трубит ли рог, гремит ли гром,
Поет ли дева за холмом,—
На всякий звук
Свой отклик в воздухе пустом
Родишь ты вдруг.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Тебе ж нет отзыва... Таков
И ты, поэт.

Колас пераклікаецца з гэтымі радкамі ў сваім вершы „Водгулле“.

Ці гром гучнабежны пракоціцца ў хмарах,
Ці гукне над лесам пярун,
Усё водгук знаходзіць ў бязмежных абшарах,
Усё іх дакранаецца струн.

Аднак, Колас па-свойму канчае гэты верш. Яго канцоўка зусім у духу „грамадзянскай музы“.

А ты, калі гора каго напаткае,
Ці жальба пачуецца, плач,
Або запануе дзе крыўда ліхая,—
На ўсё адгукніся, адзнач.

Значыць, калі гутарка ідзе пра творчую вучобу Коласа на буйнейшых узорах рэвалюцыйна-дэмакратычнай рускай і украінскай літаратуры, мы маем на ўвазе не сляпое, механічнае перайманне тэкстаў папярэднікаў, а цікавы працэс ідэйнай і творчай блізкасці паміж пісьменнікамі, якіх яднала адно пачуццё любові да народу, адно пачуццё нянавісці да прыгнятальнікаў народу.

Веліч ранніх паэтычных твораў Якуба Коласа заключаецца іменна ў тым, што Якуб Колас не з'яўляецца ў іх „самабытным“

беларускім пісьменнікам у тым разуменні „самабытнасці“, пра якое гаварыў нацыяналістычны рэцэнзент Бульба ў сваёй рэцэнзіі на першы зборнік вершаў Коласа.

Страфа Коласа не толькі не траціць сілы і вобразнасці, не толькі не становіцца наіўнай, калі на яе падае гераічны водбліск рускай і украінскай рэволюцыйна-дэмакратычнай паэзіі, а, наадварот, іменна тады яна разгортвае ўсе закладзеныя ў ёй творчыя магчымасці.

Перасцерагаючы Якуба Коласа ад „пераймання“ Некрасава, Кальцова, Пушкіна, Шэўчэнкі, беларускія нацдэмы ставілі сабе мэтай заглушыць звонкі, баявы, паэтычны голас маладога паэта, закуць яго ў кайданы нацыяналістычнай абмежаванасці.

## II.

Беларускія нацыяналісты, па сутнасці, сустрэлі варожа першыя літаратурныя крокі Коласа. У гэтым сэнсе вельмі характэрна тая сустрэча, якую зрабіў першаму зборніку вершаў Коласа віднейшы прадстаўнік буржуазнай, нацыяналістычнай беларускай літаратуры, законадаўца яе густаў, тэарэтык яе эстэтычных поглядаў—Максім Багдановіч. Ён пісаў пра кніжку вершаў „Песьні жальбы“:

„Цэльнай выглядае яна (кніжка твораў Коласа—Я. Б.) па светапогляду, моцна зросшыміся адзін з адным здаюцца яго вершы, але ёсць у ёй і якаясь акамянеласць: на працягу аж 4 гадоў Колас не зрабіў значнага кроку ўперад і ў самых апошніх вершах пяе аб тым-жа, як і ў пачатку сваёй працы“.

Нельга сказаць, што такая рэцэнзія была актам спрыяння і творчай салідарнасці з боку Багдановіча. Колас, па словах Багдановіча, увесь час пяе пра адно і тое-ж. А нацыяналістычны эстэт Багдановіч не можа згадзіцца з такой „акамянеласцю“ матываў.

Пра што-ж спяваў у сваіх першых вершах Якуб Колас?

Так, ён спяваў пра адно і тое-ж!

Ён спяваў пра цяжкое жыццё працоўнага беларускага сялянства. Ён, часам выключна падрабязна, часам паўтараючыся, апісваў жыццё селяніна, яго вузкі палетак, яго ўбогую вёску, збуцвелы крыж пры дарозе і смяротны сум, як на могілках.

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе—льецца пот.

Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш, сэрца забаліць.
На двары паленне, цёскі,
Куча сметніку ляжыць.

Крыж збуцвелы пры дарозе,
Кучка тапалёў сухіх...
Ціхшна, нудна, бы ў астрозе
Ці на могілках якіх.

(1906 г.)

Так, Колас спяваў пра адно і тое-ж,—але-ж і жыццё на працягу вякоў спявала пра адно і тое-ж!..

Эстэты з лагера беларускага буржуазнага нацыяналізма бачылі ў гэтых дэталёвых зарысоўках сялянскага быту, у гэтых бясконцых, на думку Багдановіча, паўторах недахопы літаратурнай тэхнікі маладога Коласа, натуралістычную бездапаможнасць яго. Чытач Коласа—беларускі селянін—у гэтых строфах бачыў іншае: ён бачыў праўду жыцця, ён бачыў сябе, сваю пахіленую хату, у якой „чорна, непрыбрана, парасяты пад палком", ён бачыў „кучу сметніку" на двары, бруд, у якім ён жыве. Награмаджэнне, здавалася-б, натуралістычных дэталяў набывала асаблівую функцыю. Паэт няшчадна, „груба", выкрываў ліберальную хлусню пра дабрабыт „праваслаўнага аратага".

Эстэты з пагардай гаварылі пра слязлівасць ранніх вершаў Якуба Коласа, пра шэры каларыт, які, моў, з'яўляецца пануючым каларытам яго ранніх вершаў.

Колас гэтага ніколі не ўтойваў.

У адным з найбольш ранніх сваіх вершаў, напісаных у 1904г., Колас піша:

Не пытайце, не прасіце
Светлых песень у мяне,
Бо, як песню заспяваю,
Жаль вам душу скалыхне.

Але было-б зусім няправільна думаць, што раннія вершы Якуба Коласа вычэрпваюцца матывамі слязлівасці. Яшчэ 16 гадовым хлапчуком Якуб Колас напісаў два вершы, якія, як ён пра гэта гаворыць у сваёй аўтабіяграфіі, захаваліся ў яго памяці. Адзін верш называецца „Плач", другі—„Смех". Вось страфа з верша „Плач":

Цэлы век я ўсё страдаю,
Шчасця я не бачу,
Сваё жыццё праклінаю
Ценгле горка плачу.

А вось страфа з верша „Смех":

Годзе плакаць, надаела,
Слёз не набяруся,—
Каб-жа, доля, ты згарэла,
Ось-жа, засмяюся.
Пражыву век смяючыся,
Хочаш?—пабажуся.
Ка мне, доля, не сучыся:
Дальбог, засмяюся!

Слязлівыя матывы ў ранняй творчасці Коласа, бясспрэчна адлюстроўвалі і настроі адчаю, якія былі ўласцівы значным пластам сялянства. Пра іх (сялян—Я. Б.) Ленін гаворыць (у артыкуле пра Талстога), што яны „плакалі і маліліся".

Аднак, пры больш блізкім знаёмстве з гэтымі слязлівымі вершамі, мы бачым, што яны амаль што скрозь і ўсюды напоўнены магутным зарадам сацыяльнага пратэсту, у іх своеасаблива

спалучаюцца слёзы і смех, матывы адчаю і матывы „злоснага смеху“ па адрасу ворагаў народу. Колас піша:

Бачыш слёзы ты людскія,
Як з расою тэй ліюцца,
А ў тумане думкі злыя
Горкім плачам аддаюцца.
Як без хлеба і без долі
Працавіты люд наш гнецца,
Кінь ты жальбу нашу ў неба,—
Няхай неба ўскалыхнецца.

(1907 г.)

Гэта, заўважце, не слязлівы мяшчанскі раманс. Сантыментальны струмень у творчасці ранняга Коласа з'яўляецца своеасаблівым праддвер'ем да магутных, заклікаючых рэвалюцыйных строф.

Кінь ты жальбу нашу ў неба,
Няхай неба ўскалыхнецца,—

хіба пра такія песні жальбы можна гаварыць, што яны сведчаць пра акамянеласць аўтара? Хіба гэтым мужным радкам можна кінуць папрок у слязлівасці, у шэрасці?

Гэта спалучэнне слязлівага матыва са „злосным смехам“ можна сустрэць у шэрагу вершаў Коласа перыяду першай рускай рэвалюцыі. У паэтычнай трактоўцы Коласа і вецер.

То засвішчаш за вугламі,
Жалем разальешся,
То сярдзіта ў дзверы стукнеш,
Злосна засмяешся...

Жанравыя (бытавыя) зарысоўкі, якіх так багата ў ранніх вершах Коласа, карціны абяздоленага жыцця беларускага селяніна таксама скрозь і ўсюды праходзяць пад гэтым знакам спалучэння жальбы і смеху—злоснага рэвалюцыйна-сатырычнага смеху, які абрушваецца на галовы ворагаў, як нож гільятыны.

Божа, божа, твая воля!
(Хоць і можа гэта грэх),
Што за жыццё, што за доля!—
Проста плач бярэ і смех!
У хаце чорна, непрыбрана,
Парасяты пад палком,
Павуцінаю заткана
Столь і кут пад абразом.

(1907 г.)

Злосны смех Коласа так і чуецца паміж радкоў шматлікіх яго рэвалюцыйна-сатырычных вершаў. Тэматыка іх разнастайна.

Цар спрабуе ашукаць народ фальшыўкай сваёй „канстытуцыі“. Колас у адказ на гэта піша злосныя, вострыя строфы:

Развялося стражнікоў,
Як якой жывёлы,
Ад іх плешак і шнуроў
Чырванеюць сёлы.
Колькі ўсякіх строгіх мер—
Канца няма краю!
Канстытуцыю цяпер,
Як пяць пальцаў знаю.

Колас паспяхова ўжывае прыёмы рэволюцыйнага куплета, які ў тыя гады адыграў вялікую ролю ў справе рэволюцыйнай прапаганды. Усім вядома яго дасціпны, рэволюцыйна-сатырычны верш „Асадзі назад!“

У вёску хлеб прыслалі,
Там галодных шмат.
Пруся я з мяшэчкам—
Асадзі назад!

Галаву я маю!
Быў бы дэпутат.
„Цэнзу“ ты не маеш,—
„Асадзі назад!“

Праўда, што таіцца,
Быў і мой чарод:
Два разы на жыцці
Вышаў я ўпярод.

Узбунтаваў я вёску.
Ой, быў цяжкі год!
Прыязджае прыстаў:
„Выхадзі ўпярод!“

(1908 г.)

Колас вельмі добра разумеў дзейснасць гэтых жанраў і не адзін раз імі карыстаўся на тым этапе сваё творчасці. Колас напісаў шэраг вершаў, якія, па сутнасці, з'яўляюцца своеасаблівымі паэтычнымі пракламацыямі. Яны прадоўжваюць традыцыі лепшых твораў нелегальнай рускай рэволюцыйнай літаратуры.

Малады вясковы настаўнік Якуб Колас быў яшчэ далёкі ад разумення рухаючых сіл рэволюцыі, але ён вельмі добра ўразумеў дзе ворагі народу: гэта—багацеі і памешчыкі, гэта—жандары і царскія чыноўнікі. Ад імя працоўнага народу Якуб Колас ганьбуе зграю царскіх сатрапаў і памешчыкаў:

Багачы і панства,
Нашы „дабрадзеі“
Мы на суд вас клічам,
Каты вы, зладзеі!

І на грозных межах,
Часаў пераходных
Смела вас пытаем,
Прагных і нягодных:

„Чыімі рукамі
Вы дабро збіралі?
На чые вы слёзы
Дабрабыт куплялі?

І за што, скажэце,
Палкамі нас білі,
Еклі-катавалі
Голадам марылі“

(1906 г.).

Колас праўдзіва адлюстроўвае думкі і пачуцці беларускага селяніна, які стогне пад падвойным ярмом нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту, калі ён патрабуе бязлітаснай расправы з памешчыкамі

і царскімі каланізатарамі. Бойцеся сялянскай сярмягі,—ускліквае Колас па адрасу царскага самадзяржаўя.

—Эх, Мікола: што тут цешыць?
І стары, а як дзіця:
Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не равешаць.

Заклік паэта—перавешаць паноў, па плебейску распраўіцца з памешчыкамі і царскімі апрычнікамі азначаў, што малады сялянскі дэмакрат Якуб Колас, умудроны вопытам вялікай усенароднай рэвалюцыі 1905 года, стаў сапраўдным песняром рэвалюцыйнай сялянскай дэмакратыі, стаў сапраўдным сынам беларускага народу.

Гэта вядома, было не да спадобы тым, хто прыкладаў усе свае намаганні, каб зацягнуць Коласа ў балота буржуазнага лібералізма і нацыяналізма. Буржуазныя лібералы і нацыяналісты не хавалі сваіх варожых адносін да Коласа—дэмакрата.

Колас, як вядома, быў асуджаны ў 1908 годзе да вызвалення ў турме ў сувязі з яго ўдзелам у нелегальным настаўніцкім з'ездзе. Колас і адсядзеў у царскай турме тры гады (1908—1911 гг.). Турма шмат чаму навучыла Коласа. Шэраг цудоўных суровых рэвалюцыйных песень прагучэла пад скляпеннямі турэмнай камеры маладога вясковага настаўніка. Колас стварыў цыкл незабыўных вершаў пра царскую турму і яе вязняў. Беларуская ліберальна-буржуазная і нацыяналістычная грамадскасць з пагардай і знявагай сустрэла гэтыя выдатныя вершы. Той жа Максім Багдановіч пісаў: „Ведама, турэмнае жыццё не дае яму развівацца і павялічыць круг сваіх тэм. А іх у Коласа вельмі мала: бедныя абразы роднага краю, доля нашага народа, турэмныя думкі і жыццё—вось, здаецца, і ўсе тэмы яго твораў". Як бачыце, той жа папрок у „акамянеласці"! Турэмныя „думкі і жыццё" ў вачах нацыянал-эстэта Багдановіча пазбаўлена хоць якой каштоўнасці, як матэрыял для паэтычнае творчасці.

Але вось, чытайце адзін з такіх турэмных вершаў, ад якога павявае невычэрпнай сілай рэвалюцыянера:

Вось мяне і пасадзілі,
Каб сялян не бунтаваў.
Мяне білі і судзілі,
Па участкам валачылі,
А цяпер сюды папаў.
. . . . . . . . . . . . . .
Хоць навіслі густа хмары,
Хоць на змор мяне бяруць,
Не! Мяне не справяць кары
Толькі злосці паддадуць!

(1909 г.,).

Усё ў вершах такога зместу—пачынаючы з матыва „не дамся!" і канчаючы лексікай і сістэмай вобразаў—ад традыцыйнай рэвалюцыйна-дэмакратычнай турэмнай паэзіі.

Хіба можна папракаць за „аднастайнасць“ наступныя турэмныя строфы Якуба Коласа:

Высока, высока ў астрозе акно,
І крэпка жалезам абіта яно!
А глянеш за горад—і вочы гарадь,
Ад далі шырокай іх трудна адняць.
Не выказаць, брацці, як воля міла
І журба якая на душу лягла
Па вольнаму жыцці, па шыры палёў,
Па роднаму шуму зялёных лясоў!
Эх, меў-бы я крылле, свабодна-б махнуў
І поўнымі-б грудзьмі я волю ўдыхнуў,
І там-бы на момант душою спачыў,
І слаўную-б песню аб волі злажыў,
Ды крэпкі аковы, а крылляў няма
І сэрца мне душыць, як камень, турма.

(1910 г.)

Цяжка і да гэтага часу схаваць хваляванне, калі чытаеш гэтыя радкі, што пераклікаюцца з турэмнымі матывамі ў народнай творчасці, што пераклікаюцца з песняй „Солнце всходит и заходит, а в тюрьме моей темно“. У гэтых вершах няма надуманых вобразаў, у іх часцей за ўсё няма індывідуалістычнага надрыву. Праўда, сям-там, здавалася-б, яны зводзяцца да простага пераліку людзей і рэчаў, якія запаўняюць турэмную камеру. Але іменна ў гэтай непрыхарошанай суровай праўдзівасці сіла гэтых строф.

Ноч глухая. Ціха.
Густа легла цьма.
Дрэмле чутка варта,
Цяжка спіць турма.
Страшнай зяўрай змея
Карыдор глядзіць,
І тужліва лямпа,
Свеціцца, дрыжыць.

(1908 г.)

У гэтых турэмных вершах Коласа нямала традыцыйнай для народных турэмных вершаў цягі на волю, з наіўна ўзрушаючымі марамі пра палі, пра кветкі, недзе там—па той бок турэмнай агарожы. Але Колас не перастае сцвярджаць у шмат якіх сваіх „вершах няволі“, што, па сутнасці, турма прадоўжваецца і па той бок турэмнай брамы. Якая-ж воля для абяздоленага, прыгнечанага беззямеллем, падаткамі і паборамі селяніна? Такая „воля“, па сутнасці, не лепш за астрог.

Прысеў Бабёр на цвёрдай нары,
Знайшоў акурак, закурыў,
І нізка галаву спусціў—
Яму свабода горай кары
А сёння тэрмін быць на волі.
Куды-ж ён дзенецца, бядак?
Ідзі, лаві ты ветру ў полі—
Ён гэтай волі знае смак!
А сіл няма, не служаць ногі
Не хоча слухацца рука,
Адно і ёсць, што біць парогі,
Уздзеўшы торбу жабрака.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ох, воля, мілая часіна!
Відаць, і ты не ўсім міла.

(1910 г.)

Як вядома, рэволюцыйна-дэмакратычная паэзія рэзка выступала супроць так званай „чыстай лірыкі“ дваранскіх і буржуазных эстэтаў. Гэтую лірыку яна парадыравала, высмейвала. І Якуб Колас у шэрагу сваіх вершаў сурова абрушваецца на тых, хто апявае дзеля „чыстага мастацтва“ месяцавыя ночы, салаўя, закаханую парачку і „іншыя мелехлюндзіі“ (Маякоўскі). Ён злосна парадыруе гэтую лірыку:

Помню, помню тую ночку!
Не забуду я той час,
Пеў салоўка у садочку,
Зор цягнууся ў небе пас.

Выплыў месяц круглы, поўны,
Падрумянены як блін,
Цярушыўся мрок бязмоўны,
І п'яніў мяне ясмін.

І прышла ты нечакана,
Сама, строгая, прышла!
І са мною аж да рана
Тую ночку правяла.

Загадала першым дзелам
„Рукі ўгору!“ мне падняць,
Ды кішэні аглядзела
Нават кіцель мусіў зняць.

Тут, як бачыце, і ночка, і „салоўка у садочку“, і лірычныя зоры, „чароўная незнаёмка“, якая прышла нечакана і ўсю ноч правяла з паэтам. Але, выяўляецца, што і салавей не той, і ночка не тая, і зоры не тыя, і месяц, якая шкада, „вульгарна“ „падрумянены як блін“, а тая невядомая, строгая, што прышла нечакана да паэта, была вельмі празаічнай жандармскай асобай, якая крыкнула „рукі ўгору!“ і зрабіла ў паэта вобыск. Паэт нібы гаворыць чытачу: хіба можна адцягнуць увагу ад гэтай „прозы жыцця“ ў імя „чыстай лірыкі“? Хіба час спяваць пра салаўёў, пра зорныя ночы і пра месяц, калі з твару зямлі яшчэ не змецена сістэма паліцэйскага свавольства, памешчыцкай і кулацкай кабалы, сістэмы самадзяржаўя.

Але ці значыць гэта, што Якуб Колас чужы лірыцы?

Не, нават на гэтым этапе ў суровым паэтычным голасе пісьменніка можна знайсці нямала цудоўных, інтымных, лірычных нот пра каханне, радасць, сум, месячную ноч, пра рамантычныя ўсходы і захады сонца. Вось верш Коласа „Каханне“. Колас піша па-свойму пра каханне.

Якое гэта дзіўнае каханне—скажа буржуазны эстэт,—якое засілле натуралістычнай прозы!

А гэта-ж цудоўныя вершы, сапраўды лірычныя строфы!

На жэрдзе мы селі
У мроку маўчком,
І я прытуліўся
К табе плячуком.

Язык мне адняўся,
Я сліну глытаў,
А потым нясмела
Цябе запытаў:

„Скажы мне, Ганулька,
Ці любіш мяне?
„Люблю“, ты сказала:
„Аж сэрца мне схне!“
І лапці з-за спіны
Мае ты зняла,
Анучы у Нёман
Ты мыць панясла.
Ганулька, Ганулька!
Павер, зразумей—
Я ў свеце не бачыў
Кахання шчырэй!
На вуліцы мурза
Яхімаў брахаў,
І стражнік пасвістваў,
Нагайкай махаў.
Я-ж быў шчаслівейшы
На свеце батрак,
Ішоў, не баяўся,
Шнуроў*) і сабак.

(1907 г.)

Апошнія дзве страфы гучаць палемічна. Яны накіраваны супроць традыцыйнага „нейтральнага“ абрамлення лірыкі. Каханне Коласа—земнае каханне. Яно не можа адцягвацца ад усерасійскага стражніка, які пасвіствае—памахвае нагайкай, уносячы свае „карэктывы“ ў „чыстую лірыку“. Яно не можа забыць, што існуюць яшчэ на зямлі „шнуры“ і сабакі. Але іменна па суседству з гэтымі „па-за лірычнымі“ строфамі так цудоўна, сардэчна, непасрэдна гучаць радкі:

І лапці з-за спіны
Мае ты зняла,
Анучы у Нёман
Ты мыць панясла.
Ганулька, Ганулька!
Павер, зразумей,
Я ў свеце не бачыў,
Кахання шчырэй!

Колас спявае лірычна і аб тым, як улятаюць жураўлі „роўненькім шнурочкам“:

Меншыцца шнурочак,
У паднябессі тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее
Міг—і прападае.
Стаіш ты, смутны,
Доўга, пазіраеш,
Як бы нешта страціў,
А што і сам не знаеш.

(1909 г.)

Бо нішто чалавечае не варожа паэту.
Паэту не варожы і просты чалавечы сум па далёкаму прыяцелю:

І я думаў, што ў аконцы
Ты, як я, стаяла,
На апошні погляд сонца
Смутна пазірала.

(1911 г.)

*) паліцэйскіх

Ці можна папракнуць аўтара гэтых радкоў за недахоп глыбока лірычнага пачуцця, вялікай чалавечай цяплыні?

Ужо на гэтым этапе сваёй творчасці Колас не адзін раз звяртаецца да пейзажа. Колас вельмі добра ведае беларускую прыроду. Хлопчыкам ён не мала вандраваў са сваім бацькам—лясніком па балотах і лясах Беларусі. Ён палюбіў свой Нёман, Беларускія палеткі, цудоўныя ўсходы і захады сонца, дрэвы, кветкі. Паэт, звяртаючыся да іх, недвухсэнсоўна намякае чытачу на тое, што пад ботам царскага жандарма, памешчыка і кулака вяне зямля, блякне яе краса.

Палюбуйся, паглядзі ты
Як прыгожанька ўгары,
Як усюды бляск разліты,
Быццам неба ў пажары!

А цяпер зірні на зямлю:
Як тут цёмна, дарагі,
Як тужліва яна дрэмле
І як сон яе даўгі!

(1909 г.)

У такім сэнсе раннія пейзажы Коласа часцей за ўсё нясуць функцыю соцыяльнага пратэсту, супроцьстаўляючы цёмную абяздоленую зямлю дзівоснаму, але далёкаму небу:

Нешчаслівая наша доля,
Нам нічога не дала,
Не шукайце кветак ў полі
Бо вясна к нам не прышла.

## III.

Суровы рэжым царскай рэакцыі і ідэйны ўплыў буржуазных нацыяналістаў „Нашай нівы“, на старонках якой друкаваўся Якуб Колас,—не адразу зламілі вялікі талент пісьменніка з народа Якуба Коласа. Нават у найбольш змрочныя гады сталыпінскай рэакцыі Якуб Колас не раз рвецца на волю, бадзёра гучаць яго заклікі да сяброў і паплечнікаў.

Не хаваючы сваёй пагарды, Якуб Колас піша па адрасу тых, якія пасля паражэння рэволюцыі 1905 года здрадзілі народу:

Распаўзліся вы,
Пахаваліся,
І ад думак сваіх
Адцураліся.
З таго часу я,
Адзін смычуся,
І ніяк я вас
Не даклічуся!

(1909 г.)

Аднак, і Колас у гэтыя гады не мог устаяць. Ужо нават у 1907—08 г. сярод бадзёрых рэволюцыйных строф Коласа трапляюцца радкі, якія сведчаць пра некаторую ідэйную разгубле-

насць паэта. Колас адчувае сябе адзінокім. Наўкола цемра, дзе-ж дарога?

Дзе-ж, дарога ты, другая?
Я стаю адзін, адзін,
Ноч вакол ляжыць глухая,
Ці-ж то свет сышоўся ў клін?
Дык скажы мне, цьма глухая:
Доўга будзеш ты ляжаць?
Доўга будзе думка злая
Сэрца жалем калыхаць?

(1907 г.)

Ідэйны ціск буржуазных ліберала ў і нацыяналістаў з „Нашай нівы“ на Якуба Коласа дае сябе знаць. Якуб Колас пачынае згортваць свае рэвалюцыйныя лозунгі, замяняючы іх фразеалогіяй ліберальнага асветніцтва.

Цёмна ў вёсцы, беспрасветна,
Цяжка, цяжка школе,
Ды праз школу непрыметна
Прыдзе шчасце—воля.
Не загінуць край і людзі,
Пасынкі народу,
Калі ў краі гэтым будзе
Ззяць прамень свабоды.

Ужо ў вершах 1909 г. Колас сям-там замяняе рэвалюцыйную паэтычную страфу звычайнай ліберальнай культуртрэгерскай прапагандай.

Пераход да пейзажу, да жанравых (бытавых) зарысовак дыктуецца цяпер зусім іншымі меркаваннямі. У прыродзе паэт пачынае шукаць той „гармоніі інтарэсаў“, таго спакою, якіх няма на зямлі. Не віхор, а „прыемны ветрык“, не грозны арліны клёкат, а песня, якая „лашчыць слых“.

Дзе прыемны ветрык млее,
Збажыну калыша,
Дзе пакоем-згодай вее,
Дзе ўсё шчасцем дыша.

(1909 г.)

Пераход да бытавых зарысовак цяпер цягне за сабой натуралістычнае крохаборства паэта, ідэалізацыю абмежаванага сялянскага быта. Ужо ў 1910 г. Якуб Колас у вершы „Агляд зямлі“ дае своеасаблівы эцюд для сваей будучай вялікай паэмы „Новая зямля“, дзе кіруючай ідэяй з'яўляецца ідэя кулацкага хутарскога дабрабыту. У гэтыя гады Якуб Колас і пачынае працаваць над адным з буйнейшых свайх паэтычных твораў—паэмай „Новая зямля“ (пачата ў 1911 г.).

Паэма „Новая зямля“, у адрозненне ад іншых паэтычных твораў Якуба Коласа, сустрэла выключна цёплы прыём з боку беларускіх эстэцкіх і буржуазна-нацыяналістычных колаў. Цягу селяніна Міхала да свайго ўласнага „кутка“, да сваёй „зямелькі“, якая, моў, ёсць аснова ўсяго „жыцця“, цягу да заможнага хутарскога жыцця, г. зн. да ліберальна-буржуазнай згоды са сталыпінскай рэакцыяй нацдэмы абвясцілі выяўленнем нацыянальнай „псіхікі беларускага селяніна“.

З поваду „Новай зямлі“ нацдэм Дзержынскі пісаў: „Найбагацей, аднак, у паэме выяўлена нацыянальная псіхіка беларускага селяніна. З гэтага боку „Новая зямля“ з'яўляецца найбагацейшай крыніцай для даследвання гэтае нацыянальнае псіхікі“.

Цяжкасці, якія селянін Міхал сустракае на сваім шляху ў пошуках хутара (за немалую суму ў 3000 руб!) нацдэм Дзержынскі разглядае, як „трагізм мінулага жыцця“. Яшчэ больш цынічна-правакацыйна выказваецца нацыянал-фашыст, заняты вораг беларускага совецкага народу—Антон Лёсік. „Міхалы з „Новай зямлі“, (па словах Лёсіка,) —„таўкнулі аснову старога капіталістычнага строя ў Окцябрскую рэволюцыю. Гэта яны сталі будаваць зямлю на новы лад, каб жыць нанова“.

Гэты кулацкі погляд на паэму „Новая зямля“ і яе герояў доўга трымаўся сярод нацыяналістычных літаратурных крытыкаў, нават у совецкі перыяд.

І. І. Замоцін у сваім артыкуле пра „Новую зямлю“, надрукованым у 1926 г. пісаў, што паэма Якуба Коласа „Новая зямля“ „падводзіць сваіх герояў і сваіх чытальнікаў да таго прасторнага шляху новага жыцця, які будуецца ў нашы дні“.

Як-жа ў сапраўднасці абстаіць справа з „Новай зямлёй“?

Якуб Колас у некаторых лірычных адступленнях гэтай паэмы падкрэслівае, шта ён піша праўду, што праўды ён не ўтоіць ад чытача

Ды горкай праўды не схаваеш,
Яе ніяк не ашукаеш.
Ды і навошта? Крый нас, божа!
А праўда мне ўсяго даражэй,
І бацька праўдзе вучыў змала,
Дык з гэтай праўдай ступім далей.

Лепшыя старонкі гэтай паэмы сапраўды сведчаць аб тым, што буйны рэалістычны талент Коласа нават у часы яго палонення буржуазна-ліберальнымі ідэямі „Нашай нівы“, у шэрагу мясцін перамагаў буржуазна-ліберальную і нацыяналістычную абмежаванасць.

Ідучы за гэтай праўдай жыцця, рэаліст Колас не мог не напісаць нават у паэме „Новая зямля“ вершаў, прасякнутых гарачым пратэстам супроць царызма і паноў.

Будуй ты ўсюды ім харомы.
Завошта-ж ім, спытаць, пашана?
Навошта бог трымае пана?
Дзеля таго, каб панавалі
І нашым братам папіхалі?
Ці ласку ў бога заслужылі,
Каб іх тут песцілі, тулілі?..
Хэ, брат! усё то—ашуканства!
Калі—небудзь ім згіне панства.
І чуў Міхал нутром, душою—
Не мае грунту пад сабою
Вось лад такі на гэтым свеце.

Там, дзе прарываецца рэалістычны талент Коласа, ён ярка апісвае прыроду Беларусі. Любоў да лясоў Беларусі, да яе ўсходаў і захадаў сонца, да яе марозаў і адліг, да навальніцы,—усё гэта—асычае ў шэрагу мясцін паэму „Новая зямля“ незабыўным хараством.

Адсюль—шэраг своеасаблівых, я нават сказаў-бы фламандскіх пейзажаў, натур-мортаў і жанравых зарысовак гэтай паэмы.

Услон заняў сваё ўжо места,
На ім стаяла дзежка цеста,
І апалонік то і дзела
Па дзежцы боўтаў жвава, смела,
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі
Льючыся з шумам на патэльні,
І ў жар стаўлялася пякельны,
І там з яго ўжо ў вачавідкі
Пякліся гладзенькія пліткі
Бліноў. спаднізу наздраватых,
Угору пышна, пухла ўзнятых,
І ўжо адтуль рукою маткі
На ўслон шпурляліся аладкі,
А дзеці іх даўно сачылі
І наляту бліны лавілі,
Заядла мазалі іх здорам.

Ярка рэалістычная вобразнасць, рэалістычная метафара, простая, не надуманая, увесь час кідаюцца ў вочы, калі чытаеш паэму. Колас—майстар разгорнутай рэалістычнай метафары.

Як дзве старэнькія кабеткі,
К каторым старасць неўзаметкі,
Падкраўшысь злодзеем срэдзь ночы
Як смачны сон змыкае вочы,
Красу і крэпасць забірае
І ўсю іх жывасць выкрадае
Ды кіне іх адных, старэнькіх,
Адных, як перст, і чуць жывенькіх
І непатрэбных анікому
На цягасць жыццю маладому,—
Так каля хатачкі ў садочку,
Схіліўшысь ціхенька ў куточку,
Стаялі дзве вярбы старыя,
А навакола маладыя
Дзярэўцы пышна красавалі
На свет вясёла пазіралі.

Аднак, усё гэта абсалютна не дае падставу для таго, каб заплюшчыць вочы на той факт, што *ідэйная аснова гэтай паэмы ў корані парочная*. Селянін Міхал, які купляе хутар за 3000 руб., які марыць аб тым, каб „стаць панам“, вядома ні ў якой ступені не з'яўляецца носьбітам „нацыянальнай псіхікі беларускага селяніна“. Народніцкая ідэя „улады зямлі“ не мае нічога агульнага з думамі, і падзеямі рэволюцыйнага, працоўнага беларускага сялянства. І хіба можна прайсці міма таго, што ў гэтай паэме, поруч з цвярозымі рэалістычнымі зарысоўкамі жыцця Беларусі, поруч з дзівоснымі ўзрушаючымі вобразамі сялянскіх дзяцей,—Колас часта ў сусальна-фальшывай народніцкай манеры апісвае „радасную працу“, „сытае жытняе жыццё“.

Касцы ідуць то грамадою,
То шнурам цягнуць чарадою,
То паасобку, то па пары,
Ідуць касцы, ідуць, як хмары,
І льецца смех іх разудалы,
Як веснавыя паравалы.

Гаворка, шум і коняй ржанне—
Касьбы вясёлае вітанне.
Касцы, ваякі мірнай працы,
Выходзяць з косамі на пляцы,
І на палоскі верставыя
Кладуцца коскі іх крывыя...

Таксама фальшыва-сусальныя строфы пра „набожны праваслаўны народ“:

— А пойдзем, голубе-нябожа!
Антось і Костусь ідуць з хаты.
Цянююць вуліцай дзяўчаты,
Шчабечуць весела, смяюцца,
І хлопцы дзесь перагукнуцца.
І ўсе вясёлы, ўсе рухлівы
І святам заўтрашнім шчаслівы.
А царква, макаўка святая,
Народу поўна, блескам ззяе.
Сярод царкоўкі плашчаніца
Стаіць між елачак зялёных
Кабеты, дзеўкі, маладзіцы
Ідуць—плывуць да плашчаніцы
У хустках белых і чырвоных,
Набожна хрысцяцца, ўздыхаюць
І лбом данізу прыпадаюць.

Малюнкі „сытага жыцця“ сялян, з намёкам на тое, што такога жыцця няма „у компродзе“ гучаць не менш шкодна:

А на стале тым—рай ды годзе,
Таго не знойдзеш і ў „Кампродзе“:
Ляжала шынка, як кадушка,
Румяна-белая пампушка,
Чырвона зверху, сакаўная,
Як-бы агонь у ёй палае,
А ніз бялюткі, паркалёвы;
Кілбасы-скруткі, як падковы,
Між сцёган, сала і грудзінак
Красуе ўсмажаны падсвінак,
Чысцюткі, свежы і румяны,
Як-бы паніч той надзіманы.
Муштарда, хрэн—адно дзяржыся
У рот палажыш—сцеражыся!
А пірагі, як сонца, ззялі,
Ў роце бабкі раставалі.
Са смакам елі і багата—
На тое-ж даў бог людзям свята.

А хіба можна прайсці міма таго, што ў шэрагу пейзажаў, на якія багата гэтая паэма, паэт выступае ў якасці пасіўнага сузіральніка, а прырода—у якасці ўвасаблення „гармоніі інтарэсаў“, міра і спакою?

Эх, выйдзі ў поле, брат, дасвету:
Не будзеш каяцца ніколі.
Зірні, прыслухайся наўкола:
Як ціхамірна, як вясёла!
І ў кожным дрэве, і былінцы,
І ў малюпасенькай раслінцы,
Ну, ва ўсім чысценька да звання
Блукае радасць спадзявання.
Куды ні глянь—усё ў настрої
І ў добрай згодзе між сабою.

Гэтыя сузіральна-сантыментальныя адносіны да прыроды псуюць шмат якія пейзажы Коласа. Яны становяцца танна-сусальнымі, у іх няма больш рэалістычнай сілы Коласа.

А ў люстры водаў гэтай рэчкі,
Як закаханая дзяўчына,
Глядзіцца пышная вярбіна.
У бліскучым лісцейку, як свечкі,
На алтары у час малення,
Іскрацца сонейка праменні,
Бы смех бязгрэшны і шчаслівы...

На этапе першай рускай рэволюцыі Якуб Колас умеў спалучаць матывы соцыяльнай барацьбы з матывамі барацьбы за нацыянальнае вызваленне беларускага народу. Ён умеў бачыць у беларускім мужыку рэальную рэволюцыйную сілу, здольную пад кіраўніцтвам рабочага класа разняволіць нацыянальна-прыгнечаны беларускі народ. Цяпер, Колас, знаходзячыся ў палоне буржуазна-ліберальных, нацыяналістычных ідэй „Нашай нівы", разглядае барацьбу за нацыянальнае вызваленне, як шавіністычную барацьбу між народамі. У паэме „Новая зямля" ў некаторых лірычных адступленнях, Колас гаворыць пра сваю бязмежную любоў да далёкага роднага краю*). Ён чулліва гаворыць пра сваё дзяцінства. Аднак гэтая любоў да радзімы ператвараецца ў сваю супроцьлегласць, становіцца зброяй у руках ворагаў радзімы—буржуазных нацыяналістаў, калі Колас скардзіцца на „чужынцаў", сярод якіх ён жыве далёка ад сваёй Беларусі („людзей душой халодных і сэрцам чэрствых", як гаворыць Колас). (Гл. раздз. XVIII).

Калі паэма „Новая зямля" ў значнай ступені выкрывае ўнутраную барацьбу, якая адбываецца ў Коласу,—барацьбу пісьменніка-рэаліста, пісьменніка-дэмакрата супроць ілжывых і ліберальных ідэй, якія аблыталі яго,—дык у другім буйным паэтычным творы, у паэме „Сымон-музыка", пачатай у гэты-ж час (1911 г.), Колас яшчэ далей адыходзіць ад рэалізма.

Беларуская нацыяналістычная крытыка сустрэла паэму „Сымон-музыка" з не менш напышлівай урачыстасцю, чым паэму „Новая зямля". У гэтым матыве „музыкі" беларускія нацдэмы бачылі ледзь не філасофію „творча-мастацкага духу" беларускага нороду. Наіўна-алегарычны расказ пра прыгоды сялянскага хлопчыка Сымона, які, дзякуючы ўмяшанню славутага містычнага дзеда-дудара, становіцца найталенавіцейшым музыкантам, нацдэмаўская літаратурная крытыка ацаніла як перамогу Коласа. Абапіраючыся на тэксты гэтай паэмы, беларускія нацдэмы гаварылі пра містычную місію беларускага народу, пра мастака, які з'яўляецца „ключом, што адчыняе свет ідэальнага" (Бабарэка). Шэраг ідэалістычных і нацыяналістычных выказванняў аўтара пра ролю мастацтва, пра прыроду, пра соцыяльныя адносіны нацдэмаўская крытыка ўзняла на шчыт.

Буржуазна-ліберальныя, нацыяналістычныя пазіцыі, вядома, не абяцалі Коласу ніякіх магчымасцей для таго, каб праўдзіва разаб-

*) Шэраг раздзелаў паэмы „Новая зямля" Колас пісаў па-за межамі Беларусі—у РСФСР.

рацца ў тым крывавым клубку соцыяльных супярэчнасцяй, які атрымаў сваё трагічнае выражэнне ў імперыялістычнай вайне. Якуб Колас—пісьменнік-рэаліст, які першае сваё баявое палітычнае хрышчэнне атрымаў у агні рэволюцыі 1905 г., не мог не бачыць таго кашмару разбурэння і незлічоных бядот для народу, якія несла з сабой імперыялістычная вайна. Аднак, з другога боку, Якуб Колас са свайго дробна-буржуазнага назіральнага пункта не мог бачыць выхаду з гэтага крывавага тупіка, „крывавага віра“, як Колас называе імперыялістычную вайну.

У шэрагу вершаў гэтага перыяда Колас інстынктыўна натыкаецца на думку пра неабходнасць пратэсту супроць імперыялістычнай бойні. Але далей пацыфісцкіх, абстрактна-гуманістычных пратэстаў Якуб Колас не ідзе. У вершы „Думкі салдата“ Якуб Колас, які сам пэўны час, як мабілізаваны, служыў у царскай арміі, піша:

Эх, за што? Ну, за што, адкажэце вы мне,
Я павінен другіх знішчажаць,
Ці калечыць сябе ў гэтай дзікай вайне
І пад кулі свой лоб падстаўляць?
Вы, што селі ўгары, як вас, каты, назваць?
Не шкада вам нявінных людцоў.
Самадурства сваё вы гатовы купляць
Мільёнамі нашых галоў.

Якуб Колас, як бачым з гэтых строф, ужо натыкаецца на думку аб тым, што іменна з вярхоў, там, дзе засядаюць царскія, буржуазна-імперыялістычныя каты,—іменна адтуль выходзіць план „крывавага віра“. Аднак, ён пакуль яшчэ далёкі ад таго, каб ускрыць пяром рэаліста тыя соцыяльныя сілы, якія толькі і ў стане рассячы гэты крывавы „гордзіеў вузел“. Пасіўна-сузіральна, з некаторым надломам гучаць строфы:

Ляціце вы ў край паўднёвы
Зіму пераждаць,
Каб на вясну песняй новай
Родны кут вітаць.
А я еду, госці лета,
У той крывавы вір,
Дзе вар'яцтва ўсяго свету
Свой спраўляе пір.

(1917 г.)

У стане ідэйнай разгубленасці, ідэйнага тупіка Колас сустрэў Кастрычніцкую рэволюцыю. Буржуазна-нацыяналістычныя ідэі на працягу шэрагу гадоў совецкага перыяду трымаюць у палоне буйны рэалістычны талент Коласа. Колас не бачыць праўды жыцця. Колас не разумее, якія гіганцкія, сусветна-гістарычныя перспектывы раскрыты перад чалавецтвам Кастрычніцкай рэволюцыяй. Колас далёкі ад народа, ад яго дум і падзей.

У гады выключнага пад'ёму ўсіх творчых сіл совецкіх народаў, у гады, авеяныя няўміручай героікай грамадзянскай вайны, перад тварам цудоўнейшых эпапей, якія разгортваюцца на прасторах маладой Совецкай рэспублікі, Якуб Колас адчувае сябе адзінокім, разгубленым, няверуючым. Значная колькасць вершаў, датаваных 1918—22 г. сведчаць аб тым ідэйным тупіку, у якім апынуўся паэт, па-

ланёны беларускімі нацыяналістамі і буржуазнымі рэстаўратарамі. Сярод гэтых вершаў нямала такіх, дзе Якуб Колас, які знаходзіўся ў гэтыя гады за межамі БССР (у РСФСР), аплаквае свой лёс выгнанніка, што таміцца сярод „чужаніц". Яму здаецца „жудасны свіст савы", якая лётае над савецкай краінай. „Усё маўчыць, бы сон засняты навялі тут ведзьмары"—гаворыць паэт.

У 1921 г. Якуб Колас прыехаў у БССР. Шчыльная сувязь з беларускімі нацдэмамі, з кожным годам паглыбляла тую бездань, якую беларускія нацдэмы выкапалі паміж Коласам і беларускім працоўным народам. Аднак, гіганцкія перамогі соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, у прыватнасці ў БССР, перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР і нябачаны росквіт беларускай культуры, соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме— не маглі не ўскалыхнуць час ад часу Якуба Коласа. Ён робіць шэраг спроб далучыцца да маладой беларускай савецкай літаратуры, да новай савецкай тэматыкі.

Паварот Коласа ў гады аднаўленчага перыяда да прозы ў значнай ступені супадае з ростам рэалістычнага таленту Коласа.

Колас, як вядома, ахвотна карыстаўся прозай і ў раннія гады сваёй творчасці. Поруч з паэтычнымі творамі, Колас ужо на этапе першай рускай рэволюцыі піша шэраг алегарычных казак, невялікіх бытавых зарысовак, гумарыстычных апавяданняў, у якіх выяўляецца сіла рэалізма Коласа. Алегарычныя навелы Коласа перыяда першай рэволюцыі прадоўжваюць традыцыі рэволюцыйнай алегорыі, якая, як вядома, мела шырокае распаўсюджанне ў рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры і была вострай зброяй у рэволюцыйна-прапагандысцкай рабоце.

Рад гэтых рэволюцыйных алегорый змешчан у зборніку Якуба Коласа „Казкі жыцця".

Вось яго апавяданне „У балоце": панская брычка трапіла ў балота; пан спрабуе паклікаць на дапамогу навакольных сялян, але пры кожнай спробе сялян *па свойму* цягнуць брычку ў пана абуджаецца яго стары панскі гонар:

„— Ідзеце да д'ябла, хамове!—узлаваўся пан.

— Лепш ты сам з д'яблам застанься.

— Пойдзем, хлопцы, дадому!

І пашлі.

На балоце стала цёмна.

А брычка і паны ўсё глыбей у гразь лезуць".

Справа канчаецца тым, што панская брычка і паны, што сядзяць у ёй „усё глыбей у гразь лезуць".

Рэволюцыйны чытач гэтых алегарычных казак добра, з поўслова, разумеў Якуба Коласа. Ён ведаў, пра якую брычку ідзе рэч і пра якіх паноў, што трапілі ў балота гаворыць Колас.

У алегарычнай казцы „Жывая вада", пабудаванай на фальклорным матэрыяле (матыў „крынічкі"), Якуб Колас простай народнай мовай расказвае свайму рэволюцыйнаму чытачу пра тое, як рэволюцыйнай павадкай знесла ўсё старое, усё гнілое і ілжывае:

„Ціхая скарга грымела ў небе страшным голасам грому і калыхала ўсю зямлю; стогны людскія, якіх ніхто не чуў, бліщчэлі ма-

ланкамі, а слёзы цяклі халоднымі, чыстымі руччамі на зямлю і ажыўлялі яе. Вада збіралася ў адну раку і дружна стала напіраць на гару“.

Гара царскага самаўладства, памешчыцкага і кулацкага заняволення руйнуюцца дружным напорам рэволюцыйных патокаў.

У шэрагу гумарыстычных навел, у невялікіх скупых, але рэалістычна-яркіх бытавых замалёўках Якуб Колас расказвае з лёгкай іранічнай усмешкай пра жыццё царскіх чыноўнікаў, вясковага „начальства“, пра жыццё сялян. У гэтых гумарыстычных апавяданнях вы не шукайце пустасмеху. У іх Якуб Колас непрыкметна падводзіць свайго рэволюцыйнага чытача да шэрагу „разваг ля параднага пад‘езда“.

Хіба можна не задумацца над здавалася-б нявіннай гумарыстычнай навелай „Тоўстае палена“!

У гэтай навеле Якуб Колас апавядае пра тое, як селянін абкладзены штрафам за тое, што ён вывез з лесу палена больш тоўстае, чым гэта ўстаноўлена было законам, даводзіцца да такога стану, што яму амаль не на кожным кроку мірсцяцца гэтыя „тоўстыя паленні“.

Хіба можна спакойна чытаць апавяданне Коласа „Кантракт“, у якім Колас расказвае пра тое, як вясковы сход у поўным складзе не можа авалодаць прамудрасцю напісання кантракта.

У гады рэакцыі гэты жанр невялікіх гумарыстычных навел і алегарычных казак напаўняецца зусім, зразумела, іншым зместам. Ідэі буржуазнага лібералізма і нацыяналізма ляжаць у аснове шэрагу апавяданняў і алегарычных казак гэтага перыяду. Адна з гэтых алегарычных казак „Адзінокае дрэва“, датаваная 1912 годам канчаецца так:

„— „Што рабіць?

— Пусціць глыбей карэнні ў зямлю,—сказаў крумкач,—мудрая галава, лятучы на раздабыткі“.

„Пусціць глыбей карэнні ў зямлю“, — вось ідэя, якая авалодала і прозай Коласа.

У алегарычнай казцы „Хмарка“, датаванай 1912 г., Колас намякае свайму чытачу, каб „не лятаці дарэмна па свеце, не бадзяліся; у сваім родным кутку работы досыць для кожнага“.

Сярод апавяданняў і навел першых год савецкага перыяда, таксама не мала такіх, у якіх Якуб Колас — на шкодных і антырэалістычных пазіцыях. Досыць успомніць апавяданне „Пад новы год“, надрукаванае ў зборніку для дзяцей „Першыя крокі“ у 1925 г. Вось як Якуб Колас „навучае“ ў гэтым апавяданні свайго дзіцячага чытача:

Да дзіцяці з‘яўляецца Новы Год. Ён прапануе дзіцяці палётаць па зямлі.

„У гэту ноч мы павінны аблятаць увесь свет, — прамовіў Новы Год. — Я даведаўся, што ты хочаш лятаць на аэраплане. Табе, сынку, не ўдасца мець свой аэраплан, бо твой тата не мае грошай і на тое, каб накарміць вас, як трэба. Апрача таго, аэраплан не можа доўга лятаць і машыны яго псуюцца. А папсуецца машына, ён падае на зямлю і разбіваецца“.

Можна смела сказаць, што аповесць „На прасторах жыцця" з'яўляецца першай, найбольш істотнай сустрэчай Якуба Коласа з совецкай тэматыкай. Лепшыя старонкі гэтай аповесці адзначаны перамогай рэалістычнага таленту Коласа. Колас з выключнай цяплынёй простай мовай расказвае аб тым, як цудоўная наша сялянская моладзь, перамагаючы ўсе цяжкасці першых гадоў совецкай улады, цягнецца да кнігі, на вучобу ў горад.

Якуб Колас цяпер вельмі добра разумее, што ў совецкім горадзе шмат чаму можна навучыцца, што горад не варожы вёсцы. „Трэба пажыць у горадзе, навучыцца, развіць, узброіць прыродны свой розум, тады і ў глушы не страшна" — гаворыць адзін з герояў аповесці „На прасторах жыцця". Непасрэдна, цёпла апісана Коласам каханне вясковага хлопчыка Сцёпкі да вясковай дзяўчыны.

Аднак, поруч з гэтым Колас не можа вызваліцца ў гэтай аповесці ад шэрагу чужых совецкай літаратуры народніцкіх схем. Вобраз комсамольскага арганізатара ў гэтай аповесці эпізадычны, ды яшчэ ён зніжаны, дыскрэдытаваны. Гэты комсамольскі арганізатар, як выяўляецца на справе — пошлы мяшчанскі „кавалер", які не мае ніякага аўтарытэту сярод вясковай моладзі. З другога боку сялянскі хлопец Сцёпка, як выяўляецца, адзіная „рухаючая сіла" на вёсцы. Ні совецкая ўлада, ні партарганізацыя не прымаюць удзелу ў мерапрыемствах (па пабудове плаціны), якія пачаты Сцёпкам. У некаторых мясцінах пранікае падазроная ідэя Сцёпкі аб арганізацыі „сялянскіх саюзаў", „калектываў працы".

Пераход да рэалістычнай прозы атрымаў сваё больш яркае выражэнне ў працы Коласа над раманам „У Палескай глушы" (другая частка гэтага рамана называецца „У глыбі Палесся".

Характэрна тая сустрэча, якую наладзілі раману нацдэмаўскія рэцэнзенты. Праф. Піотуховіч у сваім артыкуле лічыць патрэбным падкрэсліць, што раман „У Палескай глушы"—„адбівае гэты паважны момант з'яўлення ў беларусоў іх духоўных правадыроў, прасякнутых высокімі ідэаламі служэння яго сынам".

Найбольш ідэйна-парочны матыў рамана — славуты ліберальна-народніцкі матыў — „інтэлігенцыя і народ", Піотуховіч лічыць патрэбным усяляк вітаць.

Герой рамана, вясковы настаўнік Лабановіч, сапраўды ў шэрагу мясцін падобны да таго эсэраўска-нацдэмаўскага „духоўнага правадыра", пра якога гаворыць праф. Піотуховіч. Толькі ціскам народніцкага лібералізма і нацыяналізма можна тлумачыць тое, што рэаліст Колас у шмат якіх раздзелах гэтага рамана сапраўды паўтарае збітыя, ілжывыя, народніцка-нацыяналістычныя схемы „духоўных правадыроў". Гэтыя раздзелы бясконца сантыментальныя, у іх багата інтэлігенцкага псіхакапацельства, павярхоўнага інтэлігенцкага скептыцызма:

„А можа гэта смутак аб чымсці такім, міма чаго прайшоў ты няўважна і страціў навекі? Ці гэта—адбітак вечнага нездавальнення чалавека, якое выдзяляе яго з кругу жывёлін і вядзе па дарозе шукання і ўтварэння лепшых стасункаў жыцця і яго хараства?"

„Адбітак вечнага нездавальнення чалавека",—хіба гэта да твару Коласу-рэалісту.

Кожны раз, калі рэалізм перамагае ў самім Коласе наіўнае асветніцтва, народніцкі лібералізм і нацыяналістычную абмежаванасць, кожны раз, калі рэаліст Колас узнімаецца вышэй нацыяналістычнай схемы „духоўных правадыроў“,—праўда жыцця ўступае ў свае правы, Колас перамагае класавую абмежаванасць свайго акружэння.

Лабановіч аказваецца тады інтэлігентам, па сутнасці не ведаючым народа, чужым яму. Лабановіч неаднаразова імкнецца, як належыць народніцкай „крытычна-мыслячай асобе“, далучыць народ да „свету“, да „новага жыцця“, але робіць ён гэта так, што народ яму адказвае традыцыйным „не суйся“ (пра што так зло і астраумна пісаў Салтыкоў-Шчэдрын, высмейваючы народніцкіх лібералаў).

Рэаліст Колас піша:

„Лабановіч хадзіў па пакоіку і разважаў над гэтым здарэннем. Яму было крыўдна тое, што сам ён—мужык, а не ведаў мужыцкіх звычаяў“.

Разумеецца, што тут справа не толькі ў „звычаях“. Даць праўдзівы вобраз Лабановіча азначала—паказаць гэтага народніцкага Манілава ва ўсёй яго антынароднасці.

У другой частцы рамана Колас яшчэ часцей выкрывае ўсю неабгрунтаванасць спроб Лабановіча стаць „духоўным правадыром“. Па сутнасці і „рэвалюцыйны“ акт Лабановіча (сялянскі „ультыматум“ памешчыку, напісаны Лабановічам) сведчыць не пра рэвалюцыйнасць Лабановіча, а пра яго ліберальна-рэфармісцкую прыроду. „Соль зямлі страціла салёнасць“,—гаворыць зусім правільна пра „духоўных правадыроў“ адзін з герояў гэтага рамана Коласа.

Значэнне Коласа ў тым, што ён у шэрагу раздзелаў гэтага рамана, іменна, і паказвае чытачу, як так званая „соль зямлі“—„духоўныя правадыры“ тыпа эсэраўска-народніцкіх настаўнікаў—страцілі сваю салёнасць. Вось чаму ўсе спробы Якуба Коласа ўключыць Лабановіча праз выпадкова падкінутую эсэраўскую пракламацыю, праз выпадкова прачытаную эсэраўскую брашуру ў рэвалюцыйныя шэрагі сялянскага руху—рэалістычна не апраўданы. У асобе Лабановіча „духоўныя правадыры“ па сутнасці дыскрэдытаваны. У гэтым перамога рэалізма Коласа, „нават не гледзячы на погляды аўтара“, як гаворыць у адным месцы Энгельс пра рэалізм Бальзака.

У рэцэнзіі на раман „У Палескай глушы“ Шукевіч-Трэцьякоў у свой час спрабаваў давесці, што Колас асуджан—знаходзіцца ў зачараваным коле дасовецкіх тэм. Колас, паводле слоў Шукевіча-Трэцьякова, дойдзе да совецкай тэматыкі „пазней, калі сучасныя дні ўжо стануць гісторыяй“.

Выходзячы з падобнай „філасофіі“ нацдэмаўская крытыка спрабавала ўсімі сіламі прыкаваць Якуба Коласа да тэматыкі „палескай глушы“.

Вядома, што беларускія нацдэмы спрабавалі супроцьстаўляць „самабытную культуру“ палескай глушы социялістычнай культуры. Палескія бабулькі, старыя дзяды палескай глушы высоўваліся беларускімі нацдэмамі, як сапраўды беларускае ўцелаўленне „нацыя-

нальнага духу". Якуб Колас які не мала год працаваў вясковым настаўнікам у найбольш глухіх кутках Палесся, зусім зразумела неаднаразова цягнуўся да тэмы „палескай глушы". Аднак, у перыяд рэволюцыі 1905 г., у гады свайго рэволюцыйна-дэмакратычнага ўздыму, ён, заўважце, не займаўся нацыяналістычнай і народніцкай стылізацыяй „палескай глушы" і „самабытных" палешукоў. Ён тады бачыў убогае жыццё палескага працоўнага сялянства, ён бачыў гразь, нэндзу, бескультур'е. Вось як ён пісаў пра Палессе ў 1909 г.

„Ціха і нудна ў дарозе. Часамі толькі да нашых вушэй далятала жалобная доўгая, як палескія балоты, песня пастухоў... жаласны свіст дудкі ў старане ад дарогі ў густых зараслях нудным завываннем навяваў на душу некі смутак".

Гэты-ж матыў паўторан Коласам у вершы „Палессе", надрукаваным у той-жа час у тым-жа зборніку („Другое чытанне", 1909 г.)

Ціха ў лесе, як ў магіле,
І канца яму няма.
Зноў дзервякі зачасцілі...
Як у ночы ў лесе цьма.
Аж на сэрцы сцішна стала,
Аж забілася мацней...
Хоць бы поле заблішчала,
Хоць бы вёска як барджэй.

У 1916 г. Якуб Колас зварачаецца да тэмы Палесся. Але ўжо цяпер вершы пра Палессе гучаць інакш:

Я люблю твой прастор,
Гмах шырокі балот,
Дзе бубняць бугаі,
Дзе красуе чарот,
І дзе травы, як мора, ляглі.
Калі лес там, дык лес:
Можна тыдзень дыбаць,
А прастор—дык прастор,—
І канца не відаць,
Не ахопіш, не змерыш зямлі.
Я люблю твой спакой
Яснасць ціхіх дзянькоў,
Залаценькі убор,
Тую чырвань лясоў,
Што на сонцы ўвосень гарыць.

(1916 г.)

Колас тут ідэалізуе „палескую глуш", ён бачыць у ёй не нэндзу-не бескультур'е і гразь, а „спакой і яснасць ціхіх дзянькоў". Пасіўна, сузіральныя, рамантычныя адносіны да Палесся прыходзяць на змену рэволюцыйна-дэмакратычнай трактоўцы гэтай тэмы.

І ў рамане „У палескай глушы" кожны раз, калі рэалістычны талент Якуба Коласа падае пад цяжарам чужых яму ліберальна-нацыяналістычных ідэй, у наяўнасці паверхоўная, ідэалізацыя „самабытнасці" палескай глушы. Колас тады бачыць у Палессі невычарпальную крыніцу „старажытнасці" і „хараства".

„Ад гэтых балот патыхала нейкім невыразным смуткам; ціхім жалем веяла ад гэтых аднатонных малюнкаў палескіх куткоў, дзе ўсё-ж такі жыццё ствapaлa свае асобныя формы і, не гледзячы на ўсё ўбоства, мела сваю павабнасць і хараство, свой твар, поўны тужлівага задумення“.

Раман „У палескай глушы“ найярчэйшым чынам сведчыў пра глыбокую ўнутраную барацьбу, якая адбываецца ў Коласе паміж Коласам-рэалістам і тымі чужымі нацыяналістычнымі буржуазна-ліберальнымі схемамі, якія навязваліся яму беларускімі нацдэмамі.

Колас, як майстар-рэаліст, мог перамагчы толькі канчаткова скінуўшы з сябе нацыяналістычны хлам.

III.

1930 год—год рашучага наступу на кулацтва і ліквідацыі яго як класа на базе суцэльнай калектывізацыі, год вялікага пералому стаў годам сапраўднага вялікага пералому і ў творчасці Якуба Коласа.

Якуб Колас ідэйна стаў відушчым. Ён убачыў гістарычную асуджанасць капіталістычных класаў. Ён пачуў трупны пах іх ідэалогіі, ідэалогіі нацыяналізма і капіталістычнага рэстаўратарства. Ён нібы выклікае з нетраў свайго творчага мінулага галерэю сваіх старых, гэтак блізкіх калісьці яму вобразаў, і ставіць іх на „очную ставку“ з рэчаіснасцю. Шмат якія з іх, як выяўляецца, фальшывыя, надуманыя, не адпавядаюць рэчаіснасці. Шмат якія з іх выкрываюць сваю сялянскую абмежаванасць, палавінчатасць. Якуб Колас цяпер вельмі добра разумее, што „адзванілі званы на званіцах, збуцвелі, паніклі крыжы“.

Ці-ж не гэтыя нацыяналістычныя „званы“ намагаліся заглушыць на працягу шэрагу гадоў яго рэалістычны голас?

У асобе вялікай партыі большэвікоў, у асобе Цэнтральнага Камітэта комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі Якуб Колас знайшоў мудрае кіраўніцтва, прыяцельскую і братэрскую дапамогу ў складанай справе сваёй ідэйнай і творчай перабудовы. Да Якуба Коласа варочаецца яго былая сіла соцыяльнай патэтыкі, узбагачаная новым вопытам—вопытам соцыялістычнага будаўніцтва.

Не пра сялянскую „волю і долю“ спявае цяпер Якуб Колас. Ён знаходзіць цяпер новыя словы для працэсаў соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне:

У пустых дзірваністых абшарах,
Патапельніц і багны балот
Дзівы робяцца ў год:
Аджываюць аблогі, імшары,
Загараюцца зоры-стажары,
Асвятляюць вялікі паход.
І спяваюць вятры-самадуры,
Гучным звонам у струнах дратоў,
На гітарах слупоў,
Што бягуць як ганцы, з Асінбуду.

(1930 г.)

Зноў паэт звяртаецца да сваёй вёскі. Цяпер ён бачыць не толькі цемру, убоства, былога абмежаванага вясковага жыцця. Ён бачыць і выхад з жабрацтва. Гіганцкія перамогі калгаснага будаўніцтва, сусветна-гістарычныя дасягненні соцыялістычнага будаўніцтва падвялі паэта ўшчыт да думкі аб тым, што не „новая зямля“, не „свой кут“ ёсць аснова жыцця.

„Мая зямля“, „мой поплаў“, „паша“,
„Мой луг“, „мой конь“, „мае каровы“—
Злінялыя, старыя словы!
Пара, пара даць сэнс ім новы:
Змяніць іх час на „наш“ і „наша“!

(1930 г.)

У цыкле вершаў „Калгаснае“, напісаных у гады вялікага пералому ў совецкай вёсцы, Якуб Колас з цёплым, крыху гранічным юмарам, прабірае серадняка, які з цяжкасцю вырашае пытанне пра свой пераход у калгас:

Па чыну мне паложана,
Як ёсць я серадняк,
Глядзець на ўсё устрывожана
І думаць так і сяк.
Такая катавасія
Аж пыл курыць і дым!
Не жарты нам калгасія
Падумаць ёсць над чым!

Да Якуба Коласа варочаецца яго значная сатырычная сіла. У шэрагу яркіх, злосных палітычных памфлетаў Якуб Колас абрушваецца на ворагаў соцыялістычнага беларускага народу—на польскіх шляхцічаў, якія мараць аб тым, каб на касцях беларускага народу стварыць сваю панскую дзяржаву „ад мора да мора“. Гэта верш „На шлюб пана Студніцкага“: у пана вочы разгараюцца на совецкую зямлю, „як на блін гарачы“. Канчаецца верш недвухсэнсовай перасцярогай па адрасу інтэрвентаў розных колераў.

Трызні, пан, пішы пра шлюбы
Тоўстыя трактаты,
Ды глядзі, жаніх бяззубы,
Каб не страціў хаты.

(1935 г.)

Нельга прайсці міма росту лірычнага таленту Якуба Коласа ў гэтыя гады. Усхвалявана, цёпла гучаць радкі, прысвечаныя героям Совецкага Саюза—Каманіну, Молакаву і Слепнёву. Сурова гучаць паэтычныя строфы, прысвечаныя памяці вялікага трыбуна рэволюцыі С. М. Кірава, забітага тройчы праклятымі гестапаўцамі з трацкісцка-зіноўеўскага лагера. Узбагачаецца паэтычная мова Коласа, пашыраецца дыяпазон яго вобразаў, і пры гэтым Колас не траціць той непасрэднасці, народнай прастаты, якія характарызавалі яго творчасць ужо ў першыя гады. Гэтай народнасцю насычаны лепшыя строфы паэта апошніх год.

У гэтым сэнсе варта вылучыць цыкл апошніх вершаў Якуба Коласа „Восенскае“. Вершы напісаны ў 1935 г. Шмат якія з гэтых строф здзіўляюць сваёй паэтычнай сціспасцю, суровасцю каларыта, народнасцю мовы і вобразнай сістэмы.

УЧОРА І СЁННЯ

Пісала нядоля
Свой напіс закляты
На сценах драўляных
Закуранай хаты.
І сцены буцвелі,
А лес быў той самы.
І злыбедзь стаяла
Дзень-ноч каля брамы.
З саломай на стрэсе
Вятры гаманіл .
Мы слухалі доўга
Суровыя былі.
Пра голад, бяспраўе,
Галечу, паборы.
Не ветла свяцілі
Халодныя зоры.
У вокны глядзелі
Тужлівыя ночы
Спявалі завеі
Пра лёс наш сірочы.
Паны-ліхадзеі
Дабро наша жэрлі,
Мужыцкія-ж дзеці
Гібелі і мерлі.

У другім вершы, напісаным увосень 1935 г.—„Шчаслівая хвіліна“—Якуб Колас знаходзіць цёплыя лірычныя словы для спрадвечнай мары маці пра свайго сына. Па-новаму гучаць гэтыя мары:

Праляціш над нашым полем
Ты на самалёце,
Калі я там, мой саколю,
Буду на рабоце.
. . . . . . . . . . . . . .
Ты скідаеш з самалёта
Мне на павітанне
Ліст ад сына—ад пілота
Калгасніцы Ганне.

Аднак, не ў лірыцы цэнтр цяжару творчасці Якуба Коласа на гэтым этапе.

Якуб Колас разгортвае цяпер свой вялікі талент празаіка-рэаліста. Ад маленькай, часам натуралістычна-абмежаванай бытавой зарысоўкі, ад наіўных алегорый Колас пераходзіць да вялікіх соцыяльных абагульненняў. Аповесць „Адшчапенец“ (1932 г.) увойдзе ў гісторыю беларускай совецкай прозы як адна з найарыгінальнейшых кніг пра калектывізацыю. Стары селянін Пракоп—адшчапенец. Ён супроцьстаіць сваёй сям'і, якая пайшла ў калгас, ён парывае з ёю, пакідае свой дом, сваю вёску, каб шукаць на

белым свеце „праўды жыцця“. Здавалася-б, перад намі традыцыйны вобраз народніцкага мужыка-шукальніка праўды. Аднак, у новай ідэйна-творчай трактоўцы Коласа гэты вобраз набывае зусім новае гучанне. У шэрагу мясцін Колас, вельмі тонка іранізуючы, па сутнасці дыскрэдытуе вобраз Пракопа, як „шукальніка праўды“.

„І ён моцна пратрубіў носам апошняе развітанне з тым, што засталося там і цвёрда заківаўся далей“,—так гіранічна расказвае Колас пра тое, як дзед Пракоп пакідае сваю вёску і выпраўляецца ў „пошукі за праўдай“. Неўзабаве дзед Пракоп, з-за розных акалічнасцей, адмаўляецца ад сваёй абстрактнай місіі „шукальніка праўды“. Ён надумаўся схітраваць: ён выдае сябе за калгаснага дэлегата і абходзіць некалькі калгасаў, каб даведацца дзе праўда. Колас дае ў гэтай аповесці шэраг ярка гумарыстычных сітуацый, якія адзначаюць сутычкі гэтага „дэлегата-самазванца“ з вакольнай рэчаіснасцю. У выніку знаёмства з шэрагам калгасаў, Пракоп пераконваецца ў тым, што іменна калгасны лад з'яўляецца тым ладам, які дасць селяніну шчаслівае, заможнае і культурнае жыццё. Праўда, Якуб Колас у шэрагу мясцін наіўна ідэалізуе калгасы перыяда 1930—31 г.

Вось як ён апісвае „новую пароду“ людзей—калгасных людзей: „І другоеназіранне, якое спасцярог тут Пракоп, не магло не звярнуць на сябе яго ўвагі: і мужчыны, і жанчыны, малыя і старыя калгаснікі ў гэтым калгасе рабілі ўражанне новай пароды людзей. Усе яны былі рухавыя, жывыя, гаваркія, ветлыя, вясёлыя і ў дадатак да ўсяго гэтага, выражаючыся груба—гладкія, падкормленыя і нейк па-свойму адзетыя. Не было той замкнёнасці, той панурасці і заклапочанасці, што заззычай характарызуе насяленне старой вёскі“.

У другім месцы Якуб Колас, гэтак-жа наіўна ідэалізуе гэту „новую пароду“ калгасных людзей, прыпісвае калгаснікам амаль не рысы закончанай комуністычнай самасвядомасці.

— „Ну, а ці маюць калгаснікі, сваю асабістую маёмасць,—ну скажам карову, свіней?—дапытваўся Пракоп.

— Такога права ніхто з нас не пазбаўлен,—тлумачыў Мікола— але вось цяпер сталася так, што гэтым правам ніхто ўжо не хоча карыстацца. Чаму? Ды проста няма ніякага разрахунку! На што мне той лішні клопат хадзіць за кароваю, за свіннямі, мець для іх і памяшканне, і корм, калі і малака, і свініны, колькі мне трэба, дасць наш-жа калгас? Яшчэ год таму назад сёй-той чапляўся за гэтыя рэшткі дробнай уласніцкай гаспадаркі, а потым пабачылі ўсю недарэчнасць і патрэбнасць іх і кінулі“.

Аднак, у гэтай аповесці, у вуснах дзеда Пракопа, нават гэтыя наіўныя мясціны гучаць цёпла, абаяльна. На тым этапе калгаснага будаўніцтва, на якім аповесць „Адшчапенец“ стала грамадскім фактарам, такая кніга, напісаная сакавітай народнай мовай, авеяная лёгкім народным гумарам, не ўскладненая сюжэтнымі „хитросплетениями“,—бясспрэчна прынесла велізарную карысць совецкаму чытачу.

Нават эпізадычная фігура кулака Чыкілевіча набывае значную цікавасць. Колас раскрывае хітры манеўр кулака, яго „ціхую сапу“,

накіраваную на падрыў калгаснага ладу. Вось як кулак Чыкілевіч агітуе за калгас: „Так і ў калгасе. Ды ці цапамі-ж малаціць будуць? Машыны табе прышлюць, трактар пусцяць, а ты сабе хадзі, ды пасвіствай“. Агітацыя „за калгас“—хітрая агітацыя кулака за гультайства ў калгасе.

Найбольш яркай перамогай Якуба Коласа апошніх гадоў з'яўляецца яго аповесць „Дрыгва“. Гэта кніга перакладзена на шмат якія мовы народаў СССР. Кола чытачоў гэтай кнігі велізарнае. Яе ўжо чытаюць на калгасных сходах. Рабочыя на прадпрыемствах наладжвалі літаратурныя дыспуты аб „Дрыгве“. Дзеці гуляюць у дзеда „Талаша“—героя аповесці „Дрыгва“.

У чым таямніца велізарнага поспеху гэтай кнігі?

У праўдзе яе.

У гэтай кнізе Якуб Колас сапраўды блісн уў сваім рэалістычным талентам. Тэма Палесся—праўда, не новая для Якуба Коласа. У вершах і апавяданнях ён распрацоўваў гэтую тэму, пачынаючы з першых гадоў сваей творчасці. Аднак, звяртаючыся цяпер да гэтай тэмы, узбагачаны вопытам соцыялістычнага будаўніцтва, ідэйна і творча абноўлены, вызвалены ад нацыяналістычных ідэй, Якуб Колас па-новаму гаворыць пра Палессе. Перад намі не бытавыя зарысоўкі з бедным жыццём палешукоў, не нацыяналістычнае смакаванне самабытнасці і глушы, не схемы „інтэлігенцыя і народ“, у духу схемы Лабановіча ў рамане „У глушы Палесся“.

У цэнтры аповесці стаяць мільённыя масы сялянства, якія паўсталі пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, на барацьбу за соцыялізм супроць белапольскіх акупантаў. Традыцыйны „беларускі дзед“ траціць сваё былое, стылізаванае ў нацыяналістычным духу, гучанне. Ён вырастае ў гераічную фігуру дзеда Талаша, атамана аднаго з атрадаў беларускіх партызан, якія змагаліся пад кіраўніцтвам партыі, плячо ў плячо з Чырвонай арміяй супроць белапольскіх інтэрвентаў. І Палеская глуш змянілася, змяніліся яе пейзажы, змяніліся яе людзі. Яна стала арэнай барацьбы. Славутыя палешукі, пра якіх беларускія нацыяналісты і вялікадзяржаўныя шавіністы гаварылі, як пра „самабытных“ дзікуноў, ідэалізуючы іх дзікунства і адсталасць, як выявілася на справе, не нацыяналістычныя стылізаваныя схемы, а жывыя людзі, якія дзейнічаюць у канкрэтна-соцыяльных абставінах, у абставінах класавай барацьбы.

Якуб Колас вельмі добра ведае традыцыйнасць вобраза дзеда ў беларускай народнай творчасці. Таму ён не выпадкова робіць дзеда Талаша цэнтральнай фігурай сваёй аповесці. І не выпадкова ўся гэтая аповесць у лепшых сваіх раздзелах гучыць, як совецкая быліна, у якой у якасці „волатаў“ выступаюць беларускія партызаны, чырвонаармейцы, комуністы падпольшчыкі. Нельга без хвалявання чытаць сцэну прысягі партызан на лапці, сцэну, якая пераклікаецца з такімі-ж эпізодамі ў сялянскіх войнах XV—XVI стагоддзя на Захадзе.

Вось як пра гэта расказвае сам селянін-партызан:

„А быў сярод нас удалец такі. Марка Булак з-пад Пернішч. Прабеглы чалавечуга! салдат старой арміі.—А, кажа, буду я ім цягацца, як арыштант які! А трасца ім у бок! З нямецкага палона

вырваўся, а тут, называецца дома, цярпець буду? Няма дуракоў! Годзе ім!

Бачым, розумам чалавек па галаве кідае. Абступілі мы яго. Як-жа ты зробіш гэта?—Прысягнеце, кажа, мне, што будзеце слухаць мяне, дык і вы будзеце на волі.—Бачым, надумаўся чалавек. А каму-ж не хочацца на волі быць? Дык чаму не прысягнуць? Вось ён і кажа:—Прысягалі мы Нікалаю на евангеліі, але прысяга яму не памагла. Вы-ж мне прысягніце на нашым мужыцкім лапцю. Паклянецеся, што будзеце слухаць мяне і кожны пацалуй свой лапаць!—сур'ёзна гаворыць, не жартуе.—Лапаць, кажа,—сцяг нашай мужыцкай долі. І ведаеш, дзядзька, што? давай мы цалаваць свае лапці, сабе самім у нагу. Яй-богу. Хто жартам, а хто і напраўду".

Нават у раздзелах, прысвечаных паказу большэвіка-падпольшчыка, вобраз якога цмяна вырысоўваецца перад вачыма аўтара, Якуб Колас дае мужныя, патэтычныя радкі, якія малююць гераічны воблік большэвіка. Праўда, гэты вобраз не разгорнуты. Агульныя словы аб тым, „што шмат было ў тав. Нявіднага напружаных момантаў" не раскрываюць вобраза партыйнага кіраўніка партызанскім рухам у Беларусі.

Нявідны ў мастацкай трактоўцы Коласа—нейкая алегорычная здань—„сейбіт буры і змагання". Яго работа, там дзе яна паказана, выяўляе яго наіўным змоўшчыкам.

Пры першым спатканні з незнаёмым селянінам—Талашом Нявідны з некаторым бахвальствам кажа:

„Справа ў тым, што я вяду патаемную, або як гаворыцца, падпольную работу ад нашай партыі большэвікоў. І калі вы чулі, што сям-там супроць палякаў узнікаюць паўстанні, то тут трошкі паложана і мае работы". Не гледзячы на гэтыя і іншыя недахопы, кніга Коласа „Дрыгва" стала любімай кнігай мільёнаў чытачоў таму, што яна авеяна незабыўнай героікай барацьбы совецкага народа на франтах грамадзянскай вайны, таму, што яна народная ў поўным сэнсе гэтага слова, выказваючы пачуцці і думкі народа.

* * *

Невычэрпнае жыццё, якое адкрываецца перад Якубам Коласам. Цудоўная яго радзіма, дзівосныя людзі краіны соцыялізма.

Ці не ператварылася ўся наша вакольная рэчаіснасць у найцудоўнейшую эпапею, якая толькі чакае свайго паэтычнага выражэння?

Франц Мерынг любіў паўтараць, што існуюць такія перыяды ў гісторыі чалавецтва, перыяды магутнага ўздыму творчых сіл народа, калі ўсе паэты—рэволюцыянеры і ўсе рэволюцыянеры—паэты.

Чытайце гістарычнае пісьмо беларускага народу вялікаму Сталіну.

Адным з аўтараў гэтага пісьма з'яўляецца Якуб Колас.

Што гэта? Паэма? Паэтычны твор?

Так, гэта адзін з найцудоўнейшых твораў нашай соцыялістычнай паэзіі. Але гэта—пісьмо народа, падпісанае мільёнамі людзей, якія загаварылі паэтычнай мовай!

Народ загаварыў паэтычнай мовай, бо „жыць стала лепш, жыць стала весялей“ (Сталін).

Паэт загаварыў мовай народа, мовай рэволюцыі, бо:

„Калі перад намі сапраўды вялікі мастак, то некаторыя хоць-бы з істотных бакоў рэволюцыі ён павінен быў адлюстраваць у сваіх творах“ (Ленін).

На долю Якуба Коласа прыпала вялікае шчасце жыць у краіне, дзе кожная цэгла апаэтызавана, у краіне, адна назва якой—СССР, гучыць, як найцудоўнейшая паэма—паэма, створаная геніем Леніна, геніем Сталіна.

---

# БІБЛІЯГРАФІЯ

*А. Оршын*—**„Этапным парадкам“**, пераклад М. Паслядовіча, ДВБ Менск, 1936 г., стар. 198, цана 4 руб.

Кніга А. Оршына „Этапным парадкам“ напісана на аўтабіяграфічным матэрыяле. Крок за крокам аўтар паказвае той жахлівы шлях, якім яму давялося ісці ў жыццё. Але і гэта не быў шлях аднаго чалавека, гэтым шляхам пры царызме ішлі тысячы сялянскай моладзі—дзяцей вясковай беднаты. Заслуга аўтара якраз у тым і заключаецца, што ён праз аўтабіяграфічныя факты здолеў стварыць абагульняючы паказ таго, у якіх цяжкіх умовах расла, выхоўвалася, працавала бядняцкая сялянская моладзь.

Дома, на вёсцы вечныя нястачы і, як толькі хлапец падрастаў да дзесяці-адзінаццаці год, яго выпраўлялі ў заработкі. „І гэта не толькі ў нас у Тверской губерні, — піша аўтар,—а гэтак вялося па ўсёй Маскоўскай, праўдзівей у Паўночна-Заходняй вобласці“... Лепшыя землі за памешчыкамі ды манастырамі, а вёскам аставаліся адны няўдобіцы.

Героя кнігі бацька выпраўляе ў Піцер, дзе ён пры дапамозе сваяка паступае ў тракцір мыць пасуду з зарплатай у два рублі ў месяц. Лёньку яшчэ пашанцавала, ён адразу стаў на месца. Ён ужо быў, як гэта тады гаварылі, „на сваіх нагах“. Перад ім адкрывалася жыццёвая дарога. Год праз пяць ён мог выслужыцца на тракцірную „шасцёрку“, а там, калі пашчасціла-б, мог стаць афіцыянтам або буфетчыкам. А пакуль што дзевятнаццаць гадзін працы, збіванне да непрытомнасці за пабітую пасуду і штрафы, якія забіраюць увесь заработак. Малады арганізм не вытрымлівае, Лёнька захворвае, яго месца займае другі і ён галодны, абшарпаны месяцамі бадзяецца па Піцеру ў пошуках працы. Ён робіцца анучнікам, але з-за нечалавечых умоў жыцця на анучным прадпрыемстве пачынаецца масавае захворванне на брушны тыфус і прадпрыемства зачыняюць. Зноў Лёнька бадзяецца па начлежках, па бясплатных сталоўках, у яго вечна галоднага адзіны клопат, адна мара, каб хоць крыху чаго-небудзь паесці. „Я знямогся сапраўды празмерна,—высах да касцей. Ад незвычайнага малакроўя ў мяне няспынна звінела ў вушах, і ад лёгкага нахілу з'яўляліся ў вачах і мільгалі вясёлкавыя кругі“. Аднаго разу яму зрабілася дрэнна і, асвяжаючы вадой галаву і грудзі, ён страціў прытомнасць і ўпаў у Абводны канал. Яго выратоўваюць двое рабочых (яны аказваюцца рэволюцыянерамі), якія пасля знаходзяць яму працу на патронным заводзе. Праз колькі часу на заводзе з'яўляюцца пракламацыі, Лёнька знаходзіць пачку пракламацый на двары і, не паглядзеўшы што гэта, прыносіць у майстэрню. За гэта яго б'юць жорстка, бязлітасна. Ён трапляе ў рукі III-га аддзялення, дзе яго зноў б'юць да паўсмерці. Пасля яго высылаюць у манастыр Валаам, а пасля адбыцця тэрміну—этапным парадкам да бацькі на вёску.

На гэтых скупых, але дастаткова красамоўных фактах аўтар разгортвае карціну нечуваных здзекаў над чалавекам. Лёнька ўвесь час знаходзіцца сярод рознага роду абдзірал, усе імкненні якіх круцяцца вакол таго, як ашукаць іншага. У іхным асяроддзі пануе ў самай аголенай форме формула буржуазнага грамадства—чалавек чалавеку воўк. Гэта ў большасці дробныя сошкі, якія не так даўно падняліся з вясковых міраедаў-багацеяў. Яны цягнуць апошнія жылы з беднага люду з халоднай да абыякавасці жорсткасцю і агіднейшым цынізмам. Асабліва ярка выяўляецца іхная бесчалавечнасць у паказе прадпрыемства Меламона Казла. З бязлітасным рэалізмам аўтар паказвае, як яны калечылі хлапчукоў, як навучалі іх разумець жыццё. Навучалі яны больш кулаком, ды яшчэ і філасофствавалі, што інакш не можа быць. Іван Філіпавіч, адзін з абдзірал, напрыклад, разважае:

—„Вучылі і мяне. Так вучылі, што цяпер дзякую, на карысць пайшло: два мураваных дамы маю і гласным у думе састаю. Так яно, судар“.

Або да чаго агідны такі факт: калі зачыняюць анучную вытворчасць Меламона

Казла і Лёнька бярэ разлік, яго з пяці, заробленых збіраннем анучак, у холадзе і голадзе, рублей аблічваюць на два рублі. Амаль напалову! Вось адкуль раслі ў абдзірал мураваныя дамы.

Пра такія факты, а іх у кнізе шмат, нельга спакойна чытаць. Аўтар знешне апавядае спакойна, але за гэтаю стрыманай спакойнасцю адчуваецца вялікае абурэнне чалавека прайшоўшага цяжкі жыццёвы шлях. Кніга хвалюе. Хвалюе па сапраўднаму і чытаецца з цікавасцю.

Скупымі, але яркімі мазкамі раскрывае аўтар перад чытачом змрочнае мінулае. За яго паказам адчуваецца жыццё і непасрэднасць асабістых перажыванняў. Гэта адчуванне ёсць і тады, калі аўтар паказвае і свет Меламонаў Казлоў, і свет начлежак, і свет „святых айцоў", абдзірал у расе—манахаў Валаамскага манастыра, і тады, калі, паказваецца, як Лёнька пасля ўсіх пакут, ні з чым варочаецца этапным парадкам на вёску. Застаўся ў яго адзін светлы ўспамін—пра двух рабочых-токараў, якія выратавалі яго з Абводнага канала, у якіх ён убачыў зусім іншы строй думак і пачуццяў, зусім іншыя імкненні і адносіны да чалавека. Яго цягне да гэтых людзей, як цягне да святла чалавека, які доўга знаходзіўся ў глухой і змрочнай бездані. Яны далі Лёньку штуршок да свядомага жыцця, але пры царызме небяспечна было быць свядомым і Лёнька трапляе ў лапы III-га аддзялення, пасля ў ссылку.

Кніга ахоплівае юнацкія гады героя, яна з'яўляецца першай часткай задуманага аўтарам вялікага твору. Смерць перашкодзіла аўтару яе скончыць. Але і ў няскончаным выглядзе, паколькі ў ёй закончан паказам пэўны перыяд, яна дае ўражанне мастацкага цэлага. Кнігу з карысцю для сябе прачытае чытач, асабліва шчаслівая совецкая моладзь, яна дапаможа ёй канкрэтна, на мастацкіх вобразах уявіць сабе праклятае мінулае і будзе вучыць з тым большаю пашанай і энтузіязмам ставіцца да заваёў соцыялістычнай рэволюцыі.

**Я. Шарахоўскі.**

# ХРОНІКА

## Трыццацігоддзе літаратурнай дзейнасці народнага паэта БССР Якуба Коласа

11 кастрычніка Совецкая Беларусь адзначыла трыццацігоддзе літаратурнай дзейнасці народнага паэта рэспублікі Якуба Коласа. Усе цэнтральныя і раённыя газеты выпусцілі спецыяльныя старонкі, прысвечаныя юбіляру. Па гарадах, раённых цэнтрах, у соўгасах і калгасах адбыліся шматлікія літаратурныя вечары. Сотні прывітальных тэлеграм атрымаў народны паэт з усіх куткоў Совецкага Саюза.

◆ **10 кастрычніка украінскі радыёкамітэт** арганізаваў праз кіеўскую радыёстанцыю літаратурна-музычную перадачу, прысвечаную трыццацігоддзю літаратурнай дзейнасці народнага паэта БССР Якуба Коласа. Уступнае слова пра творчасць паэта БССР зрабіў паэт-акадэмік **Паўло Тычына**. Быў прачытан шэраг твораў юбіляра ў перакладах на украінскую і рускую мовы. Вакальны ансамбль выканаў шэраг беларускіх народных песень.

◆ У Менску ў памяшканні І-га Беларускага дзяржаўнага тэатра адбыўся 11 кастрычніка ўрачысты вечар, прысвечаны Якубу Коласу. Пад бурныя воплескі у прэзідыум былі абраны тт. **Гікало, Валковіч, Галадзед, Чарвякоў, Леплеўскі, Картукоў, Ткачэвіч, Янка Купала, Дзякаў, Александровіч, Шусцін, Суркоў, Іван Лэ, Масэнка** і інш.

Даклад пра трыццацігадовы творчы шлях народнага паэта рэспублікі зрабіў тав. **Пасюкевіч**. Таварыш **Дзякаў** ад імя Наркомасветы шчыра вітае слаўнага юбіляра Якуба Коласа, які сваё жыццё, свой лёс назаўсёды звязаў з жыццём рабочага класа, працоўных, з партыяй Леніна—Сталіна.

Пад гучныя воплескі былі зачытаны прывітальныя тэлеграмы юбіляру ад тт. **Н. Ф. Гікало і М. М. Галадзеда**.

Ад ЦК КП(б)Б народнага паэта рэспублікі прывітаў тав. **Ткачэвіч**. У перапоўненай залі з'яўляюцца піонеры. Яны нясуць юбіляру два вялікіх букеты жывых кветак. Шчаслівыя дзеці совецкай радзімы прадэкламавалі вершы Якуба Коласа і пажадалі яму доўгага і радаснага творчага жыцця.

Ад Саюза совецкіх пісьменнікаў СССР цёпла вітаў юбіляра рускі паэт **А. Суркоў**, ад украінскіх пісьменнікаў—**Іван Лэ**. Народны паэт рэспублікі, стары сябра па пяру, **Янка Купала** прачытаў прысвечаны **Якубу Коласу** свой верш. З палкім прывітаннем ад пісьменнікаў Совецкай Беларусі выступіў паэт **Андрэй Александровіч**, ад яўрэйскіх пісьменнікаў — **Ізі Харык**. Тав. **Сурта** прывітаў юбіляра ад імя Акадэміі Навук БССР.

Рабочыя, ІТР і служачыя друкарні імя Сталіна падарылі юбіляру багаты альбом, у якім яны горача вітаюць юбіляра і абяцаюць усе яго творы выпускаць у свет акуратна і прыгожа афармленымі. Ад рабочых стаханаўцаў Менска Якуба Коласа вітаў т. **Нехведаў**, ад настаўнікаў—т. **Чэрнік**, ад артыстаў—тав. **Рафальскі**.

Тав. **Дзякаў** зачытаў на ўрачыстым вечары пастанову ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб узнагароджанні народнага паэта рэспублікі Якуба Коласа за выдатныя заслугі ў галіне мастацкай літаратуры легкавой аўтамашынай. Урад пастанавіў пабудаваць для Якуба Коласа за кошт дзяржавы дачу з поўным яе абсталяваннем. Прыняты на кошт дзяржавы рамонт і ўтрыманне дома, у якім пражывае народны паэт рэспублікі.

У канцы ўрачыстага паседжання выступаў юбіляр, народны паэт рэспублікі **Якуб Колас**. Ён шчыра падзякаваў усе арганізацыі, грамадскасць, партыю і ўрад і таварышоў за цёплыя прывітанні ў дзень трыццацігадовага юбілея яго літаратурнай дзейнасці.

Вечар закончыўся мастацкай часткай.

◆ **20 кастрычніка юбілейны вечар народнага паэта БССР Якуба Коласа адбыўся ў сталіцы Совецкага Саюза—Маскве, у Доме совецкіх пісьменнікаў.**

Вітаць юбіляра сабралася старая гвардыя большэвіцкай паэзіі і маладыя совецкія пісьменнікі і паэты.

— Трыццаць год працуе на літаратурнай глебе народны паэт Совецкай Беларусі Якуб Колас, — сказаў, адкрываючы сход, адказны сакратар Саюза совецкіх

пісьменнікаў **Владзімір Стаўскі**.— Гэтыя гады былі гадамі ўпартай працы, гадамі ўпартай барацьбы за лепшае шчаслівае жыццё беларускага народу. Якуб Колас, як і народны паэт Совецкай Беларусі **Янка Купала**, належыць да ліку радапачынальнікаў беларускай літаратуры. У асобе Якуба Коласа мы вітаем таленавіцейшага песняра гераічнага беларускага народу.

Цёпла вітаў Якуба Коласа ордэнаносец паэт **Гасем Лахуці**.

— Твае песні, Якуб Колас, я чуў у далёкім Таджыкістане, твае песні аднолькава бадзёра гучаць на ўсіх мовах народаў нашай радзімы. Недалёка той дзень, калі нашы песні, песні паэтаў Совецкага Саюза будуць спяваць на ўсіх мовах свету, як іх цяпер спявае гераічны іспанскі народ, які змагаецца з фашызмам.

Юбіляра прышлі вітаць сакратар совета нацыянальнасцей ЦВК СССР т. **Хацкевіч**, прадстаўнікі беларускага ўрада—намеснік старшыні СНК БССР т. **Любовіч** і сталы прадстаўнік беларускага ўрада пры ЦВК СССР т. **Ластоўскі**.

З дакладам пра творчасць і творчы шлях Якуба Коласа выступіў **Аляксей Суркоў**.

— Юбілей Якуба Коласа, — сказаў у сваім дакладзе тав. Суркоў, — з'яўляецца святам для ўсіх народаў нашай неабдымнай радзімы.

Народны паэт Совецкай Беларусі **Янка Купала** прачытаў прысвечаны юбіляру свой верш. Вечар закончыўся чытаннем вершаў Якуба Коласа, перакладзеных на мовы народаў Совецкага Саюза.

◆ ЦВК і СНК БССР за выдатную работу па перакладу ў высока-мастацкай форме пісьма беларускага народу таварышу Сталіну ўзнагародзілі граматамі ЦВК і СНК БССР тт. **Янку Купалу, Якуба Коласа, Андрэя Александровіча, Пятруся Броўку, Пятро Глебку і Ізю Харыка.**

За высокамастацкі пераклад ліста беларускага народа таварышу Сталіну на рускую мову ЦВК і СНК БССР вынеслі падзяку рускім паэтам **Александру Безыменскаму, Міхаілу Галоднаму і Міхаілу Ісакоўскаму.**

◆ 13 кастрычніка ў актавай зале БДУ адбыўся вялікі **інтэрнацыянальны літаратурны вечар.** У гэтым вечары прымалі ўдзел рускія маскоўскія паэты, паэты і пісьменнікі Смаленскай вобласці, украінскія, яўрэйскія, беларускія, польскія паэты і пісьменнікі.

З чыткай сваіх твораў выступалі народныя паэты рэспублікі **Янка Купала і Якуб Колас.** Беларускія паэты **Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Аркадзь Куляшоў, Александр Шарапаў, Мікола Хведаровіч,** рускі паэт **Аляксей Суркоў**, пісьменнік **Кудзімаў**, украінскія паэты і пісьменнікі **Іван Лэ, Масэнка** і інш.

Вечар прайшоў з вялікім уздымам.

◆ **Грамафонны запіс беларускіх песень.** У кіраўніцтве па справах мастацтваў пры СНК БССР адбылася нарада кампазітараў па абмеркаванню плана грамафонных запісаў твораў беларускіх кампазітараў і народных песень.

Усяго будзе зроблена 100 грамафонных запісаў. Будуць запісаны ў выкананні домравага аркестра „А ў полі вярба“, „Бульба“, сюіта **Туранкова**, сюіта на беларускія тэмы **Самохіна**, „Рэкруцкая песня“ **Цікоцкага**.

У выкананні аркестра цымбалістаў будуць запісаны „Лявоніха“, „Перапелачка“, „Крыжачок“, „Зязюленька“.

Запісаны будуць песні ў выкананні лепшых спевакоў, смычковага квартэту, яўрэйскай харавой капелы і інш.

### Да Пушкінскіх дзён

◆ Шэраг скульптараў СССР працуе над праектамі для абвешчанага ўрадам конкурса на помнік Пушкіну. Скульптар **С. Д. Меркулаў** закончыў трохметровую статую Пушкіна, скульптары **С. З. Маграчоў, Н. Н. Гаўрылаў, Айзенштат, Тажны, Ітэнберг і Крандзіеўская**—бюсты паэта. Скульптар **А. Н. Златаўрацкі** закончыў кампазіцыйную статую „Пушкін у дзяцінстве“. Скульптар **І. С. Ефімаў** разам з мастаком **Н. Я. Цімановіч-Ефімавай** зрабілі альбом сілуэтных ілюстрацый да твораў Пушкіна **„Капітанская дачка“, „Еўгені Онегін“** і да асобных вершаў паэта.

◆ „Казка пра рыбака і рыбку“, „Медны коннік“ і інш. творы Пушкіна перакладзены і выдадзены на калмыцкай мове. Калмыцкі паэт **Даван Гара** працуе над перакладам „Еўгенія Онегіна“.

◆ Пушкінскай камісіяй Акадэміі навук СССР падрыхтоўваецца да выдання другі том **„Временника“**, які ўключае вялікую колькасць новых матэрыялаў і даследванняў. У „Временнике“ ўведзены сталы аддзел „Новыя тэксты Пушкіна“.

◆ **Тэатр Украіны** адзначыць Пушкінскі юбілей спецыяльнымі пастаноўкамі. Большасць тэатраў ставяць „Барыс Гадуноў“ у перакладзе на украінскую мову. Апрача таго будуць зроблены інсцэнізацыі твораў Пушкіна „Скупы рыцар“, „Медны коннік“, „Моцарт і Сальеры“, „Цыганы“. Тэатры юных гледачоў інсцэнізуюць „Капітанскую дачку“, „Руслан і Людмілу“.

◆ **„ІЗОГІЗ“** рыхтуе да выдання шэраг пушкінскіх альбомаў: „Пушкін у выяўленчым мастацтве“ пад рэдакцыяй **В. А. Дзесніцкага**, „Пушкінскі запаведнік“, „15 акварэлей“ **Л. Хіжынскага** і „Даты жыцця і творчасці А. С. Пушкіна“ пад рэдакцыяй **Е. М. Петрэйко** з прадмовай **Д. Д. Благога**.

◆ **Ленінградскія музеі** наладжваюць шэраг выставак да стагоддзя з дня смерці Пушкіна. У музеі сувязі рыхтуецца арыгінальная па замыслу выстаўка „Пушкін у дарозе“ і „Дарога ў творах Пушкіна“. Выстаўка будзе ўключаць хранологію ўсіх паездак і вандраванняў Пушкіна. Карты маршрутаў, пералік твораў, напісаных у дарозе і г. д. Упершыню будуць выстаўлены арыгінальныя экземпляры „Падарожных“ Пушкіна. Рыхтуюцца два макеты: „Сустрэча Пушкіна з Кюхельбекерам на ганку паштовай станцыі пры ад'ездзе Кюхельбекера ў высылку і „Макет паштовай станцыі 30-х гадоў“ паводле „Станцыйнага наглядчыка“ і „Дуброўскага“.

### Нікалай Остроўскі ў Маскве

У Маскву прыехаў аўтар кнігі „Як гартавалася сталь“, пісьменнік ордэнаносец Нікалай Остроўскі.

Сваім сябрам і пісьменнікам, якія яго сустракалі, ён паведаміў, што закончыў першы том новага рамана „Народжаныя бурай“, рукапіс якога прывёз у Маскву.

На маскоўскай кватэры Н. А. Остроўскага адбудзецца паседжанне прэзідыума ССП СССР, якое будзе прысвечана абмеркаванню новага рамана пісьменніка.

### Юбілей Ялмары Віртанен

У Петразаводску адбыўся вялікі ўрачысты вечар, прысвечаны юбілею Карэльскага народнага паэта **Ялмары Віртанен**. На вечары прысутнічала больш за тысячу дзвесце чалавек: партыйны і савецкі актыў, шматлікія прадстаўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, Чырвонай арміі, піонеры, вучнёўская моладзь і сябры паэта. На ўрачыстасць прыехалі дэлегацыі саюза пісьменнікаў Масквы і Ленінграда.

Паседжанне, якое перадавалася па радыё, адкрыў старшыня ЦВК Карэліі тав. **Архіпаў**. З прамовамі выступалі: сакратар абкома партыі т. **Іркліс**, старшыня соўнаркома Карэліі т. **Бушуеў**, народны камісар асветы т. **Філімонаў**, пісьменнік **Лінард Лайцэн**, калгаснікі, лесарубы, байцы пагранічнікі, рабочыя заводаў, піонеры.

Юбіляру паднесена шмат падарункаў. Ён атрымаў многа прывітанняў ад паэтаў братэрскіх рэспублік, у тым ліку ад **Сулеймана Стальскага, Янкі Купалы, Тычыны** і інш.

### Сулейман Стальскі — старшыня ССП Дагестана

Нядаўна ў Махач-Кала адбылася канферэнцыя савецкіх пісьменнікаў Дагестана, якая заслухала справаздачны даклад праўлення ССП Дагестана і вызначыла далейшыя шляхі развіцця літаратуры шматнацыянальнай рэспублікі.

Канферэнцыя абрала новы склад праўлення саюза савецкіх пісьменнікаў Дагестана. Старшынёй праўлення абраны народны паэт ДАССР, ордэнаносец Сулейман Стальскі.



АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ



**Змешчаны ў гэтым нумары партрэт Якуба Коласа напісан мастаком В. ВОЛКАВЫМ**

